

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС


**7** (1041)

ЛІПЕНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»





Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2016

## ЗМЕСТ

*Да 100-годдзя беларускай міліцыі*

**Мікалай ЧАРГІНЕЦ**



# ВАМ — ЗАДАННЕ*

*Кніга першая*

## Навука перамагаць

*Гэты шматпланавы твор, відаць, задумваўся аўтарам як традыцыйны сямейны раман з грунтоўным і няспешным даследаваннем характараў у іх сямейных і побытавых адносінах, як гэта і прынята ў сучаснай і класічнай літаратуры, якая мае нямала цудоўных прыкладаў такога роду. Але вядома, што ў наша ХХ стагоддзе з яго адрознымі ад папярэдніх часоў, парой ліхаманкавымі і бязладнымі рытмамі жыцця сямейныя рамкі цесныя і недастатковыя. І ўжо яны зусім не ў стане вытрымаць напору таго бурнага запалу і ашаламляльных падзей, якіх так шмат было ў мінулую вайну.*

*Для кожнага чалавека асабіста гэта вайна пачалася па-свойму, заспеўшы ў розны момант яго жыццёвай дзейнасці, але на ўсіх яна наляцела бяз-*

***Чаргінец Мікалай Іванавіч** нарадзіўся 17 кастрычніка 1937 года ў горадзе Мінску. Скончыў Вышэйшую школу трэнераў Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры (1963) і юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1967). Пісьменнік, дзяржаўны дзеяч Беларусі. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1993). Кандыдат юрыдычных навук (1977). Прафесар (2000). Заслужаны работнік Міністэрства ўнутраных спраў СССР (1977). З 1964 года — у органах унутраных спраў, у 1981—84 гг. — начальнік Упраўлення крымінальнага вышуку МУС Беларусі, з 1987 г. — Беларускага ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС Беларусі. З 1993 г. — старшыня Камітэта па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, ветэранаў вайны і памяці загінуўшых пры Савеце Міністраў Беларусі, з 1997 г. — Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы, з 1998 г. — Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі па знешняй палітыцы. З 1984-га па 1987 год знаходзіўся ў Афганістане, непасрэдна прымаў удзел у многіх баявых аперацыях. Цяпер — старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, сустаршыня Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.*

*Піша па-руску. Аўтар кніг «Четвертый след» (1973), «Тревожная служба» (1975), «Следствие продолжается» (1977), «Финал Краба» (1979), «Приказ № 1» (1985), раманаў «Вам — задание» (1982), «За секунду до выстрела» (1983), «Тайна Черных гор» (1987), «Сыновья» (1989), «Тайна Овального кабинета» (2001), «Смертник» (2002), «Последний герой» (2003), «Третья звезда» (2005) і многіх іншых. Усяго ім напісана больш як 40 мастацкіх твораў. За рознабаковыя дасягненні ў галіне культуры і навукі ў 1998 годзе занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса.*

* Часопісны варыянт.

*літасна і раптам, зараз і назаўжды адсекшы мінулае ад будучыні. Для многіх мільёнаў гэта будучыня так ніколі і не адбылася, для іншых у тую памятную нядзелю пачалася бясконцая чарада выпрабаванняў на мужнасць і людскасць. Прама ад вясельнага стала спяшаецца да баявых сяброў оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Аляксей Купрэйчык, які становіцца неўзабаве камандзірам палкавой разведкі, а яго стрыечны брат, участковы міліцыянер Пётр Мачалаў, прымае камандаванне ротай. Сям'я Славіных у акупіраваным Мінску з першых дзён вайны ўключаецца ў актыўную барацьбу з ворагам, за што старэйшы Славін неўзабаве паплаціўся жыццём. Яго сын, падлетак Валодзя, спазнаўшы боль страт і памылак, становіцца актыўным падпольшчыкам.*

*Валодзя Славін — адзін з найболей прывабных вобразаў гэтага шманаселенага героямі рамана, што, зрэшты, зразумела: за ім угадваецца ваенны вопыт аўтара, які перанёс многае з таго, што перажыў Валодзя ў разбураным, але не скораным ворагу Мінску. У той жа час на фронце, у падмаскоўных і калінінскіх лясах адбывалася салдацкае станаўленне Аляксея і Пятра, якія цаной крыві і памылак спасцігалі навуку перамагаць ворага. Тут асаблівая ўвага аўтара аддадзена Аляксею Купрэйчыку, чые франтавыя будні поўныя напружаных клопатаў і смяротнай рызыкі. Пошук разведчыкаў, паляванне за «языкамі» выпісаны аўтарам у падрабязнасцях і ўражваюць дакладнасцю псіхалогіі і франтавых дэталяў. Можа быць, не пазбаўлены некаторай знарочыстасці яго няўдалыя сустрэчы-растані на франтавых дарогах з жонкай Надзяй, якая — то не можа паведаміць уласны адрас, то не прызнае ў параненым і перавязаным бінтамі Аляксею свайго мужа. Не станем аспрэчваць верагоднасць такога ва ўмовах вайны і абстаноўцы прыфрантавога тылу, нагадаем толькі, што прысутны тут элемент выпадковага — не самы выйгрышны ход у літаратуры.*

*Так, вайна раскідала людзей, блізкіх і далёкіх сваякоў, суседзяў, адным прыгатаваўшы гераічную долю ў барацьбе, а іншых выракаючы на штодзённыя пакуты і невядомасць. Доўгія месяцы невядомасці пра лёс мужа наканавана пражыць жонцы ротнага Мачалава, сельскай настаўніцы Таццяне Андрэеўне з дзецьмі, і цяжка сказаць, каму выпала больш выпрабаванняў — яе мужу ў жорсткіх баях на фронце ці ёй самой у штодзённай напружанасці, трывогах за лёс дзяцей, пастаянным супрацьстаянні нямецкім паслугачам.*

*Фронт, шпітальны тыл, партызанская дзейнасць, барацьба з акупантамі ў горадзе і вёсцы — вось сферы напружанай, поўнай рызыкі і пакут барацьбы, з рознай ступенню поспеху паказанай на старонках гэтага рамана.*

*Новыя фабульныя павароты дазволілі аўтару напоўніць заключную частку кнігі шматстайным зместам, каб у новых акалічнасцях з найбольшай паўнатой раскрыць характары ранейшых персанажаў. Скупа, але дакладна і ўражліва М. Чаргінец перадае атмасферу першых гадоў на вызваленай тэрыторыі, характэрную для заходнебеларускага горада і вёскі з сацыяльнай разнастайнасцю іх насельніцтва, сярод якога сустракалася нямала чужых па сутнасці, а то і адкрыта варожых новай уладзе людзей. Гісторыя выкрыцця і затрымання банды Фядзько, рызыкоўнае пражыванне Славіна на сялібе старога Лешыка пад выглядам нарыхтоўшчыка прадуктаў цікавыя самі па сабе сваім выразна дэтэктыўным характарам. Акрамя таго, аўтар звяртаецца тут да яшчэ недастаткова асветленых у беларускай літаратуры драматычных старонак барацьбы з бандытызмам у рэспубліцы, калі варожыя элементы забівалі сельскіх актывістаў, рабавалі насельніцтва, дэзарганізоўвалі гаспадарчую дзейнасць сяла. Барацьба з імі запатрабавала самаадданасці з боку міліцэйскіх работнікаў рэспублікі, многія з якіх аддалі сваё жыццё за спакой і шчасце людзей. Варта заўважыць, што менавіта ў*

*гэтых заключных частках рамана талент Чаргінца-празаіка выявіўся з найбольшай сілай і яго прызнаны вопыт майстра дэтэктыва зноў заявіў пра сябе красамоўна і пераканаўча. Чытач са шчырай зацікаўленасцю сочыць за скрупулёзнай вышуковай і следчай работай аддзела, які ўзначальваецца Пятром Мачалавым, што прывяла нарэшце на аддалены ад горада хутар у лесе, дзе знайшлі прыстанішча два мацёрыя бандыты, адзін з якіх маскіраваўся пад старшыну, а другі — заслужанага афіцэра Чырвонай Арміі.*

*Раман не скончаны, аўтар працягвае працу над другой кнігай. У якасці сяброўскай парады хацелася б перасцерагчы яго ад некаторай раскіданасці, у нейкай меры ўласцівай першай кнізе, калі дзеянне хутчэй пазначаецца, чым раскрываецца з дастатковай пераканаўчасцю і мастацкай цэласнасцю. Пасля таго як рознахарактарныя падзеі на фронце і ў партызанскім тыле засталіся ў мінулым і самі героі набылі кожны свой твар і, што важней, свой непаўторны лёс, з'явілася магчымасць раскрыць гэтыя лёсы ў новых умовах жыцця і на новым мастацкім узроўні.*

*Ёсць усе падставы меркаваць, што гэта і будзе з поспехам зроблена ў новай кнізе. Таленту ў аўтара хопіць, дый вопыту міліцэйскага жыцця яму не займаць — больш чым дваццацігадовая служба ў органах міліцыі — надзейная таму апора.*

***Васіль БЫКАЎ.***
***«Литературная газета», 1983 г., 4 мая.***

## Валодзя Славін

Лета 1941 года выдалася гарачым. У блакітным, бясхмарным небе ярка свяціла сонца. Валодзя Славін глядзеў на спакойную роўнядзь возера і ўяўляў, як ён правядзе лета. Скончаны сёмы клас, наперадзе — канікулы, сустрэчы з сябрамі, спартыўныя гульні, рыбалка. Ды ці мала іншых не меней цікавых заняткаў!

Сюды прыбягаў ён ужо трэці дзень запар. Яшчэ 18 чэрвеня воды Свіслачы пачалі запаўняць велізарны катлаван, і цяпер хлапчук, стоячы на абрывістым беразе, з цікавасцю назіраў, як на яго вачах мяняюцца знаёмыя краявіды.

Валодзя адламаў ад алешыны сухі сук, запусціў яго ў вялікі зялёны куст, што праплываў міма, стрэльнуў чорнымі вачамі ў бокі дзяўчынкі, якая стаяла паблізу:

— Ну, што, Лена?.. Пайшлі.

Неадказваючы, дзяўчынка падняла каменьчык, шпурнула ў ваду. Ад всплеску разышліся шырокія кругі. Пасля гэтага яна падышла да Валодзі. Яны накіраваліся да хат, што віднеліся ўдалечыні. Некаторы час Лена ішла моўчкі, потым нахілілася, сарвала буйны рамонак, спытала:

— Заўтра пойдзеш на адкрыццё возера?

— Вядома! Усе нашы хлопцы пойдуць.

Лена нечакана кінула ў яго рамонак і, смеючыся, пабегла.

— Заўтра я табе наладжу вадохрышча ў возеры! — гарэзна крыкнуў ёй наўздагон Валодзя і ніцма ўпаў у густую траву.

Ён трохі паляжаў на спіне, прыслухоўваючыся да рытмічнага перастуку малаткоў: зусім побач за густым лазняком касцы адбівалі косы. Потым Валодзя падумаў пра школу, пра аднакласнікаў. Проста над ім з'явіўся самалёт. Гэта была двухкрылая «страказа». Машына спачатку пайшла па крузе, затым зрабіла «мёртвую пятлю», за ёю «горку». «Выдатна! — з захапленнем

глядзеў хлопец. — Вось бы мне так!.. А можа, пайсці на лётчыка вучыцца? А што? Скончу дзесяць класаў і пайду. — Ён уявіў сябе ў лётнай скураной куртцы, убачыў зайздросныя позіркі хлапчукоў. — Трэба будзе з бацькам параіцца», — Валодзя падняўся з зямлі.

Дома ён паабедаў і, папярэдзіўшы маці, пайшоў на вуліцу да сяброў, а калі вярнуўся, то на кухні сядзеў ужо бацька і з апетытам еў. Валодзя сеў побач:

— Тата! Заўтра пойдзеш на адкрыццё возера?

— Заўтра? Не, не магу. Мне — працаваць.

Бацька павячэраў, устаў з-за стала, прайшоўся па пакоі. Невысокага росту, і ў свае сорак шэсць гадоў ён выглядаў па-юнацку статным, падцягнутым. Блакітныя вочы звычайна свяціліся вясёлай цікаўнасцю. Кароткія валасы непакорліва тапырыліся над высокім ілбом. Валодзя любіў бацьку. Заўсёды і ва ўсім стараўся быць падобным на яго. Вось і цяпер, убачыўшы бацьку нязвыкла сур’ёзным, задуменным, і сам прыцішэў.

Бацька падышоў да маці, ціха сказаў:

— Дзякуй. Я, мабыць, пайду спаць. Стаміўся штосьці. Дый заўтра трэба ўставаць у пяць. Пастаў будзільнік.

Валодзя ўзяў два вядры, пайшоў па ваду. Ля веснічак сустрэў сястрычку Жэню. Тая прапанавала:

— Дай мне адно вядро. Дапамагу.

— Не трэба, сам данясу.

Жэні нядаўна мінула васямнаццаць, але яна выглядала яшчэ зусім дзяўчынкай.

Яны ўвайшлі ў хату. Валодзя ўзяў газету, якую прынёс бацька з друкарні, дзе працаваў наборшчыкам, і пайшоў у свой пакой. Ён, як і бацька, любіў пачытаць перад сном. Прыемна было раней за іншых даведацца самыя свежыя навіны. Бацька заснуў і адразу захроп. Распранаючыся, сын з усмешкай уявіў, як цяпер за тонкую перагародку да бацькі зойдзе маці і скажа: «Ну вось! Разшумеўся, паравозік», — і прымусіць яго павярнуцца на бок.

Валодзя, трохі пачытаўшы, адклаў газету і чамусьці ўспомніў пра міліцыянера, які ўчора прыходзіў у двор, штосьці высвятляў у суседзяў. «А можа, пайсці ў міліцыю?— падумаў Валодзя і тут жа ўявіў сябе работнікам крымінальнага вышуку. — Цікава, як да гэтага паставіліся б бацькі? Хоць чаго ім дзівіцца? Ёсць жа ў нашым родзе і міліцыянеры».

Уладзімір успомніў сваіх стрыечных братоў. Адзін з іх — дваццаціпяцігадовы Аляксей Купрэйчык запрасіў Славіных у нядзелю на вяселле. Але бацькі адмовіліся — бацьку трэба на працу.

«Шкада, што не паехалі, — падумаў хлопец, — у вёсцы цяпер добра. Уначы вогнішча можна было б распаліць, а днём — у сене пакачацца, прыгажосць! — але тут жа сябе перабіў: — Пастой, пра што ж гэта я думаў? А, пра міліцыю». — І ўспомніў свайго другога стрыечнага брата па маці — Мачалава Пятра. Той старэйшы за Аляксея — яму трыццаць пяць. Працуе ў раёне ўчастковым упаўнаважаным.

«Дзіўна, як я мала ведаю сваіх стрыечных братоў, нават бачыў іх усяго некалькі разоў. Трэба будзе адпрасіцца ў бацькоў ды з’ездзіць да кожнага з іх. Толькі ці будуць яны са мной важдацца? У Пятра ўжо двое дзяцей, а мне яшчэ і шаснаццаці няма».

З гэтымі думкамі Валодзя заснуў. У сне ён то выяўляў узброеных да зубоў злачынцаў, то праследаваў небяспечнага рэцыдывіста, уступаў з ім у рукапашную сутычку, то раптам, лёгка адарваўшыся ад зямлі, адчуваючы пры гэтым прыемную бязважкасць, ляцеў у паветры над шырокай ракой, набліжаючыся да невялікага зялёнага астраўка…

## Оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Аляксей Купрэйчык

Аляксей лічыў сябе самым шчаслівым чалавекам на зямлі. Адслужыўшы ў пагранічных войсках, ён скончыў афіцэрскую школу міліцыі і быў накіраваны ў Гродна. Так ён стаў оперупаўнаважаным крымінальнага вышуку. У той час Аляксей сустрэў Надзю Кір'янаву і пасябраваў з ёй. Дзяўчына скончыла медыцынскае вучылішча і працавала ў Гродне. Аказалася, што яны з Надзяй з адной вёскі. І не былі знаёмыя толькі таму, што бацькі Аляксея пераехалі туды параўнальна нядаўна, калі Аляксей служыў у Чырвонай Арміі. Ішоў час. Неўзабаве яны абое зразумелі, што пакахалі адно аднаго.

І вось сёння вяселле. Аляксей ужо які раз разглядаў сябе ў старым, пабітым іржавымі плямамі, яшчэ, напэўна, дарэвалюцыйным, люстэрку, што стаяла ў хаце яго бацькоў.

Чорны касцюм, белая кашуля вельмі пасавалі яму. Аляксей гарэзна падміргнуў сабе і выглянуў у акенца: як бы не сапсавалася надвор'е, бо вяселле вырашылі гуляць у садзе. Здаволена хмыкнуў: «Парадак! Надвор'е як на заказ, спецыяльна для нядзелі».

Падумаў трохі і ўслых нягучна дадаў:

— І для вяселля.

У пакой увайшоў стрыечны брат Аляксея — Пётр:

— Ну як, гатовы да застольных бітваў?

— Рыхтуюся, — адказаў Аляксей і, каб схаваць збянтэжанасць, дадаў: — Вяселле ж першае.

— Упэўнены, што і апошняе.

Пётр прайшоўся праз увесь пакой і прысеў на драўляную лаву:

— У нас з табой ні сярод блізкіх, ні сярод далёкіх сваякоў двоякжэнцаў не было. Усё пражылі ці жывуць з той, якую пакахалі ў маладыя гады.

Пётр толькі сёння прыехаў, і пагаварыць яны яшчэ не паспелі. Пётр быў участковым упаўнаважаным, старшым лейтэнантам. Працаваў і жыў ён у вёсцы.

Аляксей ставіўся да стрыечнага брата з павагай. Дзіва што! Пётр быў не толькі старэйшы за яго і па ўзросце, і званні. Яму давялося многае пабачыць у свае трыццаць пяць. Можа, таму ён і ў міліцыю прыйшоў з некаторым спазненнем — у дваццаць восем гадоў.

Аляксей сеў побач з братам. Яны пагаварылі пра сваю работу. Пётр расказаў пра сям'ю: жонку Таццяну, дзесяцігадовую дачку Юлю і васьмігадовага сына Ванюшку.

— Ведаеш, — казаў ён, — Ваня дакладна пойдзе маёй дарогай. Вельмі любіць міліцэйскую форму. Надзене часам фуражку — і гайда да хлопцаў. Адразу гульні ладзіць — то ў бандытаў, то ў шпіёнаў.

— Шкада, што ты жонку і дзетак не ўзяў, паглядзець бы на іх. Даўнавата не бачыліся.

— Але ты ж ведаеш: Таня дзяцей са школы і сваіх дзяцей у піянерскі лагер павезла. Што зробіш, у іх, настаўнікаў, свае клопаты. Але нічога. Атрымаеш адпачынак і прыязджайце з Надзяй да нас, быццам вясельнае падарожжа зробіце. У нас цяпер добра! Хата вялікая, месца шмат, дый прадуктаў хапае, не тое што дзесяць гадоў таму.

Загаварыўшыся, яны і не заўважылі, як праляцеў час. Паступова пачалі збірацца госці. Аляксею трэба было зайсці ў хату бацькоў Надзі і потым ужо ўдваіх прыйсці да стала.

Ён выйшаў у двор і каля варот сустрэўся з міліцыянерам. Аляксей не ведаў яго прозвішча, але ў твар паспеў ужо запомніць: як-ніяк, яны разам працавалі ў адным аддзеле. Міліцыянер, убачыўшы Купрэйчыка, паднёс руку да казырка:

— Здравія жадаю, таварыш лейтэнант! А я — па вас.

Купрэйчык здзіўлена зірнуў на трывожны твар міліцыянера.

— Як гэта па мяне? У мяне ж вяселле!

Міліцыянер паглядзеў прама ў вочы Аляксею і дрыжачым голасам сказаў:

— Таварыш лейтэнант, вайна!

## Валодзя Славін

Гэта нядзеля ўжо нікога не магла радаваць. Адкрыццё возера, святочныя гулянні не адбыліся.

У 12 гадзін рэпрадуктары разнеслі афіцыйнае паведамленне пра вераломны напад фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз. Вайна!..

…28 чэрвеня акупанты ўварваліся ў Мінск. Яны з’явіліся неяк нечакана. Нібы з густых чорных аблокаў дыму дамоў, якія гарэлі. Па вуліцы, міма дома, у якім жылі Славіны, павольна прайшлі нейкія невялікія дзіўнаватыя машыны на гусенічным ходу.

Горад хутка напаўняўся нямецкімі войскамі. Пацяклі бясконцыя калоны салдат. У клубах пылу, густа смуродзячы гарам з выхлапных труб, з грукатам рухаліся танкі, праносіліся грузавікі з ваенным рыштункам, па ўскраінных вулачках ездзілі нямецкія матацыклісты. Чулася чужая рэзкая гаворка. Гарадское насельніцтва стаілася, вуліцы апусцелі. Хто не паспеў пайсці на ўсход, сядзелі за зачыненымі дзвярамі і аканіцамі, зашторанымі вокнамі, праз шчылінкі ў фіранках насцярожана сачылі за акупантамі. А тыя, адчуваючы сябе гаспадарамі, грамілі магазіны, гойсалі па хатах, аўтаматамі касілі курэй.

— Цяжка нам будзе, сынок, — гаравала маці. — Ты ўжо без дазволу не хадзі на вуліцу.

Бацька за гэтыя дні моцна змяніўся, стаў хмурны і негаманлівы і часцей звычайнага пыхкаў цыгаркай. У кватэру прыйшлі трывога, чаканне чагосьці невядомага.

…А вайна кацілася ўсё далей на ўсход.

Падлеткі зараз збіраліся ў гародзе, у цені вішань, і гутарку вялі толькі пра баявыя падзеі. Неяк Лена сказала:

— Чулі? Немцы Нямігу і Танкавую абносяць калючым дротам. Кажуць, быццам туды яўрэяў зганяць будуць. Гэта ў іх гета называецца. Дзіўнаватае нейкае слова, — і, памаўчаўшы трохі, дадала: — Страшнае слова…

Валодзя ўжо чуў ад дарослых, што немцы хочуць сагнаць у гета ўсіх яўрэяў. Ён не мог уявіць сабе, што Лёва Салавейчык, Раман Вішман, з якімі сябруе і амаль штодня сустракаецца, будуць жыць там, за калючым дротам.

— Давайце паглядзім, што яны там робяць, — прапанаваў Валодзя. Хлопцы пагадзіліся і тут жа накіраваліся на вуліцу Танкавую. Ішлі групай, прыціскаючыся адзін да аднаго. Дзіва што! Гэта быў іх першы выхад у горад. Немцаў па вуліцах хадзіла шмат. Хлопцы саступалі ім дарогу, сыходзячы з тратуара на праезную частку. Валодзя заўважыў, што чужынцы не звяртаюць ніякай увагі на дзяцей.

Неўзабаве хлопцы апынуліся на высокай гары, з якой адкрываўся від на Танкавую. Унізе працягнуліся роўныя шэрагі драцяных агародж. На вышках

былі ўстаноўлены кулямёты. Крыху лявей, поруч з двухпавярховым цагляным домам, весяліліся напаўраспранутыя немцы. Яны з рогатам аблівалі адзін аднаго вадой, гарлапанілі песні. Недалёка ад іх дымілася паходная кухня. Дзеці моўчкі, не згаворваючыся, накіраваліся ў бок плошчы Свабоды.

— Пацаны, стойце! — крыкнуў хтосьці з хлапчукоў. Яны ўбачылі вялікі ліст паперы, налеплены на сцяну дома. Гэта быў «Зварот да жыхароў занятых абласцей». Хлопцы падышлі бліжэй да сцяны, сталі чытаць. Амаль кожны радок «звароту» пагражаў суровымі карамі: за непадпарадкаванне германскім ваенным ці грамадзянскім уладам — расстрэл без суда і следства, за дапамогу байцам Чырвонай Арміі, якія трапілі ў акружэнне, — расстрэл, за захоўванне агнястрэльнай і халоднай зброі — расстрэл на месцы.

Лена ледзь чутна прачытала ўслых: «У выпадку немагчымасці выяўлення вінаватых германскія ўлады будуць вымушаны прыняць карныя меры супраць усяго насельніцтва. Каб пазбегнуць расстрэлу нявінных заложнікаў, спальванння дамоў і іншых суровых пакаранняў усё насельніцтва абавязана старацца забяспечыць спакой і парадак…»

Дзяўчынка павярнулася да хлопцаў:

— Што ж гэта такое атрымліваецца? За аднаго ці некалькіх вінаватых павінна адказваць усё насельніцтва? Выходзіць, за любую правіннасць яны могуць забіць?

Хлапчукі маўчалі. Прыгнечаныя, засмучаныя, яны пайшлі далей. Валодзя, сціскаючы кулакі, з нянавісцю паглядаў на акупантаў, якія праходзілі міма. «Чаго яны прыйшлі сюды? Што ім трэба? — думаў ён. — Не, я не буду сядзець склаўшы рукі».

Дома ён увесь вечар думаў, як ваяваць з ворагам: «Вось каб дастаць пісталет. Я б іх па адным, гадаў, біў!»

А назаўтра Валодзю давялося стаць мімавольным сведкам страшнага відовішча. Маці часам хадзіла на Камароўскі рынак, каб выменяць на адзежу ці іншыя хатнія рэчы якія-небудзь прадукты. Гэтым разам яна ўзяла з сабой і сына. Не паспелі падысці да рынку, як усю бліжэйшую плошчу ачапілі салдаты ў мундзірах мышынага колеру. Рэзкі візглівы голас, які прарываўся праз нябачны гучнагаварыцель, папярэджваў:

— Ахтунг! Ахтунг! Увага! Цяпер ви будзе немношко паглядзець, як нямецкі камандаванне поступайт з тымі, хто нам не падпарадкоўваецца.

Валодзя ўбачыў, як з боку вуліцы Цнянскай вялі звязаных адзін з адным людзей. Гэта былі дзве жанчыны, трое мужчын і маленькая дзяўчынка гадоў шасці. Па баках у іх, з аўтаматамі напагатоў, у касках, з закасанымі рукавамі ішлі канваіры. Людзей падвялі да нейкіх збудаванняў, якіх Валодзя раней не бачыў.

— Госпадзі! Дык гэта ж шыбеніца! — ускрыкнула ў роспачы маці і прыцягнула да сябе сына. Валодзя толькі цяпер зразумеў, што ладзяць фашысты. Ён не верыў вачам, нават уявіць сабе не мог, што зараз павесяць гэтых людзей, гэту дзяўчынку, якую таксама абвінавачваюць у супраціўленні. Гітлераўцы, не развязваючы арыштаваных, кожнага паставілі на табурэткі, размешчаныя пад шыбеніцай. Дзяўчынка стаяла бліжэй за ўсіх да Валодзі, і ён бачыў, што яна адзіная, у каго рукі былі свабодныя. Дзяўчынка маўчала, здзіўлена варочала галоўкай і запытальна глядзела на натоўп, сагнаны на плошчу. Потым, спрабуючы слабенькай ручкай зняць накінутую на яе шыйку грубую вяровачную пятлю, павярнулася да людзей, прыведзеных на пакаранне смерцю.

— Мама! — толькі і змагла выкрыкнуць яна ў прадчуванні бяды.

І тут жа па ўсёй плошчы разнёсся немы жаночы крык:

— Дачушка-а!!! Людзі добрыя! Дык за што ж яны губяць нас? Мы ні ў чым не вінаватыя. Адпусціце хоць дзіцё! Яна яшчэ нічога ў жыцці не бачыла…

Адзін з фашыстаў падышоў да табурэткі… Маці схапіла Валодзю за плечы, павярнула тварам да сябе, закрыўшы яму вушы рукамі, прыцягнула галаву да сваіх грудзей… Яе вусны ашалела шапталі: «Не глядзі, не глядзі!»

Дахаты яны вярнуліся ўзрушаныя, доўга сядзелі на кухні, не запальваючы святла.

## Таццяна Андрэеўна

Прайшло толькі тры тыдні, як пачалася вайна, а Таццяне Андрэеўне Мачалавай здавалася, што прайшлі гады.

Мачалава ўся змарнавалася ад пастаяннай трывогі за лёс мужа. Пётр з’ехаў з вёскі на вяселле да стрыечнага брата. Вяселле павінна было адбыцца 22 чэрвеня, у нядзелю, і раптам — вайна.

Першыя два дні пайшлі на тое, каб хутчэй даставіць з піянерскага лагера дзяцей. А затым пачалося пакутлівае чаканне. Таццяна дні напралёт стаяла на ўскрайку вёскі, глядзела да рэзі ў вачах на дарогу, а Пятра ўсё не было.

Навіны ў вёску прыходзілі з вялікім спазненнем, але ад чырвонаармейцаў, якія спешна праходзілі праз вёску і накіроўваліся на ўсход, людзі ведалі, што немец наступае. Неяк над прасёлкавай дарогай, што цягнулася ад вёскі да лесу, з’явіліся два самалёты з крыжамі на крылах. Яны нізка праляцелі над галовамі людзей, якія ішлі з клункамі ў руках па пыльнай дарозе, развярнуліся і ўдарылі ўніз з кулямётаў.

Пасля таго як сцярвятнікі паляцелі, мясцовыя жыхары пахавалі шаснаццаць чалавек, якія засталіся ляжаць на дарозе і ў кювеце. На чацвёрты ці пяты дзень вайны да Таццяны ў хату прыйшоў старшыня калгаса. Схуднелы, з чорным змардаваным тварам, ён сказаў:

— Табе, Таццяна Андрэеўна, трэба з дзецьмі сыходзіць на ўсход. Можа так здарыцца, што немцы прыйдуць сюды, а ў цябе муж — участковы, сама — настаўніца, і чакаць табе ад іх дабра не трэба.

— Я буду чакаць мужа, — цвёрда адказала Таня і прытуліла да сябе сына. — Павінен жа ён сюды вярнуцца, а потым ужо на фронт ісці.

Яна ніколькі не сумнявалася ў тым, што Пётр вернецца. Таццяна разумела, што ён, вядома, пойдзе на фронт, але спачатку, хоць на дзянёк, хоць на гадзінку, абавязкова забяжыць дахаты, развітаецца і скажа, што ёй і дзецям рабіць, як быць далей. Яна так і сказала тады старшыні. А той глуха адказаў:

— Гродна, Таццяна Андрэеўна, далёка, і ўсё можа здарыцца ў дарозе. Тым больш, ён чалавек вайсковы, яго маглі прызваць у армію і адтуль. Так што паслухай мяне — і ідзі!

Але Таццяна стаяла на сваім, і старшыня сышоў.

Маладая жанчына спадзявалася не толькі на тое, што муж вось-вось зазірне дамоў, але і на тое, што немцы не дойдуць сюды. «Павінна ж наша армія дзесьці іх спыніць, — думала яна, — не будуць жа ім Мінск здаваць».

І яна чакала. Але праходзілі дні, а Пятра ўсё не было. У вёску дайшлі чуткі, што немцы ўжо ў Мінску, але Таццяна не паверыла і нават аблаяла суседку, якая расказвала пра гэта. Але аднойчы праз вёску днём прайшла нямецкая аўтакалона. Машыны тут не спыніліся і панесліся далей. Выгляд чужых людзей у шэра-зялёнай форме пераканаў Мачалаву ў тым, што немцы

ўжо прыйшлі. Таццяна Андрэеўна спрабавала штосьці рабіць па гаспадарцы, пачала збіраць рэчы, якія неабходна ўзяць з сабой, калі вернецца Пётр і ім трэба будзе сыходзіць, але ўсё ў яе валілася з рук.

І вось ужо тры тыдні, як яна чакае мужа.

Таццяна Андрэеўна цяпер не хадзіла на край сяла, яна цэлымі днямі сядзела ў двары. Там яе і заспела суседка Марфа Сцяпанаўна. Абодва сыны Марфы Сцяпанаўны знаходзіліся ў Чырвонай Арміі, жыла яна ў невялікай старой хацінцы, побач з Мачалавымі. Марфа Сцяпанаўна паўздыхала, павохкала пра лёс людскі, а потым сказала:

— Ведаеш, што я хачу табе сказаць, мілая?

Сэрца Мачалавоай стаілася ў трывозе: няўжо што-небудзь з Пятром здарылася? І, імкнучыся захаваць спакой, села на бервяно, якое валялася ля плота.

— Да мяне дахаты сёння прыходзілі два нейкія незнаёмыя мужыкі, сказалі, што яны людзей перапісваюць, нібы да ўборкі ўраджаю рыхтуюцца, ды заадно і дзецьмі, і настаўнікамі цікавяцца, быццам бы да навучальнага года школу хочуць адкрыць. Пыталі, ці тут ты, дзе муж твой. Ну, а калі сышлі, я ў акенца прасачыла за імі, яны тваю хату бокам абышлі, значыць — нездарма прыходзілі. Вось я і вырашыла папярэдзіць цябе.

Таццяна з палёгкай уздыхнула, калі зразумела, што не з благой весткай пра Пятра прыйшла суседка, і спачатку нават не адчула для сябе ніякай небяспекі, але потым паступова да яе стаў даходзіць сэнс сказанага.

Так, не ўстаючы з бервяна, і праседзела да вечара, думала, што ёй рабіць. «Фашысты, вядома, даведаюцца, хто ў мяне муж. Ну і што? Скажу, што як сышоў напярэдадні вайны, так дахаты і не вярнуўся. Што яны мне зробяць? Не будуць жа яны мяне ад дзяцей забіраць, у турму саджаць. Калі будуць прымушаць ісці ў школу працаваць — не пайду! А там — глядзі — і нашы вернуцца. Не стануць жа яны нас на зіму ў акупацыі пакідаць, ці можна будзе з вясковымі мужыкамі звязацца, што ў лес падаліся».

Паступова Таццяна пачала супакойвацца, зноў успомніла мужа, маладыя гады. Успомніла, як пазнаёмілася са сваім Пятром, які дэмабілізаваўся ў дваццаць восьмым годзе з войска. Як пасябравалі, а ў трыццатым пажаніліся.

Гледзячы на дзяцей, якія гулялі ля веснічак, успомніла сваё дзяцінства. Цяжкім яно было. Бацька загінуў у Першую сусветную вайну, маці памерла ў цяжкім дваццатым годзе.

Стала жыць дзесяцігадовая Таня ў бабулі. Усё прыйшлося выпрабаваць: і голад, і холад. Але расла дзяўчынка ўсім на зайздрасць: вясёлай, сімпатычнай, старannай. Пасля сямігодкі паступіла ў педвучылішча. Скончыўшы яго, зноў вярнулася ў вёску.

Усміхнулася Таццяна, успомніўшы, колькі жаніхоў вакол яе ўвівалася, але спадабаўся ёй не свой вясковы хлопец, а Пётр. Яна ведала, што падчас службы змагаўся малады баец з бандамі басмачоў, а калі ўпершыню ўбачыла і зазірнула ў яго чорныя вочы, то зразумела, што наступіла і яе чарга…

Так задумалася маці, што і не заўважыла, калі падышлі да яе дзеці. А яны сталі побач і з трывогай глядзяць на яе.

Таццяна паднялася і ўсміхнулася:

— Ну, што, родненькія, засумавалі? Хадзем, я вас пакармлю.

І яна, абдымаючы Ванюшку і Юльку за худзенькія плечкі, павяла іх да хаты…

## Аляксей Купрэйчык

З таго нядзельнага дня, калі вяселле не адбылося, прайшло не шмат часу, але ўсё здавалася такім далёкім, памяталася смутна: слёзы бацькоў, Надзі, хуткая язда на спадарожным грузавіку ў горад, які сустрэў яго ўжо клубамі дыму. Гарэлі жылыя дамы і будынак яшчэ дарэвалюцыйнай фабрыкі.

Купрэйчык заскочыў у інтэрнат, змяніў святочны касцюм на мундзір і адразу ж накіраваўся да месца службы. Упраўленне настройвалася на ваенны рэжым работы. У ліхаманкавай мітусні прайшла ноч, а ранкам наступнага дня да Аляксея прама ва ўпраўленне прыбегла Надзя.

Яны выйшлі з будынка і селі на лаўку ў скверы. Аляксей сумна пажартаваў:

— Дзіўна ў нас складваецца сямейнае жыццё: па дакументах мы з табою муж і жонка, а ў сапраўднасці?

Надзя густа пачырванела, і на вачах у яе нечакана нагарнуліся слёзы.

— Мілы, вайна ўсё адкладвае. Я ж медыцынскі работнік і іду на фронт.

Аляксей у разгубленасці ўскочыў:

— Як на фронт? А я?

Надзя за руку пасадзіла яго на лаўку і, уткнуўшыся тварам у яго грудзі, гучна расплакалася:

— Лёшачка, родны, я такая была шчаслівая, я так кахаю цябе… Вайна праклятая раз'ядноўвае нас. Але я клянуся табе, што да канца свайго жыцця, чуеш, да канца, буду верная табе…

Больш Надзя не змагла гаварыць. Яна гучна плакала, абдымаючы Аляксея.

Ён як мог угаворваў яе. Калі Надзя супакоілася, яны дамовіліся, што сустрэнуцца на наступны дзень, калі яна ў ваенкамаце атрымае накіраванне. Як складзецца яго лёс, Аляксей пакуль таксама не ведаў.

Праводзіўшы жонку, ён пайшоў ва ўпраўленне. Па дарозе думаў: «Калі Надзя на фронт, то і мне трэба туды неадкладна. Прыйду і адразу ж напішу рапарт. Я служыў у войску, і зараз маё месца там!»

Але вайна часта паварочвае лёсы людзей зусім не так, як яны хацелі б самі.

Да вечара вялікая група супрацоўнікаў міліцыі, у якую ўваходзіў і Купрэйчык, была тэрмінова накіравана на знішчэнне нямецкага дэсанта. Гэты дэсант быў скінуты з самалётаў на лес, які знаходзіўся недалёка ад горада. Трое сутак супрацоўнікі міліцыі з дапамогай чырвонаармейцаў прачэсвалі лес, знішчалі дэсантнікаў.

У перастрэлцы Купрэйчык быў паранены. Аляксей абыходзіў бокам густы хмызняк, з якога кароткімі злымі чэргамі агрызаўся дэсантнік. Нечакана наперадзе, метрах у васьмідзесяці, мільганула постаць яшчэ аднаго гітлераўца, ён відавочна хацеў уцячы у глыб лесу. Аляксей ускінуў вінтоўку і стрэліў, фашыст зваліўся. Купрэйчык вырашыў абысці аўтаматчыка, які адстрэльваўся з хмызняка, з тылу. А немец, які толькі што зваліўся, нечакана стрэліў. Купрэйчык адчуў моцны штуршок у плячо і, завальваючыся на левы бок, паваліўся ў траву.

Не верачы, што паранены, Аляксей адшукваў вачамі месца, дзе павінен ляжаць фашыст, але туды з усіх бакоў кінуліся чырвонаармейцы, і неўзабаве лейтэнант убачыў, што яны вядуць палоннага дэсантніка. Толькі цяпер Аляксей паглядзеў на сваё правае плячо і спераду на гімнасцёрцы заўважыў цём-

ную пляму. «Паранены?» — мільганула думка, і галава злёгку закружылася, з'явілася непрыемнае адчуванне млоснасці.

Аляксей устаў, узяў вінтоўку ў левую руку і пайшоў да сваіх. А насустрач, прыгінаючыся, ужо бег лейтэнант Астрога:

— Што, Купрэйчык, паранены?

— Здаецца, трошкі ёсць, — вінавата ўсміхнуўся Аляксей. Ён сапраўды адчуў сябе вінаватым, што яшчэ не патрапіў на фронт, а паранены…

Пасля знішчэння групы дэсантнікаў камандзір вырашыў адправіць Аляксея ў горад. Але тым часам іх група сустрэлася з пяхотным палком. Камандзір палка, падпалкоўнік, занепакоены з'яўленнем варожага дэсанта, узяў іх групу пад сваё камандаванне, а параненага загадаў змясціць у санчасць.

Падзеі на фронце развіваліся хутка. Полк па радыё атрымаў каманду разгарнуць свае пазіцыі кіламетрах у трыццаці на ўсход ад таго месца, дзе знаходзіўся. Спецгрупу, у якую ўваходзіў Купрэйчык, камандзір палка адпусціў, а Аляксей застаўся ў санчасці. Вырашылі, што ён застанецца ў размяшчэнні палка да выздараўлення, а затым прыбудзе да месца службы сам.

Але здарылася так, што Купрэйчык застаўся ў палку. І немалую ролю ў гэтым адыграў маёр Міронаў — начальнік разведкі. Ён даведаўся, што Аляксей аператыўны работнік, раней служыў у пагранвойсках і пераканаў камандзіра пакінуць яго ў сваім распараджэнні. І калі рана ў Купрэйчыка загаілася, ён атрымаў узамен міліцэйскай формы агульнавайсковую, з лейтэнанцкімі квадратамі на пятліцах.

Неўзабаве полк, пасля кароткай сутычкі з ворагам, ізноў зняўся са сваіх пазіцый і пачаў адыходзіць на ўсход.

Купрэйчык стаяў побач з маёрам Міронавым. Яны абодва назіралі за рухам калон чырвонаармейцаў. Міронаў змрочна паглядаў на бясхмарнае блакітнае неба і ўжо які раз бурчэў:

— Адарвёмся ад лесу, і наляцяць, гады, далібог, наляцяць! Дакладваў падпалкоўніку, прасіў, як бацьку роднага, каб адыходзілі ўначы, дык жа, спасылаецца на загад.

Купрэйчык, крыху збляднелы і змарнелы за час хваробы, спытаў:

— Няўжо немцы паспелі за гэткі кароткі тэрмін падцягнуць такія сілы, што нам уцякаць трэба?

Маёр нічога не адказаў. Ён убачыў, як з лесу выехала чорная «эмка» камандзіра палка, і ціха сказаў:

— Пойдзем камандзіра сустрэнем, — і першым рушыў да пыльнай прасёлкавай дарогі, па якой усё ішлі і ішлі чырвонаармейцы.

Купрэйчык пайшоў побач з Міронавым. Яны былі падобныя адзін на аднаго. Абодва высокага росту, чарнавалосыя і каравокія.

Гэта, відавочна, заўважыў і камандзір палка, таму што, выйшаўшы з машыны, пажартаваў, звяртаючыся да маёра:

— Вы, Мікалай Кузьміч, напэўна, спецыяльна пакінулі лейтэнанта ў палку. Прыгледзішся да вас абодвух: ні даць ні ўзяць, родныя браты, нават хада аднолькавая?! — І спытаў у Купрэйчыка: — Як сябе адчуваеце?

— Дзякуй, таварыш падпалкоўнік, нармальна.

— Ну што ж, раз нармальна, значыць да бою гатовы.

— Так точна, гатовы.

— Чаго-чаго, а баёў на нас з табой хопіць.

— Пакуль амаль іх не было, таварыш падпалкоўнік. Калі шчыра сказаць, то не разумею, чаму мы адыходзіць павінны… — Гэтыя словы прагучалі ў Купрэйчыка неяк рэзка і сярдзіта.

Падпалкоўнік хмурна, аднымі куточкамі вуснаў усміхнуўся, паглядзеў чамусьці ўгару, на неба, затым зірнуў туды, дзе нядаўна стаялі каля грузавіка Міронаў і Купрэйчык, і толькі пасля гэтага неяк глуха і незадаволена адказаў:

— А ты гэтае пытанне задай камандуючаму ці ў Маскву патэлефануй у Наркамат абароны, а ў мяне, брат, не пытай, таму што не ведаю.

І не жадаючы больш на гэту тэму гаварыць, камандзір палка звярнуўся да Міронава:

— Разведка пайшла наперад па маршруце?

— Так точна, як было загадана.

— Сачыце, каб далёка не адрываліся, у любы момант маршрут можа быць зменены.

— Мяне паветра хвалюе…

— Мяне таксама, — перапыніў маёра камандзір, — наклікаеце!

Ён павярнуўся да начальніка штаба, які стаяў каля задніх дзверцаў машыны:

— Акім Іванавіч, прасачы, каб зенітчыкі і слухачы не драмалі, у любы момант могуць наляцець.

Міронаў спытаў:

— Дазволіце пачынаць рух і нам?

— Рух, маёр, пачынайце калі жадаеце, але мне інфармацыю пра становішча забяспечце.

Міронаў і Купрэйчык, адказыраўшы, рушылі да сваёй крытай брызентам паўтаратонкі. Толькі яны наблізіліся да ўзлеску, як пачуліся крыкі: «Паветра! Паветра!»

У бясхмарным небе з-за лесу з’явіліся фашысцкія самалёты. Аглушальна і рэзка грукнулі зеніткі, якія, як аказалася, былі недалёка.

## Валодзя Славін

У горадзе становішча з кожным днём ускладнялася. Акупанты адчувалі, што супраціўленне становіцца ўсё больш арганізаваным і ўпартым. Імкнучыся задушыць яго, фашысты ішлі на ўсё: амаль штодня арганізоўвалі аблавы, за з’яўленне ў начны час без спецыяльных пропускаў людзі расстрэльваліся на месцы. Вобыскі праводзіліся ўжо не ў асобных дамах, а ў цэлых кварталах, шукалі падпольшчыкаў, камуністаў, камсамольцаў, нават тых, хто па дадзеных гестапа да вайны быў перадавіком працы.

Фашысты адных расстрэльвалі ці вешалі адразу ж, іншых, перш чым забіць, доўга катавалі.

Горад быццам начыста вымер. Але гэта была толькі ўяўная цішыня… Амаль штодня, то ў адным, то ў другім канцы праводзіліся дыверсіі.

Не сядзеў без справы і Міхаіл Іванавіч Славін. Ён часта сыходзіў з дому, дзесьці знікаў, бывала цэлымі начамі.

Зрэдку да яго прыходзілі незнаёмыя людзі. Разам з гаспадаром яны зачыняліся ў асобным пакоі, аб чымсьці гаварылі.

Аднойчы вечарам, калі Валодзя ўжо клаўся спаць, бацька прывёў незнаёмага мужчыну і, звяртаючыся да маці, сказаў:

— Настасся! Паглядзі за вуліцай ды заадно і Барыса Плоткіна сустрэнеш. Скажы, хай заходзіць да нас.

Маці накінула стары бацькаўскі пінжак, выйшла ў двор. Міхаіл Іванавіч зазірнуў у Володзеў пакой, гучна спытаў:

— Вова, спіш?

Сын не адказаў. Ён прыкінуўся спячым, каб пачуць, пра што будуць гаварыць мужчыны. Неўзабаве прыйшоў Плоткін. Валодзя ведаў, што ён да вайны разам з бацькам працаваў у друкарні.

Міхаіл Іванавіч запрасіў гасцей у спальню. Валодзя праз тонкую сценку добра чуў іх гаворку. Незнаёмы мужчына, звяртаючыся да бацькі і Плоткіна, сказаў:

— Па рашэнні кіраўніцтва падполля вам, таварышы, неабходна ўладкавацца на працу ў друкарню.

— На якую працу? — абурыўся бацька. — Мы здаровыя людзі і будзем біць фашыстаў.

— Не гарачыцеся, Міхаіл Іванавіч! Нам трэба арганізаваць рэгулярны выпуск газет і лістовак. Гэта не меней грозная зброя ў барацьбе з акупантамі. Так што ніякіх пярэчанняў. Ідзіце і працуйце. Заданні будзеце атрымліваць ад мяне. А цяпер я пайшоў. Хутка наступіць каменданцкая гадзіна.

— А хто знішчыць здрадніка? — спытаў бацька.

— Прыйдзецца вам гэта заданне выканаць, — адказаў госць.

Валодзя чуў, як мужчыны выйшлі ў кухню, а затым — у калідор. Хвілін праз пяць бацька і маці вярнуліся дахаты. Ох, як хацелася Валодзю ў гэты момант ускочыць, падбегчы да бацькі, сказаць, што ён таксама будзе біць фашыстаў. Але, трохі падумаўшы, вырашыў інакш: «Цяпер савацца да бацькі нельга. Даведаецца, што чуў гаворку, можа па шыі панадаваць…»

На наступную раніцу Валодзя з суседскімі хлапчукамі правёў супраць немцаў першую «баявую» аперацыю. На закінутай будоўлі знайшоўся карбід. Прынеслі пустыя бутэлькі, запоўнілі вадой, выразалі драўляныя коркі. У бутэлькі з вадой засыпалі карбід і абгарнулі іх старымі анучамі. Гэта для таго, каб яны не разбіліся, калі іх трэба будзе кідаць. Пасля гэтага хлапчукі стаіліся за плотам, балазе ўжо звечарэла.

Неўзабаве па вуліцах павольна пачала рухацца калона цяжкіх грузавікоў. Хлопцы трывала закаркавалі бутэлькі, і ў кузавы паляцелі самаробныя «зарады».

Адбегшы ў далёкі кут саду, спыніліся пад старой грушай, весела перагаворваліся і смяяліся: «Вось будзе перапалох, калі нашы «гранаты» пачнуць ірвацца!» Яны, вядома, разумелі, што істотнай шкоды іх «гасцінцы» немцам не прычыняць. Але клопатаў абавязкова зададуць.

Уначы Валодзя прачнуўся ад шуму. Гэта прыйшоў бацька. Ён быў у добрым настроі. Усе абступілі яго. Ён абняў маці, сына, дачку:

— Не, не быць ім тут гаспадарамі! Не будзе гадам спакою ні днём ні ўначы!

— Тата, што здарылася?

Бацька хітра ўсміхнуўся:

— Гэта доўгая казка, сынок. Як-небудзь потым раскажу.

Толькі пазней Валодзя даведаўся, што не пазбег суровай адплаты здраднік, яго пакаралі патрыёты-падпольшчыкі, сярод іх быў і бацька Валодзі.

## Старшы лейтэнант Мачалаў

Камандзір роты старшы лейтэнант Мачалаў стомлена цягнуўся па глухой лясной дарозе. Амаль цэлы тыдзень ліў дождж. А сёння з раніцы пачаў ісці снег. Паветра стала яшчэ халаднейшым і вільготнейшым. Зямля была глейкай і набраклай. Але людзі ішлі, імкнучыся не зважаць ні на холад, ні на снег, ні на слізкую мокрую дарогу. Яны адступалі і спяшаліся вырвацца з гатовага вось-вось замкнуцца варожага кола.

Ужо каторы раз Мачалаў і яго новыя таварышы з пачатку вайны вось так, як і цяпер, выходзяць з акружэння. Было пакутліва думаць пра тое, што вораг топча нашу родную зямлю, а яны, савецкія воіны, вымушаны хавацца і адступаць.

— Калі ж гэта ўсё скончыцца? Калі мы ўрэшце выйдзем да сваіх? — нервова і злосна спытаў лейтэнант, які крочыў побач.

Але Мачалаў у адказ толькі зірнуў на яго, а сам думаў, што колькі такіх разрозненых батальёнаў, рот, узводаў і маленькіх груп чырвонаармейцаў і камандзіраў глухімі сцежкамі адыходзяць на ўсход з надзеяй, што дзесьці наперадзе нарэшце з'явіцца выразная лінія фронту, дзе будзеш бачыць ворага толькі перад сабой і ваяваць з ім.

Не меней пакутлівай і трывожнай была думка пра жонку і дзяцей. «Як яны там? Што думае пра мяне Таня?»

У гэты момант да Мачалава падышоў баец у падранай плашч-палатцы:

— Таварыш старшы лейтэнант, вас маёр Грыдзін выклікае...

…Мачалаў пайшоў да маёра, той знаходзіўся недалёка адсюль. Паднёс руку да казырка і далажыў:

— Таварыш маёр, старшы лейтэнант Мачалаў па вашым загадзе прыбыў!

Маёр кіўнуў галавой і моўчкі працягваў глядзець на карту. Раптам ён адарваўся ад карты, неяк уважліва і нават здзіўлена паглядзеў у вочы Мачалаву і перавёў позірк на афіцэраў:

— Хоць адзін не забыўся, што ён служыць у войску, а то падышлі некаторыя і голас саромеюцца падаць, як на вечарынку прыйшлі. — І тут жа рэзка змяніў тэму: — Я запрасіў вас, каб параіцца: ці ісці далей, ці, пакуль яшчэ не зусім сцямнела, зрабіць прыпынак, каб людзі паспелі падрыхтавацца да начлегу.

— А дзе мы знаходзімся? — спытаў пажылы капітан і падышоў да маёра, каб зазірнуць у карту. За ім пацягнуліся і іншыя камандзіры. Атрымлівалася, што яны знаходзіліся амаль у цэнтры вялікага ляснога масіву. Рашэнне было аднадушным: застацца на начлег тут. Грыдзін асцярожна склаў, а затым схаваў у планшэтку карту і загадаў:

— Тады аб'яўляйце прыпынак. Вы, таварыш капітан, выстаўце ахову. Астатнім — хутка за работу.

Калона спынілася, і неўзабаве ў лесе пачуліся ўдары сякер. Нягледзячы на стомленасць, людзі дзейнічалі хутка і спрытна. Літаральна на вачах з'явіліся буданы з жэрдак, тонкіх ствалоў дрэў і галін, дзе-нідзе раскінуліся палаткі, забрынкалі кацялкі, успыхнулі вогнішчы. Грыдзін і шэсць камандзіраў, у тым ліку і Мачалаў, размясціліся ў вялікай штабной палатцы. Спехам перакусіўшы, леглі спаць. Грыдзін папярэдзіў, што іх падымуць у пяць гадзін, правядуць нараду, а ў шэсць разбудзяць усіх байцоў.

Мачалаў ляжаў на тоўстым пласце галін, уткнуўшыся ў шынель. Нылі навярэджаныя ногі, балела ўсё цела, а думкі зноў вярнулі яго да першага дня вайны.

Можа, і да лепшага, што ўсё склалася менавіта так. Мачалаў успомніў, як ён, увайшоўшы ў лес, убачыў, што змярканне згушчаецца, і пабег. Бег ён доўга, і калі вырашыў, што вялікая частка шляху ўжо ззаду, перад ім як з-пад зямлі выраслі дзве салдацкія постаці з вінтоўкамі наперавес:

— Стой! Рукі ўгору!

Мачалаў ледзь спыніўся, амаль упёршыся грудзьмі ў рулю вінтоўкі. Але рукі паднімаць не стаў, бо ніколі гэтага не рабіў, і нават у такім нечаканым становішчы пасаромеўся падняць іх.

— Я свой, супрацоўнік міліцыі. Спяшаюся да шашы, — толькі і сказаў ён, перарывіста дыхаючы.

— Глядзі ты, — здзіўлена прагаварыў адзін з чырвонаармейцаў, абыходзячы Мачалава справа і спыняючыся за яго спінай, — другога міліцыянера сёння ў штаб будзем дастаўляць. — І загадаў, падштурхоўваючы Мачалава ў спіну: — Марш наперад і не дуры! У штабе разбяруцца.

У гэту хвіліну Мачалаў нават і не падазраваў, што яго жыццё на валаску. Ён не ведаў яшчэ, што нямала фашысцкіх лазутчыкаў, дыверсантаў і шпіёнаў напярэдадні вайны былі закінуты на тэрыторыю Беларусі. Амаль усе яны былі пераапрануты ў форму камандзіраў, байцоў Чырвонай Арміі і работнікаў міліцыі. За некалькі гадзін да затрымання Мачалава чырвонаармейцы, якія вялі яго ў штаб, схапілі варожага лазутчыка ў форме капітана міліцыі. І можна было ўявіць, як паставіцца камандзір батальёна маёр Грыдзін да чалавека ў цывільнай апратцы з пасведчаннем старшага лейтэнанта міліцыі, чыё месца службы знаходзілася за сотні кіламетраў адгэтуль. Але ў гэты момант Мачалаў, ідучы пад канвоем у штаб, падумаў толькі пра тое, што, магчыма, у часці яму дапамогуць дабрацца да Мінска.

Маёр Грыдзін сустрэў Мачалава адкрыта варожа. Паглядзеў пасведчанне, нядбайна кінуў яго на стол і загадаў абшукаць дастаўленага.

Неўзабаве на стале побач з пасведчаннем Мачалава з’явіліся грабянец, невялікая сума грошай, якая была ў старшага лейтэнанта, насоўка і скарыстаны квіток на цягнік.

Маёр агледзеў грабянец і зло кінуў:

— Бач ты, гад, нават нашым грабянцом абзавёўся.

Мачалаў пабляднеў:

— Абражаць сябе я нікому не дазволю, нават старшаму па званні!

— Што, сваіх паклічаш?

— Якіх сваіх? — не зразумеў Мачалаў.

— Як якіх? — усміхнуўся Грыдзін, — ды тых, хто гэтак жа, як і ты, прыйшоў на нашу зямлю рабаваць і забіваць.

— Ды вы што, лічыце, што я шпіён? — яшчэ больш бляднеючы, спытаў Мачалаў. Толькі цяпер да яго свядомасці стаў даходзіць сэнс слоў чырвонаармейцаў, якія затрымалі яго, і іх камандзіра. А той рэзка сказаў:

— Хопіць выкабельвацца! Спадзяюся, тлумачыць не трэба, што з вамі няньчыцца ў ваенны час не будзем. Таму прапаную неадкладна расказаць праўду. Мяне цікавіць: хто вы, дзе і як перасеклі мяжу? Вашы мэты і задачы?

— Таварыш маёр, — неяк спакойна і нават стомлена загаварыў Мачалаў, — давайце разбяромся па парадку. Мяркуйце самі, калі я вораг, то які сэнс мне хадзіць у цывільнай апратцы. У размяшчэнні любой вайсковай часці на мяне звернуць увагу. Запытаеце Мінск, там наш аддзел кадраў. І вам адразу ж скажуць, хто я.

Затым Мачалаў расказаў маёру, як ён апынуўся ў гэтых месцах.

Грыдзін запрасіў начальніка штаба і сказаў яму штосьці напаўголаса… Капітан прапанаваў Мачалаву ісці за ім. Яны зайшлі ў яго палатку. Аказалася, што начальнік штаба нядрэнна ведаў Мінск, бо раней служыў там. І цяпер ён падвергнуў Мачалава сапраўднаму экзамену па веданні горада. Адказамі застаўся задаволены, але загадаў трымаць Мачалава да раніцы пад вартай. Пры гэтым прабачлівым голасам сказаў:

— Патрываеце, таварыш старшы лейтэнант, да раніцы. Самі разумееце, час ваенны і словам нельга верыць.

А на наступны дзень батальён быў падняты па трывозе і накіраваўся да заходняй мяжы. Затрыманага Мачалава было вырашана здаць у першае ж аддзяленне міліцыі.

Пад вечар батальён спыніўся на прывал. Начальнік штаба сабраў усіх камандзіраў, каб абмеркаваць далейшы маршрут. Тым часам нечакана наляцелі фашысцкія самалёты. Першыя ж бомбы ўпалі побач з тым месцам, дзе праходзіла нарада. Загінулі начальнік штаба, усе камандзіры рот, некалькі іншых камандзіраў.

Камандзіра батальёна выратавала толькі тое, што ён з раніцы паехаў у вёску, што размяшчалася побач, каб звязацца па правадной сувязі з камандаваннем палка. Але тэлефон маўчаў. Тэлефаністка, маладая дзяўчына, са слязамі на вачах растлумачыла, што сувязь перапынілася дваццаць першага чэрвеня вечарам.

— Высветлілі, у чым справа? — спытаў Грыдзін.

— Хтосьці слупы спілаваў і правады пасек.

«Дыверсанты дзейнічаюць, — зразумеў Грыдзін, — трэба будзе ўважліва разабрацца з гэтым міліцыянерам».

Калі ён пад’язджаў на матацыкле да таго месца, дзе размясціўся на адпачынак батальён, то ўбачыў у небе больш як дзясятак самалётаў. І тут жа ў яго на вачах успыхнула чырвоная сігнальная ракета, якая была выпушчана кімсьці з лесу, недалёка ад стаянкі батальёна, і, апісаўшы дугу, упала там, дзе па загадзе маёра цяпер знаходзілася ўпраўленне батальёнам. «Прыеду і прабяру як след жартаўнікоў, — падумаў Грыдзін. — Знайшлі час забаўляцца».

Але тут жа пачаўся налёт. А калі Грыдзін дабраўся да сваіх і ўбачыў, што нарабілі нямецкія самалёты, то пра ракету забыўся. Карціна была страшнай. Смерць начальніка штаба, шматлікіх камандзіраў і байцоў, знішчаная тэхніка, якой і так яшчэ не цалкам сфармаваны батальён быў укамплектаваны толькі напалову, ашаламілі маёра. Ён бледны стаяў на ўзлеску і разгублена глядзеў на тое, што засталося ад батальёна.

Падышоў Мачалаў. Яго ахоўніка забіла асколкам бомбы, а яму ўдалося схавацца ў глыбокай варонцы, дзе ён, уткнуўшыся тварам у яшчэ не астылую зямлю, праляжаў пакуль не скончылася бамбардзіроўка.

Пётр звярнуўся да Грыдзіна:

— Таварыш маёр, я бачыў, як з гарышча вунь таго дома, бачыце, — ён самы блізкі да нас — ракета ўзвілася. І адразу ж бамбёжка пачалася. Упэўнены, што хтосьці паказаў самалётам цэль.

Грыдзін успомніў тую ракету, паглядзеў недаверліва на Мачалава, але, відавочна, начальнік штаба паспеў ужо далажыць яму, што, па яго меркаванні, Мачалаў ніякі не дыверсант, таму махнуў рукой і загадаў:

— Вазьміце чырвонаармейцаў і праверце гэту вёсачку. — Маёр павярнуўся да лейтэнанта, які стаяў метрах у трох ад яго: — Лейтэнант Варанько, дайце старшаму лейтэнанту трох байцоў і два матацыклы.

Праз некалькі хвілін матацыклы падкацілі да дома, на які паказваў Мачалаў. Пётр першым заскочыў у яго. У вялікім пакоі сядзела бабулька.

— Дабрыдзень, — сказаў Мачалаў і, не чакаючы, пакуль бабулька адкажа, спытаў: — У вас у хаце хто-небудзь са старонніх ёсць?

Бабулька даволі хутка і выразна адказала:

— Цяпер ужо нікога няма, а вось калі тут самалёты лёталі, то быў адзін салдацік, але ён сышоў.

— А што за салдацік?

— А хто ведае? Прыехаў ён на матацыкле яшчэ ў абед, пакарміла я яго, і застаўся адпачыць перад далёкай дарогай.

— А дзе ён падчас бамбёжкі быў?

— Што-што? — не зразумела старая.

— Ну, калі самалёты наляцелі і бомбы пачалі кідаць?

— А, — здагадалася бабулька, — я не ведаю, таму што ён мне сказаў у склеп схавацца, бо хутка страляць пачнуць. Ну вось я і схавалася, а ён у доме ці ў двары заставаўся, я нават не бачыла.

— Калі ён з’ехаў?

— Як паляцелі самалёты, я выйшла са склепа, гляджу, а ён з матацыклеткайваждаецца, ніяк завесці не можа. Так і не завёў. Рукамі і папхнуў да лесу.

— А ў які бок?

— А вось па гэтай дарожцы, — і бабулька рукой паказала праз акно, у які бок сышоў яе нядаўні госць.

Мачалаў хутка выйшаў на вуліцу, сеў на задняе сядло матацыкла і паказаў вадзіцелю рукой кірунак. Неўзабаве яны паглыбіліся ў лес. Дарога была роўнай, і ехалі даволі хутка.

Кіламетра праз паўтара, за паваротам, яны ўбачылі чалавека, які важдаўся каля матацыкла. Пад’ехалі і сталі з двух бакоў. Гэта быў лейтэнант Чырвонай Арміі з чорнымі пятліцамі інжынерных войск. Відавочна, ён так захапіўся запускам рухавіка, што нават не пачуў, калі да яго пад’ехалі матацыклы. Зараз ён стаяў выпрастаўшыся. Твар яго заставаўся спакойным, але вочы… вочы казалі Мачалаву ўсё. Бегаючыя, неспакойныя, з затоеным пачуццём страху — такія вочы старшы лейтэнант бачыў у злачынцаў. Стрымана запатрабаваў дакументы. Лейтэнант палез у кішэнь і ў гэты момант нечакана моцна штурхнуў Мачалава ў грудзі і кінуўся да кустоў. Але чырвонаармейцы былі напагатове. Адзін з іх па-байцоўску кінуўся лейтэнанту пад ногі, і той зваліўся. На ім адразу ж апынулася двое чырвонаармейцаў. Звязалі рукі і пасадзілі ў каляску аднаго з матацыклаў. Неўзабаве прыбылі ў размяшчэнне батальёна, а праз паўгадзіны стала ясна, што лейтэнант — пераапрануты дыверсант. Пры ім выявілі, акрамя зброі, ракетніцу і запас ракет.

Пасля гэтага выпадку маёр Грыдзін канчаткова паверыў Мачалаву. Доўга распытваў яго, дзе служыў да міліцыі, а затым нечакана прапанаваў:

— Давай, старшы лейтэнант, прымай роту. Уключым цябе ў спіс асабістага складу, ну а ўсе іншыя дакументы афармім пазней. — Убачыўшы на твары Мачалава збянтэжанасць, сказаў: — Вайна, Мачалаў, вайна! Паглядзі, як яна мяняе нашы планы. — І рукой паказаў вакол сябе. Чырвонаармейцы адносілі забітых да ўзлеску, недалёка ад якога капалі брацкую магілу, баявая тэхніка ператварылася ў груду скарабачанага металу, была страмбавана выбухамі зямлі. Падумаў-падумаў Мачалаў — і пагадзіўся. Вырашыў, што з бліжэйшага паштовага аддзялення пашле дахаты ліст і ўсё растлумачыць.

Прыняў роту. Праўда, пасля таго налёту і іншых баёў, у якіх удзельнічаў батальён, яна па колькасці неўзабаве стала раўняцца ўзводу. Але ў той час рэшткі войск, шматлікіх карпусоў, дывізій і палкоў, нібы раўчукі, якія імкнуліся да ракі, адбіваючыся ад пераўзыходных сіл праціўніка, з цяжкімі баямі прарываліся на ўсход, каб там ізноў стаць паўнапраўнымі баявымі адзінкамі і біць ворага.

Мачалаў неспакойна варочаўся на сваёй лясной пасцелі. Трэба спаць. Заўтра зноў цяжкі марш, і сілы трэба берагчы. Заплюшчыў вочы і загадаў сабе: «Спаць! Спаць! Спаць!»

## Таццяна Андрэеўна

Ужо прайшло больш як паўгода, як яна жыве ў пастаянным пакутлівым чаканні. Яна верыла, што муж жывы і ваюе на фронце, разумела, што адтуль немагчыма даць вестачку пра сябе. Але сэрца не жадала мірыцца з гэтай невядомасцю.

Вось ужо месяц, як у іх у вёсцы раскватаравалася нямецкая часць. Немцы выгналі яе з дзецьмі з хаты, і першыя дні яны жылі ў склепе. І невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б не суседка Марфа Сцяпанаўна, якая жыла ў старой нізкай развалюсе і таму немцы не пакваpіліся на яе хату. Яна і дала прытулак Мачалавым. Але гэта яшчэ паўбяды. Сэрца Таццяны Андрэеўны трывожылі чуткі пра пакаранні смерцю жонак і дзяцей тых, хто працаваў у савецка-партыйных органах, служыў у Чырвонай Арміі ці НКУС. Дый мясцовы паліцай усё пільней прыглядаўся да Мачалавай, усё больш пагрозлівымі і адкрыта здзеклівымі былі яго намёкі.

«Божа мой, што рабіць? Дзе знайсці сілы, каб выжыць, вытрываць усё гэта? Пецця, мілы, дзе ты? Ці чуе тваё сэрца, якая небяспека навісла над тваімі дзецьмі і жонкай?»

Таццяна Андрэеўна супакоілася і паступова пачала засынаць. Раптам пачулася нейкае драпанне, здалося, што хтосьці чымсьці металічным скроб па шкле. Таццяна паціху ўстала і асцярожна падышла да акна, але яно было замёрзлым, і яна нічога не ўбачыла. У гэты момант зноў хтосьці стаў драпацца.

«Значыць, не прыснілася. Але хто гэта ўначы прыйшоў да нас? — І раптам яе сэрца абпаліла думка: — Можа, Пецця? Але ён жа не ведае, што мы тут».

Таня паціху паклікала гаспадыню. Тая хутка спусцілася з печкі, нацягнула на ногі старыя валёнкі і спынілася побач з Таняй, прыслухоўваючыся.

Тым часам у шыбу пастукалі. Марфа Сцяпанаўна рашуча накіравалася да дзвярэй.

— Можа, лучыну запаліць? — спытала Таццяна Андрэеўна.

— Не, не трэба. Калі гэта свой, то навошта святло ў акне.

Яны ўдзвюх выйшлі ў сенцы, і гаспадыня ціха спытала:

— Хто там?

— Мама, гэта я, Антон, адкрый!

— Сыночак, — голас у Марфы Сцяпанаўны задрыжаў, і яна пачала ліхаманкава мацаць рукамі па дзвярах, адкрываючы зашчапку.

— Сыночак, Антон, родненькі ты мой! — прыгаворвала яна.

Дзверы адкрыліся, поруч цямнела чалавечая постаць.

— Святло не запальвай, мама!

— Добра, сынок, добра! Праходзь у хату.

— Антон, давай руку, я правяду, а то спатыкнешся ў цемры, — прапанавала Таццяна Андрэеўна і намацала яго руку. Але хлопец адшмаргнуў руку, як ад электрычнага разраду.

— Хто тут?

— Не бойся, сынок, — супакоіла гаспадыня, зачыняючы дзверы, — гэта Таня, настаўніца, жонка нашага ўчастковага міліцыянера Мачалава. Яе з дзецьмі з хаты выселілі, вось і ўзяла да сябе.

— Ясна, а то я спалохаўся, думаў, што хто-небудзь чужы. Дабрыдзень, Таццяна Андрэеўна! — І Антон сам намацаў у цемры руку Мачалавай. — Дапамажыце мне прайсці, а то сапраўды цёмна.

Яны ўвайшлі ў хату, і жанчыны моўчкі пачалі завешваць чым патрапіла вокны.

Неўзабаве Марфа Сцяпанаўна запаліла лучыну і, зірнуўшы на сына, пляснула рукамі:

— А божа мой! Што ж гэта з табой здарылася, хлопчык ты мой?

І сапраўды Антона, якога Таццяна бачыла год назад і выглядаў ён тады дужым, жыццярадасным, здаровым хлопцам, цяпер было не пазнаць. Перад жанчынамі стаяў схуднелы, з запалымі шчокамі, чорным тварам, на якім толькі вочы свяціліся нейкім ненатуральным, хваравітым бляскам, апрануты ў рызманы, чалавек. Ён стомлена апусціўся на лаву.

— Не здзіўляйцеся. Я ў палоне быў, пакаштаваў фашысцкага хлеба. Мне яшчэ пашанцавала ў параўнанні з многімі. Калі везлі нас на таварняку, адарвалі ў падлозе дошкі, і чалавек дзесяць, а можа, і больш, збеглі. Праўда, сабрацца ўсім разам не ўдалося. Вось я ўжо амаль месяц як сюды дабіраюся. А ў вас, гляджу, таксама немцы гаспадараць.

— Ды тут іх цэлая часць ужо месяц кватаруе, — растлумачыла Марфа Сцяпанаўна і пачала завіхацца каля печы, — цяпер я цябе, сынок, накармлю.

— Мама, мне б памыцца ды гэтыя лахманы скінуць. Іх трэба адразу ж спаліць, каб заразы не набрацца.

Пакуль Антон прагна еў усё, што яму падносілі, нагрэлася ў трох вялікіх чыгунах вада. Жанчыны вылілі яе ў бляшанае карыта, і Антон застаўся ў пакоі адзін. Пакуль ён мыўся, Марфа Сцяпанаўна дастала з шафы бялізну і пачала рыхтаваць у незанятым невялікім пакойчыку пасцель. Нарэшце вымыты і пераапрануты Антон падышоў да маці. Пры цьмяным святле лучыны было відаць, як боўтаецца на ім адзежа.

— Мама, я ледзь на нагах трымаюся. Цяпер лягу, а заўтра пагаворым, спалі толькі лахманы.

— Кладзіся, сынок, кладзіся. Я зраблю ўсё, як ты кажаш. Скажы толькі адно: пра Лёшу нічога не чуў?

— Не, мама, мы ж з ім у розных часцях служылі.

Антон лёг на ложак і імгненна заснуў. А жанчыны, усхваляваныя яго нечаканым з'яўленнем, доўга яшчэ варочаліся ў сваіх пасцелях.

Антон прачнуўся толькі пад вечар наступнага дня. Ён моцна прастыў: часта кашляў, тэмпература была высокая.

Жанчыны, параіўшыся, вырашылі, што на вуліцу будуць выходзіць рэдка. Дзяцей наогул не выпусцяць.

Першыя дні Антон моцна хварэў, але паступова пачаў папраўляцца. Усё радзей яго біў сутаргавы кашаль. Клопат і догляд рабілі сваю справу.

Прайшоў тыдзень. Антону стала значна лепш. За час хваробы ён паспеў расказаць пра свае пакуты і пра здзекі гітлераўцаў з ваеннапалонных.

Марфа Сцяпанаўна і Таццяна Андрэеўна, слухаючы хлопца, не хавалі слёз. Пакутлівая невядомасць пра старэйшага сына і турбота пра Пятра як бы параднілі гэтых розных па ўзросце жанчын. Аднойчы, калі Антон ужо зусім паправіўся, ён сказаў маці:

— Ты, мама, паволі пачынай збіраць мяне ў дарогу. Мне трэба ісці.

— У якую дарогу? Куды ісці? — забожкала маці. — Нікуды я цябе не пушчу. Хопіць, я намучылася без вас тут, і цяпер хоць ты пабудзь са мной! Нікуды я цябе не пушчу, нікуды! Чуеш!

Антон падышоў да маці і абняў яе:

— Супакойся, мама. Зразумей, я — салдат і маё месца на фронце, дзе б'юцца з ворагам тысячы такіх, як я. І я абавязаны быць там і ваяваць з гадамі датуль, пакуль не вызвалім сваю зямлю.

Ён адышоў ад маці, стаў ля акна і ціха, дрыготкім ад лютасці голасам сказаў:

— Калі б ты ведала, мама, як яны здзекуюцца з нашых людзей. Ты нават не ўяўляеш, што яны вытвараюць. Яны горшыя за звяроў! І не трэба мяне ўгаворваць, я жыву цяпер толькі адным жаданнем — помсціць фашыстам, біць іх днём і ўначы, датуль, пакуль не пераб'ём усіх!

У гутарку ўмяшалася Таццяна Андрэеўна:

— Антон, а калі табе паспрабаваць адшукаць партызан?

— Партызан? — ажывіўся хлопец. — А дзе іх знойдзеш? Я б з радасцю пайшоў, ад іх, магчыма, лягчэй трапіць на фронт.

Марфа Сцяпанаўна супакоілася і вырашыла, што калі ўжо сыходзіць сыну з хаты, то лепш у партызаны. Усё ж будзе бліжэй да яе. Пачалі думаць, як знайсці партызан. Стала наведваць людзей, сваякі якіх, па яе меркаванні, сышлі ў лес. Асцярожна заводзіла з імі гаворку пра партызан. Гэтыя хаджэнні скончыліся тым, што неяк глыбокай ноччу пачуўся асцярожны стук у акенца.

У хаце перапалохаліся: а раптам немцы?

Антон схапіў адзежу, валёнкі і паціху па лесвіцы залез на гарышча. Марфа Сцяпанаўна трывожна спытала праз дзверы:

— Хто там?

— Марфа, адкрый, свае!

Удакладняць, хто стукаецца ў такі позні час, было бессэнсоўна. Адкрываць дзверы, няхай гэта будуць немцы ці сапраўды партызаны, усё адно трэба, і гаспадыня, вычакаўшы, пакуль Антон зацягне на гарышча за сабой лесвіцу, адчыніла дзверы. У сенцы ўвайшлі трое. Разануў па вачах устрывожаных жанчын яркі прамень кішэннага ліхтара. Той жа голас крыху насмешліва спытаў:

— Што, сваіх не пазнаяце?

«Дык гэта ж Міхаіл Іосіфавіч, наш старшыня калгаса!» — пазнала Мачалава. Яна памятала іх гаворку перад самым адыходам старшыні ў партызанскі атрад, калі ён раіў і ёй рабіць гэта. Радасна сказала:

— Міхаіл Іосіфавіч, вы? Праходзьце ў хату.

У Марфы Сцяпанаўны ад перажывання знік голас, і размаўляла з гасцямі адна Таццяна Андрэеўна.

Прышлыя, відаць, спяшаліся і перайшлі да справы:

— Марфа Сцяпанаўна, а што гэты ты намі цікавіцца пачала, што, справа якая ёсць?

Гаспадыня ўжо ачулася і ахвотна адказала:

— Вядома, ёсць, Іосіфавіч. Сын мой, Антон, абвясціўся. А куды ж яму як ні да вас падавацца? Таму і хадзіла па людзях. Ведала, што калі не падкажуць, дзе вас шукаць, то вам перададуць. Бачыш, не памылілася.

— Бачу, бачу, ты заўсёды ў нас кемнай была. Ну, а дзе ж Антон?

— На гарышчы. Зараз паклічу.

Не прайшло і пятнаццаці хвілін, як госці разам з Антонам крочылі агародамі да лесу. А ў хаце стаялі пажылая і маладая жанчыны і плакалі. У іх наперадзе былі доўгія дні трывог, страху і надзей…

## Уладзімір Славін

Дзякуючы падпольшчыкам і партызанам многія жыхары Беларусі ведалі пра шматлікія найважнейшыя падзеі на фронце. Лістоўкі паведамлялі не толькі пра перамогі на франтах, але і пра паспяховыя аперацыі партызан, заклікалі насельніцтва да актыўнай барацьбы з гітлераўцамі.

Мацнела і Мінскае камуністычнае падполле. Падпольшчыкі арганізоўвалі ўцёкі з канцлагераў палонных чырвонаармейцаў і камандзіраў і, рызыкуючы

жыццём, перапраўлялі іх у партызанскія атрады, дзе патрэбны былі баяздольныя, навучаныя байцы і камандзіры Чырвонай Арміі.

Шмат шкоды немцам нарабілі мінскія падпольшчыкі сваімі дыверсіямі. Яны вывелі са строю вадакачку і водаправодную сетку, і чыгуначны вузел каля дзесяці дзён заставаўся без вады. На запасных пуцях было замарожана амаль пяцьдзясят паравозаў.

Валодзя Славін хваляваўся, перажываў, засмучаўся, што застаецца ўбаку ад вялікіх спраў. Неяк увечары, седзячы ў сваім пакоі, каторы ўжо раз вярэдзіў сябе думкай: «Бацька вось працуе ў друкарні, дастае падпольшчыкам фарбу, паперу, шрыфты, часта прыносіць чыстыя бланкі аўсвайсаў. А я? Сяджу — быццам спраў ніякіх няма. Урэшце я павінен заняцца чымсьці сур’ёзным!»

Ён ледзь дачакаўся бацькі і прама заявіў: калі яму не дадуць якую-небудзь справу — пачне дзейнічаць сам. Бацька, добра ведаючы характар сына, ціха сказаў:

— Патрывай, сынок, да заўтра.

На наступны дзень Міхаіл Іванавіч паклікаў сына:

— Ну, Валодзя! Ёсць работа. Заўтра пойдзеш уладкоўвацца.

— Куды, тата?

— У майстэрню, дзе рамантуюць пішучыя машынкі. Гэта недалёка ад Дома ўрада. Начальнік майстэрні — цывільны немец. Цябе парэкамендавалі нашы людзі. Ён давярае ім.

— Што я буду рабіць? — роспачна спытаў Валодзя.

Бацька зразумеў настрой сына, спакойна растлумачыў:

— Запомні: ваяваць трэба не толькі мінамі і вінтоўкамі. Нам неабходна падтрымліваць маральны дух насельніцтва, клікаць народ на барацьбу. А для гэтага патрэбны і падпольныя друкарні, і пішучыя машынкі, якіх, дарэчы, нам вельмі не хапае. А ты зможаш здабываць розныя дэталі, будзеш ведаць, у якіх арганізацыях ёсць патрэбныя нам машынкі. Але ты ўвесь час павінен трымаць язык за зубамі, інакш, сын, загубіш і сям’ю нашу, і іншых таварышаў. Памятай пра гэта заўсёды. Ніякай пахвальбы перад сябрамі. Нікому, чуеш, нікому — ні слова!

Валодзя паглядзеў у стомленыя вочы бацькі і цвёрда адказаў:

— Ведаю, тата. Не турбуйся, ніхто ад мяне і слова не пачуе…

На наступны дзень малады Славін прыйшоў у майстэрню ў дакладна прызначаны час. Начальнік — пульхны, ружовашчокі немец, які пачаў лысець, доўга разглядаў хлопца. Той збянтэжана таптаўся ля парога. Нарэшце начальнік загаварыў:

— Я есць твой началнік і казяін. Ты дольшен карашо арбайтен, ферштейн? Ошень карашо арбайтен і любіць парядок. Калі будзеш плехо… магу отправляйт тебья на воспитыванье ў Вялікую Германію. Разумееш?

Валодзя кіўнуў галавой, а сам падумаў: «Я табе тут напрацую! Сам хутчэй пойдзеш у сваю Вялікую Германію!» Валодзя чысціў і мыў дэталі, пазней стаў разбіраць пішучыя машынкі. Марцін з Дрэздэна, — так начальнік зваў сябе — строга сачыў, каб рабочыя не спазняліся раніцай і не сыходзілі з працы раней, не дазваляў адлучацца, забараніў перакуры. Яго візглівы голас чуўся ўвесь дзень. За кожную правіннасць ён пагражаў маладым работнікам, што адправіць у Германію, а пажылым — канцлагерам.

Спачатку Валодзя прыглядаўся да людзей, працаваў добрасумленна, як таго і патрабаваў бацька. Прайшоў тыдзень-другі, і ён прыступіў да выканання задання: перш-наперш даведаўся, якім арганізацыям належаць машынкі, што паступілі ў рамонт, паведаміў бацьку, а падпольшчыкі высвятлялі, як можна выкрасці гэтыя машынкі, калі яны будуць вернуты ўладальнікам з майстэрні.

Неўзабаве Славін і сам асвоіў рамонт. Аднойчы з паліцэйскай управы прывезлі адразу тры сапсаваныя машынкі. Паліцэйскі, які даставіў іх, растлумачыў, што ўсе тры былі знойдзены ў нейкім закінутым доме. Валодзя з дзелавым выглядам уважліва агледзеў кожную з іх, зірнуў на паліцэйскага:

— У машынках вельмі шмат паломак. Каб выправіць іх, у майстэрні не знойдзецца гэтулькі дэталяў.

— Ды вы з трох хоць адну зрабіце.

— Паспрабуем, — адказаў юны майстар. Ён «паспрабаваў» і аднавіў не адну, а дзве машынкі, а трэцюю раскамплектаваў і схаваў у пакоі, дзе валяўся розны хлам. Паліцай забраў абедзве машынкі і праз начальніка майстэрні падзякаваў хлопцу за стараннасць і спраўнасць. Праз тыдзень Валодзя вынес з майстэрні корпус машынкі, а затым, на працягу пяці дзён, перанёс дахаты і ўсе астатнія дэталі. У нядзелю ён сабраў машынку і ўручыў бацьку. Праз сувязнога яна была перададзена ў партызанскі атрад. Неўзабаве малодшаму Славіну ўдалося сабраць яшчэ адну пішучую машынку.

Гэта быў яго святочны падарунак падпольшчыкам да 23 лютага — Дня Чырвонай Арміі.

Праўда, к вечару на змену прыўзнятаму і святочнаму настрою ў кватэру Славіных прыйшла трывога.

Калі ўся сям’я, за выключэннем Міхаіла Іванавіча, была ў зборы, у дзверы хтосьці пастукаў і ў прыхожую ўвайшла суседка Святлана Латаніна, высокая, стройная, светлавалосая, вельмі прыгожая дзяўчына. На выгляд ёй было гады дваццаць чатыры.

Латаніна і раней заходзіла да Славіных, зрэшты, як і да іншых суседзяў, па якой-небудзь справе, а то і проста пагаварыць. Але ў апошні час суседзі пачалі ставіцца да яе з некаторай насцярожанасцю. Валодзя з хлопцамі некалькі разоў бачыў яе каля старых закінутых могілак. Латаніна там сустракалася з невядомым мужчынам, апранутым у цывільную апратку, які прыязджаў туды на легкавушцы. Гэтыя сустрэчы не былі падобныя на любоўныя спатканні. Часта азіраючыся, яны заходзілі на могілкі, прагульваліся па пустыннай дарожцы хвілін дзесяць—пятнаццаць, а затым разыходзіліся па адным.

Звычайна пасля такіх сустрэч на наступны дзень у многіх дамах праводзіліся вобыскі, нярэдка каго-небудзь арыштоўвалі.

Праўда, у кватэры Славіных ператрусаў яшчэ не было, але прыход Святланы наводзіў на сумныя разважанні.

Настасся Георгіеўна спакойна і нават добразычліва запрасіла суседку ў пакой і прапанавала садзіцца.

Святлана таксама паводзіла сябе нязмушана. Гледзячы ўсмешліва на Валодзю, сказала:

— Цётка Стася, а ў вас Валодзя праз некалькі гадоў жаніх на ўсю акругу будзе.

— Кінь ты, Света, — махнула рукой Настасся Георгіеўна, — яму яшчэ далёка да жаніхоў, дый вайна ідзе, хіба да гэтага зараз?

— Так, ваша праўда, — зрабіла сумны выгляд Латаніна, — вайна праклятая… Гэтыя немцы шмат нам гора прынеслі. Хоць бы вестачку якую атрымаць, як там на фронце нашы трымаюцца, хоць бы выстаялі перад іх танкамі ды самалётамі. Я вось толькі дзіўлюся, чаго мы без справы сядзім? Мы таксама маглі б нашым дапамагчы.

— Э, мілая, — спалохана сказала Настасся Георгіеўна, — паслухай маёй парады — не лезь ты ў гэту справу. Мы ж з табой мірнае насельніцтва, а немцы такіх не чапаюць. Яны ж бяруць толькі тых, хто ім шкодзіць. Вось і

табе я раю: няма чаго ў бойку лезці, у іх вунь колькі салдат ды прылад розных, што ты ім зробіш? Толькі галаву страціш. Таму, паслухай мяне, выкінь такія думкі з галавы і іншым пра гэта не кажы, а то пашкадуеш.

Латаніна ўсміхнулася:

— Што, цётка Стася, пойдзеце на мяне ў гестапа даносіць?

— Ды ну цябе! Чаго гэта я пайду, быццам я не бачу, што не сур'езна ўсё гэта мелеш. Раскажы ты лепш, як справы дома, усе здаровыя?

— Так, дзякуй богу. Я, дарэчы, чаго да вас забегла? Ці не пазычыце вы мне таркі, хачу дранікаў прыгатаваць.

— Чаму ж не пазычу. — Гаспадыня выйшла на кухню і прынесла тарку. — На, бяры, рабі сабе дранікі і еш на здароўе.

Святлана ўзяла тарку і пайшла. Настасся Георгіеўна доўга глядзела ёй у спіну, калі яна ішла па двары да брамкі. Уладзімір глуха сказаў:

— Ну, заўтра трэба чакаць гасцей. Вось убачыш, мама, пасля абеду немцы як штык з'явяцца да нас.

Калі прыйшоў Міхаіл Іванавіч, маці, сын і дачка, дапаўняючы адзін аднаго, паведамілі яму пра «госцю». Гэта ўсхвалявала Міхаіла Іванавіча, і ён доўга пра штосьці думаў. Затым паглядзеў на жонку і дзяцей:

— Добра, засмучацца не трэба. Па-першае, можа, мы дарма Святлану падазраём, па-другое, як сцямнее, мы з табой, Валодзя, сёе-тое перахаваем у агародзе. — Міхась Іванавіч устаў з крэсла, прайшоўся па пакоі і нечакана ўсміхнуўся: — І, па-трэцяе, заўтра нядзеля, і вы ўдваіх занясеце ўсё гэта на рынак і аддасцё аднаму чалавеку, ну, а як гэта зрабіць, я скажу заўтра, а цяпер я хачу есці, і калі ты, маці, мяне ў гэтую ж хвіліну не накорміш, памру з голаду…

Нядзельная раніца выдалася сонечнай і марознай. Бацька папрасіў Валодзю павартаваць, а сам накіраваўся з лапатай у агарод, дзе ўначы яны закапалі ў вядры ўсё тое, што трэба было сёння перадаць партызанскай сувязной.

Паснедаўшы, Настасся Георгіеўна і Валодзя накіраваліся на Камароўку. Каля веснічак яны сутыкнуліся з жанчынай з суседняга дома. Яна таксама ішла на рынак, і яны пайшлі ўтраіх. А вось і ён — Камароўскі рынак, размешчаны ля самага балота, праз якое ўлетку прайсці было немагчыма, а цяпер людзі падыходзілі да рынку з усіх бакоў.

Маці рабіла выгляд, што прыцэньваецца да прадуктаў, а сама вачамі шукала патрэбнага ёй чалавека. Суседка, якая паспела ўжо выменяць даваенную ваўняную кофту на невялікі кавалачак сала і дзясятак яек, пачала прыспешваць Настассю Георгіеўну.

Славіна не ведала, як пазбавіцца ад суседкі. Але раптам пачалася паніка, пачуліся крыкі: «Аблава! Аблава!»

Маці ўзяла сына за руку:

— Застаёмся на месцы. Дакументы ў нас у парадку.

Валодзя здзівіўся. Ён добра ведаў, што ў маці ў торбе ляжаць роўныя стосы пісчай паперы, капірка і, самае галоўнае, фотаапарат. Усё гэта яны павінны перадаць жанчыне, партызанскай сувязной, якая скажа: «Ці няма ў вас на продаж ботаў і жаночага футра, пажадана чорнага колеру?» Мама і суседку паклікала з сабой для прыкрыцця, а тут, на табе, — аблава! Ён нахіліўся да маці і ціха, каб суседка не чула, сказаў:

— Мама! Але ў цябе ж у торбе…

Маці паглядзела на сына разумнымі добрымі вачамі і нечакана ўсміхнулася:

— Ох, як ты ў мяне, сынок, вырас! Каб сказаць маме штосьці на вуха, ужо нагінацца стаў.

Валодзя стаяў збянтэжаны, глядзеў на маці і думаў: «Вось гэта мама! У гэткі момант так трымаецца ды яшчэ жартуе!»

Тым часам гестапаўцы і паліцаі пачалі гнаць натоўп праз плошчу ў бок вуліцы Цнянскай. Там яны ўтварылі прапускны пункт. Натоўп адціснуў ад Славіных суседку. Маці, праходзячы міма воза, звярнулася да старога, які сядзеў на ім:

— Дзядуля! Прадай дзясятак яек!

Дзед здзіўлена паглядзеў на жанчыну, якая вырашыла купляць яйкі ў такі момант.

— Я, дачка, не прадаю. Змяняю.

— Дзядуля, мілы, а ты прадай. Вось табе маркі, дай хоць бы дзясятак. Зразумей — вельмі трэба! — І, памаўчаўшы, гледзячы проста ў вочы старому, дадала: — Для жыцця трэба!

Стары перавёў погляд туды, дзе тоўпіліся ля прапускнога пункта людзі, і пачаў дрыготкімі рукамі, не лічачы, перакладаць у кошык Славінай яйкі.

— Бяры, родная, калі для жыцця трэба.

Калі ён паклаў у кошык дзясятка паўтара яек, маці сказала:

— Хопіць, дзякуй.

Але дзед працягваў перакладаць яйкі, штук трыццаць паклаў і прагаварыў:

— Ну, з Богам. Ідзіце, людзі добрыя.

Маці працягнула яму ўсе маркі, якія былі ў яе, але стары адмахнуўся:

— Не патрэбныя гэтыя паперкі, у нас з табой, дачка, ёсць толькі адны грошы. Прыйдзе час — будзем імі разлічвацца!

— Дзякуй, дзядуля! Шчасліва заставацца, добры чалавек!

Далей яны ішлі моўчкі. Усё бліжэй падвойнае ачапленне. Стаяць афіцэры, правяраюць дакументы, адводзяць у бок, пад асобую ахову, тых, у каго дакументаў няма. Амаль праз аднаго чалавека —ператрус. Валодзя ўпотай зірнуў на маці. Твар ледзь пабляднеў, але спакойная. Ужо зусім блізка кантроль.

У гэты момант Валодзя падумаў: «Цікава, колькі тут людзей, якія не хочуць, каб іх абшуквалі?» І раптам ён заўважыў знаёмы твар: «Каб іх чорт узяў, дзе я бачыў гэтага паліцэйскага?.. Нарэшце вось успомніў! Гэта ж ён… прыносіў тры пішучыя машынкі». Валодзя крануў маці за руку:

— Мама! Ідзі за мной! Толькі не хвалюйся.

І ён, трымаючы маці за руку, падышоў да паліцэйскага:

— Пан паліцэйскі, дабрыдзень! Я Валодзя. Памятаеце, пішучыя машынкі рамантаваў? Вы яшчэ дзякавалі…

Паліцэйскі пазнаў хлопца, і на яго твары прамільгнула нейкае падабенства ўсмешкі.

— Памятаю, памятаю. Што ты хочаш?

— Разумееце, спазняюся, а шэф не любіць, калі спазняюцца. Сёння ён загадаў выйсці на работу. Неабходна адрамантаваць машынку для гестапа, а тут аблава. Пакуль я з мамай дачакаюся чаргі, пакуль нас прапусцяць, спазнюся. Дакументы ў нас у парадку. Вось, гляньце — мой аўсвайс. У мамы таксама ёсць. — Ён павярнуўся да маці: — Мам, пакажы. — Маці дастала пропуск, а Валодзя працягваў: — Вы ж усё можаце! Прапусціце нас без чаргі. А я за гэта заўсёды буду без чаргі рамантаваць вашы машынкі.

Паліцэйскі расправіў худыя плечы, зазірнуў у торбу і сказаў:

— Добра. Ідзіце за мной.

І ён правёў іх спачатку праз адзін ланцуг, затым праз другі, дзе стаялі толькі немцы. Тут ён, аддана ўсміхаючыся, некалькі разоў прагаварыў: «Аўсвайс, аўсвайс!»

Валодзя і маці былі свабодныя. Але Настасся Георгіеўна не адыходзіла. Яна насцярожана глядзела назад.

— Што ты так глядзіш, мама?

— Валодзя, бачыш, воддаль стаяць тры немцы — афіцэры, а з імі Святлана Латаніна.

Валодзя зірнуў і тут жа пазнаў суседку.

— Цікава, што яна тут робіць? — ціха спытала маці.

А Латаніна не прымусіла доўга чакаць адказу. Яна нахілілася да аднаго з афіцэраў і штосьці сказала яму, паказваючы пальцам на аднаго мужчыну, таго, што ўжо мінуў кантроль. Афіцэр зрабіў знак салдатам. Двое з іх падскочылі да мужчыны і, падштурхоўваючы яго ў спіну рулямі аўтаматаў, адвялі ў групу людзей, якая ахоўвалася асобна. Нічога не сказала маці, але вочы яе гаварылі пра многае.

Думаць пра сустрэчу з партызанскай сувязной зараз ужо не даводзілася. Моцна турбуючыся за яе лёс, маці і сын адправіліся дахаты. Але не прайшлі яны і квартала, як іх дагнала дзяўчына. Задыхаўшыся ад хуткай хады, яна спытала:

— Ці няма ў вас на продаж ботаў і жаночага футра, пажадана чорнага колеру?

Маці ўсміхнулася і адказала:

— Боты ёсць, але толькі мужчынскія, сорак пяты памер. Футрамі пакуль не гандлюем.

Далей яны пайшлі ўтраіх. Павярнулі ў маленькі бязлюдны завулак, і маці хутка перадала дзяўчыне каштоўны груз. Падзякаваўшы Славіным, тая хутка знікла.

Маці з палёгкай уздыхнула, ласкава паглядзела на сына:

— Ну што, Вова? Пойдзем яечню дармовую гатаваць. Ох і вячэру закачу — пальчыкі абліжаце!

Дахаты прыйшлі задаволеныя. Бацька і Жэня гатавалі абед. Дзелячыся ўражаннямі пра паход на кірмаш, пра добрага старога, які выручыў яе і Валодзю ў цяжкую хвіліну, Настасся Георгіеўна расказала мужу і пра паводзіны Латанінай.

Густыя бровы Міхаіла Іванавіча сышліся на пераноссі. Ён доўга маўчаў, гледзячы ў акно, потым падышоў да жонкі і абняў яе:

— Настасся, давай дамовімся: калі здарыцца самае страшнае і мяне схопяць, то пра што б цябе ні пыталі, чаго б ні казалі, нават пра тое, што я нібы прызнаўся, нават калі назавуць імёны тых, каго ты сапраўды ведаеш, адмаўляй усё. Ты павінна казаць, што нічога не ведаеш, што ніхто да нас дахаты не прыходзіў.

— Ты што, Міша, думаеш, што цябе могуць схапіць?

— Цяжка сказаць, па-мойму, не павінны. Дома ў нас нічога падазронага няма, і надалей сюды прыносіць не будзем, але, разумееш, лістоўкі вырабляюцца друкаваным спосабам, гестапаўцы не дурні і ў першую чаргу, вядома, цікавяцца тымі, хто працуе ў друкарні. Калі Латаніна — здрадніца, а гэта, відаць, сапраўды так, то яна напэўна атрымала заданне прасачыць за намі. З ёй трэба паводзіць сябе як звычайна, хай думае, што мы ні пра што не здагадваемся. — Міхаіл Іванавіч усміхнуўся. — Ведаеш, я прыдумаў, як сёння гэту Светку праверыць. І зробіць гэта Жэня.

Настасся Георгіеўна спалохана прамовіла:

— Ой, Міша, баюся я за дзяцей. Скажы, што ты прыдумаў?

— Ты заўважыла, што на нашай вуліцы вобыск не рабілі толькі ў пяці дамах, у тым ліку ў нас і Латаніных?

— Так, пра гэта ўчора мы з Жэняй гаварылі.

— Дык вось, калі сёння яны прыйдуць да нас, то даю руку на адсячэнне, не абыдуць яны і Латаніных. Калі Светка працуе на гестапа, а я паўтараю, яны — не дурні, то яны зробяць вобыск і ў яе. Але які ім сэнс у свайго лакея ўсё дагары нагамі пераварочваць, як гэта яны звычайна робяць у іншых дамах? І я ўпэўнены, што да Светкі яны прыйдуць, пасядзяць і праз паўгадзіны выйдуць на вуліцу, каб суседзі бачылі, што і Латаніну не абышлі. А гэта значыць, што падазрэння на гэту верціхвостку не будзе.

— Гэта так, але я не разумею, што ты хочаш ад Жэні?

— Ты ж сама казала, што Светка ўзяла ў нас тарку. Дык вось, калі немцы ўвойдуць да яе ў дом, хвілін праз дзесяць—пятнаццаць зойдзе Жэня і спытае нашу тарку, скажа, што мы таксама вырашылі дранікі пячы, а заадно ўбачыць, ці робяць немцы ў іхператрус.

Настасся Георгіеўна мякка ўсміхнулася:

— Ну і стратэг ты ў мяне. Не разумею толькі, для чаго гэта табе? Я лічу, што Жэню нельга пасылаць, каб яна лішні раз на вочы гэтым ірадам траплялася. Яна ў нас ужо дзяўчына, і ты сам ведаеш, колькі розных подласцяў робяць немцы, асабліва гестапаўцы.

Міхаіл Іванавіч падышоў да акна, памаўчаў, а затым сеў на канапу:

— Так, твая праўда. Пашлём Вову, а для чаго мне гэта трэба, то я скажу табе вось што: гэта трэба ўсім нам, маім таварышам. Разабрацца, хто ёсць хто, сабраць доказы віны здрадніка таксама важная справа. Наступіць час, і такім людзям будзе прад’яўлены рахунак за ўсё.

Настасся Георгіеўна ў знак згоды кіўнула і сказала:

— Добра, тады я бульбачкі начышчу.

— А гэта навошта?

— Ну, не будзем жа мы хлусіць суседзям і сапраўды аладак насмажым.

Міхаіл Іванавіч усміхнуўся:

— Малайчына ты ў мяне!

— Бачыў жа, нябось, каго выбіраў, калі жаніўся.

— Гэта праўда.

Жыццё ў акупацыі ўжо навучыла гэтых людзей чакаць непрыемнасцяў і рыхтавацца да іх. Вось і цяпер яны размаўлялі паміж сабой так, як быццам не немцы, а яны самі вырашылі правесці вобыск. І яны не памыліліся. Праз паўтары гадзіны ў двор увайшлі гестапаўцы. Загрукалі каваныя боты па драўляных прыступках лесвіцы, і ў кватэру ўварваліся пяцёра. Адзін з іх на ламанай рускай мове крыкнуў:

— Усе стаяць на адзін месца! Вашы дакументы!

Адзін гестапавец з аўтаматам застаўся каля дзвярэй, афіцэр — падаваў каманды, праглядаў дакументы і пытаў, ці ёсць у хаце зброя, радыёпрыёмнік; астатнія, нібы ваўкі на ахвяру, накінуліся на шафу, куфар. Немцы раскідалі рэчы па ўсёй кватэры, перавярнулі канапу, шафу кухонную, ператрэслі ложкі. Выцягнулі ўсё з каморкі, агледзелі хлеў. Але нічога не знайшлі і накіраваліся да суседзяў.

Міхаіл Іванавіч моўчкі зірнуў на сына, і Валодзя, нацягнуўшы на сябе шапку і паліто, шаснуў за дзверы. Жэня ўзяла са скрыні стала нож і падсела ў кухні да маці, якая пачала чысціць бульбу.

Валодзя перайшоў вуліцу і не спяшаючыся пачаў прагульвацца па тратуары. Ён бачыў, як з веснічак і варот суседніх двароў выглядваюць людзі.

Усіх іх, вядома, цікавіла адно і тое ж пытанне: які будзе наступны дом у гестапаўцаў.

Нарэшце немцы ўвайшлі ў дом Латаніных. Валодзя разумеў, што самы лепшы час патрапіць у іхні двор цяпер. Гаспадары будуць сустракаць гестапаўцаў і сачыць з вокнаў за дваром не стануць. Ён хутка падышоў да веснічак, вычакаўшы, пакуль апошні немец схаваецца за дзвярамі, праслізнуў у двор. Заходзіць у дом было яшчэ рана, Валодзя прайшоў у глыб двара да хлява і схаваўся за яго. Зараз ён з'явіцца ў хаце Латаніных нечакана. Вокнаў у гэты бок няма, і ніхто не ўбачыць яго, калі ён будзе набліжацца да дома.

Заставалася чакаць. Хлопец прыціснуўся спінай да бярвеністай сцяны хлява і задумаўся. Як хутка мяняюцца людзі падчас вайны, дакладней, як хутка сталеюць. Здавалася, прайшло зусім мала часу з таго моманту, калі Валодзя разам з хлапчукамі са сваёй вуліцы кідалі ў кузавы нямецкіх машын бутэлькі з карбідам і думалі, што яны, калі не ваююць, то, прынамсі, шкодзяць фашыстам. А цяпер Валодзю стала сорамна за гэтыя хлапечыя выхадкі. Яму яшчэ не было і шаснаццаці, а ён адчуваў сябе значна старэйшым. Прызвычаіўся перш, чым штосьці рабіць, старанна абдумваць кожны крок. Што гэта — абвостранае пачуццё небяспекі? А можа, пачуццё адказнасці перад бацькамі, шматлікімі людзьмі, якія паверылі яму і даручылі хай маленькую, але сапраўдную справу? Валодзя марыў пра той час, калі яму давядзецца ваяваць супраць ворага са зброяй у руках. Ну, а пакуль трэба чакаць і, вядома, не папасціся на чым-небудзь.

Уладзімір адарваўся ад сцяны хлява: «Пара! Прайшло не меней як пятнаццаць хвілін». І ён хуткім крокам накіраваўся да дома. Дзверы, якія вялі ў сенцы, адкрыліся бясшумна. Валодзя перавёў дыханне, гледзячы на абабітыя лямцам дзверы, што вялі ў пакой. Што чакае яго там? Як сустрэнуць яго гаспадары? Як паглядзяць немцы?

Валодзя палічыў да трох і пацягнуў дзверы на сябе.

Ён апынуўся ў кухні, да яго слыху данёсся голас таго ж афіцэра, які рабіў вобыск у іх доме. Валодзя яшчэ не разабраўся, пра што казаў гестапавец, але тон яго голасу быў спакойным. Хлопец рушыў да дзвярэй, якія вялі ў пакой, і ў гэты момант пачуў Светчын смех. Валодзя адчыніў дзверы. У вочы адразу ж кінулася, што два немцы сядзяць злева ад дзвярэй на канапе, два другіх — на крэслах каля печы. Ужо знаёмы афіцэр і Светка сядзелі ля стала.

У пакоі стала ціха. Уладзімір злавіў на сабе погляд афіцэра і спалоханы — Светчын. Чамусьці падумалася пра яе бацькоў: «Калі іх няма тут, значыць, яны ці ў іншым пакоі ці іх няма дома».

— Дабрыдзень! — хмурна сказаў Валодзя. — Мяне мама па тарку паслала, цяпер бліны будзем пячы.

Як зласліва зараз глядзелі на яго блакітныя вочы гэтай прыгажуні. У іх ужо прайшоў спалох і загаралася злосць, прыкрасць на гэтага хлопца.

Афіцэр спытаў у Светкі:

— Хто гэта?

— Сусед… — скрозь зубы працадзіла Светка і рушыла да дзвярэй. — Ідзём, забяры сваю тарку, знайшоў час прыходзіць, бачыш, і да мяне прыйшлі.

Афіцэр падняўся з крэсла і загадаў Уладзіміру:

— Стаяць на месцы.

Сам жа, злёгку падштурхоўваючы перад сабой Латаніну, разам з ёй выйшаў у кухню. Валодзя пачуў, як пляснулі і другія дзверы. «Пайшлі ў сенцы, — здагадаўся ён, — раіцца будуць».

Прайшло хвіліны тры, перш чым яны вярнуліся ў пакой. Латаніна надзела паліто, завязала вязаную хустку і сказала:

— Валодзечка, я пайду з табой, падзякую сама бацькам за тарку.

Яна ўзяла тарку, і яны выйшлі на вуліцу. Пакуль ішлі, Светка, яшчэ не зусім акрыяўшы ад збянтэжанасці, растлумачыла:

— Ты ўвайшоў якраз, калі яны мяне дапытвалі. Усё высвятлялі, ці няма ў мяне зброі ці радыёпрыёмніка, а цяпер, напэўна, вобыск пачалі ўжо.

Уладзімір слухаў, а сам думаў: «Брашы, брашы, зараза прадажная! Цябе я ўжо даўно раскусіў».

Праз некалькі хвілін яны ўвайшлі ў кватэру Славіных. Светка з палёгкай уздыхнула: яна сваімі вачамі бачыла, што людзі чысцяць бульбу, і, значыць, хлопец сапраўды прыходзіў па тарку. Сказала некалькі слоў падзякі і сышла. А Славіны пераглянуліся паміж сабой. Валодзя расказаў усё, што бачыў у Латаніных дома, і раптам, усміхнуўшыся, звярнуўся да Настассі Георгіеўны:

— Мама, ты ж, калі ішла з кірмаша, абяцала накарміць яечняй. А сама аладкі бульбяныя рыхтуеш.

Маці засмяялася:

— Бач, чаго захацеў! Ну добра, будуць вам сёння і яечня, і аладкі!

І яна пацягнулася па наступную бульбіну.

## Камандзір роты старшы лейтэнант Мачалаў

Калі батальён маёра Грыдзіна выйшаў з акружэння, байцоў у ім было не больш, чым у роце. Мачалаў думаў, што самы цяжкі час у іх ужо ззаду. Аднак лёс рыхтаваў для яго новыя выпрабаванні.

Тут, на фронце, батальён вёў цяжкія знясільваючыя баі. Тоненькая змейка акопаў з рэдкім ланцужком чырвонаармейцаў паўстала на шляху ўзброенага танкамі, бронетранспарцёрамі і самалётамі пераўзыходзячага па сіле ворага. Былі моманты, калі старшы лейтэнант у думках развітваўся з жыццём, лічачы, што з такога пекла ўжо не выбрацца. Прыйшлося перажыць звычайны чалавечы страх, ганьбу адступлення і нават уцёкі, страты дарагіх сэрцу людзей.

Але вось наступіла і наша чарга. Паспяховае наступленне пад Масквой паказала ўсяму свету, што фашысцкі план маланкавай вайны праваліўся. Немцы тады страцілі больш як паўмільёна салдат, пятнаццаць тысяч машын, тысячу трыста танкаў, дзве з паловай тысячы гармат і шмат іншай тэхнікі. Гітлераўцы былі вымушаны ўцякаць на сто пяцьдзясят—трыста кіламетраў ад Масквы. Гэта была перамога не толькі нашай зброі, гэта было сведчанне высокага маральнага духу чырвонаармейцаў і камандзіраў Чырвонай Арміі.

Мачалаў ганарыўся, што і яго рота знаходзілася на перадавой.

Пасля таго памятнага наступлення прыйшоў загад перайсці да абароны. Мачалаў памятаў, як абураліся тады байцы і камандзіры, усё рваліся ў бой. Але было загадана капаць акопы, мініраваць подступы да пярэдняга краю, ставіць драцяныя загароды, будаваць бліндажы.

Неўзабаве батальён маёра Грыдзіна быў зняты з перадавой і накіраваны ў тыл для адпачынку і папаўнення.

Колькі каштавала сіл Мачалаву, каб выпрасіць на роту хоць бы пяць аўтаматаў. Неяк у дом, у якім знаходзіўся Мачалаў, зазірнуў камандзір палка. Мачалаў, не саромеючыся, што разам з падпалкоўнікам знаходзіўся і Грыдзін, звярнуўся да яго:

— Таварыш падпалкоўнік, дапамажыце мне! — І, заўважыўшы, як у камандзіра палка здзіўлена, выгінаючыся дугой, папаўзлі ўгару бровы, растлумачыў: — Мяркуйце самі, далі мне ў роту папаўненне, а з сарака двух чалавек — трыццаць дзевяць навічкоў. А чаго я прашу? Мізэр, усяго пяць аўтаматаў. А мне — кукіш, не даюць.

— Дык дзе ж я табе вазьму гэтыя аўтаматы? — умяшаўся Грыдзін.

— Калі захочаце, таварыш маёр, то знойдзеце! Гранат амаль няма. Прасіў, дайце хоць адно процітанкавае ружжо — таксама няма. Як жа я буду ваяваць?

Падпалкоўнік сумна ўсміхнуўся. Ён разумеў хваляванне гэтага высокага, з гарачымі ад узрушанасці вачамі старшага лейтэнанта, дасведчанага і адважнага камандзіра. Але як растлумачыць яму, што цяпер яшчэ няма ў арміі ў дастатковай колькасці боепрыпасаў. Артылерыя, напрыклад, атрымала загад расходаваць штодня па адным-два снарады на гармату. Не ставала мін і процітанкавых гармат. Але пра гэта нават свайму падначаленаму, праверанаму ў баях камандзіру, не мог сказаць падпалкоўнік. Толькі две гадзіны назад ён з болем у сэрцы загадаў прыдадзеную яго палку батарэю рэактыўных мінамётаў адвесці ў тыл, бо не было снарадаў.

Падпалкоўнік паглядзеў на камандзіра батальёна:

— Лявон Кандрацьевіч, выдзелі старшаму лейтэнанту пяць ПКШ. — Заўважыўшы, што камбат хоча запярэчыць, строга сказаў: — Без размоў! — І ўжо цяплейшым голасам дадаў: — Я табе кампенсую.

Мачалаў так узрадаваўся, што спачатку хацеў чамусьці крыкнуць: «Служу Савецкаму Саюзу!» — але своечасова спахапіўся і радасна сказаў:

— Дзякуй, таварыш падпалкоўнік!

Камандзір палка накіраваўся да дзвярэй, за ім Грыдзін.

Ужо ля самага выхаду маёр Грыдзін павярнуўся і моўчкі паказаў Мачалаву кулак, але старшы лейтэнант нявінна ўсміхнуўся. Галоўнае было зроблена: аўтаматы, якія толькі пачалі паступаць на ўзбраенне, ён здабыў. Пётр адшукаў старшыну і загадаў яму неадкладна атрымаць аўтаматы.

Зрабіў гэта Мачалаў своечасова, бо камандзір палка на наступны дзень адбыў у дывізію на павышэнне, а маёр Грыдзін быў прызначаны на яго месца.

Камплектаванне заканчвалася, і па ўсім было відаць, што неўзабаве зноў на пярэднюю лінію фронту. Камандзіры рыхтавалі навічкоў да хуткіх баёў. Мачалаў папрасіў вопытных байцоў псіхалагічна падрыхтаваць нававбранцаў да тых умоў, у якіх яны апынуцца.

У клопатах і хвалюючым чаканні прайшло яшчэ два дні. І вось паступіў загад высунуцца на баявыя пазіцыі. Зборы былі нядоўгія, а шлях да лініі фронту кароткі. Увечары нядаўна прызначаны камандзір батальёна выклікаў да сябе камандзіраў рот, пазнаёміў са становішчам, якое склалася на іх участку фронту, і зірнуў на Мачалава:

— Вам даручаецца змяніць вось на гэтым участку, — ён алоўкам паказаў месца, — роту батальёна, якая адводзіцца ў тыл для адпачынку і папаўнення. На месцы з дапамогай камандзіра гэтай роты пазнаёміцеся з абстаноўкай і мясцовасцю. Заўтра ў адзінаццаць нуль-нуль чакаю вашага дакладу. Пытанні ёсць?

— Не, таварыш капітан! — адказаў Мачалаў, а сам уважліва зірнуў на камбата.

Тарасаў здаваўся поўнай супрацьлегласцю Грыдзіну. Высокі, рослы, ён неяк падазрона і насцярожана глядзеў на суразмоўцу з-пад паўапушчаных доўгіх веек, нібы чакаў, што яму тут жа стануць пярэчыць. Нягледзячы на стамляльны пераход да лініі фронту, ён быў чыста выгалены і апрануты ў акуратна падагнаную, старанна адпрасаваную форму.

«Нічога, перадавая навучыць цябе больш увагі надаваць не свайму абмундзіраванню, а людзям, з якімі табе давядзецца ваяваць», — падумаў Мачалаў,

накіроўваючыся да выхаду. На вуліцы ён паглядзеў на неба, яно было зацягнута аблокамі. Крочачы да сваёй роты, Мачалаў паспеў падумаць, што зіма зацята не хоча здаваць свае пазіцыі. Днём на дарогах па ледзяных жолабах цяклі вясновыя раўчукі, ярка і цёпла свяціла сонца, а цяпер усё падмерзла, дзьмуў халодны вецер.

Камандзіры ўзводаў сабраліся і чакалі прыходу Мачалава. Калі ўваходзіў ён, яны над чымсьці гучна смяяліся. Пётр Пятровіч паведаміў пра загад і разгарнуў на стале карту:

— Становішча вывучыце на месцы. У гутарцы з камандзірамі ўзводаў, якіх будзеце змяняць, абавязкова даведайцеся пра мінныя палі, танканебяспечныя накірункі, пра характар сіл праціўніка, яго паводзінах і агнявых сродках. Аб усім гэтым далажыце мне заўтра ў дзевяць трыццаць. Людзей трэба вывесці ў першыя траншэі сёння ўначы. Абавязкова растлумачце, асабліва новенькім, як трэба паводзіць сябе на пярэдняй лініі. Напэўна, кожная купіна і кожны грудок немцамі прыстраляны. Высунуць днём галаву дзеля цікаўнасці і — гатовыя! Першым часам у дазоры трымаеце вопытных чырвонаармейцаў, ім у дапамогу можна выдзеліць і навічкоў, хай вучацца. Праверце, як акопы прыстасаваны да адбіцця нападаў праціўніка: ці ёсць норы, ці ўмацаваны брустверы, ці не зацякае дно.

Пасля інструктажу старшы лейтэнант спытаў:

— Ну, а зараз скажыце, чаго ржалі, як жарабцы, перад маім прыходам, нават немцы і тыя, напэўна, вырашылі, што да нас артысты прыехалі?

Камандзіры ўзводаў заўсміхаліся і моўчкі паглядалі адзін на аднаго. Нарэшце малодшы лейтэнант Кураўлёў сказаў, ківаючы на лейтэнанта з перавязаным пальцам на левай руцэ:

— Ды вось Хмялько ўспомніў эпізод са сваёй біяграфіі і нас заадно пасмяшыў.

— Ды кінь ты трапацца! — махнуў здаровай рукой Хмялько і патлумачыў Мачалаву: — Гэта я ім расказаў самы кароткі анекдот.

— Калі ён сапраўды кароткі, то паўтары, — папрасіў старшы лейтэнант.

— Гэта можна. Слухайце: прыйшоў да кума ў госці, а ён, падлюка, дома.

Мачалаў засмяяўся разам з усімі. Пётр Пятровіч, падыгрываючы вясёламу настрою камандзіраў, сказаў, звяртаючыся да Хмялько:

— Глядзі, Іван, прыйдзеш мяняць узвод, а ён не ў прыклад твайму куму ўжо з пазіцый у тыл адышоў, так што спяшайся.

Усе, гучна перагаворваючыся паміж сабой, пачалі выходзіць з бліндажа.

Чырвонаармейцам роты ў гэту ноч спаць не атрымалася. Уладкоўваліся на новым месцы, наводзілі парадак у бліндажах. Па загадзе Мачалава нацягалі жэрдак і паскладалі іх на дно акопаў, каб выратавацца ад вады.

Раніца заспела Мачалава ў акопах. Роўна ў дзевяць трыццаць ён выслухаў даклады камандзіраў узводаў і накіраваўся да камбата. Было роўна адзінаццаць гадзін, калі ён адсунуў рукой плашч-палатку, якая вісела ля ўвахода ў бліндаж камбата:

— Дазвольце, таварыш капітан?

— А, Пётр Пятровіч! — зусім іншым голасам, чым размаўляў учора, прагаварыў Тарасаў і, зрабіўшы некалькі крокаў насустрач, працягнуў руку: — Дабрыдзень! Ну, як уладкаваліся?

— Лічу, што нармальна, — Мачалаў падрабязна далажыў аб участку абароны, які займае рота. Камбат быў вясёлы, уважлівы і добразычлівы. Старшы лейтэнант вырашыў скарыстацца тым, што ў яго добры настрой, і спытаў:

— Таварыш капітан, уся мясцовасць перад мной танканебяспечная, міны ёсць, хоць «пасеў» рэдкі, вось калі б мне хоць адно процітанкавае ружжо!

— Добра, дам, — нечакана лёгка пагадзіўся камбат. Затым распытаў Мачалава, адкуль ён родам, ці даўно ў войску. Даведаўшыся, што сям'я засталася ў акупацыі, спытаў:

— Не звярталіся да камандавання, каб яно праз партызан паспрабавала высветліць што-небудзь пра іх лёс?

— А хіба можна гэта зрабіць?

— Я даведаюся і скажу.

Пётр Пятровіч вяртаўся ў роту ў добрым настроі. Сёння камбат яму адназначна спадабаўся.

Немцы з кулямётаў і стралковай зброі абстрэльвалі пазіцыі роты.

«Добра, што мінамёты рэдка б'юць, — падумаў ён, — навічкоў паступова прывучаць да абстаноўкі. Немцы, напэўна, чулі ўначы валтузню ў нашых акопах і зараз на ўсякі выпадак прашчупваюць нас».

Дзе паўзком, дзе кароткімі перабежкамі ён абышоў увесь участак абароны, папярэдзіў камандзіраў узводаў, каб не адказвалі на стральбу немцаў і тыя не разгадалі сістэму абароны.

Брудны, мокры і стомлены, да абеду дабраўся да свайго бліндажа. Якраз падаспелі харчавікі і старшына — пажылы рыжавусы Леркаў — адразу ж пачаў завіхацца ля скрыні з-пад снарадаў, якая служыла сталом.

Толькі ўзяў Мачалаў у руку лыжку, як у бліндаж уварваўся пасыльны ад камандзіра другога ўзвода:

— Таварыш старшы лейтэнант! Танкі!

Мачалаў загадаў старшыне далажыць пра напад немцаў камбату, а сам падскочыў да сцяны, дзе віселі шынель і новенькі аўтамат, які ён яшчэ не паспеў прыстраляць, і ўслед за чырвонаармейцам выскачыў з бліндажа. Пазіцыі другога ўзвода пачыналіся злева, у ста метрах. Мачалаў са шкадаваннем падумаў, што ён яшчэ не паспеў высветліць, дзе знаходзіцца пазіцыя артылерыстаў. І без бінокля ён добра бачыў, як да нашых траншэй набліжаліся тры танкі і тры бронетранспарцёры. У гэты момант у паветры з'явілася некалькі самалётаў. Яны ішлі прама на пазіцыі роты. Мачалаў з усіх сіл кінуўся да акопаў, у галаве білася адна толькі думка: «Толькі б паспець, толькі б паспець да пачатку бамбардзіравання да акопаў дабегчы!»

І раптам наперадзе ўбачыў адразу некалькі чорных снапоў узрываў. «Што, ужо бамбяць? — падумаў ён здзіўлена, яму здавалася, што самалёты яшчэ не даляцелі. Вось і акопы. Ён саскочыў на дно. І адразу ж падняў галаву, спрабуючы палічыць, колькі самалётаў у небе.

І зноў здзівіўся, убачыўшы, што чатыры бамбардзіроўшчыкі яшчэ толькі становяцца ў круг. І тады старшы лейтэнант зразумеў, хто дзяўбе мерзлую зямлю: «Як жа гэта я адразу не здагадаўся! Артылерыя б'е». І ён пачаў аглядацца па баках. Чырвонаармейцы, часта ўзнімаючы галовы, валтузіліся на сваіх месцах, рыхтуючыся да бою. З неба неслася пранізлівае выццё. Старшы лейтэнант падняў галаву і ўбачыў, здавалася, пікіруючы прама на яго бамбардзіроўшчык. Яму ўжо шмат разоў даводзілася бываць пад бамбёжкай, бачыць, як ляцяць з выццём да зямлі варожыя бамбардзіроўшчыкі, але кожны раз ад гэтага відовішча скоўваліся мышцы, расслаблялася воля. Гледзячы на самалёт, які прыбліжаўся да зямлі, чырвонаармейцы апускаліся ўсё ніжэй і ніжэй у акопы. Знізу хтосьці тузануў Мачалава за шынель. Ён здзівіўся, убачыўшы камандзіра ўзвода Хмялько, які, седзячы на кукішках, шчыльна прыціснуўся да мерзлай сцяны акопа:

— Хавайся, старшы лейтэнант! Глядзі, ужо бомбы да зямлі пайшлі!

Мачалаў апусціўся на калені, зноў падняў галаву ўгару, і тут зямля нібы стала бокам, ускалыхнулася, гучна застагнала, і на імгненне адчуў сябе ў

стане бязважкасці. Гэта адна з бомбаў звалілася недалёка ад іх. Выбуховая хваля падхапіла Мачалава і шпурнула ўздоўж траншэі. Падаючы, ён моцна стукнуўся грудзьмі аб штосьці цвёрдае. Ледзь прыпадняўся і пачаў праціраць засыпаныя зямлёй вочы. Калі адкрыў іх, то ўбачыў свой аўтамат, які валяўся на дне акопа. Дзесьці далей у акопе пачуўся крык. «Паранены», — здагадаўся Мачалаў, але ўбачыць нічога не змог. Задушлівы, цёмны дым ад узрываў, уперамешку з зямлёй і гарай, зацягнуў траншэю. «А дзе ж Хмялько?» — успомніў пра камандзіра ўзвода старшы лейтэнант і пачаў круціць галавой, спрабуючы зарыентавацца і адшукаць месца, дзе павінен быць камандзір узвода. Нарэшце ён зразумеў, з якога боку прынесла яго выбуховая хваля, падхапіў рукой аўтамат і хістаючыся пайшоў. Ён адразу ж убачыў Хмялько. Той працягваў сядзець у нейкай ненатуральнай позе. У гэта імгненне наперадзе вухнуў выбух. Мачалаў упаў і тут жа адчуў, што на яго звалілася штосьці цяжкае. «Прысыпала», — здагадаўся ён, баючыся адкрыць вочы, каб зноў не зацерушыць іх зямлёй. Паварушыўшыся, вызваліўся ад цяжару і працёр твар. Адкрыўшы вочы, убачыў побач з сабой Хмялько. Лейтэнант ляжаў нерухома, уткнуўшыся тварам у дробныя камякі мерзлай зямлі, перамяшанай са снегам.

— Што, паранены? — спытаў Мачалаў, але голасу свайго не пачуў, усё ўтапілася ў чарговым грукаце выбуху. Ён перавярнуў Хмялько і з жахам глядзеў на яго. Замест твару — суцэльная крывавая, перамяшаная з зямлёй калатуша. «Забіты! Дык гэта ж яго мёртвага шпурнула на мяне выбуховай хваляй».

Старшы лейтэнант паклаў ля сценкі камандзіра ўзвода і прыпадняўся на ногі. Яму хацелася крыкнуць, паклікаць каго-небудзь, але вакол працягвала вухкаць, зямля цяжка ўздрыгвала ад выбухаў.

Ён вызірнуў з акопа і ўбачыў, што танкі, пераадолеўшы траншэі сваёй пяхоты, павольна рухаліся наперад. Мачалаў пабег па траншэі, спатыкаючыся аб забітых і параненых. Ён з жахам думаў: «Няўжо ўсіх пазабівала?» Але вось з-за павароту, яму насустрач, выскачылі два чырвонаармейцы. Яны цягнулі кулямёт. І ў гэты момант наступіла цішыня.

«Цяпер пойдуць у атаку!» — падумаў Мачалаў і, жэстам спыніўшы чырвонаармейцаў, вызірнуў з траншэі. Услед за танкамі беглі цёмныя фігуркі. Камандзір перавёў погляд на чырвонаармейцаў. Пазнаў сяржанта Рубава, другі, верагодна, быў навічок:

— Куды вы?

— На правы фланг, адтуль будзе зручна пяхоту адсякаць.

Мачалаў яшчэ раз зірнуў у бок немцаў і згодна кіўнуў галавой:

— Правільна, дзейнічайце! — А сам пабег далей. Адразу ж за невялікім паваротам убачыў, як у траншэі рыхтуюцца да бою чырвонаармейцы. Гучна спытаў:

— Дзе сяржант Ерамееў?

Па ланцужку пранеслася: «Ерамеева, Ерамеева да камандзіра роты!»

Сяржант з’явіўся хутка. Цыбаты, у куртатым шынялі, ён бег па траншэі нават не прыгінаючыся.

— Ерамееў, Хмялько забіты! Прымай камандаванне ўзводам і накіруй на правы фланг чалавекі чатыры, там усіх забіла. Пастарайся адсекчы пяхоту ад танкаў, падрыхтуй гранаты і бутэлькі. Я — у першы ўзвод.

Ерамееў моўчкі слухаў яго, а сам вачамі адшukваў патрэбных яму людзей, кідаў уважлівыя погляды на атакуючых.

Мачалаў пабег да пазіцый першага ўзвода. Яму здавалася, што гэты ўзвод пацярпеў менш, чым другі, і ён спадзяваўся хоць аднаго аўтаматчыка перакінуць у другі ўзвод. Але варта было яму наблізіцца да пазіцыі ўзвода, як зразу-

меў, што тут нямецкая артылерыя і самалёты нарабілі нямала бяды. Траншэя ў многіх месцах была разбурана прамымі пападаннямі бомбаў і снарадаў. Аднаго позірку было дастаткова, каб вызначыць, што забіта не меней як дзясятак чалавек. Камандзір узвода Кураўлёў знаходзіўся недалёка і, убачыўшы Мачалава, падбег да яго:

— Прама навідавоку фрыцы падвялі да траншэй танкі і бронетранспарцёры, а затым ударылі з гармат і самалётаў.

— Шмат загінула?

— Сем.

— Параненых?

— Дзевяць, двое — цяжка.

Мачалаў уважліва паглядзеў на нейтральную паласу. Танкаў стала больш, ён налічыў восем. «Так, а колькі бронетранспарцёраў? Ужо пяць. Пакуль нас бамбілі ды гарматамі дзяўбалі, паспелі яшчэ танкі і бронетранспарцёры падцягнуць». Кураўлёў пракрычаў:

— Сувязны твой з’явіўся!

Мачалаў убачыў, як па траншэі бег Чарнышэнка — яго сувязны. Камроты яшчэ раз зірнуў на немцаў. Атрымлівалася, што трэці ўзвод пакуль не падвяргаўся нападу, і старшы лейтэнант загадаў сувязному:

— Чарнышэнка, хутка — да камандзіра трэцяга ўзвода! Хай выдзеліць двух сваіх аўтаматчыкаў і адзін ручны кулямёт у другі ўзвод, а свой агонь засяродзіць на пяхоце. Трэба адсекчы яе ад танкаў.

Сувязны пабег, а Мачалаў пачаў зноў сачыць за ворагам. На траншэі ўжо насоўвалася першая лінія танкаў: два накіроўваліся, здавалася, прама на яго, а адзін правей — на другі ўзвод.

Кураўлёў крыкнуў:

— Падрыхтаваць гранаты і бутэлькі!

Ён пацягнуў за руку Мачалава:

— Пойдзем, там у мяне ў нішы «гасцінцы» для іх прызапашаны.

Яны прабеглі крокаў дзесяць і спыніліся каля невялікай нішы. У ёй ляжалі дзве процітанкавыя гранаты і штук пяць бутэлек з запальнай сумессю. Схапілі па бутэльцы і тут жа прыселі. Над імі, ляскаючы і скрыгочучы гусеніцамі, абліваючы брудам, прайшоў першы танк.

«Галоўнае не спяшацца, — супакойваў сябе Мачалаў, сціскаючы бутэльку ў руцэ, — і не паварочваць бутэльку ўніз рыльцам. — І скамандаваў сам сабе: — Кідаць у зад!» Ён устаў на ногі, кінуў бутэльку на маторную частку і адразу ж прыгнуўся, бо па беражку траншэі стукнула аўтаматная чарга. Толькі цяпер звярнуў увагу на малодшага лейтэнанта, які ліхаманкава соваў яму другую бутэльку і, штосьці пракрычаўшы, пабег да цэнтра пазіцый другога ўзвода.

Мачалаў убачыў, што другая хваля атакуючых, якая складаецца з танкаў і бронетранспарцёраў, ужо блізка. За імі, хаваючыся за браняваныя карпусы, беглі пехацінцы. «Ага, значыць, дастаём да вас, калі хаваецеся за браню!» — падумаў камандзір роты і пракрычаў чырвонаармейцу, які стаяў у двух метрах ад яго:

— Адсякаць пяхоту!

Нават скрозь грукат Мачалаў пачуў адрыўкі каманды, што перадавалася па ланцужку. Паклаўшы на бруствер аўтамат, старшы лейтэнант пачаў біць кароткімі чэргамі па гітлераўцах, што рухаліся за танкам крыху лявей яго. Ён разумеў, што чырвонаармейцам, якія проста ішоў на танк, было цяжка паразіць пяхоту, а з флангу гэта зрабіць зручней. Малчанаў убачыў, як пасля яго

чаргі звалілася некалькі фашыстаў. Але іх тут жа захіліў ад яго бок бронетранспарцёра, і Пётр перавёў агонь на групу нямецкіх салдат, якія беглі за ім. І зноў некалькі немцаў зваліліся, але астатнія працягвалі бегчы. Яшчэ некалькі танкаў перапаўзлі праз траншэю. Ім услед паляцелі бутэлькі. Грукнуў моцны выбух, і бронетранспарцёр схаваўся ў воблаку чорнага дыму.

«На міну напароўся, — здагадаўся Мачалаў і зірнуў у бок другога ўзвода. Там таксама некалькі танкаў прайшлі праз траншэі, — два з іх гарэлі. — Бутэлькі спрацавалі». Другому ўзводу ўдалося адсекчы пяхоту ад браніраваных пачвар, і яна залягла. Але тут, на ўчастку абароны першага ўзвода, становішча было пагрозлівым. Удар большасці танкаў, бронетранспарцёраў і пяхоты прыйшоўся па яго пазіцыях. «Галоўнае, каб людзі не завагаліся, — падумаў Мачалаў, — калі пабягуць з траншэі, канец!»

Ён перастаў страляць і пабег па траншэі, падбадзёрваючы чырвонаармейцаў, а сам злаваў: «Дзе ж Кураўлёў? Чаму маўчаць яго кулямёты?» Нечакана метрах у дваццаці ён убачыў немца, той трымаў у руцэ гранату з доўгай ручкай і відавочна збіраўся шпурнуць яе ў траншэю.

— А-а, гад! — крыкнуў Мачалаў і паласнуў па фашысце з аўтамата. Той не паспеў кінуць гранату і павольна апусціўся на зямлю.

Старшы лейтэнант адразу ж перавёў ствол аўтамата на другога фашыста, які трапіў у поле яго зроку, але той паспеў ужо шпурнуць гранату. Яна ляцела прама ў Мачалава. Ён убачыў яе блізка-блізка, паспрабаваў упасці, але, падаючы, зразумеў, што спазніўся. Моцны, гучны выбух — гэта апошняе, што ён чуў, і страціў прытомнасць.

Не бачыў Мачалаў, як з левага фланга дружна ўдарылі па немцах абодва кулямёты першага ўзвода. Гэта Кураўлёў, ацаніўшы сітуацыю, перакінуў кулямётчыкаў на левы фланг, і цяпер кінжальным агнём яны касілі пяхоту. Не бачыў камандзір роты, што ў немцаў гарэла пяць танкаў, што два бронетранспарцёры мёртва застылі, падарваўшыся на мінах. А яшчэ праз некалькі хвілін гітлераўцы ў паніцы кінуліся ўцякаць. Мачалаў ляжаў на боку, а з галавы тоненькім струменьчыкам цякла кроў.

## Пётр Пятровіч Мачалаў

Пётр Мачалаў прачнуўся ад таго, што бразнула шыба і ў палаце павеяла чыстым, свежым паветрам. Хтосьці з параненых, відавочна, той, хто расчыніў акно, ціха, з захапленнем сказаў:

— Прыгажосць якая! А паветра! Сам ясі, але і сябрам трэба.

У палаце заварочаліся і пачуліся галасы:

— Значыць, цябе ўжо выпісваць пара…

— Калі пра прыроду загаварыў, факт, што здаровы…

— На нагу ён прыпадае для таго, каб лекары думалі, што да палка не дойдзе…

Мачлаў не спяшаўся расплюшчваць вочы і стараўся па галасах вызначыць, хто гаворыць. Той, які пакашлівае і кажа адрывіста — капітан Старасцін, артылерыст. Вясёлы, задзірлівы голас з націскам на «о» належыць ужо немаладому лейтэнанту-сапёру Дубянцову. Успомніў расказ Дубянцова пра тое, як яго ў канцы сакавіка параніла. Дубянцоў са сваімі салдатамі наводзіў мост праз невялікую рачулку, а тут у небе нямецкія самалёты нечакана з’явіліся і давай бамбіць пераправу. Дубянцоў пачуў ззаду выбух, і апошнім яму запомнілася тое, што ён пачаў тапіцца. Тут, у палявым шпіталі, ён пазней

жартаваў: «Плаваць па Волзе з пялёнак умею, а зараз, пасля гэтага, здаецца, развучыўся». Яго, параненага і кантужанага, выратавалі двое байцоў-сапёраў, якія ў суцэльным грукаце ўзрываў убачылі, як пайшоў на дно іх камандзір, і кінуліся на дапамогу.

Пятру ўспомніўся сон. Тут, у далечыні ад перадавой, ён амаль кожную ноч бачыў у сне сваю сям'ю. «Што з імі? Ці жывыя?» Перад вачамі стаялі такія родныя, мілыя твары: усмешлівая Таня, па-дзелавому сур'ёзны, але гатовы пусціцца на любое свавольства Ванюшка і далікатная, рахманая, уважлівая Юля. Яна вельмі любіла сядзець у яго на каленах, прыціснуць да грудзей галоўку ці шаптаць штосьці тату на вуха. Юлі вельмі падабалася, калі бацька таксама адказваў шэптам. У такія хвіліны Таня, як правіла, смеючыся, казала Ванюшку: «Глядзі, сынулька, якія змоўшчыкі ў нас з'явіліся. Бачыш, шэпчуцца, няйначай як змову супраць нас з табой рыхтуюць». Шчаслівы мірны час. Якім дарагім і далёкім здаецца ён цяпер.

Мачалаў не звярнуў увагі, што ў палаце нечакана спыніўся шум, змоўклі вясёлыя галасы. Ён здрыгануўся і адкрыў вочы, калі пачуў спакойны, мяккі голас урача Васілеўскай:

— Што, таварышы, расшумеліся? Паводзьце сябе спакайней, побач з вамі палата з цяжкімі.

Яна перавяла пагляд на Мачалава і, ледзь усміхнуўшыся, падышла да яго ложка.

— Ну як пачуваецеся?

— Дзякуй, Вольга Ільінічна, хутка буду прасіць выпісаць.

— Усе вы спяшаецеся, але выпішам толькі тады, калі будзеце здаровымі.

Ад яе ўважлівага пагляду Мачалаву стала ніякавата. Ён са злосцю вылаяў сябе: «Лянота пагаліцца. На чалавека непрыемна глядзець з такой рожай». А ўрачыха павярнулася ўжо да іншага параненага, які ляжаў на суседнім ложку. Ён прыбыў у шпіталь раней Мачалава, але раны яго доўга не гаіліся. Васілеўская спытала:

— А як вы сябе адчуваеце, таварыш Мухін?

Мачалаву стала некалькі крыўдна, што так хутка адышла ад яго Вольга Ільінічна. За паўтара месяца, якія ён правёў тут, паміж імі ўстанавіліся нейкія асаблівыя адносіны. Здарылася гэта пасля таго, як яму ўпершыню дазволілі выйсці ў двор. Жмурачыся ад яркага сонца, пахістваючыся ад слабасці і чыстага вясновага паветра, Мачалаў прайшоў у самы далёкі канец двара. І раптам тут, за хлявом, дзе была сталярная майстэрня, убачыў Васілеўскую. Яна сядзела на дошках і плакала, выціраючы марлевай сурвэткай вочы.

Мачалаў павярнуўся і паціху пайшоў назад за вугал сталяркі. Але калі адышоў трохі, падумаў: «А раптам у яе гора? Загінуў муж? Не, пайду, можа, неяк супакою». Ён павярнуў назад. Доктар не бачыла яго, працягвала плакаць. Мачалаў сеў побач і толькі тады, калі яна спалохана зірнула на яго, сказаў:

— Прабачце, Вольга Ільінічна, я выпадкова зайшоў сюды. Убачыў вашы слёзы і не мог пайсці.

Вольга Ільінічна хутка паднялася:

— Прабачце мяне, Мачалаў, гэта звычайныя бабскія слёзы, — яна нявесела ўсміхнулася. — Успомнілася былое, даваеннае… Госпадзі, нават не верыцца, што ўсяго год прайшоў, а так шмат страчана, разбурана…

Яе вочы зноў сталі вільготныя. Але нітачка даверу была ўжо працягнута, ёй самой, верагодна, захацелася пагаварыць з гэтым невясёлым, заўсёды задуменным чалавекам.

— Сёння дзень нараджэння маёй дачкі, Юлечкі.

— Ну вось бачыце, у вас вочы мокрыя, а дзень такі радасны, дачка на год пасталела. Дарэчы, колькі ёй сёння споўнілася?

— Адзінаццаць…

— Выдатна. У мяне таксама дачка Юля, і ёй таксама адзінаццаць, праўда, толькі ў ліпені споўніцца.

Вольга Ільінічна зноў зірнула на Мачалава. І позірк гэты ўразіў яго: такі пакутлівы боль быў у яе вачах.

— Ёй было б адзінаццаць.

Узрушаны Пётр маўчаў.

— Дзясятага ліпеня мінулага года ў мяне не стала дзяцей — Юлечкі і Сярожачкі… З імі загінула і мая мама. Так здарылася, што мяне тэрмінова з дому ў шпіталь выклікалі. У гэты момант нямецкія самалёты наляцелі, пачалася бамбёжка. Як звычайна падчас налётаў яны хаваліся ў склепе, а я пабегла ў шпіталь. А калі пасля аперацыі прыбегла дахаты, на месцы дома — велізарная варонка… Лепш бы я засталася з імі ў склепе…

Мачалаў не ведаў, што можна сказаць гэтай жанчыне, як суцешыць яе, ды хіба можна суцешыць у такім горы. Яны доўга размаўлялі. Вольга Ільінічна спытала пра яго сям’ю. І Пётр не ўтойваючыся расказаў ёй аб усім, пра сваю пастаянную трывогу.

Тады ж Мачалаў даведаўся, што муж Вольгі Ільінічны, камандзір артылерыйскай батарэі, ваюе пад Ленінградам.

І цяпер, лежачы на шпітальнай койцы, ён так задумаўся, што здрыгануўся, адчуўшы, што нехта дакрануўся да яго рукі. Перад ім стаяла Вольга Ільінічна.

— Вам нядобра? — вочы яе глядзелі ўстрывожана.

— Не-не. Я проста задумаўся, — адказаў Пётр, а на душы стала прыемна ад таго, што за доўгія месяцы хтосьці турбуецца пра яго.

Вольга Ільінічна, кіўнуўшы галавой, накіравалася да выхаду. Ля самых дзвярэй яна ледзь не сутыкнулася з маладым лейтэнантам. Строга спытала:

— А хто вам дазволіў у палату вось так урывацца?

— Доктар, міленькая, — пачаў ён апраўдвацца, але Вольга Ільінічна перабіла яго:

— Не міленькая, а ваендоктар, капітан медыцынскай службы Васілеўская.

— Вельмі прыемна, — недарэчы ляпнуў лейтэнант, і гэта вырашыла справу на яго карысць. У палаце грукнуў рогат, усміхнулася і ўрач. Спытала:

— Адкуль вы і да каго?

— Прама з перадавой, на адну хвіліначку, да капітана Мухіна, мне сказалі, што ён у гэтай палаце ляжыць.

А Мухін ужо сеў на ложку і гучна крыкнуў:

— Купрэйчык! Аляксей! Якім ветрам?

Васілеўская падазрона паглядзела на скруткі ў руках лейтэнанта і крыху пацяплелым голасам сказала:

— Добра, таварыш лейтэнант, пабудзьце некалькі хвілін, але толькі не затрымлівайцеся. Цяпер начальнік шпіталя пачне абход, а ў гэтай палаце старонні́м знаходзіцца нельга.

— Дзякуй, доктар, выбачайце, таварыш капітан, я, далібог, на адну хвіліначку, — і ён хуткім крокам накіраваўся да койкі Мухіна.

А ў Мачалава прапаў голас. Ён таксама хацеў крыкнуць Аляксею, але спазмы так сціснулі горла, што толькі ледзь чутна прамыкаў.

Аляксей падышоў да Мухіна, яны абняліся і наперабой сталі распытваць адзін аднаго. А Мачалаў, справіўшыся нарэшце з хваляваннем, вырашыў

пакуль не аклікаць стрыечнага брата. «Хай нагамоніцца, а затым я яму паднясу сюрпрыз!»

Ён успомніў, як аднойчы, з паўмесяца таму, Мухін расказваў пра камандзіра ўзвода разведкі, які на чыгуначным паўстанку выпадкова сустрэў сваю жонку. Але прозвішча камандзіра ўзвода капітан тады не назваў. «Дык вось пра каго ён расказваў, — хвалюючыся, думаў Мачалаў. — Значыць, Аляксей сустрэў Надзю».

Раптам Пётр успомніў, што Вольга Ільінічна строга папярэджвала Купрэйчыка, каб ён доўга не заседжваўся, і спалохаўся, што Аляксея вось-вось могуць выправадзіць з палаты. Ён прыслухаўся да гутаркі Мухіна і Купрэйчыка і, зразумеўшы, што пра галоўнае яны перамовіліся ўжо, ямчэй уладкаваўся на ложку і спакойна сказаў:

— Аляксей Васільевіч, можа, і са мной трохі пагаворыш?

Аляксей на паўслове абарваў гаворку і азірнуўся. На яго весела глядзеў зарослы барадой мужчына з павязкай на галаве. І раптам лейтэнант ускочыў:

— Пётр? Пеця-я-я!

Ён, хапаючыся за спінку ложка, аббег вакол яго і кінуўся да Мачалава:

— Браток, брат!

Яны абняліся і пацалаваліся. Ніхто не бачыў, як у гэты момант у палату зазірнула капітан Васілеўская. Убачыўшы гэту сустрэчу, яна не сказала ні словы і пацiху зачыніла за сабой дзверы.

А Пётр і Аляксей, не хаваючы слёз радасці, трымаліся за рукі і моўчкі глядзелі адзін на аднаго. Гэта сустрэча нікога не пакінула абыякавым. Нават цяжкапаранены пажылы капітан, павярнуўшы галаву, з усмешкай глядзеў на іх.

Мачалаву хацелася шмат пра што пагаварыць з Аляксеем, і ён прапанаваў:

— Алёша, я цяпер устану, і мы пойдзем у двор, — і ён папрасіў параненых: — Браткі, калі абход будзе, то прыкрыйце мяне.

Мухін, які падчас гэтай сцэны маўчаў, першым адказаў:

— Ідзіце, ідзіце. Мы знойдзем, што сказаць. Толькі адкажыце мне: вы што, браты?

Мачалаў усміхнуўся:

— Стрыечныя. Мяне ж вайна заспела ў доме яго бацькоў у вёсцы пад Гродна ў дзень яго вяселля, якое мы так і не паспелі згуляць.

Мухін засмяяўся:

— Ну, Купрэйчык, я ўжо аднойчы сказаў: удачлівы ты чалавек на нечаканыя сустрэчы. То з жонкай нос у нос сутыкнешся, то вось цяпер — з братам.

Праз некалькі хвілін Пётр і Аляксей былі на вуліцы. Расказвалі адзін аднаму пра свае пакуты пасля таго, як рассталіся, дзівячыся, наколькі аднолькава склаўся ў іх у першыя месяцы вайны лёс. Пётр сказаў:

— Калі Мухін у палаце расказваў пра тое, як ты сустрэўся з Надзяй, то ён не назваў прозвішчы, а то б я ўжо даўно ведаў, што ты жывы і ваюеш са мной дзесьці побач. Ты Надзю больш не бачыў?

— Не, — Аляксей сумна апусціў вочы, — ніяк не магу дараваць сабе, што ў мітусні не запісаў яе адрас. Ты ведаеш, зараз не магу мінуць ніводнага медсанбата ці шпіталя. Усё здаецца, што менавіта там яна і служыць.

— Пісаў куды-небудзь?

— Пісаў, але сам разумееш, што вакол дзеецца, цяжка яе знайсці… Ну, а ты як? Вестак з дому, вядома, ніякіх?

— Ніякіх… Змарнаваўся ўвесь ад няпэўнасці… Сам ведаеш з газет, як фашысты здзекуюцца з нашых людзей. Мне часам так страшна становіцца за іх, што ты нават сабе ўявіць не можаш! Таня ў мяне такая бездапаможная,

і дзеці яшчэ маленькія. Здаецца, паўжыцця аддаў бы толькі за адну-адзіную вестачку ад іх…

Да іх падбегла медсястра. Стрэльнула вясёлымі карымі вачамі на падцягнутага лейтэнанта і строга сказала:

— Хворы Мачалаў, ідзіце неадкладна ў палату, пачаўся абход, вас сёння будзе глядзець прафесар.

Пётр павярнуўся да брата:

— У цябе ёсць лісток паперы і аловак?

— Ведаеш, пасля сустрэчы з Надзяй заўсёды нашу з сабой, — усміхнуўся Аляксей і палез у кішэнь.

Мачалаў папрасіў:

— Запішы мне свой адрас, а для сябе — мой. І давай дамовімся: калі хтосьці што-небудзь даведаецца пра нашы сем'і — неадкладна паведамляе.

Медсястра прыспешвала, і яны пайшлі да невялікага двухпавярховага будынка, у якім размяшчаўся шпіталь.

## Міхаіл Іванавіч Славін

У душы Міхаіл Іванавіч быў гатовы да любых нечаканасцяў, нават да самага горшага. Ён разумеў, што ў немцаў ёсць спецыялісты, здольныя вызначыць, якім шрыфтам друкуюцца падпольныя газеты і лістоўкі, дый гестапа метадычна, аднаго за адным правярала ўсіх працуючых у друкарні.

Славін так задумаўся, што нават не заўважыў, як да яго падышоў адзін з рабочых і сказаў:

— Славін, цябе начальнік цэха да сябе кліча!

Міхаіл Іванавіч моўчкі кіўнуў галавой, выцер анучай рукі і пайшоў на выхад. Трывожна ёкнула ў грудзях: «Чаго яму трэба?» Пхнуў абабітыя скурай дзверы і апынуўся ў невялікім, добра знаёмым кабінецe. Акрамя начальніка цэха, у кабінеце сядзелі трое незнаёмых мужчын. Адзін з іх спытаў:

— Міхаіл Іванавіч Славін?

«Немец», — здагадаўся Міхаіл Іванавіч і адчуў, як імгненна пакрыўся лоб халодным потам.

— Так, я.

— Вам трэба праехаць з намі для гутаркі.

— А вы хто?

— Прадстаўнікі нямецкіх улад. — Ён моўчкі падняўся са свайго месца. Услед за ім ускочылі двое іншых.

Славін зірнуў запытальным поглядам на начальніка цэха. Але той моўчкі глядзеў міма. Міхаіл Іванавіч разгублена спытаў:

— А як жа работа, у мяне ж тэрміновае заданне?

— Не хвалюйцеся, усе мы працуем на вялікі рэйх, — ухмыляючыся, адказаў мужчына і хутчэй загадаў, чым прапанаваў: — Пайшлі!

Ён першым, не развітваючыся з начальнікам цэха, выйшаў з кабінета, за ім — Славін. Два іншых пайшлі крыху ззаду па баках.

«Гестапа, няма сумненняў, гестапа, — усхвалявана думаў Міхаіл Іванавіч, — хоць бы сваім паведаміць. Але як?»

На вуліцы ля ўвахода стаяла легкавушка. Старэйшы сеў побач з вадзіцелем, а Міхаіл Іванавіч апынуўся на заднім сядзенні паміж двума іншымі. Машына адразу ж кранулася і паехала па былой Савецкай вуліцы, праехала міма Камароўскай развілкі і накіравалася далей, да цэнтра горада.

Міхаіл Іванавіч сумна глядзеў на рэдкіх прахожых на пабітай, залітай сонцам вуліцы, але, улавіўшы на сабе пагляд ахоўніка, які сядзеў справа, праверў вочы.

У думках ён ужо рыхтаваў сябе да допыту. Вырашыў, што, канечне, будзе ўсё адмаўляць, але падчас допыту трэба паспрабаваць высветліць, што вядома немцам.

Яго прывялі ў даволі вялікі кабінет. У ім было толькі адно акно, якое выходзіла ў двор, і пасля яркага сонца здавалася цёмна. За вялікім двухтумбавым сталом, разваліўшыся ў крэсле, сядзеў хударлявы лысаваты мужчына. Ён кіўком галавы адпусціў людзей, якія даставілі Міхаіла Іванавіча, і кіўнуў на венскае крэсла ля стала:

— Праходзьце, Міхаіл Іванавіч, прысаджвайцеся, адпачніце пасля вулічнай спякоты.

Ён старанна вымаўляў кожнае слова, але казаў па-руску даволі чыста.

— Мяне ж прама з цэха забралі, так што спякоты я, можна сказаць, і не адчуў, — адказаў Міхаіл Іванавіч і нават сам здзівіўся, што так спакойна гаворыць. Чакаць новага запрашэння не стаў і сеў. Крэсла зарыпела, здавалася, яно ледзь вытрымлівала вагу чалавека. Немец прадставіўся:

— Мяне завуць Курт Штарц. Я буду весці следства па вашай справе.

— Маёй справе? — здзіўлена спытаў Славін. — Якой справе?

— Пытаеце, якая справа? Справа пра друкаванне лістовак і газет, якія набіралі вы.

— Якіх газет? Якіх лістовак? — здзівіўся Славін.

— Не трэба, Міхаіл Іванавіч, не трэба так паводзіць сябе ў гестапа. Вы спачатку выслухайце мяне, а потым можаце казаць усё, што заўгодна. Мы, немцы, народ дакладны. Перш чым даставіць вас сюды, мы добра пазнаёміліся. Ведаем, што да вайны вы былі перадавіком, лепшым працаўніком.

— Усе імкнуліся добра зарабіць… — няпэўна прагаварыў Славін, але немец перабіў яго:

— Не трэба, Міхаіл Іванавіч, не трэба. Усе, ды і не ўсе імкнуліся быць у перадавіках. Але мы, немцы цэнім працавітасць і паважаем тых, хто ўмела і добра працуе. Таму вы не сціпла паводзьце і не саромейцеся сваёй добрай працы. Мы жадаем, каб вы і цяпер добра працавалі і супрацоўнічалі з намі гэтак жа старанна і добрасумленна, як і з Саветамі. Мы ведаем, што бальшавікі ўцягнулі вас у свае сеткі, прымусілі прыняць удзел у выпуску газет і лістовак, якія заклікаюць насельніцтва да бунтаў, нападаў на нямецкіх салдат, падпалаў і іншых бандыцкіх дзеянняў. Мы разумеем, што вы пагадзіліся не па сваёй волі, у вас жа дзеці, жонка. Улічваючы ўсё гэта, мы вырашылі не ўжываць у адносінах да вас рэпрэсій, а пагаварыць з вамі адкрыта. Цяпер я хачу спытаць вас толькі пра адно: ці згодны вы, працягваючы працаваць, як і раней, супрацоўнічаць з намі?

— Пан следчы, я ж і так супрацоўнічаю з вамі. Ніхто мяне не можа папракнуць у адваротным…

— Вы што, не разумееце, пра што я кажу? Ці робіце выгляд, што не разумееце? Я вам яшчэ раз растлумачу. Нам патрэбна ваша дапамога, а менавіта: адрасы явак, прозвішчы падпольшчыкаў, іх падпольныя мянушкі, дзе друкуюцца лістоўкі і газеты. Я гарантую захаваць ваша прызнанне ў тайне. Як бачыце, цяпер я пытанні задаў дакладна і паўтараю: калі вы не пагодзіцеся сказаць мне праўду, то мы прымусім гаварыць яе і вас, і вашу жонку, і Жэню, і Валодзю. У нас для гэтага ёсць усе магчымасці і сродкі.

— Але я ж нічога не ведаю. Мне нічога невядома ні пра падпольшчыкаў, ні пра тых, хто друкуе гэтыя лістоўкі і газеты…

Штарц свідраваў Славіна вачыма, якія звузіліся, здавалася, налітымі халоднай сталлю. На скулах неспакойна захадзілі жаўлакі. Славін думаў: «Што ж ім вядома? Арыштуюць мяне ці адпусцяць?» А потым яму стала ўсё абыякава. Міхаіл Іванавіч зразумеў, што жывым яго адгэтуль не выпусцяць. Штарц перастаў глядзець на яго немігаючым позіркам. Ён прайшоў да дзвярэй і расчыніў іх. У кабінет увайшлі двое гестапаўцаў у форме з пісталетамі, якія віселі ў кабурах на поясе спераду. Штарц падышоў да Славіна і стаў насупраць:

— Я вам даю апошнюю магчымасць адумацца і прыслухацца да таго, што кажу вам.

Міхаілу Іванавічу падалося, што гестапавец цяпер ударыць яго, і ён унутрана сціснуўся, гатовы да гэтага. Але Штарц абышоў вакол стала і сеў у крэсла.

— Вас адвядуць у камеру, і вы падумайце. Даю вам тэрмін да заўтра. Не пагодзіцеся, наракайце на сябе.

Славін устаў і моўчкі пайшоў да дзвярэй. Ён разумеў, што пераконваць Штарца ў сваёй невінаватасці бессэнсоўна. Пад канвоем двух гестапаўцаў ён ішоў па вузкім доўгім і змрочным калідоры, затым па лесвіцы спусціўся ў падвал.

Але не прайшло і трох гадзін, як пачуўся ляск завалы, увайшоў высокі немец. Гестапаўская форма сядзела на ім выдатна, нібы для параду начышчаны да бляску боты. Ён рэзкім голасам загадаў:

— Устаць, калі ў камеру ўваходзіць германскі афіцэр!

Міхаіл Іванавіч павольна падняўся.

— Я хачу вам паказаць сёе-тое з нашай калекцыі прымусу. Выходзьце з камеры.

Міхаіл Іванавіч выйшаў у калідор. Ля дзвярэй стаяў яшчэ адзін немец. Ён быў такога ж росту, як і Міхаіл Іванавіч. Цяжкі квадратны падбародак, вялікі мясісты нос, рудавалосы, з нейкім абыякава пустым паглядам. Ён слізгануў нуднымі вачамі па Славіну і моўчкі пайшоў па гулкім калідоры. Гестапавец крыху падпіхнуў Міхаіла Іванавіча ў плячо:

— Ідзіце за ім!

Міхаіл Іванавіч ішоў следам за рудым і ўвесь час адчуваў позірк гестапаўца, той глядзеў пільна, нібы прапальваў спіну наскрозь. Міхаілу Іванавічу хацелася азірнуца, і яму было вельмі цяжка стрымаць сябе, каб гестапаўцы не заўважылі, што ён хвалюецца.

У канцы калідора яны зайшлі ў вялікі пакой. Тут стаяла некалькі простых лавак, такія Міхаіл Іванавіч бачыў у лазні. Побач з імі на падлозе ляжалі звычайныя вяроўкі. Да свядомасці Славіна дайшло: «Дык гэта ж для катаванняў! Вырашылі прыстрашыць ці адразу пачнуць?»

Славіна падвялі да крэсла, якое стаяла насупраць стала, і загадалі сесці. Крэсла было глыбокім, з высокай цвёрдай спінкай. Да яго падлакотнікаў прывязаны кавалкі бялізнавай вяроўкі.

Гестапавец, які быў за спінай, падышоў да крэсла і ўключыў настольную лямпу.

Адкрыліся бакавыя дзверы, і ў пакой увайшлі двое. Адзін быў у форме гестапаўца, другі — Штарц. Ён сеў за стол і адразу ж загаварыў:

— Я хацеў даць вам час падумаць да заўтра, але акалічнасці змяніліся, і да допыту прыступім неадкладна. Хачу паўтарыць вам сваю прапанову: ці згодны вы супрацоўнічаць з намі?

— Пан следчы, я ж і так супрацоўнічаю з вамі…

— Вы зноў робіце выгляд, што не разумееце, пра што гаворка. Пытаю апошні раз! Дзе друкуюцца лістоўкі і газеты, хто яшчэ апроч вас гэта робіць, іх адрасы, мянушкі, прозвішчы?

— Але я, далібог, нічога не ведаю…

— Ведаеш! — перабіў яго Штарц. — Ведаеш і думаеш пакінуць нас у дурнях. Не выйдзе, мы не з такіх, як ты, выцягвалі праўдзівыя прызнанні. Карацей кажучы, будзеш гаварыць праўду?

— Але, пан следчы…

— Ясна! Ну што ж, мы табе дапаможам.

Штарц зірнуў на гестапаўцаў, і двое з іх падышлі да крэсла і пачалі прывязваць рукі Славіна да падлакотнікаў. Міхаіл Іванавіч паварушыўся ў крэсле і толькі цяпер зразумеў, што яно моцна прымацавана да падлогі. Трэці гестапавец не спяшаючыся прайшоў да сцяны, зняў з металічнага кручка гумовую палку і пачаў павольна набліжацца да Славіна. Міхаіл Іванавіч паспрабаваў глядзець на яго, але не змог адвесці вочы ад палкі.

«Няўжо яны будуць біць мяне?» — У яго, ужо немаладога чалавека, які ніколі не ведаў фізічнай знявагі, выгляд палкі не выклікаў страху. Міхаіл Іванавіч адчуваў, як у душы расце пратэст, запаўняецца сэрца гневам і нянавісцю да фашыстаў. «Не, сволачы, нічога ў вас не атрымаецца!»

— Маўчыш?! — гучна загарлапаніў Штарц. Ён ускочыў на ногі, падбег да свайго напарніка, вырваў з яго рук гумовую палку і, размахнуўшыся, з усёй сілы стукнуў ёй Міхаіла Іванавіча па твары. У вачах Славіна памутнела, а твар заліўся крывёй. Ён хацеў штосьці сказаць, але Штарц, гучна лаючыся і брудна мацюкаючыся, стаў біць яго па галаве, па твары, па ўсім целе.

«Фашысцкая гадзіна, дзе ён навучыўся так лаяцца?» — чамусьці падумаў Міхаіл Іванавіч і страціў прытомнасць…

Ён не адчуваў, як двое гестапаўцаў цягнулі яго па каменнай падлозе, пакідаючы доўгі крывавы след.

Апрытомнеў Славін у камеры. Балела галава, цела, ён не мог паварушыцца, востры, як агонь, боль праймаў яго. Міхаіл Іванавіч доўга ляжаў не рухаючыся, успамінаючы «допыт». «Сволачы, звяры, няўжо яны лічаць, што здзекамі можна дасягнуць усяго?»

Міхаіл Іванавіч прымусіў сябе думаць аб прычыне правалу: «Дзе ж дапушчана памылка? За ўсіх нашых таварышаў я магу быць спакойны, здрадніка сярод іх няма. Сямейнікі таксама нічога не скажуць. — Міхаіл Іванавіч успомніў суседку Латаніну. — Яна, вядома, даносіла немцам. Але што ж яна ведае? Бачыла каго-небудзь з тых, хто прыходзіў да мяне дахаты, — не больш. А, можа, яны схапілі мяне толькі за тое, што я да вайны быў перадавіком?»

Стаўшы падпольшчыкам, умудроны жыццёвым вопытам, Славін не раз з гаркатой успамінаў даваенны час, калі многія не верылі, што Гітлер нападзе на нас, не рыхтаваліся да вайны.

Трэба прадбачыць, што гестапаўцы самую пільную ўвага будуць надаваць актывістам і перадавікам. «Хоць калі б рыхтаваліся мы да магчымага захопу Мінска, — думаў Міхаіл Іванавіч, — то можна было падрыхтаваць людзей да работы ў падполлі. Стварыць вакол неабходную легенду».

І цяпер Славін, лежачы на каменнай падлозе, горка ўсміхнуўся, успомніўшы, што пасля прыходу немцаў яшчэ доўга вісела ў друкарні на Дошцы гонару яго фатаграфія.

Разумеў, што разлічваць на вызваленне з гэтых засценкаў, няварта.

«Ну што ж, — думаў ён, — калі мне наканавана загінуць, то зраблю гэта я так, каб не сорамна было за мяне дзецям і жонцы, ды і перад сваім сумленнем буду чысты. Нічога яны ад мяне не даведаюцца!»

Ён са стогнам перавярнуўся на спіну і, гледзячы ў шэрую столь, прымушаў сябе ўспамінаць усё лепшае, што было ў яго жыцці. Не, не хацеў Міхаіл Іванавіч апошнія гадзіны жыцця марнаваць на іншыя думкі. Ён гатовы быў на самае горшае — смерць! Бо разумеў, што, паміраючы, ратуе жыцці шматлікіх сваіх таварышаў, а гэта значыць, што барацьба з ненавісным ворагам будзе працягвацца, і таварышы адпомсцяць фашыстам за яго.

## Уладзімір Славін

У пятніцу, перад абедам, у кватэру Славіных наляцелі гестапаўцы. Яны ўчынілі сапраўдны пагром: перакапалі ўсе шафы і ложкі, перавярнулі мэблю, разразалі абіўку на крэслах, адарвалі ліштвы ў дзвярах. Настасся Георгіеўна разумела, што вобыск нездарма. Значыць, штосьці здарылася з мужам. Афіцэр, які кіраваўператрусам, праз перакладчыка загадаў ёй збірацца і ехаць з імі. Славіна хацела напісаць дзецям запіску. Але высокі, худы, з выпуклымі рачынымі вачамі афіцэр не дазволіў. А пры выхадзе ткнуў пальцам у скураное паліто, загадваючы сваім падначаленым забраць.

Настассю Георгіеўну пасадзілі ў закрыты грузавік і павезлі. У кузаве, акрамя Славінай, знаходзілася яшчэ два чалавекі. Жанчына пакутліва думала, куды яе вязуць, дзе яе муж, што з дзецьмі. Нарэшце машына спынілася. Адкрыўся задні борт кузава. Настасся Георгіеўна спусцілася на зямлю. Гэта быў вялікі двор ззаду нейкага будынка. Славіна нарадзілася ў Мінску, ведала горад як сваіх пяць пальцаў. Пакажы ёй фасад любога больш-менш прыкметнага дома, і яна беспамылкова сказала б, дзе ён стаіць. Аднак у большасці двароў Настасся Георгіеўна, зразумела, ніколі не была і зараз ніяк не магла вызначыць, куды ўсё ж прывезлі яе немцы.

Салдат увёў арыштаваную ў змрочны, абстаўлены старадаўняй мэбляй кабінет. За масіўным сталом сядзеў следчы ў цывільным. Допыт пачаў здалёку. Казаў па-руску, знарочыста павольна, выразна прамаўляючы кожнае слова. Спачатку задаў некалькі пытанняў, якія нічога не значылі, пацікавіўся сям'ёй, узаемаадносінамі з суседзямі, спытаў, дзе яна сама і муж працавалі да вайны. Затым прыступіў да галоўнага.

Адказваючы на яго пытанне, чаму яны не эвакуіраваліся, Славіна сказала:

— Ды пакуль збіраліся, вашы войскі ўвайшлі ў горад.

Немцу адказ, відаць, спадабаўся. Запісваючы, ён злёгку ўсміхнуўся. Затым спытаў, хто наведваў іх кватэру ў апошні час, ці не прыносіў муж дахаты газеты, лістоўкі. Настасся Георгіеўна ўсё адмаўляла.

Следчы скончыў пісаць, паказаў на паперы, дзе трэба распісацца, і, як бы мімаходзь, заўважыў:

— Сёння вас адпускаем. Але, думаю, яшчэ сустрэнемся. Хачу папярэдзіць: калі і ў наступны раз будзеце рабіць выгляд, што нічога не ведаеце, то чакае вас шмат непрыемнасцяў. Так што раю падумаць. Вось пропуск на выхад.

Настасся Георгіеўна ішла па гулкім калідоры разгубленая, прыгнечаная, прад'явіла вартавому пропуск і апынулася на вуліцы. Разабраўшыся, нарэшце, дзе яна знаходзіцца, ці ледзь не подбегам кінулася дахаты. Сэрца трывожна білася: што з дзецьмі?

Валодзя і Жэня былі ўжо дома. Убачыўшы іх, маці ўпершыню за гэты дзень не змагла стрымацца, заплакала. Дзеці пачалі яе супакойваць, распытвалі, дзе была, што адбылося, дзе бацька. Што магла сказаць ім Настасся Георгіеўна?

Валодзя сядзеў ля акна. Вечарэла. Штосьці трэба рабіць, з кімсьці раіцца. Але з кім? Толькі цяпер ён спахапіўся, што так і не ведае нікога з падпольшчыкаў.

«Што магло здарыцца з бацькам? — разважаў хлопец. — Дапусціў прамашку? А можа, знайшоўся здраднік?» За гэты час Валодзя пасталеў, многае спазнаў, сваімі вачамі ўбачыў «новы парадак», які ўкаранялі жорсткія акупанты.

Заняты невясёлымі думкамі, не заўважыў, што маці завесіла ўсе вокны, запаліла газавую лямпу. Селі за стол. Моўчкі пілі чай. Без бацькі было трывожна і маркотна.

Нечакана штосьці стукнула ў акно спальні.

— Мам, патушы лямпу, — сказаў Уладзімір і кінуўся ў суседні пакой. Падняў святломаскіроўку, адшмаргнуў фіранку, расчыніў акно. Было цёмна, і ў густым хмызняку, што разрося ля сцяны, нічога не было відаць. Раптам пачуўся голас:

— Валодзя! Гэта я — таварыш бацькі. У вас прыстаўная лесвіца ёсць? Я б праз акно залез.

— Паглядзіце са зваротнага боку хлява, каля сцяны стаіць.

Праз нейкую хвіліну ў спальню ўлез мужчына. Начным госцем аказаўся ўжо знаёмы Валодзю адзін бацькаў таварыш: бачыў яго раней.

— Паўдня вас высочваў. Бачыў, як дзеці з’явіліся, а потым вы прыйшлі, — ён паглядзеў на маці. — Немцы назіраюць за вашай кватэрай з дома з блакітнымі аканіцамі, з таго, што наўскасяк ад вашага, праз вуліцу.

— Дык гэта ж дом Латаніных! — заўважыла маці. — Іх дачка Светка з немцамі блытаецца. Вы ведаеце, што з Мішам?

— Мы паспелі толькі высветліць, што яго схапілі гестапаўцы проста на рабоце. Выклікалі да начальніка цэха і з яго кабінета павялі. Што будзе далей, цяжка сказаць. Але мы параіліся і вырашылі, што вам трэба ісці ў лес.

Але маці вагалася, усё больш схіляючыся да таго, каб застацца на месцы.

— Мне здаецца, калі немцы даведаюцца, што мы сышлі, то адразу здагадаюцца пра нашу сувязь з партызанамі. І тады ўжо Мішу нішто не выратуе. Дзякуй вам за клопат. Але мы застаёмся.

Да раніцы так і не клаліся спаць. Маці за сняданкам, нібы адчуваючы набліжэнне новай бяды, сказала:

— Дзеткі, калі схопяць мяне, то мой наказ: ідзіце ўдваіх у лес, да партызан. Не чакайце нас з бацькам. Застанемся жывыя — сустрэнемся.

Відаць, пра многае паспела перадумаць Настасся Георгіеўна за мінулую ноч. І цяпер разумела, што дарма не сышлі яны ў лес… Трывога за лёс дзяцей раздзірала душу…

Працоўны дзень падыходзіў да канца. Валодзя прамываў дэталі. У гэты момант да яго падышоў стары работнік з іншага цэха і спытаў:

— Ты Славін?

— Я.

— Дык бяжы да прахадной, дзяўчына нейкая чакае цябе.

Каля прахадной яго чакала Лена Казлова. Схапіла яго за руку, сама дрыжыць і ціха, каб ніхто са старонніх не пачуў, усхвалявана сказала:

— Сыходзь! Немцы маму тваю забралі!

— Калі?

— Ды толькі што.

— Ты Жэню папярэдзіла?

— Не. Як даведалася — адразу сюды.

— Дзякуй, Лена! Ідзі дахаты.

Уладзімір разумеў, цяпер патрэбна захаваць прысутнасць духу, абдумаць, што рабіць далей. Самае галоўнае — атрымаць ад Марціна новы аўсвайс на наступны тыдзень, бо тэрмін дзеяння старога канчаўся сёння.

Імкнучыся быць спакойным, Валодзя сказаў шэфу, што нечакана цяжка захварэла маці, папрасіў адпусціць яго на гадзіну раней і, заадно, выпісаць аўсвайс.

Настрой у шэфа ў той дзень быў добры, ён паблажліва паставіўся да гэтага стараннага хлопца, выпісаў аўсвайс і адпусціў. Не ведаў Марцін, што праз паўгадзіны па Славіна прыйдуць гестапаўцы…

Апынуўшыся за прахадной, Уладзімір з усіх сіл кінуўся да пякарні, дзе працавала сястра. Выклікаў яе. Аднак не паспеў сказаць і двух слоў, як убачыў, што да службовага пад'езда падкаціў «чорны воран». З машыны выскачылі два гестапаўцы і схаваліся за дзвярамі.

— Гэта за табой, Жэня! Сыходзім! — ён пацягнуў сястру за руку. Яны завярнулі ў невялікі завулак, а затым — у другі і пашыбавалі па пустыннай вуліцы.

Жэня плакала, спатыкалася.

— Што будзе з мамай, татам? Што нам рабіць? Куды мы ідзём? — каторы раз пыталася яна, забягаючы наперад.

Гэтыя ж пытанні мучылі і Валодзю. Параіўшыся, яны вырашылі, што дамоў вяртацца ні ў якім разе нельга, і адправіліся да далёкіх сваякоў на Старажоўку. Наступную ноч правялі ў знаёмых. Пра бацькоў нічога не ведалі. Валодзя вельмі шкадаваў, што ў яго няма ніводнага адраса сяброў бацькі па падполлі.

А тым часам іх шукалі падпольшчыкі, чакалі на подступах да дома, за якім звар'яцелыя гестапаўцы яшчэ больш узмацнілі слежку.

Валодзя, хоць і быў маладзейшы за сястру, разумеў, што зараз ён павінен паклапаціцца пра іх лёс.

— Сыходзім у лес, да партызан, — заявіў неяк раніцай.

Жэня пагадзілася, толькі ціха сказала:

— У нас жа няма добрай вопраткі. А ў партызан з адзежай, напэўна, кепска.

— Адзежа будзе. Ты чакай мяне тут. Вярнуся заўтра.

— А куды ты? — захвалявалася Жэня.

Але Уладзімір вырашыў не турбаваць сястру лішні раз. Сяк-так супакоіў яе, сказаўшы, што ідзе шукаць каго-небудзь з падпольшчыкаў, і накіраваўся… у сваю кватэру.

Хто-хто, а ўжо Славін добра ведаў, як непрыкметна падысці да роднага дома. Хаваючыся ў суседнім агародзе сярод густых кустоў агрэсту і маліны, ён цэлы дзень сачыў за вуліцай, імкнучыся разгадаць гестапаўскую сістэму назірання. Ён разумеў, што немцы не маглі пакінуць сваіх людзей проста ў кватэры Славіных. Значыць, яны прыдумалі штосьці іншае.

Валодзя праседзеў у хованцы ўвесь дзень і, хоць у роце не было нават макавай расінкі, а жывот зводзіла ад голаду, застаўся задаволены. Высветліў, што адна група фашыстаў, пераапранутых у цывільную адзежу, сядзіць усё ў тых жа Латаніных, а на вуліцы, як бы выпадкова ходзячы, дзяжураць яшчэ два тыпы. Гестапаўцы ведалі, што кватэра Славіных размешчана на другім паверсе. Прайсці ў яе можна было толькі па драўлянай лесвіцы, а таму ўзмоцнена назіралі за домам з боку вуліцы.

Валодзя дачакаўся цемры, пракраўся ў свой агарод. Адшукаў за хлявом прыстаўную лесвіцу, якая аднойчы ўжо саслужыла іх сям'і добрую службу,

прыставіў яе да сцяны, ціха палез да самага акна. На ўсякі выпадак сцішыўся на хвіліну перад адчыненай фортачкай. У кватэры — цішыня. І тады адсунуў шпінгалеты, асцярожна адчыніў акно, ступіў на падлогу і апынуўся ў апраметнай цемры. На імгненне стала страшна, але ён хутка пераадолеў у сабе гэта, пачаў навобмацак абследаваць усю кватэру.

Уваходныя дзверы былі замкнёны на ўнутраны замак, ключы ад якога фашысты, вядома, адабралі ў маці. У цемры, ды яшчэ пасля такога пагрому, шукаць свае і Жэніны рэчы не мела сэнсу, і Валодзя вырашыў дачакацца світанку. Ён узяў крэсла і засунуў адну ножку паміж уваходнымі дзвярамі і ручкай. «Калі і ўздумаюць увайсці ў кватэру, то пакуль сцямяць, чаму дзверы не адкрываюцца, сігану з акна ў гарод і дам драпака», — думаў ён, умацоўваючы як мага надзейней крэсла. Затым асцярожна ўвалок лесвіцу ў пакой, зачыніў акно, каб немцы не заўважылі, калі ўначы захочуць агледзець хату з боку агарода.

Калі замігцеў світанак і ў кватэры можна было сёе-тое разгледзець, Уладзімір знайшоў у каморы стары бацькаў рукзак, кінуў у яго сваю і сястрыну адзежу, адчыніў акно, выставіў лесвіцу, хутка спусціўся на зямлю. Зацягнуў лесвіцу за хлеў. Валодзя ўявіў сабе, як будуць здзіўлены немцы, калі стануць адкрываць кватэру. «Доўга ж ім прыйдзецца ламаць галовы, каб вырашыць загадку: як маглі аказацца замкнёнымі дзверы знутры, якія яны вартавалі днём і ўначы», — Валодзя ледзь стрымаўся, каб не засмяяцца.

Вярнуўшыся ў суседскі сад, хлопец вычакаў час, калі можна будзе хадзіць па горадзе, і адважна пакрочыў па вуліцы: бо ў яго ў кішэні — аўсвайс.

А ўвечары, нібы цені, брат і сястра праслізнулі міма варожых засад. І зноў, ужо каторы раз, Жэня здзівілася:

— Адкуль ты ведаеш, дзе немцы ў засадах сядзяць?

— Мне ўжо даводзілася тут хадзіць, — важна адказваў брат, а сам думаў: «Куды ісці далей? Нас жа ніхто не чакае».

Да раніцы дабраліся да вёскі Пціч, але не спыніліся, пайшлі далей. Да вечара набрылі на хутар. Папрасіліся ў гаспадароў, адзінокіх старых, пераначаваць, спыталі ў іх, дзе можна знайсці партызан. Гаспадары нічога на гэта не адказалі, яны накармілі брата з сястрой і паслалі спаць на сенавале. Старыя ведалі, што цяпер мнгогія людзі шукаюць у лесе партызан. Сярод іх могуць быць і правакатары. Таму крыўдзіцца на старых за недавер было нельга.

Раніцай на хутар зазірнулі партызаны. Іх было чацвёра. Доўга распытвалі яны брата і сястру, імкнучыся зразумець, што за людзі перад імі. Ім асабліва падазроным падалося тое, што хлопец быў абуты ў нямецкія чаравікі. Доўга Валодзя пераконваў партызан, што гэты абутак маці выменяла за бацькаўскі гарнітур.

Партызаны напаўголаса пагаварылі яшчэ аб нечым і нарэшце вырашылі даставіць Славіных у атрад. Прывялі, а спадзяванні Уладзіміра на тое, што тут знойдзецца хоць адзін чалавек, які ведае бацьку ці чуў пра яго, не апраўдаліся. З імі доўга гутарылі камандзір атрада, камісар і начальнік штаба, па некалькі разоў перапытвалі пра раней расказаныя падзеі. Адчувалася, што правяраюць. Валодзя разумеў, што інакш і быць не павінна. Калі ў атрад патрапілі невядомыя, значыць, трэба старанна разабрацца, ці не падаслаў іх вораг.

Прайшло некалькі дзён. Славін ішоў праз невялікую паляну да зямлянкі, у якой пасялілася Жэня. Раптам ён убачыў, як чацвёра партызан складваюць ля штабной зямлянкі зброю. Уладзімір здагадаўся, што яны толькі што вярнуліся з задання, а зброя — іх трафеі. «Шчаслiўчыкі, — з зайздрасцю падумаў хлопец. — Колькі зброі прынеслі! Відаць, нямала фрыцаў укакошылі!» Сла-

він падышоў бліжэй і раптам — замер: ён пазнаў аднаго з тых семярых, якіх летась вывеў міма нямецкіх пастоў з горада. Але было яму такое заданне ад падпольшчыкаў, і ён яго выканаў тады. Уладзімір так разгубіўся, што нават забыўся яго імя. А той паклаў у агульную кучу нямецкі аўтамат, выпрастаўся, абыякава зірнуў на хлопца, павярнуўся да сваіх таварышаў. Толькі зараз Валодзя ўспомніў:

— Сяргей Міронавіч!

Мужчына азірнуўся.

— Сяргей Міронавіч! Пазнаяце мяне? Я — Валодзя. Памятаеце, вашу групу з горада выводзіў? Вы яшчэ пыталі, ці не хачу разам з вамі ў лес, да партызан.

Твар мужчыны пасвятлеў. Ён падышоў, моцна абняў Славіна.

— Вось дык сустрэча! Як ты тут апынуўся? Сказаць шчыра, нават не думаў, што ўбачу цябе ў лесе! — Ён адпусціў са сваіх абдымак хлопца. — Даўно ты тут?

Славін сцісла паведаміў пра свае прыгоды.

— І куды цябе?

— Ды пакуль яшчэ нікуды. Усё правяраюць нас з сястрой.

— А што, сястра таксама тут?

— Так, у гэтай зямлянцы.

— А ну, пачакай. Я хутка! — Сяргей Міронавіч імкліва накіраваўся да штабной зямлянкі.

Хвілін праз пяць ён вярнуўся.

— Пайшлі да камандзіра!

Камандзір запрасіў Уладзіміра сесці на тоўсты пень і сказаў:

— Ты не сярдуй за такі прыём. Сам разумееш, час ваенны. Усякае можа быць. Патрабавалася праверка. Але Сяргей Міронавіч пацвярджае. Так што пытанняў больш няма. Цябе залічым байцом у наш атрад, а сястру накіруем на базу, да гаспадарнікаў. Там таксама лішняя пара рук спатрэбіцца.

Да горла Славіна падкаціў камяк, ад радасці закружылася галава.

— Таварыш камандзір! Пра маіх бацькоў нічога не чулі?

— Не, хлопец. Пакуль нічога. Цяпер вельмі цяжка разабрацца. У горадзе становішча складанае. Немцы хапаюць першага сустрэчнага. Тысячы людзей расстраляны.

— Таму нам з табой, — дадаў Сяргей Міронавіч, — трэба мацней трымаць зброю ў руках, каб дапамагчы Чырвонай Арміі. Трэба, Валодзя, хутчэй выбіць гэтую свалату з Беларусі, са сталіцы нашай. Ды і пра дапамогу падпольшчыкам у горадзе не павінны забываць. Бачыў, якія «гасцінцы» здабыў я з хлопцамі? Сёе-тое перашлём і падпольшчыкам.

— Таварыш камандзір, а аўтамат мне дадуць?

— Не, дарагі. У нас такі парадак: ваяваць ты можаш з любой зброяй, якую толькі душа пажадае, але спачатку здабудзь яе ў ворага. Спачатку нашы байцы мелі толькі паляўнічыя стрэльбы. Адзін і цяпер не хоча са сваім драбавіком расставацца. Ты з ім яшчэ пазнаёмішся. Зараз, вядома, час іншы. Ёсць у нас і аўтаматы, і кулямёты, і нават гармата. Хацелася б мець больш мін. Але нічога, пакуль абыходзімся тым, што ёсць.

Славін і Сяргей Міронавіч выйшлі са штабной зямлянкі. Адзін з партызан, якія адпачывалі недалёка ад складзенай трафейнай зброі, крыкнуў:

— Ну як, Караткоў? Выйдуць камандзіры на нашу здабычу паглядзець?

— Пачакайце, браткі, дайце з чалавекам пагаварыць, — адказаў Сяргей Міронавіч.

Караткоў і Славін перайшлі паляну, спыніліся.

— Значыць, вы тады ў гэты атрад патрапілі? — спытаў Уладзімір.

— Так, братка, у гэты.

— А дзе астатнія людзі з той групы?

— Двух ужо няма. Загінулі. Двух чэхаў памятаеш? Камандаванне выклікала на Вялікую зямлю. Яны там больш патрэбны. Астатнія ваююць у іншым атрадзе. Вось такія справы, Уладзімір. Шкада толькі, што наша сустрэча адначасова будзе і расстаннем. Адклікаюць мяне ў Маскву.

— І што, у атрад больш не вернецеся?

— Не ведаю, браток, не ведаю, — Караткоў нечакана ўсміхнуўся. — Зрэшты, пасля нашай сённяшняй сустрэчы я чамусьці веру, што мы з табой яшчэ пабачымся. Ну добра, я пайшоў за аперацыю адчытвацца. Да вечара зайду развітацца, уначы самалёт павінен прыляцець.

Сяргей Міронавіч пайшоў да сваіх, а Славін накіраваўся да сястры.

Так пачаў Славін новае партызанскае жыццё. Развітанне з Жэняй было сумным. Кожны думаў пра адно і тое ж: ці давядзецца сустрэцца зноў? Доўга глядзеў хлопец услед сястрычцы, якая ішла побач з возам, дзе ляжаў параненны баец…

## Камандзір узвода разведкі лейтэнант Купрэйчык

Пад канец 1942 года немцы зноў узялі стратэгічную ініцыятыву ў свае рукі..

Полк, у якім служыў Купрэйчык, быў выматаны ў баях, з перадавой у тыл яго пакуль не адводзілі. Лінія абароны моцна расцягнулася. Камандаванне палка турбавалася, што праціўнік прарве абарону.

Штаб размяшчаўся ў толькі што збудаваным бліндажы. Знадворку група сапёраў яшчэ маскіравала яго дзёрнам, ссечаным хмызняком і галінамі дрэў, але ўсярэдзіне бліндаж выглядаў цалкам абжытым. Пасярэдзіне стаяў зроблены са скрынь стол, на ім — вялікая газавая лямпа са шкляным каўпаком, ля сцяны быў тапчан, пакрыты новенькай коўдрай. На ім ляжала падушка з чыстай навалачкай. Васільеў і Малахаў, відавочна, толькі прыйшлі, таму што камандзір палка, калі зайшоў Купрэйчык, здымаў з сябе рэмень. Ён запрасіў лейтэнанта прысаджвацца, спытаў:

— Чаю не хочаш?

— Не, дзякуй, у спякоту не п’ю.

Камісар пажартаваў:

— І правільна робіш, але чай жа можна.

— І чай таксама, — ледзь усміхнуўся Аляксей.

Васільеў разгарнуў карту і паклікаў лейтэнанта:

— Глядзі, Аляксей, вось пазіцыі палка. Мы знаходзімся на левым флангу і састыкоўваемся з правафланговым палком суседняй дывізіі.

— Ого, як мы вырваліся наперад! — здзіўлена прагаварыў лейтэнант, убачыўшы, што тоўстая чырвоная рыса як бы абрывалася адразу ж за пазіцыяй палка і стромка сыходзіла назад.

— Правільна. Мы апынуліся далёка наперадзе ад нашага суседа. І ў гэтым наша перавага і слабасць. Перавага — у тым, што калі нам дадуць хоць маленькае папаўненне, то мы можам ударыць вось сюды, у фланг праціўніку, і дапамагчы суседзям выйсці з намі на адну лінію. А слабасць — у тым, што фрыцы гэтаксама могуць ударыць нам у фланг.

Васільеў падышоў да тэлефоннага апарата, падняў трубку і папрасіў злучыць яго з начальнікам штаба. Пачуўшы голас Самойлава, спытаў:

— Я па карце не бачу ўзмацнення левага фланга, ты зрабіў гэта?

Відавочна, начштаба ўжо прыняў неабходныя меры, таму што Васільеў маўчаў і слухаў. Нарэшце ён сказаў:

— Добра, нанясі ўсё гэта на маю карту.

Ён вярнуўся да стала і задаволена прагаварыў:

— Так, фланг мы ўзмацнілі. Ну, слухай далей. Твая задача: выведаць, што знаходзіцца ў праціўніка тут, і не на пярэдняй лініі, а ў глыбіні. Калі высветліш, дашлеш з кім-небудзь са сваіх арлоў данясенне, а сам агінай іх пярэдні край наводдаль, забіраючы ўвесь час направа, і паглядзі, што немцы маюць у сваіх найбліжэйшых тылах насупраць нашых пазіцый. Паспрабуй здабыць добрага языка, а затым вяртайся. Ясна?

— Колькі часу вы мне даяце на выкананне задачы?

— Я думаю, табе дастаткова трох-чатырох сутак. Цяпер прыйдзе начштаба, дамовімся пра месца твайго вяртання і нашай падтрымцы, калі што якое, ну, а потым пойдзеш рыхтавацца да паходу.

Купрэйчык з сабой забраў амаль усіх байцоў узвода, пакінуўшы толькі старшыну, а ў распараджэнні начальніка штаба — двух чалавек.

Роўна ў гадзіну ночы, прыгінаючыся, яны рушылі да пазіцый ворага. Для руху Купрэйчык выбраў невялікую лагчыну. У ёй трава была сакавітай, а зямля мяккай, і паўзці было лягчэй, дый шуму пры руху менш. Праўда, атрымлівалася так, што рухаліся яны амаль у лоб добра замаскіраванаму кулямёту, але лейтэнант пасля гутаркі з камандзірам роты, чые пазіцыі былі размешчаны насупраць кулямётнага гнязда, быў упэўнены, што кулямётчык, як гэта часта бывае, не абстраляе лагчыну. Камандзір роты паведаміў, што за тыя чацвёра сутак, што яны знаходзяцца тут, гэты кулямёт ні разу не страляў, гняздо было старанна замаскіравана і распазнаць яго ўдалося выпадкова: артылерыйскі назіральнік, які разглядаў праз стэрэатрубу нямецкія пазіцыі, звярнуў увагу, як з невялікага кусціка паказалася рука, у якой мільганула штосьці бліскучае. Хутчэй за ўсё кулямётчык выкінуў са старанна замаскіраванага акопа пустую кансервавую бляшанку, прысыпаўшы яе зямлёй, каб не блішчэла. Камандзір роты, якому артылерысты паведамілі пра ўбачанае, узмацніў назіранне, і неўзабаве задума праціўніка стала зразумелай: гэты кулямёт павінен быў уступіць у дзеянне толькі ў выпадку нападу і сваім нечаканым агнём сарваць яго. Таму кулямётчык і не страляў, каб заўчасна не выдаць сябе.

І вось цяпер разведчыкі, захоўваючы максімум асцярогі, павольна паўзлі па нейтральнай зоне. Купрэйчык рухаўся ўслед за Зыбіным, часам дакранаючыся рукамі яго ботаў, а самым першым поўз дасведчаны Галавін.

У галаве лейтэнанта, нібы заклінанне, пульсавала трывожная думка: «Толькі б кулямётчык нас не пачуў! Толькі б дапаўзці да ўзгорка!»

А вось і ўзгорак.

Купрэйчык крануў па чарзе за плячо Галавіна і Чарнецкага. Тыя зразумелі, чаго хоча камандзір, і моўчкі папаўзлі да траншэі. Праз некалькі хвілін, забіраючы крыху лявей, папаўзла другая пара. Яна, як было дамоўлена раней, павінна была пры неабходнасці прыкрыць агнём з аўтаматаў Галавіна і Чарнецкага. Наступіла чарга наступнай пары. Яна пацягнула за сабой тоненькі шпагат, з дапамогай якога падасць сігнал руху астатнім. Купрэйчык, сціснуўшыся ў адзіны нервовы камяк, чакаў. Колькі ўжо было вось такіх пераходаў да пазіцый ворага, а прывыкнуць да гэтага немагчыма. Кожны раз, калі трэба было зазірнуць праз бруствер у нямецкі акоп, наставала вышэйшая кропка нервовай напругі: што чакае яго там, у траншэі? А раптам засада?

Нарэшце тройчы тузануўся шпагат. Значыць, у траншэі фрыцаў няма.

І Аляксей шэптам загадаў рухацца наперад. Хвілін праз дзесяць усе ўжо былі на тым баку. Паглыбіліся амаль на кіламетр і спыніліся на кароткі прывал.

Купрэйчык загадаў:

— А ну, хлопцы, прыкрыйце мяне, карту трэба паглядзець.

Ён сеў пад куст, а разведчыкі знялі з сябе курткі маскіровачных касцюмаў і абляпілі камандзіра з усіх бакоў. Аляксей дастаў карту і ўключыў кішэнны ліхтарык. Адразу ж адшукаў месца, дзе яны знаходзяцца. Наперадзе ў трох кіламетрах быў лес. У гэтым лесе днём і павінны былі хавацца разведчыкі, а заадно праверыць, ці не канцэнтруюць у ім немцы сілы для ўдару. Зверыўшы маршрут па компасе, Купрэйчык выключыў ліхтарык і вылез з-пад куртак:

— Пяць мінут на перакур і рушым далей.

Разведчыкі, прыкрываючыся курткамі, з прагнасцю зацягваліся папяросамі. Кожны, напэўна, успомніў добрым словам старшыну Ганчара, які змог здабыць для іх замест махоркі сапраўдныя папяросы.

Роўна праз пяць мінут Купрэйчык устаў. Усе моўчкі пайшлі за ім. Ішлі асцярожна. Наперадзе, метрах у двухстах, рухаўся дазор з трох чалавек на чале з Чыжыкам, па баках — ахова. Побач з Купрэйчыкам ішоў маладзенькі чырвонаармеец Губчык. Яму яшчэ не было і дзевятнаццаці, але Купрэйчык сам выбраў яго з тых, хто прыбыў у полк на папаўненне. Хлопец спадабаўся яму не толькі тым, што да вайны займаўся боксам, вывучаў нямецкую мову, але і сваім імкненнем патрапіць у разведку. Вядома, у разведузводзе яго вабіла рамантыка, але Аляксей разумеў, што гарачае жаданне стаць сапраўдным разведчыкам мае вялікае значэнне.

Губчык ціха спытаў:

— Таварыш лейтэнант, а мы тут не напорамся на міны?

— Не павінны, Пётр. Памяркуй сам: які сэнс ім мініраваць свае тылы. Раптам мы іх зноў папром на захад, а каму хочацца ўцякаць па ўласных мінах? Але ты прывыкай хадзіць у патыліцу — гэта першае правіла разведчыкаў.

Губчык моўчкі перастроіўся і пайшоў следам за лейтэнантам. Рухаліся асцярожна і да лесу дабраліся гадзіны праз паўтары. Была палова трэцяй. Забраліся ў густы хмызняк і спыніліся на начлег. Купрэйчык выставіў ахову, астатнім загадаў спаць, а сам заснуць не мог. Яго моцна турбавала тое, што яны не ведаюць становішча ў лесе. А раптам дзе-небудзь побач размясцілася варожая часць, і як толькі наступіць раніца, узвод будзе выяўлены і знішчаны.

Ён ляжаў і прыслухоўваўся. Дрэвы ледзь чутна шумелі над галавой. Аляксей успомніў Мачалава. «Напэўна, ужо даўно выпісаўся са шпіталя. Цікава, дзе ён цяпер вано́е? Трэба будзе абавязкова знайсці яго. — Але Аляксей тут жа папракнуў сябе: — Ды ты, лейтэнант, знойдзеш! Уласную жонку і тое адшукаць не можаш!» Вось так заўсёды ў вольную хвіліну думкі Купрэйчыка вярталіся да Надзі: «Што з ёй? Ці жывая?»

Ён часта лавіў сябе на тым, што ў душы непрыемна варушылася і іншае: Надзя, маладая і прыгожая, увесь час знаходзіцца сярод мужчын… Ад гэтай думкі Аляксею зусім перахацелася спаць, і ён сеў. Зірнуў на цыферблат трафейнага гадзінніка. Хутка світанак. Баючыся патрывожыць чуйны сон таварышаў, Аляксей зноў лёг, заплюшчыў вочы. І зноў убачыў Надзю. Да драбнюткіх падрабязнасцяў успомнілася раніца, калі яны сустрэліся першы раз.

…Гэта было ў саракавым годзе. Аляксей разам з сябрам паехаў у суботу ўвечар на рыбалку. Начавалі на беразе, а на досвітку селі ў лодку, выплылі на сярэдзіну ракі і закінулі вуды. Месца было выдатнае. Ціхая, спакойная роўнядзь ракі, густы хмызняк на беразе. Крыху далей, за лужком, зялёнай сцяной стаяў лес.

І дзіўная цішыня вакол! Неўзабаве ад берага прама да лодкі, па вадзе, працягнулася сонечная дарожка. Аляксей вырашыў выкупацца.

Яны падвеславалі да берага, ён саскочыў на мяккую траву і, не спяшаючыся, здымаючы на хаду кашулю, пайшоў уніз па плыні. Саша, сябар Аляксея, заўзяты рыбак, не дазволіў яму купацца каля лодкі, баяўся, што Аляксей рыбу разгоніць.

Купрэйчык адышоў досыць далёка, праз хмызняк ступіў да берага. Выйшаў на вузкую, усяго ў некалькі метраў, прыбярэжную паласу — і сцішыўся. Спінай да яго, асцярожна чапаючы нагой ваду, стаяла дзяўчына ў блакітным купальніку.

У Аляксея мільганула гарэзная думка. Ён на цыпачках падкраўся да просценькага халаціка, які ляжаў на траве. Падняў яго, а пад ім — басаножкі. Узяў усё гэта і бясшумна схаваўся ў густой чаромсе. Уладкаваўся ямчэй і пачаў назіраць. Дзяўчына, перш чым увайсці ў ваду, абярнулася. Аляксею яна здалася вельмі прыгожай. Дзяўчына не заўважыла, што халаціка няма на месцы, радасна ўсміхнулася сонцу і хутка ўвайшла ў ваду. А хлопец, зачараваны гэтым відовішчам, сядзеў не зварухнуўшыся.

Аляксею здалося, што дзяўчына ўсміхнулася не сонцу, а яму. Ён сціскаў у руках халат, басаножкі і чакаў. А дзяўчына слізгала лёгка і бясшумна па вадзе, і нібы не вада, а празрыстая смуга ахутвала і падтрымлівала яе вытанчанае цела. Плавала яна добра, але ў вадзе была нядоўга і неўзабаве выйшла на травяністы бераг, дзе пакінула свае рэчы, а там — пуста. Аляксей добра бачыў яе разгублены, здзіўлены і злосны погляд, але вырашыў не спяшацца. А твар дзяўчыны станавіўся ўсё больш злосным, яна, слізгаючы вачамі па кустах, гучна спытала:

— Ну, каму гэта рабіць няма чаго?

Купрэйчык усміхнуўся: «Ведала б ты, што цябе абкраў оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку!» Дзяўчына яшчэ раз паўтарыла сваё пытанне і, не дачакаўшыся адказу, прыгнечана кінула:

— Ідыёт!

А Купрэйчык толькі хмыкнуў.

Незнаёмка павярнулася і пайшла ўздоўж берага ў процілеглы ад лодкі бок. Купрэйчык пачаў асцярожна рухацца следам. Але дзяўчына ўсё ж пачула яго крокі і спакойна, не паварочваючы галавы, сказала:

— І доўга вы будзеце гуляць у хованкі? Я ж усё адно чую, як па кустах хаваецеся.

Аляксей выйшаў. Убачыўшы незнаёмага хлопца, дзяўчына разгубілася і нават спалохалася. Аляксей паспешна працягнуў рэчы і сказаў:

— Дабрыдзень, не крыўдуйце, я пажартаваў.

Яна моўчкі і хутка ўзяла з яго рук халат і, адвярнуўшыся, апранулася. Затым, прымаючы басаножкі, ціха сказала:

— Знайшлі, чым жартаваць. Ведаеце, як я спалохалася, думала, як жа ў купальніку ў вёску ісці.

Аляксей спытаў:

— Вы жывяце ў гэтай вёсцы?

— Не, з сяброўкай прыехала ў госці да яе бацькоў.

— А чаму яна не пайшла разам з вамі купацца?

— Не захацела, а можа, вырашыла даць вам магчымасць мяне абкрасці.

— Не, што вы, я не злодзей, наадварот, я сам іх лаўлю.

— Як не злодзей? А хто ж тады мае рэчы выкраў?— І раптам засмяялася: — Уяўляю, як бы я ў купальніку цяпер ішла па вёсцы. Нічога не скажаш, становішча...

— Я, вядома, разумею, што гэта неразумна… вось так адразу, але мне не хочацца вас адпускаць. Давайце пазнаёмімся. Мяне завуць Аляксей. Аляксей Купрэйчык. Прыехаў з сябрам на рыбалку, хацеў выкупацца і ўбачыў вас…

Дзяўчына завагалася, казаць ёй сваё імя ці не, але, зазірнуўшы ў вочы гэтага сімпатычнага хлопца, убачыла ў іх мальбу і разгубленасць, злітасцілася і прадставілася:

— Надзя Кір’янава...

Лейтэнант так задумаўся, што не заўважыў, як замігцеў світанак. Неба пасвятлела, на яго фоне выразна вылучаліся цёмна-зялёныя кроны дрэў. Купрэйчык разбудзіў чатырох байцоў: Цімахоўца, Маліну, Шчуку і Чыжыка. Сабраўшы іх у кружок, лейтэнант шэптам загадаў абследаваць мясцовасць вакол іх стаянкі. Разведчыкі парамі адразу ж разышліся ў розныя бакі. Зараз заставалася чакаць. Лейтэнант пабудзіў яшчэ чацвёрку байцоў і накіраваў іх змяніць тых, хто знаходзіўся ў сакрэце. Пасля гэтага Аляксей лёг на зямлю і адразу ж задрамаў. Нервовая напруга, начны пераход і стомленасць апошніх дзён змарылі яго канчаткова. Кудысьці на задні план адсунуліся трывога і турбота, невядомасць таго, што чакае іх наперадзе. Але спаў ён нядоўга.

Яго чуйны слых улавіў недалёка ад сябе нейкі лёгкі рух, шоргат. Аляксей адкрыў вочы і сеў.

Аказалася, што разведчыкі ўжо прачнуліся, але стараліся не шумець, каб не разбудзіць камандзіра. Ён кінуў сцісла «снедаць», і байцы заварушыліся, дастаючы прадукты. Можа, хтосьці з іх і не хацеў есці, але кожны разумеў, што падмацавацца трэба. Яшчэ невядома, ці будзе такая магчымасць пазней. Нарэшце з’явілася першая пара разведчыкаў. Чыжык звярнуўся да Купрэйчыка:

— Ну, камандзір, даставай карту.

Ён разаслаў карту на траве, а Чыжык, зазіраючы ў накрэсленую спехам схему, пачаў тлумачыць:

— Вось тут заходней ад нас, у кіламетрах паўтара, у лесе знаходзіцца танкавая часць: дваццаць чатыры танкі, шэсць бронетранспарцёраў і восем самаходак. Там жа тры бензавозы, тры легкавушкі. Адчуваецца, што знаходзяцца там немцы нядаўна і размясціліся ненадоўга. Амаль ніякіх работ не вядуць. Значыць, чакаюць каманды аб перадыслакацыі. Мы іх абышлі з поўдня і прайшлі па лесе далей. Больш нікога не сустрэлі. Вось тут, — Чыжык ткнуў кончыкам алоўка ў карту, — праходзіць з паўднёвага захаду на паўночны ўсход дарога. Слядоў на ёй шмат. Не выключана, што і танкавая часць прайшла там. Дарога выходзіць з лесу і ўпіраецца ў вёску.

Купрэйчык адразу ж вызначыў: «Так гэта ж вёска Дзедава. Кампалка прасіў асабліва старанна праверыць, што за штаб там знаходзіцца. Напэўна, дывізіённая разведка штосьці намацала там, а высветліць, што менавіта, не змагла».

А Чыжык працягваў:

— За вёскай немцы вядуць будаўнічыя работы. Прымусілі мясцовае насельніцтва, галоўным чынам жанчын, старых і дзяцей, капаць траншэі, будаваць бліндажы. Там жа працуюць і сапёры. Яны возяць лес, будуюць умацаванні і сховішчы. У нас склалася меркаванне, што рыхтуюць новую лінію абароны. Жывой сілы, праўда, мала, але мы іх маглі з першага заходу і не заўважыць. Танкавы батальён і то выпадкова выявілі, — самакрытычна скончыў Чыжык.

Купрэйчык нанёс усе здабытыя дадзеныя аб праціўніку на карту, узяў і схему, якую вычарціў Чыжык, і прапанаваў ім адпачываць. «Пакуль не вернецца другая пара хлопцаў, — вырашыў ён, — адсюль не пойдзем». Не паспеў ён

паснедаць, як прыбылі Цімахавец і Маліна. Яны абследавалі паўднёва-заходнюю частку лесу і прылягаючую да яго мясцовасць, выявілі некалькі даволі буйных груповак праціўніка, у тым ліку танкі і самаходныя гарматы.

Выслухаўшы іх даклад, лейтэнант вырашыў абследаваць мясцовасць.

«Месца, дзе мы цяпер знаходзімся, — думаў ён, — больш-менш спакойнае. Мабыць, застанемся тут на дзянёк і добра ўдакладнім становішча, а затым рушым далей».

Ён падсеў бліжэй да салдат:

— Значыць так, браткі. Стаўлю задачу: тут застаюцца толькі тыя, хто вярнуўся з паходу, і яшчэ чацвёра для аховы. Астатніх разаб'ём на групы па тры чалавекі і прачэшам як след мясцовасць. Нам трэба, у што б там ні было, высветліць намер праціўніка і якія ў яго сілы.

Затым Купрэйчык акрэсліў кожнай групе задачу і квадрат, дзе яна павінна дзейнічаць, прызначыў час збору. Разведчыкі адразу ж разышліся.

Купрэйчык узяў з сабой Лугаўца і Губчыка. Іх шлях ляжаў да вёскі, у якой немцы капалі акопы. Памятаючы пра тое, што наперадзе павінна быць стаянка бранетанкавай часці, лейтэнант увесь час забіраў лявей, і ім прыйшлося рабіць вялікі крук. І калі ўлічыць, што рухаліся яны вельмі асцярожна, часта залягалі і старанна аглядалі мясцовасць, то не дзіўна, што да вёскі падышлі толькі да поўдня. Уладкавалі сабе НП у густым ельніку, дзе нават трава не расла, але было бяспечна.

Метрах у трохстах віднелася вёска з хат дваццаці, не больш.

Купрэйчык пераканаўся, што іх не будзе выдаваць бляск шкла бінокля, і пачаў назіраць. Крыху лявей вёскі вяліся работы. Старыя і жанчыны пад наглядам немцаў капалі акопы. Цывільных людзей у вёсцы не было відаць, і Купрэйчык падумаў: «Усіх выгналі на працу, спяшаюцца». Ён паклаў перад сабой ліст паперы і пачаў наносіць схему абарончых збудаванняў, якія ўзводзіліся. Нечакана Лугавец крануў яго за плячо і ціха сказаў:

— Лейтэнант, паглядзі, здаецца, нашага вядуць, — і ён рукой паказаў на групу нямецкіх салдат, якія вялі перад сабой чалавека.

Купрэйчык перавёў бінокль на іх і ўбачыў, што немцы канваіруюць чырвонаармейца. Выразна была бачная разадраная гімнасцёрка, на галаве — брудная, у крывавых плямах павязка. Двое немцаў трымалі напагатоў аўтаматы, астатнія ішлі ззаду, ажыўлена жэстыкулявалі, размаўлялі паміж сабой.

— Сапраўды, чырвонаармейца вядуць, сволачы! — усхвалявана прагаварыў лейтэнант, неадрыўна гледзячы ў бінокль.

Немцы завялі палоннага салдата ў двор другой ад краю вёскі хаты. Адзін з іх увайшоў у хату і праз хвіліну выйшаў у суправаджэнні афіцэра, на галаве якога была фуражка з высокім верхам. Афіцэр наблізіўся да палоннага, стаў штосьці казаць яму. Немцы, якія прыйшлі разам з канваірамі, стоўпіліся поруч, і разведчыкі ўжо не маглі бачыць ні чырвонаармейца, ні нямецкага афіцэра. Нечакана натоўп расступіўся, і Купрэйчык са сваімі салдатамі ўбачылі, што палонны ляжыць на зямлі, а афіцэр і салдаты б'юць яго нагамі.

— Што яны робяць? Яны ж заб'юць яго! — ускрыкнуў Губчык. — Таварыш лейтэнант, дазвольце, я іх з аўтамата?

— Не крычы, Пеця. Нам нельга сябе выяўляць. Для нас галоўнае — разведка і вытрымка. — Купрэйчык злосна вылаяўся і дадаў: — А гэта мы ім абавязкова ўзгадаем.

А немцы працягвалі біць чырвонаармейца. Ён ужо не рухаўся і ляжаў не абараняючыся. У бінокль было відаць, як нямогла тузалася яго галава пасля кожнага ўдару нагой. Купрэйчык, сціскаючы збялелымі пальцамі бінокль, сказаў:

— Ды і з аўтамата на такой адлегласці ім шкоды не прычыніш, толькі выдасі сябе!

Лугавец і Губчык бачылі, чаго каштавала лейтэнанту стрымацца. Нарэшце немцы перасталі збіваць палоннага, і ён, раскінуўшы рукі, нерухома ляжаў на сярэдзіне двара. Да яго падышлі двое і, узяўшы за ногі, пацягнулі ў кут двара. Там знаходзіўся хлеў, а побач невялікая прыбудова, дзе звычайна трымаюць свіней. Смеючыся, яны зацягнулі туды палоннага і зачынілі дзверы.

— Дай бог, каб ён выжыў, — глуха прагаварыў лейтэнант, — уначы мы наляцім сюды.

Яны праляжалі яшчэ каля дзвюх гадзін, перш чым лейтэнант адарваўся ад сваіх запісаў і схем. Ён працягнуў бінокль Лугаўцу:

— На, Жэня, назірай, фіксуй, у якія хаты немцы заходзяць, лічы, а я з Пятром прагуляюся далей уздоўж лесу. Паспрабуем перамовіцца з кім-небудзь з мясцовых. Бачыш, з лесу бярвёны возяць.

Сапраўды, немцы падвозілі бярвенне да траншэй, а разгружалі жанчыны і старыя. Купрэйчык падумаў, што астатнія жыхары вёскі, напэўна, сякуць лес.

Яны асцярожна рушылі ў глыб лесу. Праз паўгадзіны апынуліся ля дарогі, па якой з ровам праходзілі грузавікі з бярвеннем, павольна праязджалі вазы, запрэжаныя коньмі.

Купрэйчык доўга назіраў за дарогай, і Губчык, не вытрымаўшы, спытаў:

— Таварыш лейтэнант, чаго мы чакаем? Давайце я падыду да любога мужыка, які будзе ехаць на возе, і пагавару з ім.

— Э-э не, дарагі, — ледзь усміхнуўся Аляксей, — ты не спяшайся. Паляжы, панаглядай спачатку, а галоўнае, параскінь мазгамі, каго лепш паклікаць. Мужыка ці бабу. У такой справе можна і на бяду напароцца. Бо хто мог застацца пры немцах з мужыкоў? Ці бездапаможны стары, ці падлетак, ці ж баязлівец, а можа, той, хто іх уладу прызнаў. Усе іншыя мужыкі ў Чырвонай Арміі ці ў партызаны падаліся. Ты прыгледзься, міма нас праходзяць і такія, хто мог бы не лейцы, а вінтоўку ў руках трымаць. Так што лепш нам да жанчыны звярнуцца. Яна ў такой сітуацыі больш надзейная.

Губчык замоўк і цярпліва чакаў, калі камандзір загаворыць з ім. Нарэшце на дарозе паказаўся воз, на якім ляжалі два даволі доўгія бервяны. Побач з возам ішла, цяжка перастаўляючы ногі, пажылая жанчына. На дарозе нікога не было, і Купрэйчык рызыкнуў. Ён устаў і паклікаў жанчыну:

— Матуля, мы — чырвонаармейцы! Не бойцеся нас, каня прывяжыце да дрэва і падыдзіце да нас, спытаць сёе-тое хочам.

Жанчына спалохана азірнулася і зрабіла некалькі крокаў наперад.

— Ды вы не бойцеся нас, — працягваў супакойваць яе Купрэйчык, — мы свае — савецкія!

Жанчына, прывязаўшы лейцы за дрэва, накіравалася да воінаў, насцярожана паглядаючы на іх, разглядаючы іхнюю дзіўную вопратку.

Купрэйчык зразумеў, што яе бянтэжыць, усміхнуўся і расшпіліў куртку:

— Ды мы свае, матуля, свае! Мы разведчыкі і таму так апрануты!

— Родненькія, і сапраўды свае! Тут жа вакол немцы, вам сыходзіць трэба!

— Не хвалюйцеся, усё будзе добра! Вы лепш скажыце, куды лес возіце?

— Як куды? Нас жа ўсіх немцы на работу выгналі, акопы будуем.

— Што ж вы акопы супраць сваіх будуеце?— спытаў Купрэйчык і адразу пашкадаваў.

Жанчына паглядзела на яго шырока раскрытымі вачамі і раптам заплакала:

— Ой, міленькія вы мае, маіх жа чацвёра сыноў у Чырвонай Арміі, а сама, атрымліваецца, немцам дапамагаю! Як падумаю пра гэта, дык хоць у пятлю лезь! Яны ж усіх: і старых, і баб, і нават малалетніх дзяцей на работы выгналі. Траіх, хто не выйшаў, — расстралялі, а хаты газай аблілі і спалілі.

У гэты момант пачуўся шум матора, і лейтэнант хутка сказаў:

— Вяртайцеся да каня і зрабіце выгляд, што з возам ці з канём важдаецеся, а калі машына пройдзе, пагаворым яшчэ.

Толькі жанчына падышла да каня і ўзялася за аброць, як паказаўся цяжка гружаны бярвеннямі грузавік. Смуродзячы дымам, ён павольна праехаў міма. Лежачы ў кустах, разведчыкі паспелі ўбачыць, што ў кабіне сядзелі двое: шафёр і салдат, хутчэй за ўсё аўтаматчык.

Як толькі машына схавалася за бліжэйшым паваротам, жанчына хутка падышла да разведчыкаў. Выціраючы вочы кончыкам лінялай паркалёвай хусткі, запыталася:

— І калі ўжо вы прагоніце іх?

— Прагонім, матуля, абавязкова прагонім! — паабяцаў Купрэйчык. — А вы не ведаеце, што за часць у вас у вёсцы стаіць?

— У вёсцы знаходзіцца іх будаўнічая часць. Яна і будуе акопы. Але ёсць і іншыя немцы. Яны з іншай часці. Гэтыя самыя небяспечныя. Учора прывялі аднаго партызана, дык вы б паглядзелі, як яны здзекаваліся з яго. І білі, і косткі ламалі — усё выпытвалі, хто ён і дзе іншыя партызаны знаходзяцца.

— Ну і што з ім?— спытаў Купрэйчык, а сам успомніў, як фашысты збівалі ваеннапалоннага.

— Не вытрымаў ён катаванняў і памёр. Немцы прымусілі старых за вёскай, у полі, яму вырыць і кінулі туды, бедненькага, нават узгорачка не дазволілі над магілай зрабіць, не тое каб крыж паставіць.

— А ў якой хаце жывуць тыя, да каго партызана прыводзілі?

— Недалёка ад краю вёскі, — і жанчына, блытаючыся, стала тлумачыць. Але Купрэйчык зразумеў, што гаворка ідзе пра тую ж хату, у двары якой збівалі чырвонаармейца..

— Матуля, а хто ў той хаце жыве?

— Тры іхнія афіцэры. Злыя, як сабакі!

— Хата ахоўваецца?

— Так, з вечара салдат з аўтаматам вакол хаты ходзіць.

Жанчына яшчэ трохі пастаяла з разведчыкамі і пайшла да воза.

А Купрэйчык не спяшаўся пакідаць лясную дарогу. Яны з Губчыкам неўзабаве спынілі старога, які стомлена цягнуўся побач з возам. Стары цалкам пацвердзіў тое, што сказала жанчына.

Неўзабаве Купрэйчык і Губчык адправіліся назад да свайго НП. Лугавец, убачыўшы іх, прагаварыў:

— І дзе гэта вас чэрці носяць? Думаў, можа, папаліся ўжо і вось-вось прывядуць вас у гэту вёску, як таго чырвонаармейца.

— Не бурчы, Яўген, — усміхнуўся Купрэйчык, — скажы лепш, што новага?

— Ды амаль нічога. Немцы на грузавіку павезлі палоннага. Дарэчы, афіцэры з гэтай хаты заслугоўваюць таго, каб мы ўначы іх наведалі. Яны не маюць дачынення да сапёраў. Бачыце хату з блакітнай ліштвой?

— Гэта тая, дзе легкавушка ў двары стаіць? — спытаў лейтэнант.

— Так. Абедалі там чалавек шэсць афіцэраў.

— Хата ахоўваецца?

— Так. Вартавы нядаўна ў цянёк забраўся каля хлява. Афіцэрчыкі сышлі з хаты, вось ён і вырашыў, што няма чаго тырчаць на санцапёку, — працягваў

Лугавец. — Вунь там, на грудку, немцы закапалі ў зямлю самаходкі, — паказаў ён рукой лявей вёскі.

Купрэйчык узяў бінокль і паглядзеў на граду невялікіх гмахаў, што ланцужком працягнуліся за змейкай траншэі. Аднак ён не адразу заўважыў памайстэрску схаваныя браніраваныя машыны. Налічыў пяць, якраз па колькасці ўзгоркаў. Потым удакладніў у Лугаўца:

— Колькі самаходак?

— Пяць. Яны іх добра прыхавалі, нават маскіровачныя сеткі нацягнулі.

Купрэйчык зрабіў адпаведныя адзнакі на схеме.

— Што яшчэ?

— У лесе стральбу чуў. Ці не нашы на немцаў напароліся?

«І я таксама чуў, — засмуціўся Купрэйчык, — а ўвагі не звярнуў».

Неўзабаве вярнуліся разведчыкі. Яны прывялі звязанага нямецкага афіцэра-танкіста.

Чарнецкі стомлена растлумачыў:

— Абследавалі мы свой раён, выявілі, што лес, вось у гэтым квадраце, — ён пальцам паказаў месца на карце, — забіты войскамі. Танкі, самаходкі, пяхота — адным словам, даволі дужы кулак сабраны для ўдару. Дарэчы, палонны пацвердзіў гэта. Прыйшлося нам дапытваць яго адразу, як узялі, баяліся, што калі раптам напорамся на іх засаду, то можам страціць каштоўнага языка. Ісці было цяжка, таму і спазніліся.

Калі лейтэнант скончыў дакладваць і яшчэ раз прааналізаваў здабытыя звесткі, турботная думка не давала яму спакою. Ён глядзеў на карту і думаў: «Не трэба быць вялікім стратэгам, каб разгадаць задуму немцаў. Супраць нашай дывізіі яны рыхтуюць умацаванні, думаюць абараняцца. Напэўна, лічаць, што калі мы прасунуліся на захад далей іншых, значыць, нашымі войскамі наносіцца галоўны ўдар менавіта тут. А там, дзе загразла суседняя дывізія, немцы рыхтуюцца да нападу. У гэтым месцы яны і могуць нанесці ўдар па левым флангу».

Доўга думаў камандзір, перш чым прыняў рашэнне. І прыняўшы яго, тут жа сабраў вакол сябе байцоў:

— Тут застанецца Чарнецкі і з ім яшчэ шэсць чалавек. Ваша задача: дачакацца вяртання групы, якую я накірую да вас пасля аперацыі ў вёсцы, і разам з вось гэтым данясеннем, — лейтэнант працягнуў Чарнецкаму некалькі лістоў паперы, складзеных у чатыры столкі, — даставіць палоннага, а магчыма, і двух, калі здабудзем у вёсцы яшчэ, у полк. Мы ж пойдзем далей.

Калі яны падышлі да вёскі, пайшоў дождж. Ён усё ўзмацняўся, ператвараючыся ў сапраўдны лівень. Купрэйчык не ведаў, цешыцца ці засмучацца яму. Вядома, падчас дажджу падабрацца да вартавога лягчэй, але затым ісці па мокрай, раскіслай раллі, якая раскінулася па той бок вёскі, будзе нялёгка.

У цемры яны наблізіліся да вёскі Дзедава, і аперацыя пачалася.

Лейтэнант ішоў на чале групы, углядаўся ў чорную ноч, якая пры шуме дажджу здавалася жудаснай. Справа засталася расплывістая пляма — гэта хата. А разведчыкі імкнуліся да суседняй. Вось і плот. Сцяпаныч моўчкі падставіў сваю шырокую спіну пад мокрыя і брудныя боты таварышаў. Усё пералезлі праз плот, а Сцяпаныч і Губчык засталіся з гэтага боку. Залеглі, трымаючы пад прыцэлам два бакі цёмнай, без агеньчыка вуліцы, якую палівaў дождж.

Часавога лейтэнант вырашыў зняць сам і, сціскаючы ў руцэ фінку, павольна поўз па двары да хлява, дзе, прыціснуўшыся спінаю да бярвення, на пустой скрыні, бокам да Аляксея, сядзеў нямецкі салдат. Калі да яго засталося не больш як чатыры метры, Аляксей пачаў асцярожна паднімацца. Але раптам салдат ускочыў і накіраваў на яго вінтоўку…

## Лейтэнант Аляксей Купрэйчык

Лейтэнант зноў плюхнуўся ў бруд. «Няўжо заўважыў?»

А часавы замёр, трымаючы вінтоўку напагатоў. У гэты момант ззаду пачуўся шоргат. Купрэйчык асцярожна азірнуўся. Ледзь распазнаў постаць чалавека. «Хто гэта? Немец! З нашых тут нікога не павінна быць», — трывожна падумаў Аляксей і ліхаманкава пачаў шукаць выйсце са становішча, якое склалася. А сітуацыя ўсё больш ускладнялася. Немцы, пакуль не падыходзячы адзін да аднаго, гучна загаварылі. Па асобных знаёмых фразах лейтэнант зразумеў, што яны лаюць надвор’е.

«Калі яны будуць ісці насустрач адзін аднаму, то хтосьці з іх напорацца на мяне!» Купрэйчык асцярожна, сантыметр за сантыметрам пачаў адпаўзаць да плота. Але, на шчасце, немец, які знаходзіўся ззаду, штосьці сказаўшы на развітанне, увайшоў у хату. Вартавы тут жа вярнуўся на сваё месца.

«Наперад!» — загадаў сабе лейтэнант і, падняўшыся на ногі, ірвануўся да немца. Левая рука, у якой была мокраяануча, уваткнула ў рот вартавому кляп, а правая — усадзіла пад лапатку нож. Вартавы са стогнам зваліўся на зямлю. Купрэйчык на ўсякі выпадак звыклым рухам выцягнуў з вінтоўкі затвор і кінуў яго ў агарод, затым вярнуўся да сваіх. Шэптам падаў каманду. У хату павінны былі ўвайсці разам з лейтэнантам трое разведчыкаў, следам — яшчэ двое. Астатнія занялі пазіцыі ля вокнаў.

Купрэйчык злёгку пацягнуў дзверы: «Зачынена! Што ж рабіць?» Ён яшчэ раз злёгку пакратаў іх. Дзверы свабодна адыходзілі ад каробкі і ўтваралі шчыліну, значыць, яны зачынены на дрэнна падагнаны кручок. Аляксей выняў з чахла нож, уставіў яго ў шчыліну. Вось лязо нажа натыкнулася на перашкоду. Купрэйчык пачаў павольна падымаць угару нож. За спінай адчуваў напружанае дыханне разведчыкаў.

Нарэшце пачуўся лёгкі рывок — гэта крук выйшаў з клямкі, — і дзверы адчынены! Зрабіўшы некалькі асцярожных крокаў, разведчыкі апынуліся ў цёмных сенцах. Купрэйчык памятаў, што ў хату зусім нядаўна ўвайшоў немец, і ён, вядома, заснуць яшчэ не паспеў, але і чакаць, пакуль ён засне, небяспечна. Хто ведае, можа, тым часам да хаты набліжаюцца яшчэ немцы ці тыя, хто ў хаце, пачнуць збірацца на якія-небудзь начныя работы, і тады без страляніны не абысціся. А шуму дапусціць нельга.

«Так што не дрэйфі, лейтэнант, — падбадзёрыў сябе Аляксей і загадаў: — Наперад!» Ён намацаў клямку дзвярэй, што вялі ў пакой, і пацягнуў яе на сябе. Дзверы з рыпам адкрыліся, і лейтэнант не марудзячы перайшоў праз высокі парог. Як ён і меркаваў, яны адразу патрапілі ў прыхожую, якая адначасова служыла і кухняй. Злева, у куце, бялела печ, на ёй, як чорная зяпа, вылучалася топка. Разведчыкі прайшлі далей і апынуліся ў вялікім пакоі. Ярка ўспыхнулі прамяні кішэнных ліхтарыкаў. У пакоі чатыры ложкі. На іх спалі людзі. Раптам адзін з іх, які ляжаў справа ад Купрэйчыка, заварушыўся і сеў. Ён устрывожана спытаў:

— Вас іст дас?

Аляксей кінуўся да яго і паспеў нават заўважыць белы колер яго сподняй кашулі. Удар нажа прыйшоўся прама ў сэрца, таму немец бязгучна адкінуўся на падушку. І тут жа ў правым куце гучна закрычаў яшчэ адзін немец. Ён так пхнуў разведчыка, які падбег да яго, што той зваліўся і збіў з ног байца, які кінуўся на дапамогу свайму таварышу. Купрэйчык асвятліў правы кут пакоя ліхтарыкам і ўбачыў, што немец ужо дастаў з-пад падушкі пісталет і ліхаманкава схапіўся за затвор. І хто ведае, чым бы гэта ўсё скончылася, калі б не

Шчука, які маланкава скокнуў на немца і выбіў з яго рук пісталет. Астатнія два немцы супраціўлення не аказалі. Лейтэнант, блытаючы рускія і нямецкія словы, загадаў ім апранацца.

І перад разведчыкамі паўсталі два немаладыя афіцэры. Аднаму было ўжо за пяцьдзясят, а гаўптману — гадоў сарок пяць. Яны стаялі з паднятымі ўгору рукамі і ад страху дрыжалі.

Купрэйчык загадаў сваім:

— Забярыце дакументы і зброю забітых, збярыце на стале схемы і карты, праверце, ці няма яшчэ дзе-небудзь у пакоі дакументаў.

Трое разведчыкаў кінуліся выконваць загад, а двое пачалі звязваць рукі палонным.

Праз некалькі хвілін разведчыкі выйшлі з хаты і накіраваліся на вуліцу, дзе іх чакалі Зайцаў і Губчык. Сцяпаныч наблізіўся да Купрэйчыка:

— Ну як, камандзір, парадак?

— Парадак, Серафім. Як там нашы?

— Нармальна, яны пайшлі ўжо да месца сустрэчы.

— Ну тады і мы рушым.

Купрэйчык быў усхваляваны, прыспешваў байцоў, праверыў кляпы ў палонных.

Нарэшце вёска засталася ззаду, і неўзабаве яны сустрэліся з разведчыкамі ў лесе.

Лугавец прыгнечана далажыў:

— Разумееш, вартавога прыбралі без шуму, а вось у хаце затрымка атрымалася. Там толькі адзін афіцэр аказаўся, а слых у яго — сабачы. У хату ўвайшлі без шуму, толькі ўключыў я ліхтарык, а на ложку ў адной бялізне фрыц сядзіць і ў нас целяе. Добра, што Юра Маліна загадзя пісталет у плашчпалатку загарнуў і калі стрэліў у немца, то гук не моцны атрымаўся, а афіцэр — напавал.

— Дакументы забралі?

— Вядома.

— Ну і чорт з ім, з афіцэрам, не перажывай. Мы ж двух узялі, а калі б яшчэ і ваш, то куды б мы іх дзелі?

Купрэйчык разумеў, якая складаная задача стаяла перад яго ўзводам. Трэба было праз фронт правесці адразу трох палонных і ён змяніў раней прынятае рашэнне. З сабой пакінуў толькі Губчыка і Зайцава, астатнім на чале з Лугаўцом загадаў даставіць палонных і здабытыя дакументы да месца знаходжання групы Чарнецкага.

Цяжкі быў гэты дзень, не раз даводзілася падоўгу ляжаць у гразі, чакаючы, калі міма пройдуць нямецкія салдаты, асцярожна прабірацца каля вайсковых часцей, але, калі наступіла ноч, у цемры ўжо была відаць лінія фронту. У разведчыкаў з'явілася нібы другое дыханне, і іх думкі былі ўжо там, на нічыйнай паласе.

Каб не напароцца на немцаў па шляху да лініі абароны, Купрэйчык вёў разведчыкаў па ворыве. Губчык усё дзівіўся, як лейтэнант бачыць у цемры.

Раптам камандзір спыніўся і махнуў рукой у бок. Пасля гэтага ён першым павярнуў налева, і праз пяць крокаў яны ўсе трое апынуліся ў вялікай варонцы ад магутнай бомбы. На дне яе было нямала вады.

— Пачакаем тут, — ціха сказаў лейтэнант, уладкоўваючыся на краю варонкі так, каб ногі не дакраналіся вады, — да іх другой лініі акопаў не больш за сто метраў. Пачакаем трохі, хай супакояцца, а то завялі, як я бачу, з Арэшкам сварку, таго і глядзі, што і нас зачэпяць.

Усе трое маўчалі. Толькі было чуваць, якваждаўся Губчык, спрабуючы ямчэй уладкавацца, і Зайцаў чамусьці гучна соп носам. Купрэйчык уважліва сачыў за ўспышкамі стрэлаў з траншэі немцаў, за тымі кропкамі, адкуль бралі свой пачатак агністыя радкі трасіраваных куль.

Ён стараўся па характары чаргі ці асобнага стрэлу вызначыць, у якім месцы траншэі знаходзіцца кулямётчык ці проста стралок. Прайшло яшчэ не меней як дзве гадзіны, перш чым стральба пачала цішэць. Нарэшце толькі рэдкія кулямётныя чэргі парушалі цішыню ды зрэдку ўзляталі асвятляльныя ракеты над пазіцыямі праціўніка.

Лейтэнант пачакаў яшчэ з гадзіну і шэптам прамовіў:

— Пайшлі, хлопцы! Я наперадзе, Губчык — за мной, а ты, Сцяпаныч, — замыкаючы.

Паўзлі па мокрай і халоднай раллі. Наперадзе паказалася цямнеючая нітка другой лініі акопаў.

Небяспека напароцца на немцаў у ёй была меншай, чым у пярэдняй, размешчанай метрах у двухстах. Але ўсё адно — трэба было быць гатовым да ўсяго.

Лейтэнант падняўся на ногі, пераскочыў траншэю і адразу ж зваліўся, чакаючы, ці не раздасца ззаду стральба. Па шолаху насыпнога бруствера Аляксей зразумеў, што Губчык і Зайцаў пераскочылі траншэю. Разведчыкі папаўзлі далей.

Дасягнуўшы першай лініі абароны, яны зноў стаіліся, напружана прыслухоўваючыся: ці не кашляне хто, ці не бразне затворам, перазараджаючы зброю, ці не пачуецца рух на дне траншэі. Не, усё спакойна. Аляксей на імгненне прыўзняўся і скокнуў праз траншэю, за ім Серафім і Пётр. Яны тут жа пачалі адпаўзаць далей да нейтральнай паласы. Пакуль усё ішло добра. Купрэйчык стаў прыкідваць адлегласць, на якую яны адпаўзлі ад траншэі, калі ў неба адна за другой узвіліся дзве белыя ракеты.

Разведчыкі адразу ж уткнуліся ў зямлю. Аляксей быў метрах у трох наперадзе ад астатніх, і калі б пры мігатлівым святле ракет паспеў зірнуць наперад, то ўбачыў бы, што ў метры ад яго знаходзіцца драцяная загароджа. Як толькі ракеты пагаслі, ён ірвануўся наперад і тут жа напароўся на калючку, а на ёй пустыя бляшанкі з-пад кансерваў. Яны адразу ж гучна зазвінелі. У небе ўспыхнулі ракеты. Па тым, як распаролася вакол зямля, лейтэнант зразумеў, што яны патрапілі ў кропку, якую загадзя прыстралялі кулямётчыкі, а гэта значыць, што калі неадкладна не выскачыць адсюль, то хутка іх целы будуць падобныя на рэшата. Ускокваць і бегчы, нават рухацца, было нельга. Усё гэта імгненна пранеслася ў галаве лейтэнанта, і ён крыкнуў:

— Зайцаў, ракеты!

У неба ўзвілася чырвоная ракета, праз некалькі секунд — другая. І адразу ж, нібы даўно падпільноўвала іх, ударыла артылерыя. Над нямецкімі пазіцыямі з’явіліся чырвона-барвовыя сполахі разрываў.

«Малайцы артылерысты, — падумаў Купрэйчык, — чакалі нашага сігналу».

Пераразаць агароджу не было чым, і лейтэнант, сунуўшы магазін аўтамата пад ніжні дрот, паставіў яго на прыклад і загадаў:

— Хутчэй, хлопцы, ныраймце!

Першым пралез Губчык, за ім — Зайцаў. Ён лёг уздоўж дрота, перахапіўшы ў камандзіра аўтамат:

— Давай, Аляксей!

Купрэйчык тут жа адпусціў аўтамат і падлез пад дрот. Праз пару секунд ён быў ужо на другім боку. Павярнуўся, каб узяць свой аўтамат, і ўбачыў, як

да яго нясуцца чырванаватыя кропкі. Яны свяціліся. «Як чмялі», — паспеў падумаць ён і страціў прытомнасць.

Купрэйчык не чуў, як Зайцаў і Губчык цягнулі яго па набраклым ворыве. Потым пачуўся доўгачаканы вокрык назіральніка: «Стой! Хто ідзе?» Пасля таго як Зайцаў сказаў пароль, да іх насустрач кінуліся байцы, падхапілі і асцярожна зацягнулі Аляксея ў траншэю.

Не чуў ён, як Арэшка, які ўжо стаў камандзірам роты, па тэлефоне паспешліва дакладваў камандзіру палка пра вяртанне разведчыкаў.

Аляксей ачуўся толькі на трэція суткі.

Ён ляжаў дагары тварам і першае, што ўбачыў — гэта столь з шырокіх непафарбаваных дошак.

«Дзе я? — падумаў Купрэйчык, спрабуючы ўспомніць, што ж з ім адбылося. Яму доўга прыйшлося напружваць памяць, збірацца з думкамі, каб успомніць, як там, ужо на падыходзе да сваіх, ён убачыў чырвоныя кропкі, якія нясуцца да яго. — Значыць, я паранены, але куды? Чакай-чакай, а раптам мяне ўзялі ў палон?»

Ад гэтай думкі Аляксей застагнаў, і тут жа над ім з’явіўся незнаёмы твар і ён пачуў жаночы голас:

— Што, ачуўся, сынок?

Аляксей хацеў спытаць, куды яго параніла і дзе ён знаходзіцца, але бабулька — цяпер лейтэнант разгледзеў яе твар выразна — прыклала палец да вуснаў:

— Маўчы, сынок, маўчы, галубок! Табе нельга размаўляць, куля трапіла ў горла, і ўрач сказаў, што некалькі тыдняў табе давядзецца памаўчаць, бо размаўляць не зможаш. Ты паляжы, а я доктара паклічу.

«Значыць, не ў палоне», — з палёгкай уздыхнуў лейтэнант і зноў пачаў успамінаць пра пераход лініі фронту: «Цікава, ці дайшоў узвод да нашых? Даставілі хлопцы палонных? Што з Зайцавым і Губчыкам?»

Ох, як хацелася ведаць лейтэнанту пра гэта. Але хто адкажа яму на гэтыя пытанні?

У гэты момант над ім схіліўся мужчына. Чыста выгалены твар, вялікія, з чырванаватымі бялкамі, стомленыя вочы.

«Урач, — здагадаўся Аляксей, — мяркуючы па вачах, для яго самая вялікая мара — гэта выспацца».

А ўрач ледзь усміхнуўся яму і сказаў:

— Ну вось, гвардзеец, пачынаем жыць. А пакуль ты тут ляжаў, два генералы табой цікавіліся. Адчуваецца, што ты ім добрую службу саслужыў. А зараз слухай мяне. У цябе некалькі кулявых раненняў: адно ў галаву, другое ў правую частку грудзей і трэцяе ў вобласць гартані. Ад гэтага развіўся моцны яе ацёк. А гэта значыць, што некаторы час давядзецца памаўчаць.

І, відавочна, улавіўшы ў вачах Купрэйчыка трывогу, урач паспешна і грубавата растлумачыў:

— Не турбуйся, праз тыдзень-другі будзеш малоць языком, як і дагэтуль. — Ён выпрастаўся і камусьці нябачнаму сказаў: — Давайце хлопца на перавязку!

Падышлі два пажылыя санітары. Яны асцярожна пераклалі Купрэйчыка на насілкі і панеслі.

Прайшло тры дні. Купрэйчык ужо ведаў, што знаходзіцца ў палявым шпіталі, які размясціўся ў невялікай прыфрантавой вёсачцы. Хаты служылі палатамі, у двухпавярховым клубе знаходзіліся штаб і сталовая шпіталя. Сюды выразна даносіліся гукі артылерыйскай і кулямётнай стральбы.

Неяк пасля ранішняга абыходу ў палату вярнуўся лечачы ўрач — Іван Спірыдонавіч Лазараў, з ім тры афіцэры. Купрэйчык адразу ж пазнаў камандзіра палка Васільева, які стаў падпалкоўнікам, і камісара палка Малахава. Трэцім быў незнаёмы генерал. Усе па чарзе пацiснулі лейтэнанту левую руку, правая ў яго пакуль амаль бяздзейнічала.

Васільеў сказаў:

— Вось, Аляксей Васільевіч, да цябе прыбыў член Ваеннага савета арміі Карпаў.

Генерал, усміхаючыся Купрэйчыку, басавіта загаварыў:

— Што вы часова не можаце размаўляць, мы ведаем. Але слухаць вам урачы не забаранілі, так што слухайце. За паспяховае выкананне асобага задання камандавання вы ўзнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга. Я з задавальненнем выконваю ўскладзеную на мяне прыемную місію і ўручаю вам высокую ўрадавую ўзнагароду.

Генерал адхіліў край коўдры і проста на бальнічную кашулю прымацаваў ордэн, а ў левую руку лейтэнанта, якая адразу стала потнай, уклаў скрыначку і пасведчанне. Параненыя ў палаце дружна зааплaдзіравалі. Купрэйчык хацеў хоць крышачку прыпадняцца, але востры боль у грудзіне адкінуў яго зноў на падушку.

— Ляжыце, ляжыце, таварыш лейтэнант, — сказаў генерал і зрабіў крок убок, даючы магчымасць Васільеву і Малахаву падысці да параненага бліжэй. Тыя таксама пацiснулі руку Купрэйчыку. Камісар пацалаваў яго ў няголеныя шчокі:

— Дзякуй табе, Аляксей Васільевіч, тваім хлопцам дзякуй! Ты нават не ўяўляеш, якіх каштоўных языкоў вы нам здабылі! Усіх тваіх гвардзейцаў узнагародзілі.

Купрэйчык усхвалявана слухаў камандзіраў, яго цяпер мучыла толькі адно пытанне: што з хлопцамі? Ці ўсе жывыя? Нарэшце не вытрымаў і жэстам папрасіў, каб яму далі аловак і паперу. На лісце, выдраным урачом са сшытка, дзе ён рабіў розныя запісы, Купрэйчык з вялікай цяжкасцю левай рукой надрапаў: «Хлопцы!»

Камандзір палка прачытаў і спытаў:

— Цябе цікавіць, што з хлопцамі?

Купрэйчык пацвердзіў гэта, міргнуўшы вачамі.

Васільеў і Малахаў зірнулі адзін на аднаго, а затым, нібы па камандзе, запытальна паглядзелі на генерала. Карпаў ледзь кашлянуў, а затым рашуча ўзмахнуў рукой:

— Чаго ўжо тут цямніць. Ён — камандзір і павінен ведаць, што з яго падначаленымі.

Камісар павярнуўся да Купрэйчыка і, не гледзячы ў вочы, глуха сказаў:

— Заданне твой узвод выканаў, але пры пераходзе лініі фронту загінулі Грамоў, Шчука і Цімахавец… Маліна і Чарнецкі паранены… Атрымалася так, што ім прыйшлося практычна з боем прарывацца.

Камісар паглядзеў у твар камандзіра ўзвода і ўбачыў, як звузіліся, нібы ад нясцерпнага болю, яго вочы.

— Забітых не пакінулі, іх целы прынеслі. Пахавалі з усімі ўшанаваннямі, як і трэба героям. Яны пасмяротна ўзнагароджаны ордэнамі Баявога Чырвонага Сцяга.

Лейтэнант, здавалася, не слухаў камісара. Ён ляжаў з паўзакрытымі вачамі і думаў пра сваіх таварышаў: “Толя Грамоў, Віктар Шчука, Восіп Цімаха-

вец — мае верныя сябры, іх ужо няма ў жывых. Хоць гэта я іх накіраваў праз лінію фронту, і яны загінулі», — вочы Аляксея напоўніліся слязамі.

Карпаў ціха сказаў:

— Трымайся, салдат! Мы з табой знаходзімся на вайне, а гэта значыць, што страты непазбежныя. — Генерал заклапочана зірнуў на гадзінннік. — Ну, лейтэнант, яшчэ раз прымі віншаванні з узнагародай і выбачай, брат, справы.

Прайшлі суткі, а раніцай наступнага дня падняўся перапалох. Паступіў загад неадкладна эвакуіраваць шпіталь. Аказалася, што немцы ўдарылі па пазіцыях суседняй дывізіі і прарвалі абарону. Шпіталь апынуўся на вастрыні нападу нямецкіх танкаў. Параненых хутка грузілі ў машыны гаспадарчага ўзвода, раней прыкамандзіраванага да шпіталя, і добраахвотнікі з ліку тых, хто выздараўліваў, спешна рыхтавалі на подступах да вёскі лінію абароны.

Неўзабаве калона апынулася на пагрузачным пункце. Параненых выгружалі з машын і клалі проста на коўдры ці, у лепшым выпадку, на насілкі. Двое пажылых салдат і маладзенькая медсястра, якая дапамагала ім, знялі Купрэйчыка з кузава і паклалі на насілкі, што вызваліліся. Аляксей мог бачыць толькі тое, што было прама над ім, пакутуючы, ён не мог нават павярнуць галавы.

Вакол раўлі матоPы і крычалі людзі.

З абрыўкаў размоў Аляксей зразумеў, што вось-вось тут апынуцца немцы і гэта загружаецца апошні эшалон. Лейтэнанту стала страшна ад думкі, што пра яго забыліся і ён можа апынуцца ў палоне.

Раптам у гэтай мітусні ён пачуў зусім побач голас: «Таварыш Кір’янава, вы адказная за пагрузку і адпраўку эшалона?»

Жаночы голас адказаў: «Так, я».

Мужчына запатрабаваў: «Дык адпраўляйце ж хутчэй! Вось-вось з’явяцца нямецкія танкі».

Жанчына ўпарта адказала: «Пакуль усе параненыя не будуць пагружаны, я эшалон не адпраўлю!»

Купрэйчык увесь успацеў. «Госпадзі, — думаў ён, — дык гэта ж Надзя, жонка мая!» Ён колькі мог скасіў вочы ў бок тых, хто размаўляў. Але нічога не ўбачыў. Аляксей паспрабаваў павярнуць галаву, але рэзкі боль спыніў яго.

І тут ён убачыў яе! Так, гэта была Надзя. І звалі яе дзявочым прозвішчам — Кір’янава.

Купрэйчык паспеў падумаць: «Нічога дзіўнага, бо пашпарт яна так і не паспела памяняць».

А Надзя, нібы цвелячы нямоглага мужа, спынілася побач. Затым проста зірнула на яго і, павярнуўшыся бокам, сказала двум мужчынам і жанчыне, апранутым гэтак жа, як і яна, у забруджаныя белыя халаты, якія падышлі да яе, каб тыя хутчэй грузілі параненых.

Адзін з мужчын заклапочана сказаў:

— Надзея Лявонцьеўна, мне здаецца, чалавек трыццаць параненых не змесцяцца.

Надзя злосна і рашуча адказала:

— Трэба змясціць усіх! Хоць на праходы, у тамбуры, хоць на дахі, але іх неабходна неадкладна адправіць. У крайнім выпадку тыя, хто пойдзе са мной праз лес на злучэнне з санбатам, панясуць параненых з сабой.

Ад гэтых слоў Купрэйчыку стала яшчэ горш, да яго свядомасці дайшло, што Надзя застанецца тут і не паедзе на цягніку. Ён падняў руку і пачаў махаць ёю, зваў Надзю, хацеў, каб яна заўважыла яго. Ён са страхам падумаў: «Яна ж цяпер адыдзе ад мяне! — І стаў у думках клікаць жонку: — Ды зірні ж ты на мяне! Чуеш, зірні!»

Надзя, нібы пачуўшы яго, павярнулася ў бок Купрэйчыка і, убачыўшы яго жэсты, звярнулася да жанчыны:

— Ганна Пятроўна, падыдзіце да параненага, ён штосьці хоча.

А сама зрабіла некалькі крокаў і знікла з поля зроку.

Жанчына схілілася над лейтэнантам:

— Ну, што ты хочаш, мілы?

Аляксея пачалі біць дрыжыкі. Ён паказваў у бок, дзе павінна была быць Надзя, і мыкаў.

Жанчына паглядзела туды, куды цягнулася рука параненага, і разгублена спытала:

— Не разумею, што ты хочаш? Можа, судна?

Купрэйчык не мог бачыць, што Надзя ўжо адышла. Жанчына ж, схіліўшыся над ім, зразумела яго жэст  па-свойму.

Яна выпрасталася і паклікала двух байцоў-санітараў, якія прабягалі міма:

— А ну, таварышы, пагрузіце гэтага параненага!

— Гэта можна, — ахвотна пагадзіліся тыя, — дзякуй богу, што змясціліся ўсе.

Яны паднялі насілкі і панеслі Купрэйчыка да вагона. Месца для яго знайшлося толькі ў тамбуры апошняга вагона. Аляксей глядзеў у абкуродымленую і брудную столь і плакаў. Ён ужо страціў надзею ўбачыць жонку. І раптам убачыў! Надзя пераступіла праз яго і прайшла ў вагон. Праз хвіліну яна вярнулася і, убачыўшы, як паранены на падлозе ў тамбуры махае ёй рукой, слізганула паглядам па яго брудна-крывавых павязках на галаве і шыі, па зарослых шчоках і спагадліва прагаварыла:

— Што, міленькі, балюча? Патрывай трохі, зараз цягнік адправіцца, і хутка будзеце ў шпіталі.

Пасля гэтага, не пазнаючы мужа, яна пераступіла праз яго і, спускаючыся па прыступках уніз, крыкнула камусьці:

— Адпраўляйце састаў!

Раздаўся кароткі гудок паравоза, ляснулі буферы, і цягнік крануўся. Купрэйчык ляжаў і плакаў…

Надзя, праводзіўшы вачамі апошні вагон, уздыхнула і накіравалася да лесу. Аднак палёгкі не адчула, штосьці ёй замінала, трывожыла. І раптам яна ўспомніла залітыя слязьмі вочы параненага на падлозе тамбура апошняга вагона. Успомніла, якія пакута і маленне былі ў гэтых вачах. Спынілася, быццам яе штурхнулі ў грудзі.

«Аляксей!» Яна павярнулася і хацела бегчы ўслед за цягнікам, але сілы пакінулі яе, і гледзячы ўслед цягніку, яна паволі апусцілася на зямлю. Да яе падбеглі двое ўрачоў:

— Надзея Лявонцьеўна, што з вамі?

Яна змагла толькі працягнуць руку ў бок адыходзячага цягніка і сцішаным голасам прагаварыць:

— Там… там мой муж!

## Камандзір роты старшы лейтэнант Мачалаў

Ішоў 1943 год...

У свабодную хвіліну на перадавой думкі Мачалава часта вярталіся ў мінулае. Хацелася разабрацца, прааналізаваць падзеі.

Мачалову ўспомніўся шпіталь. Яго сустрэча з Аляксеем, доктарам Вольгай Ільінічнай. Лёс Васілеўскай яго ўсхваляваў. Жанчына страціла дваіх дзя-

цей і носіць сваё гора ў сабе, таму што вакол яе гэтулькі няшчасцяў, смерцяў і крыві, што расказваць пра сваё проста няма каму…

— Таварыш старшы лейтэнант! А, таварыш старшы лейтэнант!

Мачалаў здрыгануўся і абярнуўся. Перад ім стаяў тэлефаніст:

— Вас камбат кліча да сябе.

— Добра, скажы, што пайшоў, — зірнуў на ардынарца, — сядзі, я адзін пайду.

Мачалаў зайшоў у бліндаж, зняў са сцяны аўтамат, які вісеў на цвіку, выйшаў вонкі, лёгка выскачыў з траншэі і пакрочыў да штаба батальёна. Ісці недалёка, з паўкіламетра.

Тарасаў стаяў каля стала, які быў зроблены па-паходнаму груба. Ён якраз разгортваў карту. У бліндажы ўздоўж сцен на нарах і пустых скрынях сядзелі камандзіры.

— Ну вось. Мачалаў прыйшоў — можам пачынаць, — ці то жартам, ці то сур'ёзна сказаў камбат і прапанаваў: — Падыходзьце, таварышы, бліжэй.

Усё сабраліся каля стала, і Тарасаў пачаў ставіць задачу.

Аказалася, што полк, у які ўваходзіў і іх батальён, атрымаў загад раніцай ударыць па пазіцыях праціўніка і захапіць некалькі населеных пунктаў. Тарасаў сам нядаўна прыбыў ад камандзіра палка і адразу ж сабраў камандзіраў рот.

Яны слухалі камбата, робячы пазнакі на сваіх картах. У душы Мачалава расла трывога. Сённяшні напад немцаў хоць і быў адбіты, але паказаў, што ў праціўніка якраз насупраць яго роты маюцца значныя сілы, у тым ліку і танкі. Нібы адказваючы старшаму лейтэнанту, маёр сказаў:

— Па ўсім фронце атакі нас падтрымаюць артылерыя, авіяцыя і дзе-нідзе танкі. Мачалаў, будзь гатовым вылучыць тры аддзяленні для таго, каб пасадзіць іх на танкі.

— Дык у мяне ж людзей — камарова жменя! З кім жа я ў атаку пайду?

— Танкі і дэсант на іх будуць дзейнічаць у паласе твайго наступлення, — рэзка абарваў камандзіра роты Тарасаў, але, падумаўшы трохі, сказаў: — Добра, дам я табе ўзвод разведчыкаў, хай падтрымаюць.

Мачалаў каторы раз казаў сабе: «За хлапчука прымае. Дарэмна я да яго ў батальён пасля шпіталя прасіўся».

Не ведаў Пётр, што зусім нядаўна камбат асабіста перадаў у полк прадстаўленне на ўзнагароджанне яго ордэнам Чырвонай Зоркі і што, характарызуючы яго, не шкадаваў добрых слоў.

Але Мачалаў пра гэта нават не здагадваўся. Ён спяшаўся да сваіх, прыкідваючы дзеянні роты, якую яму досвіткам трэба будзе весці ў бой.

Першым у траншэі ён сустрэў камандзіра трэцяга ўзвода Рубава. Пакуль той спакойна напаўголаса дакладваў становішча, Мачалаў паспеў у паўзмроку разгледзець старшыну Ляркова: той застыў метрах у пяці і чакаў, калі камандзір роты вызваліцца. Пётр падумаў: «З маёй роты, акрамя Рубава, які ўжо стаў афіцэрам, Ляркова, сувязнога Чарнышенкі ды Ерамеева, з тых, з кім я ваяваў да ранення, нікога не засталося».

Рубаў скончыў даклад. Але Мачалаў не спяшаўся ісці, а звярнуўся да старшыны:

— Таварыш Ляркоў, знайдзіце Чарнышэнку, хай ён збярэ ў мяне ў бліндажы камандзіраў узводаў.

Ляркоў казырнуў і тут жа знік у цемры. Мачалаў павярнуўся да Рубава і ціха прагаварыў:

— Заўтра раніцой у атаку пойдзем, так што рыхтуйся, Лёва.

Раніцой рота была гатовая да бою. Стаяў моцны студзеньскі марозік, рыпеў пад нагамі снег, у лагчынах слаўся густы бялёсы туман, а вакол — цішыня.

Здавалася, што ўсё замерла ў чаканні бою. І ён пачаўся. Раздзіраючы ў жмуты туман, ударыла артылерыя, над галовамі з гулам пранесліся бамбардзіроўшчыкі і знішчальнікі. Над нямецкімі пазіцыямі ўзляталі ў паветра перамяшаныя са снегам камякі зямлі ўзнімаліся высокімі фантанамі ўзрывы бомбаў.

Агнявы і авіяцыйны налёт працягваўся нядоўга, і хвілін праз дзесяць агонь быў перанесены ў глыбіню абароны праціўніка, туды, куды ўчора пасля няўдалай атакі папаўзлі танкі і бронемашыны.

Над нашымі пазіцыямі ўзляцелі сігнальныя ракеты.

Мачалаў ускочыў на бруствер і, сціскаючы ў руцэ аўтамат, крыкнуў:

— За Радзіму! Наперад!..

Рота дружна паднялася ў атаку. Міма, абганяючы іх, пайшлі танкі, на брані якіх, хаваючыся за вежы, сядзелі дэсантнікі.

«Усё ж знайшоў камбат людзей для дэсанта», — узрадаваўся старшы лейтэнант і паглядзеў па баках. Як акінуць вокам ішлі ў наступленне роты. Немцы, ачомаўшыся пасля артылерыйскага і авіяцыйнага налётаў, адкрылі моцны і шчыльны агонь. З’явіліся першыя страты. Мачалаў бачыў, як зваліўся камандзір першага ўзвода. «Няўжо забіты?» — падумаў Пётр.

— Санітара да Герасімовіча! — крыкнуў ён і пабег наперад.

Але людзі ўжо заляглі. Упаў на зямлю і Мачалаў. Паглядзеў налева, дзе павінен атакаваць суседні батальён. Агонь праціўніка быў вельмі моцным. «А дзе ж Кісліцкі? — успомніў Мачалаў і вачамі адшукаў падбіты танк, у якім яшчэ з ночы павінны знаходзіцца трое яго салдат, — чаму ён маўчыць?» У гэты момант з танка па варожых акопах амаль адначасова ўдарылі два кулямёты. Знішчальным, амаль флангавым агнём яны загналі немцаў у акопы, размешчаныя якраз насупраць роты Мачалава, не даючы магчымасці высунуць галаву і весці прыцэльную стральбу. Гэтым адразу ж скарысталіся атакуючыя. Парторг Татушын, ён прыняў на сябе камандаванне першым узводам замест выбыўшага Герасімовіча, падняў сваіх людзей у атаку. Рота зноў кінулася наперад.

Немцы таксама ацанілі становішча і з флангаў адкрылі моцны агонь. Нашы танкі, якія перасеклі першую лінію, ужо «прасавалі» другую. Два з іх накіраваліся ўздоўж першай траншэі, страляючы з гармат і кулямётаў, душылі гусеніцамі баявыя кропкі праціўніка. Немцы засяродзілі агонь па гэтых танках, і неўзабаве абодва яны былі падбіты. Адзін успыхнуў, і з яго пачалі выскокваць танкісты ў падпаленых камбінезонах. У другога танка перабіла гусеніцу, і экіпаж, развярнуўшы вежу з гарматай у бок варожых гармат, павёў агонь па іх, а з кулямёта працягваў біць уздоўж варожых траншэй. Мачалаў бег і амаль не страляў, ашчаджаючы патроны для бою ў траншэі. Ён быў упэўнены, што цяпер справа дойдзе да рукапашнай. Нашы танкі і дэсант вялі бой на другой лініі абароны, і гітлераўцы, якія заселі ў першай, практычна адступіць не маглі. Вось яна — варожая траншэя. Байцы з крыкам «ура!» уступілі ў рукапашную.

Першым у траншэі Мачалаў убачыў немца, які сядзеў на кукішках спіной да яго і страляў чаргой з аўтамата. «І нашых, і сваіх, гад, б’е без разбору!» — паспеў падумаць старшы лейтэнант і кароткай чаргой скасіў фашыста. У траншэі завязалася жорсткая сутычка. Кароткія аўтаматныя чэргі і адзінкавыя стрэлы перамяшаліся з лютымі крыкамі, стогнамі параненых, глухімі і цяжкімі ўдарамі прыкладаў.

Звычайна флегматычны і сарамлівы старшына Ляркоў актыўна дзейнічаў вінтоўкай. Ён, апынуўшыся паміж двума фрыцамі, паспеў абрынуць на галаву аднаго магутны ўдар прыкладам і тут жа сустрэць штыком другога, які, замахнуўшыся сапёрнай лапаткай, падбягаў ззаду… Спрытна дзейнічаў і парторг. У яго ад нямецкай кулі заклініла аўтамат, і Татушын, схапіўшы яго за ствол, варочаў ім як дубінкай.

Мачалаў уважліва агледзеўся. Нямецкія салдаты, не вытрымаўшы імклівага і лютага націску, пачалі адыходзіць, некаторыя ў паніцы беглі ў розныя бакі, а асобныя, вырваўшыся з траншэі, уцякалі нават у бок нашых пазіцый. З падбітага танка кароткімі, злымі чэргамі біў па іх кулямёт. Мачалаў гучна крыкнуў:

— Хлопцы! Не затрымлівайцеся ў траншэі! Наперад, да наступнай! — І сам кінуўся да другой лініі абароны. Прайшло ўсяго некалькі хвілін, і вораг быў выбіты з другой траншэі. Невялікую вёсачку ўзялі з ходу. Немцы ў ёй не змаглі ўтрымацца. Але агонь іх артылерыі і танкаў, якія схаваліся за ўзгоркамі, станавіўся ўсё мацнейшым. Адзін за адным былі падбіты яшчэ тры нашы танкі. Астатнія адступіліся назад пад прыкрыццё ўзгорка. На высокім беразе невялікай рачулкі, якую пераадолелі байцы роты Мачалава, мерзлая зямля ўсё больш пакрывалася ўзрывамі варожых снарадаў.

Салдаты, лежачы ў снезе, ліхаманкава дзяўблі маленькімі сапёрнымі лапаткамі цвёрдую, як бетон, зямлю. І хоць вакол кожнага з іх высілася горка снегу, яна толькі стварала бачнасць абароны ад снарадаў. Асколкі са свістам прашывалі іх наскрозь.

Мачалаў выпусціў дзве чырвоныя ракеты — гэта быў сігнал для камандавання палка. І ён быў зразуметы. Дзесьці далёка ззаду зноў ударыла наша артылерыя, і ў размяшчэнні немцаў з'явіліся велізарныя чорна-белыя ўзрывы. Агонь праціўніка адразу ж аслабеў.

Салдаты, карыстаючыся кароткай прадышкай, сціснуўшы зубы, сапёрнымі лапаткамі дзяўблі і дзяўблі зямлю.

Камандзір роты падлічваў свае сілы. Аказалася, што загінула дванаццаць чалавек, у тым ліку і камандзір узвода Герасімовіч, трынаццаць было паранена, з іх чацвёра — лёгка, і яны засталіся ў страі.

Мачалаў разумеў: паколькі яго рота знаходзіцца на вышыні, значыць, у выпадку контратакі моцны ўдар немцы нанясуць менавіта тут.

Старшы лейтэнант выклікаў камандзіраў узводаў. Падлічылі сваю агнявую моц: тры процітанкавыя ружжы, два «максімы» і тры ручныя кулямёты. Астатняе — вінтоўкі і аўтаматы.

— Так, не густа. Калі фрыцы пойдуць у атаку, ды яшчэ з танкамі, то дрэнныя нашы справы, — трывожна прагаварыў камандзір і загадаў ад кожнага ўзвода выдзеліць па два чалавекі і накіраваць назад да былых нямецкіх траншэй:

— Хай шукаюць, можа, процітанкавыя гранаты знойдуць, дый аўтаматы прыдадуцца.

Затым ён хутка накідаў камбату данясенне, папрасіў дапамогі, а сам разам з узводнымі пачаў выбіраць пазіцыі для кулямётчыкаў і бранябойшчыкаў.

Убачыў Кісліцкага, паклікаў да сябе:

— Дзякуй, сяржант, выдатна ты і твае таварышы дапамаглі нам!

— Што ўжо там, — збянтэжыўся Кісліцкі. — Справа звыклая: бі гадаў, пакуль са сваёй зямлі іх не выганіш ці не загоніш у яе.

— Правільна! — падтрымаў Татушын і паглядзеў на Мачалава. — Памойму, група сяржанта Кісліцкага заслугоўвае ўзнагароды за ўмелыя дзеянні.

— Правільна, парторг, — пагадзіўся Мачалаў, заклапочана гледзячы ў бінокль, — але гэта крыху пазней, а цяпер трэба хутчэй акопвацца і рыхтавацца адбіць атаку. Яны яе хутка пачнуць, — ён працягнуў Татушыну бінокль, — паглядзі, на ўзлеску пачынаюць разгортвацца. Так што, таварышы, па месцах, рыхтавацца да бою.

Мачалаў паклікаў тэлефаніста:

— Як з сувяззю?

— У мяне катушку асколкамі пасекла, дый усё адно яе б не хапіла. Трэба чакаць сувязістаў з батальёна.

— Значыць, ты без справы, — чамусьці здаволена прагаварыў Мачалаў і, напісаўшы кароткую запіску, працягнуў яе байцу. — Аднясі камандзіру танкістаў, яны каля рачулкі схаваліся. Ад майго імя папрасі, каб дапамаглі ад нямецкіх танкаў адбіцца, я пра гэта і пішу, але ўсё адно перадай і на словах, хай дэсант, які ў іх ёсць, нам на пэўны час перададуць. Скажы, што ў роце людзей вельмі мала засталося.

Чырвонаармеец казырнуў і кінуўся пад гару.

Ляркоў, які дзёўб ломам зямлю, паказаў рукой назад:

— Таварыш старшы лейтэнант, камбат ідзе!

Мачалаў азірнуўся і ўбачыў Тарасава.

У суправаджэнні двух афіцэраў ён хуткім крокам наблізіўся да Мачалава:

— Ну, як справы? Акопваецеся?

Старшы лейтэнант далажыў яму абстаноўку. Тарасаў ухвальна кіўнуў і сказаў:

— Да цябе цяпер далучацца дэсантнікі і два танкі, я такую каманду даў. Пратрымайся гадзіны паўтары, кампалка абяцаў на тваім правым флангу процітанкавую батарэю паставіць, ну, а пакуль вось табе мой падарунак, — і маёр рукой паказаў сабе за спіну.

Мачалаў убачыў, як з тылу да іх набліжаюцца два артылерыйскія разлікі, якія кацілі дзве саракапяткі.

— Вось за гэта дзякуй, таварыш маёр! — шчыра ўзрадаваўся старшы лейтэнант.

— Ну давай, браток, закопвайся ў зямлю і рыхтуйся. Я ўжо бачу, што немцы ачухаліся, цяпер рогам папруць. Так што трымайцеся.

Тарасаў сказаў гэтыя словы так проста, па-сяброўску, і Мачалаў ужо не крыўдаваў на тое, што камбат «суха» размаўляў з ім. Старшы лейтэнант і сам не заўважыў, як назваў яго па імені і імені па бацьку:

— Не турбуйцеся, Іван Іванавіч, тое, што мы адбілі ў ворага, назад не аддамо!

А з боку праціўніка мацней загрукала артылерыя, на шырокім полі разгортваліся танкі і пяхота. Вораг пачаў атаку.

***Пераклад з рускай Язэпа РУНЕВІЧА.***

***Працяг будзе.***



**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# ЛЮБОВІ МАГНІТ

## РАДЗІМА

Люляюць магутныя клёны
Вячыстага неба блакіт.
Зноў цягне ў куток мой чароўны
Сыноўняй любові магніт.

Тут жоравы кружаць і гусі,
Спявае жытнёвы прастор.
Ну як не любіць Беларусі,
Калі ўсё кранае — да зор.

Спалонены дзіўнай красою,
Душу адкрываю сваю.
Радзіма! Як добра з табою,
Як шчыра цябе я люблю.

Між ніў незабыўных крыляю,
Між юных рабін і бяроз.

---

*__Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч__ нарадзіўся 24 студзеня 1951 года ў вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1997). Працаваў настаўнікам у школе, навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам часопіса «Нёман», намеснікам дырэктара РВУ «Літаратура і мастацтва». Цяпер — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар больш як 70 кніг паэзіі, прозы, крытыкі і публіцыстыкі для дзяцей і дарослых. Выступае таксама як перакладчык твораў замежнай класікі на беларускую мову і твораў вядомых беларускіх пісьменнікаў — на рускую. Аўтар «Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» ў двух тамах (2012). Лаўрэат многіх літаратурных прэмій, у тым ліку: Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2009), Міністра абароны Рэспублікі Беларусь (2008, 2013, 2015), Рэспубліканскай прэміі «Лепшы твор года» (2007, 2008, 2009), Міжнароднай прэміі ў галіне паэзіі (2015, г. Санкт-Пецярбург).*

Які ты цудоўны, мой краю,
Да песні, да радасных слёз.

* * *

Белым воблакам бэз пад акном
Расквітнеў каля мамінай хаты.
Я сяджу за пісьмовым сталом
І любуюся ім, сумнаваты.

Кветкі цёплай пяшчотай звіняць,
Чысты водар захмельвае сэрца,
Нібы маміны вочы глядзяць,
Усміхаюцца ветла з суквецця…

Як даўно маёй мамы няма…
Ды чамусьці на міг падалося,
Быццам мне мая мама сама
Гэта дзіва прыслала з нябёсаў.

Адчыняю акно, як у сне,
І па кветкі духмяныя лезу.
І здаецца — матуля мяне
Абдымае галінкамі бэзу.

* * *

Пакуль яшчэ лугі, палі тут не пакошаны,
Спяшаюся сюды, нібыта ў рай,
У мой бярозава-рамонкава-валошкавы,
У непаўторны, любы, родны край.

Усё вакол тут вока радуе раскошаю,
Заўжды маёй душы прывольна тут.
Жыве бярозава-рамонкава-валошкавы
Адзіны мой, бацькоўскі, мілы кут.

Забуду я праблемы тут
усе сталічныя,
Да казкі дзіўнай трапіўшы ў палон.
Падорыць лес
свае паляны мне сунічныя,
І ў сініх хвалях закалыша лён.

Не кліч мяне, сталіца,
плошчамі шырокімі,
У вір свой мітуслівы не чакай,
Бярозамі, рамонкамі, валошкамі
Прарос у сэрцы мой радзімы край.

## РОДНЫ КУТ

Тут раздолле сычам,
і вакол ні душы.
Толькі памяць мяне
акунае ў былое

І паказвае мне
не самоту глушы,
А дзяцінства маё,
хоць кіно і нямое:

Вось чаромха кіпіць
пад святлістым акном.
Бэз разлівам густым
Палымнее ля хаты…

А вось мама
частуе мяне малаком…
А вось я крочу лугам
на Грэзу да таты…

А вось вуліца ўся —
нібы ў казцы жывой:
Свецяць яркія зоркі
вяргіняў наўкола,

А вось хлопцы-сябры
басаногай гурбой
Запрашаюць мяне
на футбольнае поле…

А вось юная фея
пятнаццаці год
Да мяне падышла
і красой паланіла…

А вось белых бяроз
залаты карагод
На багатым двары
усміхаецца міла…

Я таму кожны год
на радзіму лячу,
Адмаўляю Парыж
і паўднёвыя пляжы,

Што я памяці фільмы
у вёсцы кручу,

Тыя, што анідзе
і ніхто не пакажа.

* * *

Вілася нітачка з кудзелі,
Лагодзіў самапрадкі гуд…
Гады, як птушкі, адляцелі,
Асіраціўшы родны кут…

Хаджу па ціхай нашай хаце,
Нібыта юнаком ізноў
Да незабыўнай, мілай маці
Вярнуўся з далечы гадоў.

Малюнак даўні ажывае,
І кола весела шуміць.
І мама — чуйная, жывая…
Ды нітку часу не спыніць.

Не павярнуць у бок зваротны…
Кручу ў руках верацяно,
Хаджу прачулы і пяшчотны,
Бо знаю — маміна яно.

## БАЦЬКОЎСКАЯ ХАТА

Зноў да бацькоўскай роднай хаты
Прыехаў я, сталічны госць.
І вінаваты, вінаваты,
Тугой знішчаю весялосць.

Даруйце, сплаканыя вокны,
Прабач стары, пашэрхлы дах,
Што паміж намі доўгі, слотны
Даўно пралёг расстайны шлях.

Ты ў маім сэрцы светлай самай
Прыгожай згадкаю жыла,
Заўсёды бачылася мамай
І запрашала да стала.

Ты мне гучала галасамі
Маленства дзіўнага майго,
Што тут блукае за садамі
Па сцежках сонечных лугоў.

Да хаты мілай прытулюся,
Як да матулі ўдзячны сын:

Дзень добры, хата, я вярнуўся,
І плакаць нам няма прычын.

## ДОМА

Неба — у блакіце,
Бусел — як прыліп.
Сонцам залаціцца
Хата паміж ліп.

Невымоўна свежы
Мрою хлебны дух.
У рамонках межы —
Бляск іх не патух.

Палыном сівеюць
Сад і агарод,
Што ў тузе нямеюць
Тут не першы год.

Коска пад павеццю,
Ржавая, вісіць…
Што з таго? — здаецца,
А душа баліць.

## МАМА

Лагоднасцю, святлом і дабрынёй
Ты з летам цёплым маеш падабенства
І кожны раз у памяці маёй
Нібыта зноў вяртаеш мне маленства.

Хоць быў удзячным сынам я, аднак,
Здаецца, не дадаў сваёй любові,
Складаю табе песні, ды ніяк
Не падбяру заслужаныя словы.

У гэтых песнях гучнасці няма,
Ні пафасу высокага таксама.
Яны затое з сэрца, дзе сама
Жывеш ты, мая сонечная, мама.

* * *

Іду палявою сцяжынай,
Самотную песню пяю…
Якою такою правінай
Час выкасіў вёску маю?

Крычы, не крычы, а навокал
Няма адгукнуцца каму.
Азерца заслепленым вокам
Дакор свой мне шле аднаму.

Ды пыл пад нагамі ўзлятае —
Ён хатай жывой быў спярша…
Заброддзе, калыска святая…
Няўцешная, плача душа.

* * *

Мільганулі, як птушкі з двара,
Дні ў бацькоўскім закінутым краі.
Зведаў радасць і сум. Зноў у горад пара,
А на сэрцы — нібы абакралі.

Кут радзімы ціхмяны, лясны,
Атуліў, акрыліў і расчуліў.
Пачуццём непазбыўнай віны
Разбудзіў думак-пчол маіх вулей.

Пакланіўся лугам і палям,
Што прывольна ў душы разляглíся.
І, самотны, адчуў: сам — не сам
Я без гэтай зямлі і без высяў.

Мне пазбавіцца вечнай тугі
Анічым, аніяк немагчыма.
Будзе рвацца ў куток дарагі,
Будзе клікаць святая Радзіма.

* * *

Над старой, замшэлай хатай
Маладзік цікаўны звіс,
Клён старэчы, расахаты
Туліць голаў на карніз.

Глуха дзесь сава рагоча.
На яе нязвыклы смех,
Заглушыць нібыта хоча,
Наш дварняк рассыпаў брэх.

Па здзічэлай, змрочнай вёсцы,
Дзе тры хаты на вярсту,
Адзінокім, дзіўным госцем,
Растрывожаны, іду.

Цемра колкая  такая
Навакол, бы ў страшным сне.
Чую, вёска сустракае
Насцярожана мяне.

Павярну да роднай хаты
З болем пра дзяцінны кут.
І заплачу, вінаваты,
Што радзіме горка тут.

## РОДНАЕ СЛОВА

Квітнее ліпень. На ўвесь свет
Зямля, здаецца, заспявала…
А мне чытаецца Купала,
Для нас не проста ён паэт.

Яго прымаю да драбніц.
Інакшы час, а Слова — тое:
Кране — глыбокае, святое —
Да самых горкіх таямніц.

Праменна ўспыхваюць радкі,
На ўсе шляхі жыцця кладуцца…
Іх бы пачуць і страпянуцца
Усім нам сёння, землякі,

Каб вольна, звонка, да нябёс
Радзімы Слова закрыляла,
Каб усміхнуўся нам Купала,
Яго адчуўшы шчасны лёс.

* * *

Свет у агні вайны ліпеў,
Жахліва плавілася неба…
Жывіце, людзі, за сябе,
Жывіце радасна, як трэба.

У дзень руплівы ці святы,
Шчаслівай дзякуючы долі,
Вы не турбуйце душы тых,
Што пад агнём палеглі ў полі.

Дзесяцігоддзі — цішыня,
Героі нашы спяць спакойна.
За іх не трэба жыць ні дня,
Бо пражылі яны дастойна.

* * *

Усё знікае ў гэтым свеце,
Апроч любові, дабрыні.
Пакуль ласкава сонца свеціць,
Ім паслужыць не праміні.

Настане час, нішто не вечна,
І хто ў сябрах у злыбяды,
Аднойчы знікне і, бясспрэчна,
Сплывуць усе яго сляды.

## МУРАШЫ

Дамок пад елкай вырас чынны,
Шчыруюць дружна мурашы.
Гляджу на клопат іх няспынны,
Ажно святлее на душы.

А дзесьці пачмурэлі людзі,
Знішчаюць радасць і жыццё,
Нібы ніхто іх не асудзіць
За дзікі шлях у небыццё.

Нібы зусім не чалавекі,
А крыважэры, дзікуны,
Бо гвалт, пакуты, смерць і здзекі
Нясуць, пачварныя, яны.

Ідуць вайною брат на брата
Пад д’яблаў смех — забіць, спаліць…
У мурашоў нам, людзі, варта
Вучыцца ў гэтым свеце жыць.

* * *

Двух майстроў заўсёды шанавала
Нашае руплівае сяло.
Першага, шчаслівае, вітала,
Да другога — гора ўсіх вяло.

Першы заліваўся смехам срэбным,
Сустракаў віншуючы шторaз,
А другі тужыў, што ён патрэбны
Людзям у гаротны іхні час.

Першы раніцой перад іконай
Працы шчыра ў Госпада прасіў,

А другі, нібы з віной бяссоннай,
Каб яе зусім не мець, маліў.

Не было сялу людзей больш блізкіх,
Залатым іх дзячылі рукам.
Першы майстар вырабляў калыскі,
А другі дык — труны землякам.

## ГЭТАК ЧАСУ НЯМА ДЛЯ ЛЮБОВІ...

***Найдите время для любви***
Валянціна ПАЛІКАНІНА

Гэтак часу няма для любові,
Для дзівоснага шчасця — няма,
Каб душа заквітнела вяснова,
Нібы песняю стала сама.

Гэтак часу няма для Любові…
Між бязладдзя, бяздушша і бед,
І штодня супакою да болю
Не дае нам раструшчаны свет.

Гэтак часу няма для Любові.
Распагрозіўся свет, быццам звер,
Пагарджае дабром, як ніколі,
Як жа выжыць Любові цяпер?

Чысціню і спагаду паволі
Нішчыць хуткасны, ярасны век…
І няма для Любові спатолі,
Вось — пагібель твая, чалавек.

Рухаць свет да бяздоння даволі,
За якой — чорны вір небыцця.
Дайце волю і крылы Любові,
Каб квітнела вясёлка жыцця.





**Анатоль БІГАЙДАРАЎ**

# ГАЛУБІНАЯ МАТКА

*Апавяданне*

Ноччу нясмела выпаў першы сняжок, таму золак выглядаў не такім беспрасветным і шэрым, як учора і заўчора. Мікраараён даглядае апошнія сны. Цішыню не парушаюць нават усюдыісныя галкі і вароны. Падбеленае наваколле і бясхмар’е абнадзейваюць пагодлівым днём. Мне гэта спрыяе: збіраюся ў няблізкую камандзіроўку — на Піншчыну.

— Вуль-вуль-вуль!.. Вулечкі!.. Вуль-вуль-вуль…— чую раптам праз адчыненую на кухні фортку высокі жаночы галас. Машынальна падбягаю да акна, зыркаю туды-сюды, уніз-уверх. Нікога і нічога. Здалося? Прымроілася? Але праз хвіліну-другую покліч, знаёмы з незабыўнага вясковага маленства, паўтараецца. З палёгкай уздыхаю: з глузду не з’ехаў. Вось толькі адкуль у горадзе куры ці качкі? Стаўлю табурэт пад акно, і ажно па плечы высоўваюся з форткі. Ёсць, бачу!

У прыдворку суседняга дзевяціпавярховага дома стаіць, бачком да мяне, бабуля. Апранута па-вясковаму: у аблезлым бэжава-рудым кажушку, чорных бурках з біскучымі галёшамі, цёплай карычневай клятчастай хусціне, завязанай пад горла.

Вакол старой увішна снаўдаюць дваровыя голубы і галубкі. Многа, за паўсотню. Воддаль, на вершалінах таполяў і ліп чарнеюць і няпрошаныя госці — вароны, галкі. Жвавыя вераб’і і мітуслівыя сінічкі не такія пужлівыя, таму сталуюцца-ладкуюцца многа бліжэй, на рабінцы-малалетцы, на вішні, і ўважліва сочаць за тым, што дзеецца навокал.

Між тым бабуля нагамі сашкрэбла лёгкі снежны покрыў і сыпнула на цёмна-шэрую пляміну асфальту жменю-другую нейкіх круп. Птушкі кінуліся на корм і дружна пачалі кляваць.

— Ву-улечкі, вуль-вуль!.. Замерзлі, мае маленькія, мае вы сівенькія, мае квочычкі… Вось, дзякаваць богу, і паснедаеце, сагрэецеся, і павесялеюць вашы душачкі… Ешце, ешце, мае родныя: зіма сцюдзёнаю будзе… Паверце

---

***Бігайдараў Анатоль Казбекавіч*** *нарадзіўся 7 снежня 1951 года ў пасёлку Кірава Мгінскага раёна Ленінградскай вобласці. Неўзабаве сям’я пераехала ў Беларусь на радзіму бацькоў у пасёлак Хваенск Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці.*

*У 1969 г. скончыў Хваенскую СШ. Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у раённых газетах, уласным карэспандэнтам спецвыпуску газеты «Звязда» — «Звязда» на меліярацыі Палесся».*

*З апавяданнямі друкаваўся ў раённых газетах, у газеце «Звязда».*

маім нагам… Папамерзнеце, мае сардэчныя… Але, Бог дасць, як-небудзь перазімуем, дачакаемся цёплага лецейка…

Голас у бабулі, як той званочак срэбразвонны: чысты і такі ж выразны, я чую кожнае слоўца. Не забівае, не глушыць яго нават рытмічны шор-шоргат дворніцкага дзеркача.

«Дзівачка нейкая, — падумаў я тады пра «галубіную матку». — А мо не ўсё добра з галавой, — узрост?.. Гэта ж даўмецца: у такі вецер, халодным золкім ранкам выйсці карміць птушак!.. На такое і сусветны правадыр партыі «зялёных», калі ёсць такі, не згодзіцца…»

…Галубіная ж матка — а я цікаваў за ёю і ў снежні, і ў лютым — выходзіла да птушак у адзін і той жа час. Нават у непагадзь, хаця птушкі, хай сабе і гарадскія, не любяць дрэннага надвор'я.

Голубы і галубкі нашага двара (з усіх чатырох дзевяціпавярховых будынкаў) бабулю ў арыгінальным кажушку пазнавалі здалёку і дружна, навыперадкі пікіравалі насустрач. Не было патрэбы і вуль-вулькаць!

Бабка на пляцоўцы, у мітуслівым жывым коле птушак, як правіла, стаіць нядоўга — хвілін дзесяць, не болей. Затым, сыпнуўшы з мяшэчка рэшту корму і прамармытаўшы фразу-другую на развітанне, акуратна пакідае пярэсты галубіна-вераб'іны карагод. Не азіраючыся, яна тупае ў свой пад'езд.

«Вось так, са сваімі зваротамі-прыгаворкамі ўсе вяскоўкі штораніцу даглядаюць хатнюю жывёлу — курэй, гусей, качак, — падумалася мне. — І матулька мая… зімой, восенню, у дождж, у завею спяшаецца да хлеўчука. У левай руцэ чырвонае 8-літровае пластыкавае вядзерца з калодзежнай вадой, у правай — торбачка з просам ці пшаніцай… Вясной, калі прыпяцкая вада плёхае пад ганкам, дабірацца да хлява даводзіцца па хліпкай кладцы, а, нярэдка, і у старэнькім чоўне…»

…У сакавіку я зноў разоў колькі наглядаў з балкона за галубінай мамкай, як празваў яе. Бабуля мяне дужа зацікавіла. Карцела як хутчэй пазнаёміцца альбо хаця б даведацца, хто яна, адкуль паходзіць, чаму перабралася ў наш горад на Сажы…

— А-а, дык гэта Томкі-чарнобылькі матка! — ахвотна «прасвятляе» мяне адзінокая пенсіянерка Рэгіна Раманаўна, бліжэйшая суседка, інтэлігентка ў першым калене. — У дванаццатым доме жывуць… Вунь іхні, крайні, пад'езд... Месяцца ў аднапакаёўцы. Бо ж ні мужа, ні дзетак у Томкі няма. Бязмужняя і мамка… Мне старая нейк баіла, што вельмі даўно пахавала яна свайго гаспадара: хварэў на сухоты… Я з Матрунай, так яе клічуць, зімою ў паліклініцы нашай пазнаёмілася…Чэ-э-эргі там, сам ведаеш, вялізныя, так што пра ўсё чыста распытала!.. Мяне вельмі ўразіў такі факт. Яны ж маглі — па законе! — не аднапакаёўку ад Дзяржкамчарнобыля атрымаць, а намнога большае жыллё… Хай і не ў Мінску, хай тут... Ну, хай бацька ў Томкі памёр не ў час… Хай Томка з мужам-алкаголікам зарана развялася… Дык жа лёсу і таго мала: малодшы Томчын брат — з трыма дзеткамі-школьнікамі! — узяў і на маторцы перавярнуўся… У Дняпры… Не-е, анікога не ўратавалі, дакладней, не адкачалі… А што ўдава? Мо тыдзень знаходзілася ў коме… Пасля ачомалася, але — лепш бы пайшла з Богам! — пачала, няўрокам кажучы, загаворвацца… На тым прадзімку ў «жоўты дом» справодзілі… А тады якраз паперы на перасяленцаў збіралі-афармлялі… Вось беднай Томцы з мамкай і афармілі!.. Што з другім братам? О, з ім поўны парадак: з дванаццаці гадкоў, лічы, на поўным дзяржаўным пенсіёне… Цяперака, чула, прапісаны ў Оршы… Калека? Так каб жа!.. У турме. Ага-ага, джэнтльмен удачы…

Трэба сказаць, што сваё не вельмі мілагучнае прозвішча «Абсарока» мая дасведчаная суседка апраўдвала на ўсе сто: яна не толькі языком мянташыла…

— Цікава, а не казала вам бабка Матруна, ці не цягне яе дадому, туды, у Брагін?

— Казала-казала! Казала, бедненькая, і горка плакала, ажно выгалошвала… Так і па мужу-нябожчыку не кожная плача… А ці ведаеш, сусед, бабка гэтая толькі за першае гомельскае паўгоддзе ажно тройчы збягала!.. Не-е, не ад Томкі!.. Гэтак яе душачка ў роднае сяло рвецца…

— Вярталі?

— Вярталі, вядомая справа. На міліцэйскай «мігулі» пад параднае дастаўлялі... Участковы Томку кожны раз строга папярэджвае, каб лепш прыглядвала за маткай: «Гомель — не сяло… Тут і законапаслухмяны пешаход можа лёгка пад таксі-маршрутку-аўтамотавела-тралейбус трапіць… А розныя ролеры!.. Ды і тыя ж цыганы металалом на гнядых, рыжых і шэрых у яблыках па сметніках вышукваюць…»

Па голасе адчуваю, што Рэгіна Раманаўна на бабку сярдуе:

— І ці ж не хутарок на балоце? Ці ж не глухая дзярэўня? Ціхая вар'ятка нейкая!.. Ведае ж: той яе вёскі — Букчы, Любчы, Снядзіна, Балацянкі… — няма ўжо. Даўно згрэблі бульдозерамі ўсё, што не паспелі расхапаць «бізнесмарадзёры», згрэблі і пахавалі. Чвэрць стагоддзя назад. Матруне б супакоіцца, але ж не! Аніяк не супакоіцца! Прэцца і прэцца туды, за калючы дрот: «Вой, мільцынерыкі дарагія, пусціце!.. Гаспадара свайго адведаю… І братоў, сясцёр… свякруху, куму… Магілкі дагледжу… Пераначую на роднай сялібцы хоць ночку… А ранкам, Бог дасць, вярнуся».

— Настальгія, шаноўная Рэгіна Раманаўна…

— Настальгіі, каб ты ведаў, у беларуса ў Беларусі быць не можа… Нонсэнс! І не выдумляй. Зрэшты, апавядай пра гэта вунь Нінцы-дворнічысе, а не мне. І чаго нестае тут, у абласным цэнтры, вашай Матруне-пакутніцы? У нашым мікрараёне: і рака, і возера, і чатыры скверы, бульвар, паліклінікі, аптэкі, новая царква, лядовы палац, бібліятэкі, пошта, банкі, школы, садкі, маркеты, гіпер- і супермаркеты... Жыві — не хачу!

— Вось-вось, «жыві — не хачу»… Бабульцы гэтай няма справы да банкаў і страхавых кампаній, да шматлікіх офісаў і катэджаў «новых беларусаў», да тэатраў, універсітэтаў, бібліятэк, супермаркетаў, лядовых і іншых палацаў… Матруна занятая сваім — кроіць пенсію: на пасылку сыночку ў турму, на свечкі Міколу-ўгодніку і тым, каго пакінула пад крыжамі, на хлеб-соль, рэшта — на лекі…

— Не адна яна такая… Але нешта ніхто ў вёску не бяжыць!

— Ужо бягуць, і нават застаюцца… Бабулі Матруне штоноч сняцца росны поплаў за бацькавым агародам, буслянка на старым дубе, звілістая рачулка-параплюйка Брагінка… І пакінутыя, але не забытыя, магілы... Перакананы, Матруна і сама хоча толькі там, сярод сваіх, калі праб'е яе час, быць пахаванай. Хоча! Вось толькі хто памерлую бабку Матруну павязе за сотню кіламетраў?..

Рэгіна Раманаўна палагоднела:

— Што ж, кожнаму сваё, і гэта воля Божая!.. «Росны поплаў», «буслянка», «магілы продкаў»… Вы яшчэ і парсючкоў пералічыце, козачак, каровак, курачак, качачак!.. І гароды, грады, гной, бульбу, буракі, садавіну ўзгадайце… Матруна і гэта сніць?

Не магу і словам крыўдзіць жанчын, нават тых, якіх, мякка кажучы, за штосьці не далюбліваю. А тут не ўтрымаўся:

— Рэгіна Раманаўна, чуў, што і вы — выбачайце, калі ласка! — не карэнная гамяльчанка? Вы, так бы мовіць, гараджанка ў першым калене… Аднекуль з-за Свяцілавіч…

— А я ніколі не хавала і не хаваю ўласнага сацыяльнага паходжання. Так, не графіня, так, я з вёскі-дзесяцідворкі былога Свяцілавіцкага раёна. І што з таго? Адтуль я з’ехала — дай, Божухна, памяці! — недзе ў 1964-м, адразу пасля заканчэння дзесяцігодкі. А малодшы брат, Ігар, застаўся. Ён — педагог, завочна скончыў Гомельскі дзяржуніверсітэт, працуе дырэктарам школы, пад Веткай… Я дадому пасля чацвёртага курса завітвала рэдка: з Масквы — не з Гомеля, не наездзішся. Словам, вучылася… Універсітэт, аспірантура, абарона дысертацыі, навуковая праца… Удалы пачатак кар’еры… Чорная паласа… Няўдалае замужжа, развод, пераезд у Ленінград, адтуль — у Кіеў, Гродна, Мінск… Яшчэ адна дысертацыя… Вы дарэмна ўсміхаецеся! Абедзве мае навуковыя працы — не купленыя, як вельмі многія сягонняшнія, таму і пісаліся па пяць-сем гадоў… Пасля таго, як бацькоў не стала, на малой радзіме была двойчы. Самі ж разумееце, ні маршруткі, ні аўтобусы туды не ходзяць: зона адсялення. А сваёй машыны так і не нажыла…

— Давайце, Рэгіна Раманаўна, павернем размову ў ранейшае рэчышча: што там з вашай вёсачкай?

— І яе няма. Пахавалі. Даўно, казалі, што ў 88-м, як і тую Матруніну… Але, паверце, я ніколі не шкадавала, і ўжо не пашкадую, што пражыла жыццё далёка ад вёскі і вяскоўцаў. Гары яна гарам, шугай сінім полымем тая сельская ідылія!

…Пасля размовы з маёй вучонай суседкай я з замілаваннем глядзеў на маленькую бабульку ў пацёртым самашытым кажушку. І, здаецца, я зразумеў, чаму менавіта яна, старая брагінка Матруна, стала галубінай мамкай.

Бо для яе ўсе гэтыя пульхныя птахі — сівабокія, белыя, карычневыя, бела-карычневыя, пярэстыя «вуль-вулі» — значылі нешта намнога большае, чымсьці, скажам, для Крысціны-сабачніцы, другой маёй — маладой і не вучонай, а таму і багатай, — суседкі, «зграя» яе чыстапародных англійскіх бульдогаў.

Справа ў тым, што ў гэтай, і дня не працаваўшай на дзяржаву маладзічкі-бруснічкі, яе даўні і жывы інтарэс да жывёлін чыста матэрыяльны: яна прадае трохі падрошчаных сабачанят. За даляры або еўра.

А для бабкі Матруны мірнае, лагоднае галубінае вуркатанне, іх паслужлівая мітусня ля ячменнага россыпу, — як жураўліны крык, як адзіны жывы і дзейсны ўспамін-напамінак пра родны кут, пра паглынутую чарнобыльскай навалай палескую вёсачку на беразе Брагінкі…

Для старой голуб і галубка — і лепшыя зёлкі. Панацэя. Птушкі паслабляюць пятлю тугі, маркоты, дапамагаюць сустрэць і праводзіць новы дзень, зарадзіць сябе на працяг жыцця. Жыцця на схіле дзён.

* * *

…Калі ранічкай, выбіраючыся ў чарговую камандзіроўку, з акна сваёй кухні бачу старэнькую брагінку і хмарку пікіруючых на яе галубоў, сэрца ёкае, і трапеча, трымціць. У галаве — блытаюцца думкі.

«…На вакзал час выбірацца: на Рэчыцу дызель заўжды паўнюткі… Каб не стаяць... Вой, я ж цыгарэты ў сумку не паклаў!.. І блакнот трэці не пашкодзіць — хэ-бэ: хай будзе… Та-ак, цяпер перакрыць газ і выключыць тэлевізарчык, бра… Недакурак — у попельніцу, не-не, спачатку — пад кран. Бэ-бэ-бэ: Бог беражэ беражонага!.. Смалю сорак сем гадоў. На тым тыдні падлічыў — высмаліў больш за трыста тысяч цыгарэт, папярос, самакрутак… Халасцяцка-сямейны бюджэт недаатрымаў каля 8000 «джорджыкаў» — даляраў. Н-да, грошы, сур’ёзныя, і каб юнага курца, от, скажам, мяне, пацвялілі імі змалку, то… То асабіста б я, мабыць, і не смаліў бы... Я б паехаў у Адэсу, набыў там, у маракоў, прафесійную японскую фотакамеру… І ездзіў з ёю па Саюзе, фоткаў, пісаў, фоткаў, пісаў… Не горш за майго куміра Васіля Пяскова...»

Падымаюся са стула, гляджу ў акно. Галубіная мамка ўжо развітваецца з птушкамі…

Божачкі, каб хто ведаў, як абрыдлі мне і гэтыя мітуслівыя — паўсутачныя, сутачныя, двухсутачныя! — «чаўночныя» журналісцкія камандзіроўкі па вобласці, і «дэбільныя» пошукі мажорных герояў, тэм, навін у чарнобыльскіх раёнах, і гадавыя, квартальныя, месячныя, тыднёвыя нормы, планы па радках!..

«Вось зараз саджуся ў маршрутку, еду на вакзал, здаю білет да Рэчыцы і бяру да… да станцыі «Бацькоўскі дом». Пакуль там ёсць з кім паручкацца. Пакуль там ёсць каго абняць. Пакуль там ёсць з кім перакінуцца словам».

* * *

…Праз дзве гадзіны я, упацелы, валюхаю па Рэчыцы залінейнай. Снегу тут, як кажуць у нас на Тураўшчыне, у валокі, па калена. Спяшаюся. Не магу (не люблю) пазніцца на планёрку да тутэйшых меліяратараў.





**Мар’ян ДУКСА**

# СТРАХ ЦІШЫНІ

## ЛЕТА

Лета… Задыхала роўна планета.
Квецень пладамі наўкруг прарасла.
Цёплыя пыркі бягуць з-пад вясла.
Пальцамі гладзіць ваду Віялета.
Чулых лакцей супакоены дотык.
Суіснаванне лагодных плячэй.
Знікла экспрэсія — зліцца хутчэй.
Выдыхся ў сэрцы вясенні наркотык.
Лета. На хвалях жывых калыханне.
Час хоць на міг задрамаў. Не ляціць.
Ціхенька толькі чарот шамаціць
Пра лёгкаплынную радасць кахання.

## * * *

Прыйдзе — не прыйдзе… Зычым табе мы,
хлопец нацяты, шчаслівых хвілін.
Прыйдзе — не прыйдзе… Ад гэтай дылемы
дзьме неспакой найвялікшы адзін.
Ног маладых непрадбачаны танец,
думак бязладных маленькі хаос.
Як ён — ці збудзецца радасны шанец
сёння расквеціць, умаіць свой лёс?

---

*__Дукса Мар’ян Мікалаевіч__ нарадзіўся 5 красавіка 1943 года на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Свірскае вучылішча механізацыі (1960), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1969). Працаваў у калгасе, настаўнічаў у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Спатканне» (1967), «Станцыя» (1974), «Забытыя словы» (1979), «Твая пара сяўбы» (1985), «Заснежаныя ягады» (1989), «Горн прымірэння» (1993), «Прыйсці да алтара» (2003), «Птушка вечнасці — душа» (2015) і інш., кніг для дзяцей «Зялёны акварыум» (1980), «Світаюць сосны» (1987), «Працавітае сонца» (1994), «Нябесны карнавал» (1998), «Паэтычны каляндар» (2003).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1990).*

Прыйдзе — не прыйдзе… Вось і змярканне.
Змрокі ў сэрца сягаюць глыбей.
Зараз няўжо яна — стрэлка спаткання,
хоць і застыне, а пойдзе далей.
З хлопцам на пару ўстрывожаны ўсе мы,
мусіць, трапечамся з ім недарма.
Прыйдзе — не прыйдзе… Ды большай праблемы,
чым гэта стрэча, у свеце няма.

* * *

З вандзэлкам ці з букетам кветак,
з плячэй сцягнуўшы балахон,
героі драм ці аперэтак
увесь запоўнілі вагон.
Усё чытаецца на тварах —
хто ў шчасці, хто бядой зарос.
Хто плавае ў дзіцячых марах,
каго піхнуў нядаўна лёс.
Дарожных хто размоў аматар,
хто ўмураваны нелюдзім…
Жыцця шмат’ярусны тэатр,
ты ролі раздаеш усім.
Спакойны, радасны, трывожны —
ёсць папярэдні дагавор —
на свой спектакль едзе кожны,
дзе іх чакае рэжысёр.

* * *

— Мама, ну як ты жывеш-пачуваеш?
— З працы прыйшла я. Адпачываю.
Што прыляціш — і не думала зранку.
Ах, і прыемная неспадзяванка…
Дзякую, сыне. Пабудзеш?
— Паеду…
Трэба на працу мне пасля абеда.
Ну не сумуй, не хварэй. І дарэчы,
яблыкаў бы прыхапіць… Да сустрэчы!
— Мама, ну як ты? Ці чуеш? Ало!
Нешта званка ад цябе не было.
— Не дазванілася…
Мо ад змогі
штосьці баляць адвячоркамі ногі.
Не паддаюся хваробе ані.
Сам ты як маешся, сынку? Звані.
Вельмі чакаю твайго я званка.
Заўтра заскочыць, можа, дачка…

Божа, ах колькі нясуць асалоды
рэдкія стрэчы, званкоў эпізоды.
Кожны маленькі такі эпізод

склейвае і выратоўвае род.
Толькі б не лопнуў — вецер наўкруг! —
праведнай роднасці тонкі ланцуг.

* * *

Страх цішыні нас бегчы прымушае
туды, дзе гэтай цішыні ледзь-ледзь.
Загадвае, не толькі спакушае,
пявучыя навушнікі надзець.
Страх цішыні і там, дзе апроч птушкі,
якая цэдзіць мілагучны спеў.
Настойвае, каб з нашай легкавушкі
гром музыкі ва ўсе кусты ляцеў.
Пакуль маўчаць над галавою зоры,
пакуль праз ноч пабульквае рака,
дынамікі гучаць ва ўсёй прасторы,
спалохаўшы ў гняздзе лесавіка.
Як збаўчым мёдам, шумам наталенне
на скрыжаванні людным ці ў глушы.
Страх цішыні — ці голасу сумлення?
Страх цішыні — ці позірку душы?

* * *

Памылак шмат за век кароткі.
Змяніць бы што… Напэўна, рады
штангісты ўсе — у іх усё-ткі
аж тры падходы да снарада.
Вось ім палепшыць вынік можна
і здзейсніць запаветнасць мэты.
А ў нас які трыумф дарожны?
Адны паломкі і кюветы.
Яшчэ хоць раз бы нам вярнуцца,
крануцца з нулявога старту,
дарогай іншай крутануцца,
адкінуўшы кураж і жарты.
Але ж каб збегчы ад нягодаў,
нашто вяртацца тэрмінова.
У нас жа тысячы падходаў…
Рабіць бы іх своечасова.

* * *

Вось ён — гарматны ці ракетны стрэл…
Паветра загалёкала нібы.
Пагрозы тут няма для душ і цел.
Затое ёсць «эстэтыка стральбы»…
І залп па волі чалавечых рук
агонь і дым над галавой растрос.
Які высокі і парыўны гук
стартуе трыумфальна да нябёс.

Ды захапленне зыркае вачэй
ці цягне ну хаця б на паўграша?
Не цешыцца, а ўздрыгвае хутчэй,
бянтэжыцца, сціскаецца душа.
Яшчэ спакою не адбыўся крах.
Ёсць толькі шык, вясёлы знак гульбы.
Хоць гоніць у падкоркі кволы страх
грымучая «эстэтыка стральбы».

## НЯБЕСНЫ ПІЛІГРЫМ

***Памяці Язэпа Драздовіча***

Ты фарбы ўсе ў сваёй катомцы нёс,
і апроч іх, там не было нічога.
Была дарога, як дарога-лёс,
праз дзень і ноч бясконцая дарога.
Яна табе дарыла водар свой,
паклікаўшы гасцінна на світанку.
І вабіла прытульнаю травой,
пяшчотнаю птушынай калыханкай.
Душа ляцела вольная да зор
над мурагом, які наўкруг сушыўся.
Ды прыпыняў цябе сялянскі двор,
дзе дробны клопат буйна лапушыўся.
Спявалі жорны ў восеньскай глушы
пад скрып калёс спрадвечна-манатонны…
Ды марны лёс, калі ў тваёй душы
грувасціцца адзіны хлеб надзённы.
Ах як гуляе весела рука
па чыстым полі аркуша паперы.
Шчаслівы без казённага пайка,
узмоцнены жывою праўдай веры.
Абраннік Бога, мусіць, ты спярша —
празмернасці ў сваім не бачу слове.
Няхай сабе ў кішэні ні граша,
затое сэрца ў пацерках любові.
Як добра: лёс дарожны не прывёў
на ўсходні бераг, дзе лічыўся братам.
За тое, што свой край ты так любіў,
абавязкова быў бы вінаватым…
І падалі з тваіх нябесных сноў,
як мары-птушкі, дзіўныя лятункі
на ніткі ільняныя дываноў
такія цудатворныя малюнкі.
Ты быў для ўсіх такі жаданы госць,
нёс пекнату, нібы вясна пралескі.
Свет уратуе, пэўна, прыгажосць,
як прамаўляў нам Фёдар Дастаеўскі.
Твае малюнкі ўсе і дываны
знайшлі дарогу — у душу на покуць.
А высілкі твае — павер, яны
нас прыўзнімаюць болей, чым на локаць.



Юльяна ПЯТРЭНКА

# ЧУЖАЯ ВЯСНА

*Апавяданне*

Вясна распачалася позняя і занадта вятрыстая. Счарнелы снег ніяк не сыходзіў з халоднай зямлі. Днямі напралёт нястрымны вецер бязлітасна трапаў голае настылае голле. Адвячоркамі, калі азяблае ружовае сонца хілілася за імглісты гарызонт, у нізінах збіраўся бялёсы туман. Апошнія настырныя маразы зноўку скоўвалі зямлю, якая ледзь-ледзь паспявала адмякнуць за дзень, і застаўлялі дрыжаць ядранае паветра.

У адзін з такіх вечароў да Антаніны прыйшла нечаканая бяда. Спачатку яна пагрукала ў шыбу, а затым невядома як апынулася на шырокім каменным двары і забарабаніла ў дзверы.

Антаніна кінула падшываць фіранкі, выключыла настольную лямпу і заспяшалася да дзвярэй. Замыкала яна іх толькі на нач, таму яшчэ больш здзівілася — нікога не чакала сёння, аднавяскоўцы ж, калі прыходзілі, для прыліку лёгка стукнуць і адразу ж тузаюць ручку і ўваходзяць без запрашэння. Таму Антаніна адразу зразумела, што гэта чужыя. Яна нават не абула галёшы і не накінула курткі ці мужавага ватніку, калі выглянула ў цёмны двор.

— Добры вечар, Аркадзь дома? — на ганку, над якім гарэла лямпачка, стаяла незнаёмая дзяўчына ў лёгкім палітку і светлай, зззяючай бісерам берэтцы.

— Няма яго, — чамусьці груба адказала Антаніна.

— А калі будзе? — упартая дзяўчына не жадала пакідаць ганка.

— Не ведаю… што перадаць?

— Перадайце… — яна памаўчала і паправіла светлы завіток валасоў, які вылез з-пад берэціка. — Не, я лепш пачакаю. А дзе ён?

— Вы хто такая? — Антаніна пачала злавацца на непрыемную госцю, якая затрымлівала яе на холадзе.

— Мая. Вельмі мне Аркаша патрэбен, разумееце? За кватэру няма чым плаціць, а ён знік, а гаспадыня на вуліцу выганяе. Ды і хвалююся я за яго...

У адказ Антаніна грукнула дзвярыма і ў нерашучасці вярнулася да стала. Але займацца фіранкамі ўжо не хацелася, словы нахабнай дзяўчыны ніяк не ўкладваліся ў галаве. Якая кватэра, якая гаспадыня? Антаніна стаяла, як вадой аблітая, непрыемна пачынала калоць сэрца. Патэлефанаваць Аркадзю? І што сказаць? Што прыбілася нейкая дзяўчына? Глупства, ды і толькі.

---

***Пятрэнка Юльяна Вітальеўна*** *нарадзілася 13 снежня 1981 года ў вёсцы Жгунь Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка (2005 г.). Працавала сурдапедагогам.*

*Апавяданні друкаваліся ў часопісе «Маладосць».*

*Жыве ў г. Гомелі.*

Антаніна задумліва пастаяла колькі хвілін, прайшла ў кухню, паставіла на пліту чайнік і ўвамкнула тэлевізар. Там нехта спяваў, затым яму пляскалі, потым прыгожы дагледжаны мужчына ў фраку кланяўся і нешта распавядаў. Але яна перастала заўважаць, што там адбывалася, слухала, ды не разумела аб чым вядуць гаворку, і нават пра чайнік, які ўжо даўно кіпеў, забылася. Трэба было б паразмаўляць з дзяўчынаю, высветліць, хто такая, адкуль Аркадзя ведае. І што за кватэра?.. За што плаціць?.. Глупства нейкае… Жанчына сядзела за сталом, адной рукой задумліва падпірала падбароддзе, а другой вадзіла па бялюткім абрусе, быццам малявала на ім нябачныя ўзоры.

Нарэшце яна ўздыхнула, пацепнула плечуком, быццам адагнала трывожныя думкі, і пайшла спаць. Але доўга яшчэ варочалася ў вялікай пасцелі і ўглядалася ў цёмную столь. На душы скрэблі кошкі, блытаныя думкі ніяк не жадалі пакідаць стомленай галавы… «Маленькі буфет пры краме, у якім яна працавала, зачынілі за непатрэбнасцю, кантракт з ёю не падоўжылі, а стаж не выпрацаваны. Няма сэнсу ў горадзе занятак шукаць — хто ж возьме, тры гады да пенсіі засталося… Хіба і сапраўды на цяплічны камбінат у Ларышчы падацца? Ды тут са сваім агародам не даць рады… Ды яшчэ і Мая нейкая… Што за насланнё? Аркадзь ужо на пенсіі, хоць і рана, канешне, пайшоў — ваенны ўсё ж такі, але на заводзе ў райцэнтры вартаўніком каторы год працуе… Амаль дваццаць пяць гадоў разам пражылі, і думаць такое… Дурная баба. Ну, ездзіць ён у горад, суткі цераз трое — на свой завод, і што з таго? Ні да гэтай жа круцёлкі, на самай справе. Зараз у Гародні, да брата адправіўся, што яшчэ па такой пагодзе ў адпачынку рабіць?.. Мая, Мая... Можа, знаёмая якая, ці родзічка чыя… Не, трэба было б яшчэ ўчора патэлефанаваць Аркадзю, як ён там, а я — дурная баба…»

Прачнулася Антаніна рана, за акном яшчэ дрыжэлі шэрыя прыцемкі. Прагула паблізу машына, палыхнула па акну святлом — гэта спяшаўся на работу ў СВК старшыня. Галасіста заспяваў у хляве руды певень, які прымусіў жанчыну зусім абудзіцца, і ўспомніць, што забылася замкнуць за непрыемнай госцяй дзверы ў сенцы. Антаніна падхапілася з цёплай пасцелі, апранула паверх начной кашулі доўгую куртку, схапіла хустку, саўганула ногі ў галёшы і штурхнула дзверы.

На ганку, прыхінаючыся галавой да драўляных парэнчаў, панікла сядзела ўчарашняя госця.

— Гэй! — спужалася Антаніна і тузанула яе за плячо. — Ты што, начаваць тут удумала? Здурэла?

— Я… мне няма куды, — страпянулася яна. — Я Аркадзя пачакаю…

— Сыходзь адсюль, я каму кажу! — раззлавалася ўзрушаная такой бесцырымоннасцю жанчына. — Зараз міліцыю выклічу!

— Жанчына, міленькая, не крычыце так, я ж нічога не раблю. Толькі пачакаю, і ўсё, — дзяўчына ўзнялася на ногі, хаваючы ссінелы замерзлы твар пад высокі каўнер.

— Навошта ён табе?

— Трэба… я хвалююся… і грошай няма за кватэру плаціць.

— Сыходзь, — ужо спакойна кінула Антаніна і накіравалася ў хлеў. Трэба было адчыніць курэй і кінуць зерня. Раней там жылі козы, цяпер засталіся толькі куры, ды і то прыбытку ніякага. Адно кармі іх усю зіму дарэмна.

«І што ёй тут трэба… Бач, сядзіць на халоднай вуліцы, кроў гарачая», — Антаніна вярталася з задняга двара, ужо мінула голыя, пакрытыя іскрыстай шэранню кусты парэчак і цяжка ўздыхнула: учэплівая дзяўчына пераміналася ля ганка з нагі на нагу, прытанцоўвала і хукала на змерзлыя рукі. Убачыла гаспадыню і вымучана ўсміхнулася:

— Прабачце. Вы перадайце, што Майка заходзіла, я пазней наведаюся. А тэлефон не адказвае… Скажыце, што хвалююся…

Антаніна моўчкі стаяла з вядзерцам у руцэ сярод двара і праводзіла дзіўную чужынку недаверлівам позіркам. Калі дзяўчына знікла за плотам, яна паставіла вядзерца ля ганка і прысела на парэнчы.

Ужо развіднела. Зябкае сонца нехаця выкацілася на імглісты небасхіл. Паранейшаму дзьмуў парывамі колкі вецер, ашалела трапаў вывешаную ўчора бялізну. На заднім двары кудахтала рабая курыца і сварыліся за кавалак хлеба гарластыя вароны.

Антаніна скінула галёшы і цяжкую куртку, пакруціла вентыль і дадала крыху газу ў катле. Затым прайшла басанож у спальню, адшморгнула цяжкую парцьеру і ўзяла з тумбачкі тэлефон.

Аркадзь не браў доўга. Яна пачала ўжо хвалявацца, як пачула нарэшце знаёмы голас.

— Так… я… не ведаю, не спіцца… — адказала яна і здзівілася свайму ўстрывожанаму голасу. — Ага… Што вы там? Калі? Добра… А Толік?… Не, усё добра… бывай.

Адклала ў бок тэлефон і стала насупраць люстэрка. Сабрала доўгую начную кашулю складкамі вакол таліі, сцягнула мацней і ўздыхнула. Ад былой таліі не засталося і следу, не ў меру акругліліся сцёгны… «Раскапусцілася. А што? Маю права. Не дзяўчынка ўжо, мужа шукаць не трэба, і так добра», — неяк няўпэўнена пераконвала яна сябе. Затым наблізіла твар бліжэй да люстэрка і незадаволена звяла разлёцістыя бровы: невыразныя зеленаватыя вочы на шырокім скуластым твары, тонкія пабляклыя вусны, кірпаты нос, ужо глыбокая сетачка зморшчак... Прысунула бліжэй да люстэрка пуфік, узяла жорсткую шчотку і пачала асуджана часаць непакорлівыя каштанавыя валасы. Шмат, шмат ужо блішчыць у іх срэбных нітачак, нават фарба ніякая не дапамагае, адно што па тэлевізары рэкламуюць…

Амаль увесь дзень яна кідала свае справы, патэльні і фатэлі, недашытыя фіранкі, забывалася пра гарачы прас і адкрытую ва ўмывальніку ваду, каб вярнуцца да ненавіснага люстэрка. Не, да маладой госці ёй было далёка, вельмі далёка…

Антаніна нават не здзівілася, калі адвячоркам зноў пачуўся слабы стук у дзверы. Яна кінула на сябе ацэньваючы позірк у бязлітаснае люстэрка, накінула мяккі пухнаты халат і накіравалася да дзвярэй.

— Вярнуўся? — з парога пачала дзяўчына.

— Не.

— Тэлефанаваў хоць? Дзе ж ён можа быць? — і хапала ж у яе нахабства гэтак упэўнена глядзець жонцы ў вочы. А можа, яна не разумее, што я яго жонка?.. Тады хто? Дзіва нейкае. Хай, трэба паглядзець, што будзе далей.

— Вы якім чынам адрас даведаліся?

— А я і не ведала. Аднойчы на машыне тут праязджалі, хату паказаў, дзе жыве… запомніла каменку каля старой студні.

— Машыны ў нас няма, — Антаніна ва ўпор разглядала хударлявую дзяўчыну, а тая перабірала ў руках папружку маленькай торбачкі, але не адводзіла сініх рашучых вачэй.

— Ведаю, гэта калі Вова нас падвозіў, — яна змоўкла і чакала адказу.

— Паслухайце, дзяўчына, — Антаніна набрала паветра, — Аркадзь у Гародні, калі будзе, не ведаю. Давайце дамовімся, каб я вас тут больш не бачыла.

Дзяўчына моўчкі падняла на яе абураныя вочы і па-дзіцячы скрывіла вусны. Але Антаніна таксама паказала характар, дзвярыма ляскаць не стала,

праводзіла яе строгім позіркам, пачакала, пакуль яна знікне ў прыцемках, замкнула брамку і вярнулася ў хату. Скінула пантофлі і выплюхнула ва ўмывальнік ўжо астыўшую каву.

Пачуўся тэлефонны званок, і Антаніна кінулася ў пакой. Тэлефанавала Кацярына, Аркадзева сястра. Прасіла зрабіць бацьку ўкол, бо фельчарка Нінка ў горад з нейкай нагоды з’ехала.

Кацярына была многа маладзейшая за Антаніну, яшчэ ў СВК у цяпліцах працавала, двух дзяцей гадавала і бацьку ляжачага даглядаць паспявала. Не скардзілася, дапамогі не прасіла, затое і хата бацькоўская на яе была адпісана.

Якім чынам Антаніна навучылася ўколы рабіць — і сама дакладна не памятае, неяк з маладосці павялося. А што там умець — набрала з ампулы ды і ўкалола, куды патрабуецца. Абы не ў вену — за такую справу яна не бралася.

Антаніна старанна павязала цёплую хустку, сыпанула з крыштальнай вазачкі ў кішэню цукерак, апранула старыя боты і выйшла за дзверы. На лаўцы ля невысокенькага плота нехта сядзеў. Не трэба было і набліжацца, каб разглядзець ззяючы бісерам светлы берэцік. «Ды што ж гэта за бяда звалілася на маю галаву!» — пакрочыла яна ўздоўж па цёмнай, пасыпанай жвірам вуліцы.

Над хатамі неўзаметку асядала ноч. Рэдкія зоркі стылі ў халодным небе, і вецер даносіў аднекуль едкі пах дыму. Кацярыніна хата ветліва выглядала з густых зараснікаў голага бэзу, кідала на дарогу ціхае святло з вялікіх гасцінных вокнаў.

Дзверы расчыніў Віктар, Кацін муж:

— От, сваячка! Нат і не наведваецца! Праходзь, — вялізнымі рукамі ён сцягнуў з яе куртку. — Што Аркадзь? Згубіўся ў Гародні? — весела, як заўсёды, грымеў яго зычны бас.

— А Вольга з Паўлікам дзе? — Антаніна выграбла з кішэні жменю цукерак.

— Паўлік спаць залёг, прыхварэў мо, — Віктар падставіў вялікія далоні і прыняў гасцінцы. — А Вольга швэндаецца недзе, з Іркай разам, хіба не ведаеш — дзве сарокі, у школе ніяк не набалаболяцца.

— Што там з бацькам? Зноў кепска? — Антаніна накінула хустку на плечы, ссунула фіранку і ўвайшла ў асветлены пакой.

— Заходзь, — паднялася з фатэля Кацярына, невысокенькая сухарлявая жанчына — поўная супрацьлегласць свайму высачэннаму і грузнаму мужу. І адкуль у гэтым хударлявым целе было столькі моцы і сілы духу? Яна ўсміхнулася і адклала ў бок скрыначку з лекамі. — Цэрэбралізін адно ўкалоць. Нінка-та зноў да чарговага кавалера з’ехала, кажуць, з Ліды нейкі.

— А што Нінцы? — раптам раззлавалася Антаніна. — Разведзеная. Мае права кавалераў тых мяняць! Знайшла каго папракаць!

— Дык я і не папракаю, да слова прыйшлося, — разгубілася ад такой нечаканасці Кацярына і залыпала вялікімі цёмнымі вачыма — звычайна сваячка не супраць была перамыць Нінцы костачкі.

— Ну што, Пятровіч? Трымаешся? — нахілілася Антаніна над сухенькім, захутаным у коўдру, старым.

— Эге, — кіўнуў ён сівой галавой. — Мо да лета і дакешкаюся…

— Канешне, дакешкаешся, Пятровіч, і да лета, і да зімы… Няхай твая Захараўна адна там ляжыць, цябе не чакае, — яна прайшла да стала, быццам Кацярыны тут і не было, працёрла рукі гарэлкай, адкрыла шпрыц і пачала набіраць з ампулы мутнаватую вадкасць.

— Калі там Аркадзь дадому збіраецца? — замітусілася сваячка, паравярнула бацьку на бок і падняла коўдру.

— А ляд яго ведае, — Антаніна хутка ўвяла патрэбныя лекі і кінула на стол пусты выкарыстаны шпрыц.

— Ці пасварыцца паспелі ўжо? — засмяялася Кацярына. — Вядомая справа, жонка ды муж — змяя ды вуж!

Антаніна злосна зірнула ў яе бок і заспяшалася ў кухню, адкуль дзверы вялі ў сенцы. На стале дыміліся кубкі з гарбатай. Віктар няспешна наразаў сыр, кідаў яго буйнымі лустамі на талерку з каўбасой і нешта напяваў. Святло ад вялікага, пад самай столлю, плафона скакала зайчыкам на ягонай, ужо добра прыкметнай лысіне.

— Не трэба, Віць, я дадому, — яна зняла з кручка цяжкую куртку.

— Ці здарылася што? — выглянула следам заклапочаная родзічка.

— Усё добра, — Антаніна прымусіла сябе ненатуральна ўсміхнуцца і выйшла ў сенцы.

Яна рашуча тупала па замерзлай зямлі, спяшалася дадому. Вось зараз прыйшла пара паказаць, хто тут гаспадыня, гнаць яе ў шыю, прыблуду гэтую…

У густых прыцемках, пад святлом самотнага ліхтара добра было відаць нерухомы цень на лаўцы.

— Зноў ты тут? — з сілай тузанула яна паніклае плячо ў тонкім паліто. — Слова людскага не разумееш?

Але лаянкі, якой чакала жанчына, не атрымалася. У адказ плячо тарганулася, а потым панікла яшчэ больш, дзяўчына паваліілася і пачала з'язджаць з лаўкі.

— Ты што гэта? Ці дрэнна табе? — перапалохалася Антаніна і схапіла яе за руку.

Дзякуй богу, дзяўчына была ў свядомасці, але што яна там прамармытала, разабраць усё ж не змагла. Антаніна нахілілася, павесіла яе тонкую руку сабе на шыю і павалакла ў двор. Тая ківалася, але неяк усё ж ішла, пакорліва пераастаўляла ногі ў высокіх вузкіх ботах і не выпускала з рук сваёй маленькай торбачкі.

— От жа ж, божачкі, гэтага мне не хапала, — Антаніна паклала дзяўчыну на вузкую канапу, кінула на падлогу куртку і ўключыла святло.

— Аркадзь? — расплюшчыла вочы дакучлівая незнаёмка. Твар яе быў бяскроўным, амаль блакітным, такімі ж белымі здаваліся і абветраныя пульхныя вусны.

— Няма яго, — цяжка ўздыхнула Антаніна і прысела на канапу. Што рабіць далей, яна не ведала. «Маладзенькая… Магла б і дачкой быць… Я б сваю не пусціла дзеля мужыка чужога па марозе валэндацца…»

— То я пачакаю? — ні то спытала, ні то зацвердзіла госця і зноў заплюшчыла вочы.

Праз колькі хвілін яе пачало трэсці, дробна застукалі зубы. Жанчына забылася пра свае невясёлыя думкі, падарвалася з месца і пачала сцягваць з яе вузкія на шпільках боты і расшытае аксамітнымі ружамі паліто. Пад ім аказалася цёплая трыкатажная сукенка, але занадта кароценькая, і чорныя шарсцяныя калготы. Асцярожна сцягнула абсыпаны бісерам бярэцік, і па канапе рассыпаліся густыя залацістыя валасы.

«Маладая, прыгожая… Маладосць — яна заўсёды прыгожая», — балюча кальнула горкая думка.

Антаніна прынесла са спальні пульхны плед, накінула на халодную, што лёд, дзяўчыну і прайшла ў кухню. Уліла ў чайнік свежай вады і пацягнулася па тэлефон. Знайшла ў спісе выклікаў Аркадзя, паглядзела на запіс, нібы бачыла ўпершыню, памаўчала і ў нерашучасці адклала тэлефон у бок.

Калі яна вярнулася ў залу з вялікім кубкам гарбаты, госця ўжо спала. Антаніна падышла бліжэй, нахілілася і прыслухалася. Не калоціцца, дыханне роўнае. Зграбла з падлогі сваю вопратку, падняла і паліто, ад якога зыходзіў ледзь чутны саладкавы водар парфумы.

«Вось табе і на. Добры падарунак Аркадзь зрабіў, якраз да дня нараджэння тыдзень з хвосцікам застаўся… Ці ўсё ж не падарунак? Ну прыбілася нейкая, і што з таго? На вуліцы ў мароз ноччу не кінеш — чалавек усё ж. Заўтра разбяромся, што да чаго…»

Пад раніцу небараку зноў пачало трэсці, яна стагнала і кідалася амаль у беспрытомнасці, галава зрабілася гарачай. Антаніна мітусілася па хаце ў пошуках скрынкі з лекамі. Патаўкла таблетку аспірыну, размяшала ў цёплай вадзе і сяк-так уліла ў знясіленаю, пакрытую халодным потам хворую. Ніякіх паляпшэнняў відаць не было, прыйшлося выклікаць «хуткую дапамогу». Трэба было б адразу гэтак і зрабіць — чаму гэта павінна быць яе клопатам? У раённай бальніцы няхай сабе займаюцца, і ў міліцыі таксама, а ёй і так ёсць што рабіць, у яе сваё жыццё, дзе няма месца залётным нахабным дзеўкам. Падняла з падлогі маленькую торбачку і вытрасла змешчаныя ў ёй абы-як рэчы. Люстэрка, памада, скамячаныя грошы, разражаны нежывы тэлефон, чорныя вязаныя пальчаткі, ключы, бліскучая бірулька сэрцам… Ні пашпарта, ні пропуска, ні студэнцкага… Хто такая, адкуль з’явілася, чаму менавіта на яе, Антаніну, галаву ўпала? Бяда, адным словам…

Ужо зусім развіднела, калі нарэшце з’явілася «хуткая». Малады чарнявы доктар ляніва пазяхнуў, прайшоў у пакой абутым і грукнуў аб падлогу пластмасавым сінім куфрам.

— Даўно тэмпература? — доктар адно зірнуў на хворую і расчыніў свой саквояж. — Кашаль ёсць? Насмарк? Горла баліць? — ён адклаў у бок градуснік і ўсунуў у вушы фанендаскоп.

— Не… я не ведаю, — Антаніна дапамагла доктару падняць сукенку, з-пад якой выглянуў белы карункавы станік.

— Нічога не баліць, — слабым голасам адказала дзяўчына і зажмурыла ад яркага святла вочы.

Доктар моўчкі сабраў свой куфар, нешта начыркаў на паперцы, працягнуў яе Антаніне і накіраваўся ў калідор.

— У бальніцу? — Антаніна сцягнула на пышных грудзях халат і заспяшалася ўслед.

— Не шкадуеце вы дачку, бальніца перапоўненая — на калідоры ляжаць будзе. Справа не сур’ёзная, амоксіцылінчыку паколіце — праз дзён колькі на ногі падымеце. Да жаніха пабяжыць. Чаго страпянуліся? Усё добра будзе. Але як пагоршае раптам — не адкладайце, тэлефануйце, — доктар затрымаўся на парозе. — Ну, і пасцельны рэжым, вядома ж, цёплае пітво, парацэтамол…

Жанчына замкнула дзверы і разгублена вярнулася ў вялікую залу.

— Няма яшчэ Аркашы? — узняла мутныя вочы дзяўчына.

— А каб цябе пранцы ўзялі! — буркнула яна ў адказ і знікла ў спальні.

Спала доўга, ледзь не да абеду. Таму вельмі звінела галава, ламала косці, перад вачыма мітусіліся белыя матылі. Антаніна крыху пасядзела на ложку, накінула халат і прайшла ў залу, дзе спала няпрошаная госця, гарачая, як прас. Затым умылася халоднай вадой, паставіла на пліту медную турку, сыпанула ў яе кавы ў два разы больш, чым заўсёды, і пацягнулася па тэлефон.

— Нін… алё… Тоня гэта… Ты ў Лідзе? Дзе?... Нінусь, заскоч да мяне, ага. І гэта, слухай, амоксіцыліну купі, не… у ампулах, і шпрыцоў… ну, колькі ампул там тых… Добра, чакаю… Добра-добра, нічога…

Пасля кавы на душы зрабілася лягчэй, галава быццам бы адпусціла, перастала сціскаць жалезнымі абручамі сэрца…

Спрабавала займацца звычайнымі справамі, але ўсё рабілася неяк на аўтамаце: смажылася бульба і мыўся посуд, сыпалася зерне незадаволеным курам, размаўлялася па тэлефоне з сынам і не бралася трубка, каб адказаць Аркадзю. А госця, знай сабе, спала і не аб чым не клапацілася…

Адвячоркам завітала і Нінка, весела ўвалілася ў хату:

— Захварэла, Тонька? — паказаўся ў дзвярах яе румяны кірпаты твар, з нязменнай ярка-ружовай памадай. — Накупіла табе ўсялякай трасцы, — яна скінула у калідоры паўкажушак і замшавыя боты і заспяшалася ў залу. — І амоксіцыліну, і вітамінаў, і лядзяшак ад кашлю. Скідай штаны, зараз як зраблю… — Нінка прыціхла, убачыўшы незнаёмую дзяўчыну, якая насцярожана паглядала на яе паверх пухнатага пледа.

— Добра, Нін. Дзякуй. Кідай на стол, разбяруся, — Антаніна ўзяла са століка кашалёк. — Колькі?

— А сто семдзесят. Вунь, чэкі тутака, — Нінка зноў заўсміхалася. — Што, сынуля нарэшце нявесту прывёў? Прыго-о-о-жая! — ветліва схілілася над ёю фельчарка. — Захварэла? Усе вы, маладыя, без шапкі швэндаецеся! — махнула яна мяккай акруглай рукой.

— Трошкі, — хрыпла адказала дзяўчына. — Дзякуй вам. Ніколі б не падумала, што такія людзі добрыя тут жывуць, — і зірнула на Антаніну: — Мне б толькі Аркашу дачакацца.

На Нінчыным твары застыла ўсмешка, і раптам ярка-ружовыя вусны непрыгожа скрывіліся, а светлыя, падведзеныя карычневым алоўкам, бровы папаўзлі ўверх.

— Дзякуй, Нін. Ідзі. Сама ўкалю.

— Як знаеш, — фельчарка пайшла за Антанінай да выхаду, а сама ніяк не пераставала азірацца на дзіўную госцю.

У калідоры Нінка зноў зрабілася смяшлівай:

— Дык што, не Ромкава нявеста? — марудна зашпільвала яна паўкажушак, нібы нікуды не спяшалася.

— Нін, не выдумляй. Знаёмая Аркадзева. Не кідаць жа на вуліцы. Прыедзе, разбяруцца.

— Ага, ага… разбяруцца, — схавала яна кароткія саламяныя валасы пад квяцістую хустку і ўсміхнулася.

— Нін, ну ты як дурніца якая…

— Хто дурніца, дык гэта ты! — пакрыўджана буркнула Нінка і ляснула дзвярыма.

Антаніна няспешна расклала на дзве талеркі ўжо халодную бульбу, дастала з лядоўні марынаваныя памідоры, ўзяла два відэльцы і накіравалася ў пакой.

— Ой, не, што вы, я не буду! — запратэставала дзяўчына.

— Ну, што, давай знаёміцца, — паставіла на плед адну талерку Антаніна, а сама размясцілася ў фатэлі.

— Ну што там знаёміцца, мяне Маяй зваць, я казала… вось… З Ліды я.

— І якім чынам тут апынулася?

— Казала ўжо… Аркадзь знік, за кватэру плаціць няма чым, на вуліцу выганяць, калі да канца тыдня грошы не прынясу.

— Гэта я чула. А пры чым тут Аркадзь?

— Ну, раней я плаціла, я швачкай працую. А як сталі з Аркашай жыць…

— Што ты гаворыш?! Як вы з ім маглі жыць, калі ён тутака жыве?

— Так, правільна кажаце. Не то каб жыць, але так… наездамі. У яго ж таксама праца, справы… А вы кім яму даводзіцеся? Родзічкай?

— Родзічкай, — кіўнула Антаніна і паставіла на шкляны часопісны столік некранутую талерку.

— Вось, а ён на днях грошы ўсе забраў, некуды патрэбны былі, я ў яго справы не лезу, а плаціць няма чым, нават у краму няма за што ісці. А ў мяне няма нікога, адно сяброўкі, ды і тыя… ведаеце… Ды халера з імі, з грашыма, адно б знайшоўся! Сказаў, праз дзень вернецца і знік, разумееце? А хату вашу, каменку ля старой студні, я запомніла, калі Вова падвозіў… А зараз я сама дайшла… пешшу. Тут недалёка.

— Гэта я таксама чула. Значыць, зробім так: я дам табе грошы, і ты паедзеш дадому, а калі Аркадзь вернецца, ён табе патэлефануе, напэўна…

— Дзякуй, дзякуй вам вялікі! — сінія вочы зноў праясніліся. — Мы ўсё вернем, усё-ўсё! — Мая таксама адсунула ў бок талерку і адкінула плед.

— Куды ты? Заўтра пойдзеш! Скідай штаны, укол зараджу…

Мая ўжо крэпка спала, а Антаніна варочалася на шырокім ложку. Слёз чамусьці не было. Адно расчараванне і злосць. «Гэта ж трэба было! Столькі гадоў пражылі! Сівізна ў бараду, чорт у рабро, маладуху яму падавай! Скаціна няўдзячная! Добра ўладкаваўся — і жонцы галаву задурыў і дзеўцы! Назваць яе «каханкай» язык ніяк не паварочваўся, нават у думках. Ну ладна ён, тое зразумела — хоць бы і невялікая прыгажуня, але ж маладая… А яна? У дачкі яму згадзіцца, як не сорамна? Вось вазьму і папытаюся заўтра, што яна ў ім знайшла…»

Сваю пагрозу Антаніна не выканала, бо з самай раніцы Мая была зусім не свая, ляжала амаль непрытомная, ды яшчэ і кашаль распачаўся такі, што фіранкі на вокнах калыхаліся. Антаніна сяк-так уліла ў яе паўкубка вады з раствораным парацэтамолам. З зайздрасцю кінула погляд на пругкія маладыя ягадзіцы, спрытна, па-майстэрску зрабіла ўкол, і адправілася да старой Кірэйчыхі.

Неўзабаве вярнулася разам з ёю. Прыземістая каржкаватая жанчына з шырокім зморшчаным тварам начапіла на востры нос вялікія акуляры, ад якіх вочы здаваліся занадта выпучанымі, а яна сама — яшчэ больш падобная на старую натапыраную саву, і патупала ў пакой у бурках з бруднымі галёшамі. Там яна пачала вывуджваць з кішэнь нейкія пакуначкі з сухімі зёлкамі. Антаніна пакорліва прымала іх і складала на часопісны столік.

— Во-я-ёй, — Кірэйчыха пасунула падол старой плюшаўкі і прысела на канапу побач. — Прыгожая, як куклёначак… А ў грудзях-та, у грудзях сіпіць, нібы гармонікі граюць… Ты ета, лазню-та падпалі добранька, папар з ядлоўцам, з бярозкай, ліпкі завары…

— Якая лазня, Максімаўна? Ці не бачыш — гарыць уся.

— Ну, ты ета, не спор. Ад ліпы з бярозай яшчэ нікому горш не было. Мяту завары, мальву. А яшчэ лепш — рэдзьку з мёдам. Ёсцека?

— Ёсцека…

— От. А лепш за ўсё — барсучыны тлушч. Шкада, што скончыўся. Папытай у каго, і казіны згадзіцца…

— Добра… Папытаю…

Антаніна правяла старую да дзвярэй і нехаця ўзялася за тэлефон.

— Нін, то я. Зноўку… Не, паглядзі, што там ў цябе ад кашлю ёсцека… Сухі, здаецца… І парацэтамолу яшчэ захапі… Няхай сабе і аспірын… Чакаю.

На гэты раз Антаніна не пусціла Нінку ў хату. Нават сама на ганак выйшла, каб праз парог грошы не аддаваць.

— І калі твой благаверны з'явіцца? — яхідна ўсміхнулася фельчарка і працягнула пакет.

— Нін, ні рві душу…

Мая спала раніцай, спала ўдзень, натужна кашляла ўвечары.

Аркадзь тэлефанаваў раніцай, тэлефанаваў удзень, тэлефанаваў увечары.

Антаніна не адказвала яму раніцай, не адказвала ўдзень і ўвечары таксама. Пaціху займалася хатнімі справамі, варыла булён, пякла пірог з марожаных вішань, заварвала ліпу з мёдам, лазіла ў склеп па малінавае варэнне, калола ўколы, расцірала Майку раздабытым Кірэйчыхай барсучыным тлушчам, разам з тым з засмучэннем параўноўвала сябе з маладым і прыгожым целам, і падымалася ўначы амаль кожную гадзіну, каб глянуць на хворую. Кожную гадзіну прыкладала да яе лба шырокую руку і прымушала піць ліпавы чай.

Раніцай Маі палепшала, галава астыла, перастала сіпець у грудзях, адно кашаль аніяк не супакойваўся. Дзяўчына панылa ляжала на жорсткай канапе і абыякава глядзела ў акно, за якім хісталася чорнае голле. Сінія вочы нібы згаслі і пабляклі, густыя вейкі кідалі доўгія цені на схуднелыя і бледныя шчокі, яшчэ больш завастрыўся тонкі нос, пабляднелі, завялі пульхныя вусны. Раптам з'явілася нейкая фатальная, сумная прыгажосць, якая міма волі прыцягвала пагляд і вабіла яшчэ больш. Было ясна відаць, што змарылася яна зусім не ад хваробы, а ад тугі па Аркадзю.

Зараз Антаніна дакладна ведала, што ехаць у бальніцу ўжо вялікае патрэбы няма. Гэта адно, што яна ведала. Больш не ведала нічога — ні як прызнацца, што жонкай даводзіцца, ні як і калі выгнаць яе, ні што сказаць Аркадзю і, наогул, што рабіць далей. А што, калі ачуняе, возьме Аркадзя пад руку і забярэ ў Ліду? Антаніна назірала за ёю з-за прыадчыненых дзвярэй, раздумвала і нервова пакусвала тонкія сухія вусны.

Калі ў аглушальнай цішыні зазвінеў тэлефон, Антаніна здрыганулася. Тэлефанавала Кацярына:

— Чаго трубкі не бярэш? — непрыемна зазвінеў яе высокі раздражнёны голас. — Другі дзень Аркадзь хвалюецца! Ты гэта кінь! Чуеш? Клопату-та, га, на мужа абурыцца! Як дзіця малое!

— Клопат у мяне адзін, — на ўсялякі выпадак Антаніна шчыльней прыкрыла дзверы ў кухні, — гуляка мой, з ягонай палюбоўніцай.

— Што-о? Што ты нясеш? Пра Аркадзя хіба? — голас стаў яшчэ танчэйшым, нават віскатлівым.

— А пра каго ж? Пра яго, міленькага. Сам з'ехаў, а ці да Толіка, невядома яшчэ, а мне тут каханку ягоную даглядай!

— Ды што ты мелеш?! Пабойся Бога, каб табе язык адсох!

— Брахаць не буду. Ідзі сама паглядзі. Маладая зусім, з Ліды, дзе благаверны мой быццам бы працуе.

— Ну, Тося, зараз прыйду! Я табе, дурніцы, пакажу! — у трубцы пачуліся кароткія гудкі.

Не прайшло і паўгадзіны, як сваячка была на ганку.

— Ну, што ты, крыўда хадзячая, — Кацярына дастала з пакета вялікую шакаладку і некалькі ружовых зефірын. — Віктар раіў віно браць, але я вырашыла лепш за кавай палалакаем, ты паскардзішся, я паслухаю, — яна зняла капюшон, спрытна расшпіліла і кінула на вешалку пухавік. — У нас з Віцьком таксама па-рознаму бывае, то пасварымся, то памірымся, а пад старасць, паверыш, так надакучыў… Не хочу я твайго пірага, не крыўдуй, — шчабятала яна ў кухні. — Ты навошта тры кубкі зрабіла?

— Каць, думаеш, я жартую? Аркадзева палюбоўніца на канапе ў зале ляжыць, — Антаніна засяроджана ставіла на блакітны з рамонкамі паднос кубкі і талерку з пірагом. — Дужа яна захварэла. Дзяўчо зусім. Ты пакуль маўчы, я сама скажу, што жонка, калі ачуняе, — яна падхапіла цяжкі паднос і знікла за дзвярыма. Прыгаломшаная Кацярына недаверліва пакрочыла ўслед.

— Не варта было, — слаба ўсміхнулася Мая, калі ўбачыла поўны паднос. — Я б і сама прыйшла.

Антаніна працягнула ёй гарачы кубак і села ў фатэль побач. Другі фатэль заняла Кацярына, якая не адводзіла здзіўленых вачэй ад маладой незнаёмай дзяўчыны.

— Гэта Мая, Аркадзева знаёмая, а гэта — Кацярына, таксама родзічка, — Антаніна рабіла доўгія паўзы і нацягнута ўсміхалася, цяпер усё гэта здавалася дурной і нікчэмнай гульнёй.

Кацярына кіўнула і перавяла здзіўлены позірк на Антаніну. Затым набралася адвагі, паёрзала ў фатэлі і пацікавілася:

— Дык знаёмая?

— Можна і так сказаць, — Мая пацягнулася па чорны і вастрабокі, як шкляны аскепак, кавалак шакаладу.

— Нявеста? — ажно нахілілася ўперад Кацярына. У адказ Мая кіўнула галавой і захрумстала шакаладам. — Жаніцца абяцаў? — не адставала жанчына.

— Нічога не абяцаў, не гаварылі мы пра тое…

— А колькі ж табе гадоў?

— Дастаткова мне гадоў. Дваццаць тры. Ведаю, што маладзейшай выглядаю.

— А… хіба ж табе цікава з ім? З дзядзькам старым?

— Ой, вы як скажаце! — засмяялася Мая і страсянула густой капой залатых валасоў. — Канешне, цікава. А што равеснікі? Адно ў ложак. А Аркадзь… найперш за ўсё я для яго асоба. Чалавек, цікавая субяседніца, разумееце? Да і ў ложку, раз ужо завялі гутарку, усё ў поўным парадку.

Кацярына ўспыхнула, загарэліся шчокі і ў збянтэжанай Антаніны, якая не ведала, куды хаваць вочы. А бессаромнай дзяўчыне, хоць бы што, яна працягвала з годнасцю піць каву.

— А пазнаёміліся як? — Кацярына пасунула фатэль бліжэй і падрыхтавалася слухаць усю неверагодную гісторыю.

Мая доўга і безупынна кашляла, прыціскаючы дзвюма рукамі кубак да канапы, каб не расплюхаць каву.

— Звычайна пазнаёміліся, як усе, — нарэшце адкашлялася яна. — Увечары, у скверыку. Потым у кіно пайшлі…

— У «Юбілейны»? — страпянулася Антаніна, раптам успомніліся колішнія паходы ў кіно разам з мужам.

— У «Юбілейны», — згадзілася Мая і зноў закашлялася. — Ну і пайшло-паехала, кветкі, цукеркі, падарункі — ён гэта ўмее. Прыемна, што казаць. На руках насіў, нават верш прысвяціў! А вы гаворыце, равеснікі…

Сядзелі моўчкі. У Майкі радасна ззялі вочы, Кацярына ківала галавой, а Тоня думала. Думала аб тым, што зусім не ведае свайго Аркадзя, так і не пазнала, не вывучыла за сумеснае жыццё. «Няўжо і праўда закахаўся, пень стары? Кіно, кветкі, падарункі… Бывала, што і мне дзе кветак наскубе, але калі тое было… І на руках… якое там, такую таўстуху яшчэ падымі… А-а, сама вінаватая: Аркадзь тое, Аркадзь сёе, туды не хадзі, тое не рабі… Дажылася…»

— Добра, Каць, ідзі ўжо, лекі трэба прымаць, — Антаніна сабрала на паднос пусты посуд і сумна пасунулася ў кухню.

— Чуеш, Тонь, — зашаптала ў вітальні Кацярына, — дарэмна ты не сказала, трэба было б адразу адрэзаць.

— Як адразу? Чакала яна яго ледзь не суткі на вуліцы, вунь і захварэла… Ачуняе, скажу.

— Ды здаровая ўжо, кабыліца… Дзіўлюся я з цябе! Ды я б са злосці ўсе пасмы павыдзірала!

— Прайшла ўжо злосць. Дам грошай, няхай сыходзіць.

— Здурэла? Нат і не думай! Вой, Віцю казаць не буду. І трубкі не бяры, правільна… Што ж гэта нам рабіць, га?

— А нічога. Калі б з якою шлёндраю пацягаўся, паначаваў дзе — пасварылася б ды і забыла. А тут… Няхай разам сыходзяць, торбу збяру.

— Вой, Тоня-Тоня, — пакачала яна галавой, — не спяшайся, локці кусаць будзеш…

— Паглядзім яшчэ, хто будзе, — зачыніла дзверы Антаніна і потым дадала: — Ой, што ж гэта людзечкі скажуць?

Уначы пасыпаў мокры снег. Буйныя шматкі ляпалі ў шыбу і сцякалі мутнымі рэдкімі кроплямі, нібы скупыя балючыя слёзы. Шалёны вецер бесперапынна бразгаў аканіцамі і скуголіў у старым коміне. Антаніна не спала. Круціліся ў галаве цяжкія неадчэпныя думкі. Не спала ад безупыннага кашлю і Мая. У слабым святле адзінокага ліхтра дрыжэлі, хісталіся на падлозе страшэнныя вуглаватыя цені галін.

Уранні Антаніна падхапілася і саскочыла з ложка. Нехта шкрабаўся ў вітальні. Звыклым жэстам яна паправіла растрапаныя валасы і хутчэй заспяшалася да дзвярэй.

— Хто там? — з трывогай прытулілася яна да абабітых шалёўкай дзвярэй. А калі пазнала знаёмы голас, адамкнула клямку.

— Баішся, што ўкрадуць? — ступіў у хату малады шыракаплечы хлопец у шэрай з футравай аблямоўкаю курткі.

— Ромка! — радасна заззялі яе вочы. — А чаму ж не папярэдзіў? Патэлефанаваў бы хоць!

— А-а, навошта, заняткаў сёння няма, ускочыў у першы аўтобус, — хлопец кінуў на палічку каля люстэрка ключы і зняў куртку.

— Чаму без шапкі? — яна паднялася на дыбачкі, абняла яго крэпкую шыю і патрапала густыя чорныя валасы

— Капюшон цёплы. Ды і дажджу ўжо няма, — ён лёгка падхапіў з палавічка сваю торбу і накіраваўся ў залу.

— Вой, а ў нас снег усю ноч сыпаў! Я ў краму зараз збегаю, буцік пакуль зрабі, ці гэта, пельмені ў маразільні, — замітусілася Антаніна ў кухні.

— Ма-ам, — праз хвіліну з'явіўся там і Рома. — А хто гэта ў нас там спіць, на канапе?

— Дык, — здрыганулася Антаніна і стукнула талеркай аб стол, — дык гэта Кірэйчыхі родзічка, захварэла яна…

— А чаму менавіта ў нас хварэе?

— Ну, папрасіла Кірэйчыха. Ці рамонт там у яе, ці яшчэ якая трасца, — яна старанна рэзала хлеб. — Не звяртай увагі, твой пакой свабодны. Начаваць застанешся?

— Ага, — Рома ўзяў з дошкі лустачку сыру. — Я ў краму збегаю, грошы давай. Што там набыць трэба?

Вярнуўся Рома скора. Ён усё рабіў скора, на хуткую руку, часам і не разважаў, сек з пляча. Увесь у бацьку пайшоў. Антаніна не адважылася будзіць

Майку, таму снедалі без яе. Рома нешта распавядаў, смяяўся. Антаніна бегла усміхалася,ківала галавой і няспынна памешвала ўжо халодную каву.

— І да Міцькі схаджу…

— Схадзі, сынок, схадзі…

Яна ўсё яшчэ памешвала каву і глядзела некуды ў акно, калі Рома вярнуўся ў кухню ў новай кашулі.

— Сімпатычная, — спрытна зашпільваў ён матавыя гузікі.

— А?

— Родзічка, кажу, у Кірэйчыхі сімпатычная.

— Ага… Калі вернешся?

— Ой, мам, не ведаю. Уранні, п'яным і з жанчынаю. Чаго ты? — зарагатаў ён. — Жартую. Мо ў Ларышчы з Міцькам зганяем. Увечары буду.

Антаніна памыла посуд, зірнула на экран тэлефона, дзе зноў красаваліся неадказаныя выклікі ад Аркадзя, і прайшла ў залу.

— Мая! Майка! — патрэсла яна хударлявае плячо ў крэмавай сукенцы, што выглядала з-пад цёплага пледа. — Падымайся! Час лекі прымаць…

Дзяўчына нехаця адкрыла пацямнелыя вочы.

— Аскарбінкі вазьмі, гарбату я ўжо заварыла, — не пераставала клапаціцца Антаніна. І пачала акуратна абразаць пілкай ампулу. — Ізноў ты гарачая, што печ. Мо, у бальніцу?

У адказ Мая ўткнула твар у пуховую падушку і гучна зарыдала. Антаніна разгублена апусціла шпрыц:

— Ну, як не хочаш, то не едзь… Я так сказала… Хвалююся…

— Што вы ад мяне хаваеце? — хрыплым дрыжачым голасам прамовіла яна і ўзняла заплаканы твар. — Дзе Аркадзь? Кінуў мяне? Кінуў?! Не вернецца?

Антаніна маўчала. Мая ўсхліпнула і зноў бязгучна ўткнулася ў падушку, адно сутаргава ўздрыгвалі яе вастраватыя плечы.

Антаніна моўчкі зрабіла ўкол, пакінула на століку паднос са сняданкам і лекамі і выйшла.

Яна выцірала сухой анучай размарожаную лядоўню, калі дзверы адчыніліся і на парозе з'явіўся Рома.

— Ужо нагуляўся? — кінула яна анучу і абярнулася. — Я вось падумала, а ці не нагрэць нам сёння лазню?

Рома, хмуры, як грамавая хмара, кінуў на пуфік мокрую куртку.

— Ці зноў дождж?

— Мам, хто ў нас жыве?

— Дык сказала ўжо…

— Каго ты падманваеш?! Ведаю ўсё! Пусціла ў хату распусніцу, аферыстку!

— Ром…

— Што Ром? Што Ром?! Людзі з цябе смяюцца!

— Ды паслухай жа ты…

— Не буду нічога слухаць, — буркнуў ён. — Выкідай зараз жа. А з бацькам я яшчэ пагавару… па-мужчынску пагавару. Забудзе ён цябе крыўдзіць, жаніх…

— Ром, я выганю, я скажу, але ж зусім хворая… Чалавек усё ж-такі…

Рома яшчэ больш спахмурнеў і выйшаў з кухні. Антаніна пасунулася ў калідор, каб заступіцца за хворую Маю. Але сын выйшаў са сваёй торбай і пачаў абувацца.

— Ром, ты што гэта? — схапіла яна ягоную куртку і прыціснула да сябе. — Аўтобус ажно ў сем. Перастань, Богам прашу!

Рома вырваў з яе рук куртку і гучна бразнуў дзвярыма.

— Рома!

— З-за мяне пасварыліся? — спытала збянтэжаная Мая, толькі Антаніна ўвайшла ў пакой.

— Не звяртай увагі…

— Вось ачуняю і сыду, абяцаю. Адно клопаты вам. Не вернецца ён, пэўна, пакуль я тут, — яна прыцягнула да сябе каленкі і села. — Ужо зразумела, што не варта яго чакаць.

— Нічога, дачакаемся… Я таксама вельмі чакаю…

— Думаеце, вернецца?

— Вернецца. Да жонкі заўсёды вяртаюцца.

— Да жо… да каго? — яе вочы зрабіліся вялізарнымі.

— Так, да жонкі, да мяне, — ганарліва паглядзела яна на дзяўчыну, а затым горка ўсміхнулася.

— Не, — пахітала яна галавой і пасунулася далей да сцяны. — Не можа гэтага быць. Не трэба так жартаваць. Не смешна.

— Мая, я табе кажу, што Аркадзь — мой муж. Ці пашпарт паказаць?

— Не можа гэтага быць, — яна ізноў пахітала галавой, сінія вочы патухлі. — Ён бы сказаў… і… і толькі не вы…

— Чаму? Такая ўжо я старая? — зараз Антаніна нават не сумнявалася, што Мая сыдзе. Ну і няхай сабе, трымаць не варта…

Але Мая чамусьці павяла сябе зусім дзіўна: прыціхла, прыкусіла вусны, адкінулася на мяккія падушкі і адвярнулася да сцяны. Ні слёз, ні крыкаў ні істэрыкі, ні высвятлення адносін.

— Ну, калі такая справа, каханне ў вас, і ўсё такое… Адпушчу. Далібог, адпушчу. Забірай…

Гэтай ноччу Антаніна спала спакойна, упершыню за апошнія дні. Не звяртала ўвагі ні на адзічэлы налётны вецер, які сыпаў у акно снежным пылам, ні на жаўтлявае зыбкае святло адзінокага ліхтара, ні на злавесныя дрыготкія цені, ні нават на ўсхліпванні і бясконцы хрыплы кашаль хворай госці. Галава была надзвычай лёгкай, думкі — яснымі, сон — спакойным. Усё вырашыла для сябе — пражыве, ні яна першая, ні яна апошняя, няма аб чым турбавацца. Таму і раніца падалася прыемнай і бадзёрай. Антаніна дазволіла сабе ўдосталь паваляцца, потым рассунула цяжкія парцьеры і доўга, старанна расчэсвала густыя валасы. Не, сёння ніякіх хатніх спраў! Адно кава. І шакаладка. А трэба яшчэ і Кацярыну запрасіць, з абяцаным віном, каб развітацца з сямейным жыццём, праводзіць у апошні шлях.

Грукнула брамка, і праз колькі хвілін у замочнай свідравіне заварушыўся ключ. Антаніна ўсміхнулася — добра, што на клямку не замыкала — ведала, што Ромка ў горад не паехаў. Відаць, у Міцькі заначаваў.

— Ці лямпачка перагарэла? — пачуўся мяккі радасны голас Аркадзя. — Сядзіш у прыцемках, як мыш тая… Тонь, ты ў хаце?

З дрыжачых Антанінiных рук раптам вываліўся кубак, пакаціўся, загрымеў па падлозе, пакідаючы белы з бурым след цукру і молатай кавы.

— Гаспадынька ты мая, — Аркадзь пакінуў на стракатым палавічку начышчаныя да бляску туфлі і ступіў у кухню. — Не рада хіба? — ён нерашуча застыў на парозе, але ў карых вачах яшчэ гуляла іранічная ўсмешка.

Антаніна стаяла і глядзела на яго, быццам у апошні раз бачыла яго малайцаватую і гордую постаць — быў ён невысокі, але статны і шыракаплечы — выпраўка на зайздрасць любому ў такім ўзросце. Стаяла і маўчала.

— Тонь, ты чаго? — усмешка знікла з ягонага загарэлага твару.

Раптам яна схавала твар у далоні і заплакала, па-дзіцячы жаласна. Куды толькі падзелася нядаўняя ўпэўненасць і рашучасць.

— То-онь, — ступіў ён бліжэй і працягнуў да яе жылістую руку. — Тонь…

— Пайшоў прэч! — гнеўна адшурхнула яна яе і злосна загаласіла: — Навошта заявіўся?! Едзь, гуляй далей, мне і без цябе не сумна!

— Ты ж сама ехаць не хацела… Чаго цяпер крычаць? — зусім разгубіўся Аркадзь.

— А і праўда, чаго крычаць? — Антаніна шморгнула носам, узяла са стала кухонны ручнік і выцерла заплаканыя вочы. Нейкая злавесная, нядобрая ўсмешка з’явілася на скрыўленых вуснах. — Гуляй сабе, забаўляйся, я сама аб тваіх палюбоўніцах пячыся буду…

— Што ты мелеш? — зарагатаў Аркадзь і пахітаў кучаравай, пачынаючай сівець галавой. — Як прыдумаеш што, хоць стой, хоць падай. Я ўжо думаў, здарылася што… Якія табе палюбоўніцы, чукча ты, — ён ізноў пасрабаваў абняць яе, але Антаніна адскочыла:

— І не сорамна табе, кабеліна ты гэткі, на старасці гадоў з дзеўкамі валэндацца, га?

— Тоня, ведаеш, што? — яго голас раптам зрабіўся сур’ёзным і халодным. — Я з табой размаўляць не буду, пакуль ты гэтую істэрыку не скончыш. То трубкі не бярэ, то віскоча, як прыдуркаватая, мехам стукнутая, — і пакінуў кухню.

— Правільна-правільна, у залу адразу і ідзі, — не адставала ад яго жонка. — Там цябе сюрпрыз чакае!

Аркадзь увайшоў у цёмную, з завешаным акном залу і спачатку не заўважыў на канапе госцю. І толькі калі яна варухнулася і паспрабавала сесці, ён азірнуўся.

— Ізноў з-за мяне сварыцеся? — з цяжкасцю ўзнялася Мая. — Сыходжу, я сыходжу…

— А… — замяўся Аркадзь. — Добрай раніцы, — і запытальна зірнуў на Антаніну, якая скрыжавала на пышных грудзях рукі і стаяла цяпер у дзвярным праёме.

— Ці фельчар? — узняла дзяўчына мутныя вочы. — Не, я ў бальніцу не паеду, я дадому лепш пайду, мо не выганяць, — яна нахілілася і выцягнула з-пад канапы торбачку.

— Вы што мне тут камедыю гуляеце? — страпянулася Антаніна і ўпёрла ў акруглыя бакі рукі. — Сыходзьце абое!

— Ціха ты! — махнуў рукой Аркадзь і прысеў на канапу. — Хто такая, адкуль?

— Майка я, з Ліды, — уздыхнула яна. — Да Аркадзя прыйшла, а ён… Няма яго.

— Ёсць ён. Я — Аркадзь. Слухаю.

— Я праўда, да Аркадзя, — Мая адсунулася далей і ўцягнула галаву ў плечы. Цяпер яна была падобная на абадранага хворага вераб’я.

— Тоня, хто гэта? — узняў ён халодныя дапытлівыя вочы на разгубленую жонку. — Да якога Аркадзя?

— Ну чуеце ж… да Аркадзя, — паціснула плячыма Мая.

— Прозвішча?

— Не ведаю… Тут ён жыве, у каменцы каля старой студні…

Аркадзь падхапіўся і схапіў жонку за локаць:

— Звар’яцела?! Ты каго ў хату пускаеш? Тэлевізар не глядзіш? — Антаніна спалохана закруціла галавой. — Грошы на месцы? Золата? Правярала? — і зноў падскочыў да ашаломленай дзяўчыны. — Пашпарт!

— Няма ў мяне з сабой, у гаспадыні застаўся…

— От! Бачыла, што робіцца? Выклікай міліцыю!

— Ды пачакай ты! — схапіла яго далонь Антаніна. — Зараз разбяромся! — і строга зірнула на Маю: — Яшчэ раз, з самага пачатку…

— Божа ж мой, Божа, — уздыхнула дзяўчына і пачала: — Мая Корзун, дваццаць тры гады, нарадзілася ў Лапішчах, бабця гадавала, больш няма нікога. Жыву ў Лідзе, працую швачкай на лідскім камбінаце бытавых паслуг. Ніякая я не аферыстка. З Аркадзем амаль год сустракаемся, ён знік, паехала шукаць. Ну што тут незразумелага?

— Як так, год сустракаецеся, а прозвішча не ведаеш? — незадаволена сашчапіла вусны Антаніна.

— Ну, неяк так. Не жывём жа — сустракаемся…

— А як Аркадзь твой выглядае? — умяшаўся нарэшце і Аркадзь.

— Хараша выглядае. Высокі, прыгожы. Валасы ў яго светлыя, пышныя, а вочы, ведаеце, такія глыбокія, блакітныя-блакітныя, васільковыя вочы…

— Зразумела, а гадоў яму колькі, і жыве дзе?

— Пад сорак недзе. А жыве… ехалі мы тут, Вова, сябра наш, неяк вёз, вось Аркадзь і паказаў гэтую хату, ля старой студні… Падмануў?

— Падмануў, — змякчыўся Аркадзь.

— А мо ў вас, у Ларышчы, яшчэ якая студня маецца?

— Бесталковая ты, Мая, — вінавата ўсміхнуўся ён. — Ты ў Глебаўку прыйшла.

— Што… як? — сінія вочы зрабіліся вялікімі, яна рассмяялася, а потым закашлялася. — Дык чакае мяне мой Аркадзь каля студні?

— Пэўна, чакае, калі ў Ліду не адправіўся.

— Ой, — страпянулася яна і пачала шукаць паліто. — Дык гэта… пайду я. Прабачце.

— Чакай, Майка, — узнялася Антаніна. — Ружовая ты ўся, тэмпература, пэўна. Міцьку зараз патэлефаную, суседу, ён з машынай. Завязе разам з усімі лекамі, калі карціць табе… Чуеш, а Сёмушкінага сына, высокі такі, кучаравы, ці не Аркадзем клічуць?

— А мо і Аркадзем, — кіўнуў муж. — Ці Алесем? Не, здаецца ўсё ж, Аркадзем.

Мая забылася пра ўсе свае беды, дастала з торбачкі люстэрка і пачала заплятаць раскудлачаныя валасы.

Міцька з'явіўся скора. Паслухаў, паківаў галавой і абяцаў даставіць Маю ў Ларышчы ў лепшым выглядзе.

Толькі госця знікла з вачэй, Антаніна павісла на крэпкай Аркадзевай шыі.

— Э-э-эх ты, дурніца старая, — пагладзіў яе па мяккай руцэ муж. — Ну, што, будзеш яшчэ сварыцца?

— Не буду, Аркашачка, ніколі не буду, — яна цмокнула яго ў жорсткую шчаку. — Ой, Ромцы, Ромцы патэлефанаваць трэба!

Увечары палілі лазню. Антаніна доўга ўзіралася ў люстэрка, разглядала сябе з усіх бакоў. «А нічога сабе жанчынка, добра захавалася. Валасы густыя, каштанавыя, зморшчынак амаль і не відаць… а вочы, такія прыгожыя вочы — не зялёныя, а малахітавыя, і такія загадкавыя, спакуслівыя… І добра, што не худая, плечы мяккія, і грудзі высокія, плаўныя лініі сцёгнаў… статаная, ладная… Ох, і хараша…»

* * *

Напрыканцы сакавіка нарэшце прыйшло доўгачаканае цяпло. Сівы зляжалы снег амаль растаў, дарогі зусім раскіслі, зрабіліся мяккімі і надзвычай расхлябанымі. На ўзгорках, куды ўдзень больш траплялі цёплыя сонечныя прамяні, прабіваліся звонкія нясмелыя першацветы. Ад мяккай сырой зямлі падымаўся пар і цягучы гаркаваты водар леташняй пажухлай травы. Да веснавога сонца імкнуліся абуджаныя дрэўцы, спяшаліся абагнаць адно аднаго, цягнулі ўвысь кволыя галіны з вось-вось гатовымі прачнуцца і набракнуць смалістымі пупышкамі.

У адзін з такіх ясных дзянькоў Антаніна чакала на прыпынку аўтобуса, каб адправіцца ў Ліду. Заўважыла старую Сёміху і ветліва замахала ёй рукой. Тая кіўнула ў адказ. Выглядала яна значна старэй свайго ўзросту. Ці то з-за вузкаплечай згорбленай фігуры, ці то з-за неахайнай старой вопраткі і недагляду за сабой.

— Здароў, Таццяна, як ты? Што Аркадзь?

— А-а, Аркадзь, — махнула яна высахлай гузаватай рукой. — Што Аркадзь? Сядзіць у следчым ізалятары…

— Дзе? — выцягнула шыю Антаніна.

— У Гародні, у следчым ізалятары. Яшчэ скажы, што Нінка-фельчарка не пахвалілася.

— Не, — здзівілася Антаніна і не стала распытваць далей. Але Сёміха разгаварылася сама:

— Дагуляўся ў аўтамацікі. Ну, гэтыя, ведаеш, што грошы даюць, — паглядзела на ківаючую Антаніну і працягнула: — Пазычаў-пазычаў, напазычаўся, скраў грошы.

— У цябе?

Сёміха хмыкнула:

— Калі б у мяне! Я і так давала, плакаўся, што даўгі… У людзей чужых скраў, з Іўя. Не ведаеш, колькі за гэта даюць?

— Не, — пакруціла галавой Антаніна і паправіла павязаную на шыі шаўковую хустку. — А Мая, Мая што?

— А нічога. У бальніцу забралі. Зацямненне там нейкае на лёгкіх знайшлі. Запаленне. Ага, так па тэлефоне і сказалі… Дык ты на базар?

— І дзе яна цяпер? — з нецярплівасцю перабіла яе Антаніна. — У раённай? А палата, палата якая?

— Навошта табе? Спраў сваіх няма, каб пра дзеўку чужую турбавацца? Халера яе бяры! Мы і новую нявесту Аркадзю знойдзем… От, і аўтобус ідзе, давай хутчэй, мо месцы паспеем заняць, — жанчына пачала рассоўваць касцістымі сухімі лакцямі натоўп і працісквацца наперад. — Ну, дзе ты там?!

— Едзь, я наступным, — Антаніна праводзіла засяроджаным позіркам да самых дзвярэй спрытную Сёміху і раптам ёй захацелася вярнуцца дадому па вішнёвы піраг і слоік маліны. — Чакай, Майка, гэта мы табе новага кавалера знойдзем…





Галіна ЗАГУРСКАЯ

# НЯБЁСАЎ ВЕЧНЫХ ВАБІЦЬ СІНЬ

## ЯКАЯ НОЧ!

Якая ноч вакол свіціцца! —
Насыпаў хтосьці Млечны Шлях.
Мне ночкай звонкаю не спіцца.
Туман пасецца на лугах.

Гляджу на ўсё — гараць зарніцы,
Наросхрыст неба і душа —
Якая ноч вакол свіціцца!

Яна зрабіла нейкі ўзмах —
Прабегла хуткай бліскавіцай.
Двор матыёлаю прапах.
Якая ноч вакол свіціцца!

## ЛІСТОК

Палова ліпеня. Лісток
Зляцеў знямогла на руку.
Туман запаланіў раку
І кімсьці ўзведзены масток.

---

*__Загурская Галіна Пятроўна__ нарадзілася 5 студзеня 1945 года ў вёсцы Лявонпаль Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла фізіка-матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава (1967). Настаўнічала ў Лявонпальскай сярэдняй школе, а таксама ў сярэдняй школе вёскі Жодзішкі Смаргонскага раёна. З 1973 года жыве ў Полацку. Працавала выкладчыкам і метадыстам у медвучылішчы, потым у ГПТВ № 66 будаўнікоў. Рэдактар народнага літаратурнага аб’яднання «Наддзвінне».*

*Аўтар паэтычных кніг «З далоняў сэрца» (2007), «Да зямлі прытуліцца» (2009), «З росаў святаянных» (2013).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2015).*

А гэта лета свой бязмен
Хіснула ўніз, падаўшы знак,
Што хутка — восень, што няўзнак
Вядзе нас час да перамен.

Ён заружовіць верасы
Ды намалюе дрэў кастры,
І выбегуць грыбы ў бары,
Дажджы распусцяць валасы.

Апалы жаліцца лісток,
Што без пары ён адляцеў,
Ды першым ён адчуў павеў —
Убачыў восені выток.

Лісток трымаю на руцэ,
Гаворку з ім сваю вяду:
Чакаць мне шчасце ці бяду?
Туман гуляе па рацэ…

## АДЧАЙ

Над светлай гладдзю азярка
Самотна чаіца крычала.
Аб чым — таго я не спытала.
Плыла нябесная рака.

З ёй у нябыт сыходзіў дзень,
Ў якім былі і боль, і шчасце,
І ветрам ўспененыя страсці,
Што прыхавае ночы цень.

Ішла дадому я, за мной
Усё ляцеў той крык адчаю.
Да зоркі месячык прычаліў
І плыў вясёла над зямлёй.

А мне ўсё бачыўся адчай
Той чайкі белай над вадою.
Напэўна, я была такою,
Калі сказаў ён: «Не чакай…»

## РАНАК

Змрок настылы ўжо знікае,
Золак падае ў раку.
Певень ранак прывячае
Гарлавым «ку-ка-рэ-ку».

Мы, рыштунак пэўны ўзяўшы,
Крочым дружна да ракі,
А над ёй туман узняўся,
Засланіўшы лазнякі.

Сонейка яшчэ не бачна,
Хутка вынырне яно,
Дзе туман, як дым табачны,
Дзе разліта ўсюль віно:

Залацістае — на небе,
З пазалотай — на вадзе.
Прыўзнялі павекі вербы
І глядзяць, хто там ідзе…

Мы плывём, а ўслед за лодкай
Хвалі дробныя бягуць.
Дружнай зграбнаю чародкай —
Пад лазняк хутчэй нырнуць.

Ранак сцішана спявае,
З ім спявае ўсё вакол.
Дзень харошы наступае —
Радасць чэрпае ў прыпол.

## ГАЛУБЫ

Праз шкло за мною сочыць голуб —
Пільнуе ён мой кожны рух,
А там зіма выводзіць сола.
Марозна. Вось і голуб — зух.

Я птушцы вельмі спачуваю
І просам, грэчкаю кармлю,
Заўжды палёгку адчуваю,
Калі буркоча ён «люб-лю».

Бывае, столькі налятае
Тых галубоў, што бойка йдзе,
І голуб мой між іх знікае,
У іх бязглуздай грамадзе.

Мой галубок — як знак бясспрэчны,
Што холадна і трэба зноў
На падаконне сыпаць грэчку
Для ўсіх азяблых галубоў.



Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ

# АПАВЯДАННІ

## Інструкцыя для хворых

Надвор'е не радуе, у баку коле, голас здраджвае, рукі дрыжаць, а галава плавае ў тумане? Віншуем вас. Вы захварэлі.

Многія людзі хварэюць бессістэмна, па-аматарску, маючы пра гэты працэс досыць расплывістае ўяўленне. Вядома, такое безадказнае стаўленне не можа не адбівацца на якасці іхняй хваробы.

Нельга не прызнаць, што асобныя індывіды маюць прыроджаны талент да хвароб, атрымаўшы яго, так бы мовіць, з малаком маці. Большасць жа людзей праз усё жыццё набывае неабходныя веды цяжкім вопытным шляхам, губляючы на гэтым шляху час, нервы ды — эпізадычна — лаянку.

Мы не можам не цешыць сябе думкаю, што пасля прачытання нашай інструкцыі працэс хваробы для шырокіх мас болей не будзе загадкай. Хвароба, лёгка даступная кожнаму, — вось наша задача.

* * *

Найперш памятайце: захварэўшы, вы набываеце новы, асаблівы статус. У першую чаргу — у сваіх вачах, а тады ўжо — у вачах сваіх блізкіх. Тыя ходзяць вакол вас, нахмурыўшы бровы ды падціснуўшы вусны. Спачуваюць. Стукаюць вас менавіта там, дзе баліць, цыкаюць зубам. Спрабуюць падтрымліваць — на тое ж яны і свае, блізкія.

Падтрымка гэтая да пакут фізічных (якія цярпець можна) дадае духоўныя (невыносныя).

Блізкія кажуць:

— Тфу, падумаеш! Вось у нябожчыцы цёці Валі такі быў боль, што па падлозе качалася і выла ажно. А ў цябе што? Тфу! Так, лухта.

---

*__Маргарыта Юр'еўна Латышкевіч__ нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў горадзе Брэсце. Скончыла філалагічны факультэт БДУ (2011).*

*Працуе ў Вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору філалагічнага факультэта БДУ. Рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць».*

*Аўтар кнігі вершаў «Пульс навальніц» (2012), друкавалася ў калектыўных зборніках паэзіі і прозы «Мы — маладыя» (2012), «Кахаць і верыць», «Мост Дружбы» (абедзве 2013), «Мой дзень пачынаецца» (2015).*

Хворыя людзі любяць пачуваць сваю выключнасць, як быццам бы аніхто да іх ніколі ні на што не хварэў, таму згадка пра звышнатуральную цёцю Валю вас, натуральна, не радуе. Як, дарэчы, і перспектыва выць, качаючыся па падлозе.

— А вось, — уступае другі блізкі. — Вось я чытаў пра амерыканца, якому во гэтак жа кепска было. То хуценька ўзялі, выразалі яму — і паправіўся. Адразу. Н-ну. Лёгка.

— Што выразалі?

Блізкі пацiскае плячыма і пазяхае ў кулак.

— Што-што. Ці то страўнік, ці то пячонку, Бог яго ведае.

Вам, вядома, ані са страўнікам, ані з пячонкаю расставацца пакуль яшчэ не хочацца. Зрэшты, вы ж і тым, і другім досыць рэгулярна карыстаецеся.

— А ўвогуле, — вядзе сваю партыю трэці сваяк. — Увогуле, сам вінаваты. Проста спортам займацца трэба, харчавацца хораша. Часнок есці. Напрыклад.

І, падняўшы палец уверх, вымаўляе пасля тэатральнай паўзы:

— Дэзынфекцыя!

Доўгія і складаныя словы кшталту «дэзынфекцыя», «атыповая пнеўманія» ці «мікрацыркуляцыя» звычайна дабратворна дзейнічаюць на хворых: вочы адразу пачынаюць зліпацца, а сон, як вядома, найлепшы лек на свеце.

Але калі самастойна вылекавацца не атрымліваецца (гэта значыць не дзейнічаюць ані магічны тэрмометр, ані часночная дэзынфекцыя, ані загадкавыя — безназоўныя — таблеткі з аптэчкі на кухні), настойліва раім вам звярнуцца ў паліклініку.

Там усё зроблена для таго, каб вы, хворы і нягеглы, пра сваю хваробу забыліся. Прычым на ўваходзе, з парога.

Першыя працэдуры можна прыняць адразу — у мясцовай рэгістратуры. Працуючы локцямі, паспрабуйце прабіцца праз чаргу тых, хто стаіць у акенца «Талончыкі», праз другую, больш агрэсіўную чаргу ў тое ж акенца і праз хвост да акна «Тэрапеўт на дом». Прабіваючыся, вы шмат новага і цікавага пачуеце пра сябе, прычым кожны з прамоўцаў і дзёрзка, і радасна паспрабуе вызначыць ваш дыягназ. І пры гэтым, што асабліва прыемна, — абсалютна бясплатна.

Напіраючы жыватом на стойку адміністратара, вы з надзеяй глядзіце на суровую жанчыну пад надпісам «Выдача картак на рукі». Надзея, праўда, трохі згасае, калі ў вочы вам кідаецца друкаваная абʼява «Карткі на рукі не даём».

— Мне б картку, — кажаце вы. Называеце імя, прозвішча, адрас. Суровая жанчына імгненне, яўна сумняваючыся, пазірае на вас. Ці сапраўды вы гэта, або нейкі злачынца, які прагне здабыць картку іншага грамадзяніна? Пасля — з цяжкасцю, яўна пераадольваючы ўнутранае супраціўленне — жанчына вам верыць. Знікае за шафамі. Тым часам вам на пяты наступае энергічная бабця, якой тэрмінова патрэбны лісток аналізаў, ці пахмурны маўклівы дзядзька ў капелюшы. Нішто так не цешыць і не грэе душу, як адчуванне дыхання незнаёмца на сваёй шыі.

Нарэшце суровая жанчына вяртаецца — без вашай амбулаторнай карткі і з адным толькі цяжкім словам на тонкіх, падмаляваных арыстакратычным пурпурам вуснах:

— Няма.

— Як няма? — шчыра здзіўляецеся вы. Жанчыну вашае недарэчнае здзіўленне абражае да глыбіні душы.

— Грамадзянін, не затрымліваем! — кажа яна. Абуранае дыханне на вашай патыліцы зробіцца нясцерпным. Трывайце годна і кажыце, па магчымасці, роўным голасам:

— Але ж мне на прыём!

Суровая жанчына зноў змерыць вас недаверлівым, трохі нават дакорлівым позіркам. Так Мюлер з вядомага кінафільма глядзеў на Шціρліца. Пасля з відавочнай неахвотаю падсуне пад шкло шэрую двайную паперку.

— Наце.

І грамчэй, настойліва крыкне:

— Не затрымліваем!

Размяўшыся такім чынам і як след распарыўшыся, можна пераходзіць да асноўных практыкаванняў. Ускараскайцеся па лесвіцы на чацвёрты (лепей пяты) паверх і далучыцеся да дружнай кампаніі хворых пад дзвярыма патрэбнага кабінета. Людзі гэта спрэс сімпатычныя, але трапяткія, далікатныя, не схільныя да лішніх размоў настолькі, што нават банальнае пытанне «Хто ў чарзе крайні?» глыбока шакіруе іх і прымушае надоўга задумацца. Гэта, аднак, зусім не значыць, што вы ім не падабаецеся: варта вам толькі прысесці на лаву ля сцяны, як да вас адразу ж даверліва, нават інтымна падсунуцца ды прыціснуцца. Калі трымаеце ў руках якія-небудзь цікавыя паперкі, кшталту ўласных аналізаў, даверлівы сусед абавязкова праявіць самы жывы інтарэс, выцягне шыю і, павольна варушачы вуснамі, паспрабуе хоць штосьці там расчытаць.

Стаяць у чарзе, нават седзячы, — увогуле навука асобная, і зараз на ёй мы асабліва засяроджваць увагу не будзем. Варта толькі сказаць, што ў чарзе стаяць: па-першае, для таго, каб дастаяцца да аб’екта жаданняў; па-другое, натуральна, паперадзе сябе нікога не прапускаць (таму што інакш невыканальным становіцца пункт першы). Асабліва варта засцерагацца пацыентаў катэгорыі «Мне толькі спытаць» (МТС). Найлепшай тэхнікай абароны на сённяшні дзень прызнана блакіраванне дзвярэй кабінета з дапамогаю адной-трох бабуль і агучванне магічнай формулы:

— Усім тут толькі спытаць!

Некаторыя даследчыкі вераць, што названую вышэй формулу лепей за ўсё скандзіраваць усёй чаргою. Мы ж прытрымліваемся традыцыйнага меркавання: дастатковым з’яўляецца шматразовае паўтарэнне па меры перасоўвання сіл МТС да цэнтра абароны.

Дапамагае таксама барыкада з канапак або фікусаў непасрэдна перад кабінетам, аднак у гэтым выпадку прапускная здольнасць дзвярэй значна зніжаецца. Апошняе некалькі нервуе медыкаў, замкнутых у кабінеце.

Але вось — вы мужна нікога не прапусцілі і паспяхова дастаяліся. Будзьце маральна гатовы да таго, што ў кабінеце доктара ваш статус хворага, які раней успрымаўся вамі як нешта належнае і неад’емнае, раптам апынецца пад сумневам.

— Тэ-эк, — кажа доктар, звузіўшы вочы. І падступна задае пытанне, якога вы, звыклы да сваёй новай ролі, чакаць ніяк не можаце: — Э... Хварэеце, значыць? Праўда?

Глядзіць ён прыблізна гэтаксама, як тая жалезная лэдзі з рэгістратуры — з вялізарным недаверам.

Вы паціскаеце плячыма. Вы ўжо і самі не ўпэўнены.

— Кхм, — доктар звяртае ўвагу на шэрую двайную паперку, намёртва заціснутую ў вашай руцэ. — А... э... картка ваша?

— Няма, — ціха адказваеце вы, адчуваючы перад сабою раскрытую пашчу бездані.

— Ну-у, — цягне доктар. — А... э... аналізы? Э... напраўленне? Флюараграфія?

— Няма, — тупа паўтараеце вы. «Флюара-як-там-яе» навявае на вас цяжкое трызненне.

— Я... э... консультацый не даю, — заўважае доктар. — Я... э... увогуле не магу ў вашым... э... выпадку даць заключэнне.

Вы толькі лупаеце вачыма і, цяжка ўздыхаючы, аціраеце пот. Белы халат, белая столь, белыя паперкі на стале так і плывуць у вас перад вачыма. Нябожчыца цёця Валя, ледзь не зачапіўшы вас плечуком, бязгучна праходзіць праз кабінет, адчыняе дзверы і аглушальна крычыць у калідор:

— Не затрымліваем!

— А што гэта вы... э... успацелі? — шчыра дзівіцца доктар. — Э! Э! Не падаць! Грамадзянін! Падаць тут... э... нельга! Э!

* * *

Ну і, нарэшце, запомніце адно-адзінае простае правіла з гэтай інструкцыі, якое не толькі прыдасца вам, але і, верагодна, аднойчы выратуе жыццё.

Правіла: не хварэйце!

## Муза

Сімковіч прачнуўся з раніцы нечакана радасны. Ціхутка ляжаў пад коўдрай, глядзеў у столь. Успамінаў.

У сне прыйшло да яго тонкае дзяўчо, пранізанае святлом, з ясным тварыкам, з мудрымі вачыма. Дзявочая постаць, захутаная ў нешта бязважкае, белае, быццам снег, быццам мара, быццам чайкі, кудысь ляцела, і падсіненыя дажджом хмары плылі над і пад ёй, і сонца павольна падымалася над морам. І словы яшчэ былі — жылі ўпрост у спакуслівых дзявочых вуснах, але іх, як Сімковіч не намагаўся, успомніць не мог. Ды і ці важна гэта?

І бездакорны прыгожы тварык, і фігурка, і поза, — усё так і стаяла перад вачыма. Там, унутры, віравала, і радасная гарачыня расплывалася па ўсім целе з кожным ударам сэрца.

Сімковіч спружыніста падскочыў з ложка, рашуча адкінуўшы коўдру, і, як быў, стаў за мальберт. Размяў пальцы, прыкрыў на хвілінку вочы, каб згадаць, каб затрымаць тую, у сне пабачаную, у яе адвечным палёце, і ўзяўся за пэндзаль. Маляваў апантана, упэўнена, з імпэтам, з жарсцю, так, як, мусіць, не працаваў ужо гадоў пяць. І, працуючы, з ціхім захапленнем разумеў: перад гэтым, што зараз вырываецца з-пад яго рук, усё, раней зробленае, — лухта. Бо гэта — адзінае. Сапраўднае. Такое, што раз на жыцці бывае, і тое не ў кожнага.

Працаваў, не зважаючы ані на голад, ані на стому, ані на тэлефон, які раз-пораз падаваў голас з суседняга пакойчыка. З асобных штрыхоў, з асобных ліній паступова пачынала глядзець Яна — тая самая, светлая, з натхнёным позіркам мяккіх вачэй. І Сімковіч бачыў гэта, заўважаў дробныя рысы Сапраўднага ў толькі-толькі распачатай працы і радаваўся, як дзіцянё, і мармытаў пад нос, і гаварыў з Ёю, і смяяўся.

Толькі пад вечар, стомлены, спустошаны адваліўся ад новай работы, агледзеў прыдзірліва. Яшчэ раз не без задавальнення ўпэўніўся, што гэта — Яна, і з салодкім заміраннем сэрца адступіў.

Хацелася паліць. І яшчэ хацелася да людзей, бо радасці ў душы было ажно занадта, бо падавалася: грудзі вось-вось не вытрымаюць, не змесцяць — і разарвецца тое нікчэмнае, што завецца Валерам Сімковічам, а незямная, нябачаная, невыносная радасць атрымае свабоду.

Запаліўшы, нетаропка крочыў па вуліцы, нейкай асабліва светлай, нейкай — нетутэйшай. Нязвыклай. Чароўнай. Узіраўся ў твары мінакоў, і ў кожным з іх бачыў адбітак той, сваёй, адзінай, ледзь-ледзь схопленай фарбаю на палатне. І дзеля гэтага прыхаванага адбітку любіў, пакутліва і радасна любіў кожнага мінака паасобку і ўсё чалавецтва цалкам. Вось, здавалася б, абняў бы, прыціснуў бы да сябе адразу ўсіх, і цёплае красавіцкае сонца, і кволыя гарадскія дрэўцы, і ўсе гэтыя змрачнаватыя сталінскія забудовы — усіх, усё абняў бы з бясконцай цеплынёй.

У падобным настроі Сімковіч дайшоў да кавярні. Шпульнуў недакурак у сметніцу — і не пацэліў. Засмяяўся, падняў — і не пацэліў зноў.

— Ды што ж ты… — абурыўся скрозь зубы.

І не пацэліў трэці раз.

Гэта была дробязь, лухта, асабліва калі параўнаць з той сусветнай усеабдымнай радасцю, якая жыла ў Сімковічу. І ўсё-такі ў кавярню ён увайшоў спахмурнелы. І думкі бездапаможна круціліся, і ўсё згадвалася: што Яна тады і там, у сне, казала? Здавалася, што вось-вось атрымаецца ўспомніць — і ўсё адразу стане на сваё месца.

У кавярні народу было няшмат. Поруч з барнай стойкай мармытаў нешта сваё маленькі тэлевізар. Тут жа сумавала некалькі афіцыянтаў. За адным з круглых столікаў пад пажоўклым абрусам Сімковіч заўважыў прыяцеляў і рушыў да іх.

Прыяцелі, Сівіцкі і Куфаль, абмяркоўвалі самыя блізкія выставы. Меркавалі, хто і што будзе паказваць, паўтаралі даўнія плёткі і барадатыя, як сам руды Сівіцкі, жарты. Сімковіч сядзеў паміж імі, недасяжны і далёкі, і толькі моўчкі пасміхаўся. Ведаў: перад той, якую здолеў схапіць, выцягнуць з уласнага трызнення, усе гэтыя размовы — нікчэмнасць. І Сівіцкі з ягонымі саладжавымі партрэцікамі, і Куфаль з ягонымі пошлымі нацюрморцікамі, і тыя, іншыя, астатнія, імя якім — легіён.

Адчуванне ўласнай несумненнай перавагі доўга хаваць не атрымалася.

— А ты чаго гэта ціхі такі? — падазрона спытаў Куфаль, паправіўшы акуляры з тоўстымі шкельцамі.

— Набраўся, — аўтарытэтна заключыў Сівіцкі. — Набубеніўся.

— Сядзіць, смяецца, — гнуў сваё Куфаль. — Мона Ліза мясцовага разліву.

— Р-р-разлівачна і на вынас! — дзіка зароў Сівіцкі, пужаючы афіцыянтку.

Сімковіч, паморшчыўшыся, адмахнуўся ад іх, быццам ад мух. Зрэшты, яны, з іх маленькімі праблемкамі, з іх шэранькімі размовамі і былі — мухі. Нават меней, чым мухі.

Асабліва перад Ёю. Адзінаю, непаўторнаю, вечнаю.

— Я — пішу зараз, — выгукнуў Сімковіч радасна. І раптам сарамліва заружавеў, як адзінаццацікласніца, якая распавядае сяброўкам пра аб’ект свайго кахання.

— Н-ну? — прыўзняў бялёсыя бровы Сівіцкі. — З чым вас і віншую.

— Для выставы? — дзелавіта азваўся Куфаль. — Ці хтось замовіў?

Сімковіч толькі зноў усміхнуўся. Уздыхнуў глыбока, абвёў прыяцеляў позіркам. І, зноў адчуваючы бязмежную цеплыню, загаварыў пра Яе, пра

тонкія рукі, пра валасы, што лятуць па ветры, і, самае галоўнае, пра вочы. Было дзіўна і нязвыкла ўбіраць яе не ў фарбу, а ў словы, але Сімковіч стараўся, як мог. І пачуваў сябе пры гэтым не меней як Дантэ, халера яго вазьмі, Аліг'еры.

— Сапраўдная, — нарэшце, сказаў Сімковіч, як быццам бы падагульняючы сваё апісанне. Задаволены і горды, бачыў, як выцягнуліся твары ў разумніка Куфаля і нават языкатага Сівіцкага.

Ім — дзе. Ім — як. Яны такога не сняць, завязлыя ў сваім, звыклым, застылыя ў аднойчы абраных формах, фарбах, зместах.

І з сваёй зорнай вышыні акрылены Сімковіч і Куфаля, і Сівіцкага шчыра пашкадаваў. Але шкадаванне гэтага, у параўнанні з велізарнай радасцю, было так мала, што яно амаль і не адчувалася.

Каб толькі не сядзела ў галаве, каб не назаляла, як стрэмка, згадка пра тыя згубленыя словы. Яна нешта казала — але што? І чаму не згасае ўпэўненасць, што словы тыя былі чамусь важныя?

Сімковіч пакруціў галавой, быццам намагаючыся вытрасці адтуль непрыемныя думкі. І, па-ранейшаму прасветлены, празрысты для ўсеабдымнай радаснай цеплыні, мовіў:

— Гайда пакажу.

Пайшлі.

Сонца паспела сесці, караскаўся па дахах змрок, і вуліцы пачалі абрастаць шарамі жоўтага святла. Сімковіч па святле крочыў, і гаварыў многа і не надта звязна пра карціну, пра сапраўднае і пра Яе. Куфаль і Сівіцкі, агаломшаныя, сцішаныя, быццам прыціснутыя веліччу, ішлі моўчкі. Каля самага дома Сімковіча — шэранькай пяціпавярхоўкі — Сівіцкі, аднак, прачысціў горла і загаварыў. Не таму, што гаварыць хацелася, не таму, што размова таго патрабавала, а проста каб не маўчаць.

Веліч Сімковіча і яго ж абразлівая паблажлівасць пачынала ўжо добра раздражняць абодвух яго прыяцеляў.

— Глядзі-тка, — прапеў Сівіцкі, задуменна праводзячы пальцамі па рудой барадзе. — У вас тут новы рэкламны шчыт паставілі. Прагрэс, так бы мовіць, дакаціўся.

Сімковіч толькі чмыхнуў: знайшоў, да душы, калі гаварыць пра нейкую там рэкламу. І гэта амаль на парозе неймавернай, нябачанай, са сну і мрояў сатканай прыгажосці. Сапраўднай прыгажосці. Сапраўднага мастацтва.

— Падумаеш, — пагардліва сказаў Сімковіч, скоса зірнуўшы на шчыт.

Зірнуўшы адзін раз, зірнуў і другі, і трэці. А пасля, вырачыўшы вочы і прыадкрыўшы рот, так і замёр — быццам істота з вядомай карціны Эдварда Мунка набыла цялеснае ўвасабленне.

На шчыце сярод падсіненых пульхных аблокаў плыла, быццам мара, быццам чайка, раскінуўшы тонкія рукі, ягоная муза. І светлыя вочы глядзелі і пранікнёна, і сумна, і з пунсовага рота, здаецца, ліліся словы.

Пад ножкамі ў музы быў змешчаны агромністы пачак цыгарэт з зыркім, узмоцненым неонавымі агеньчыкамі, надпісам.

— Гармонія, — ледзь варушачы вуснамі, чытаў аслупянелы Сімковіч, і ўласны шэпт здаваўся яму громам. — Гармонія, лёгкая, быццам узмах пэндзля.

Расказвалі пасля, быццам Сімковіч спрабаваў ці то застрэліцца, ці то зарэзацца. Хлусілі, вядома.

Проста піць стаў болей.

## Піястры

Калі чалавеку пяць год, ён на рэчы глядзіць іначай, чым дарослыя. Можа быць, таму, што для маленькага пяцігадовага чалавека ўсё на свеце падаецца вялікім ды значным, нават дробязі. А можа быць, таму, што ў пяцігадовых і вочы неяк па-іншаму працуюць. Бачаць па-іншаму.

Каляровыя шкельцы, разрозненыя гузікі, пацеркі, кавалачкі тканіны, стужкі, старыя, савецкія яшчэ манеткі. Людзі дарослыя, сур’ёзныя, напэўна, скажуць — рэчы непатрэбныя, смецце. А для пяцігадовых — сапраўдны скарб.

Вунь пацерка, маленькая, празрыстая. Вазьмі на далонь, паднясі да вока — і расквеціцца, заззяе ўсімі колерамі вясёлкі. Пацерка-перліна, з сытым, мяккім бляскам на крутым баку, рассыпае светлыя водбліскі. Пакручастая ракавінка, звонку сціплая, шэрая, пяшчотна ружавее ўнутры. Гузікі з бабулінай скрынкі адзін за другога лепшы: той серабрысты, нібы луска рыбы, той увесь — светлы россып ззяйкіх кропачак, іншы цяжкі, металічны, з выціснутым гербам. Старыя капейкі, тонкія кругі металу, пацёртыя, заслужаныя, зараз на пенсіі, дажываюць свой век у пачэсным статусе пірацкіх піястраў. Надламанае пёрка паўліна, зеленаватае з залатым бляскам, з цікаўным сінявата-фіялетавым вокам, пад пальцамі пругкае. Абарваны металічны ланцужок выгнуўся, абвіў іншыя скарбы тонкім цельцам, серабрыцца цьмяна.

Ад усведамлення таго, што ты гэтым усім, бязмерна прыўкрасным, адзінаасобна валодаеш, весела пяе душа. І восеньскім днём, калі з пахмурнага неба сыпле, радасна бомкаючы па шкле, дождж і гуляць не пускаюць, як утульна сесці пад лямпаю і ашчадна, па адной перабіраць сабраныя каштоўнасці. Разглядаеш кожную ўважліва, хаця бачыў да таго добрую сотню разоў, і ўсё-такі заўважаеш новае. То з’явіцца, схапіўшы водбліск святла, новае адценне ў пералівістых баках пацеркі, то штучная перлінка неяк асабліва будзе рассыпаць мяккае ззянне на скуру. Серабрысты ланцужок паблісквае, і ў гэтым бляску згадваецца цячэнне рачных хваляў, няўрымслівых і нямоўчных. У пёрка таксама металічны бляск, але на іншы манер, іншага адцення, іншай густаты. І дзіўна, і радасна, і ад гэтай ледзь заўважнай, ледзь улоўнай прыгажосці з салодкім трымценнем, з пяшчотаю адгукаецца нешта ў сэрцы.

— Любуешся? — пытаюцца дарослыя мімаходзь. Пытаюцца насмешліва і трошкі нават з’едліва: ім бачныя толькі кавалачкі цьмянага шкла, пафарбаваны пластык ды іншае смецце.

У сваёй патаемнай любові перад людзьмі насмешлівымі прызнавацца да болю цяжка і сорамна. Таму, каб зняць з сябе ўсе падазрэнні, трэба няўпэўнена паціснуць плячыма і адказаць, па магчымасці, раўнадушна:

— Во-о-сь яшчэ!

Моцнае прыхаванае пачуццё зазвычай менавіта гэтым штучным, нязграбным, змушаным раўнадушшам і выдаюць.

Якім бы ні быў адзінаасобнікам, але радасцю хочацца дзяліцца. Хаця б драбочкам гэтай вялікай усеабдымнай радасці, якая перапаўняе, якая вось-вось цераз край перальецца. Таму часта скарб выцягваецца для гульняў.

І тады ў пакоі кіпіць падрыхтоўка. Не жартачкі вам — судабудаўніцтва. З паваленых крэслаў, з падушак, з пледаў. Кот ад гэтай шумнай мітусні трохі шалее, скача ўзбуджана. Ката ловяць у чатыры рукі, ката на руль аднаго з караблёў саджаюць. Кот — боцман.

Скрыначка, абклееная каляровай саломкаю, ляжыць на падлозе. У скрыначцы — скарб. Сапраўдны, пірацкі. Бо піраты без скарбаў, як і скарбы без піратаў, як вядома ўсім, — нонсэнс.

І плешчуць салёныя хвалі, і марскі бой ідзе. Жорсткі, крывавы. Не на жыццё, а на смерць. За скарб. За піястры.

— Піў! Піў-піў-піў!

— Гармата не кажа «піў-піў»!

— А… як яна кажа?

Гарматны эксперт, надзьмуваючы шчокі, вырачваючы вочы, расстаўляючы (для эфектнасці) рукі, дэманструе:

— П-х-ы-ы-х!

Боцман такой гарматы пужаецца і, пакруціўшы крупам, маладушна кідае і пост свой, і карабель. Падае ўпрост у ваду, хай сабе і ўяўную, ды ўсё роўна небяспечную. Там, як вядома, акулы, ды спруты, ды кашалоты. Спрэс галодныя і неймаверна зубастыя.

— Чалавек за бортам!

— П-х-ы-ы-х! — з энтузіязмам адгукаецца варожая гармата. Капітан, які толькі што страціў боцмана, абураецца:

— У мяне чалавек за бортам, а ты тут страляеш!

— Хачу — і буду! — адказвае не без выкліку другі капітан, прасякнуты незалежным пірацкім духам. І няўпэўнена дадае:

— Лопні мая… селязёнка.

Пірацкая анатомія, заўважым, рэч надзвычайна дзіўная. Селязёнка, напрыклад, мае падступную ўласцівасць лопацца па тузіну разоў за дзень.

Вусаты чалавек за бортам тым часам мірна сядзіць на канапе і гучна, з імпэтам вылізвае заднюю лапу. Скоса назірае, як капітаны змрочна сапуць, нядобра пазіраючы то адзін на другога, то на запаветную скрыначку.

Над уяўнымі хвалямі навісае зусім не ўяўная навальніца.

— Ты што гэта? — крывячы рот, пытаецца гарматны эксперт.

— Не, — парыруе другі капітан. — Гэта ты — што?

Лупяць адзін аднаго, не шкадуючы, падушкамі, з такім імпэтам, што толькі пер’е ляціць. За піястры. Калі на гармідар прыбягаюць дарослыя, равуць, захлынаючыся крыўдаю, абое. Піястры, нібы тое заклятае золата Нібелунгаў, ролю сваю адыгралі, і гэтая роля была трагічнай. Упрост можна оперу пісаць.

…Я знайшла тую запаветную скрыначку, абклееную саломкай, некалькі год таму. Зазірнула туды не без хвалявання, хаця і ведала, што ў ёй пабачу. Дакладней, чаго пабачыць болей не атрымаецца.

Паглядзела на аблупленую, быццам бы пагаслую пацерку, на дзіравую перлінку, на зламанае пёрка, на разарваны ланцужок.

Зрэшты, скардзіцца няма на што. Гэты скарб, гэтыя піястры захаваныя трывала і надзейна. Аніводнаму нахабніку-пірату не адшукаць. Лопні мая селязёнка, калі гэта не так.

Бо яны засталіся не *там*, а — *тады*.

## Шчасце

Сонечка фарбуе вусны ў цёмна-чырвоны колер. Бліжэйшы да чорнага нават, чым да ўласна чырвонага. Не па душэўнай схільнасці і не таму нават, што асабліва пасуе, а проста — модна.

— Трэнд!

З той жа прычыны падмазвае бровы так густа, што, калі ідзе па вуліцы, падаецца спачатку, быццам адны толькі бровы і ідуць. З-пад броваў паглядаюць круглыя вочы — вочы сумнай галкі. Як галка, Сонечка любіць бліскучыя

рэчы. Праўда, адрозна ад птушкі, не проста цягне ў гняздо, а старанна накручвае на сябе — іззяе золатам, і брынкае, і звініць пры хадзе. Хадзіць на тонкіх ножках, на тонкіх абцасіках па абледзянелым тратуары няпроста, але Сонечка змагар па натуры і лёгкіх шляхоў не шукае.

Шукае яна, як, мусіць, усе людзі на свеце, шчасця. Шчасце Сонечцы адчайна не даецца, вылузваецца з рук. Пакутлівае, непадатлівае шчасце. Праз гэта Сонечка часта збягае ў цёмны куток пад лесвіцай, дзе ўздыхаюць скразнякі. І з павуціння, з пылу, з цемры гучным тэатральным шэптам кажа свайму шчасцю ў слухаўку:

— ...ды як ты можаш? Ды як жа?!

Што адказвае шчасце, невядома. Верагодна, адказ не самы здавальняючы, таму што Сонечка, вяртаючыся ў гандлёвую залу, саркастычна падціскае цёмна-чырвоныя вусны.

Сонечка ў маленькай краме — касір. Цэлы дзень прабівае хлеб, і булкі, і піражныя, і малако з кефірам. Касавы апарат дзынкае, рассыпае сярэбраныя званочкі па зале, паўзуць бясконцыя чэкі. Гараджане напіраюць на вітрыны, вывучаюць кошты.

— Грамадзяне, не абапірайцеся на шкло!

Грамадзяне, таксама змагары па натуры, усё роўна абапіраюцца.

Лічбы круцяцца, блытаюцца. Пакупнікі ў чарзе сярдуюць і абураюцца, часам досыць гучна. Часам не надта прыстойна. Сонечка, уся яшчэ пагружаная ў сваё нялёгкае шчасце, на гэта не зважае, трасе падвітымі валасамі і гнюсава цягне, стукаючы пальцам па гузіках апарата:

— Сок нуль два яблычны, дзевяць дзевяцьсот.

Дзве дзявяткі, два нулі. Зрэшты, ці не ўсё роўна, колькі іх, гэтых дзявятак і нулёў? Сонечкіны вусны крывяцца, а плечыкі пад тонкай — моднай — празрыстай кашулькай ледзь заўважна скаланаюцца.

Сонечка неяк бачыла, як прыблізна гэтак жа прыгожа ў модным галівудскім фільме пакутавала галоўная гераіня. І ўсе вакол яе прыгожую пакуту бачылі, і здзіўляліся, і ўражваліся — «Якая!..»

— Дзевяць чатырыста пяцьдзясят! — гнеўна папраўляе Сонечку пакупніца. На ёй чорны капялюшык, а на капялюшыку падрыгваюць, ловячы іскры святла, дробныя кропелькі. На вуліцы мокры снег валіцца, засланяе, быццам пуховая хустка, увесь горад.

— Дзевяць чатырыста пяцьдзясят! — паўтарае чорны капялюшык.

Сонечка апускае круглыя птушыныя вочкі на паперку за спісам тавараў. Вядзе пальчыкам з востра заточаным драпежным пазногцем (таксама даніна мяцежнаму шчасцю) па пераліку тавараў.

— Чатырыста пяцьдзясят, — раўнадушна пагаджаецца Сонечка. Яна ўсё яшчэ там, у сваім цёмным кутку пад лесвіцай, усё яшчэ з трагічнымі ноткамі ў голасе шэпча свайму шчасцю:

— Нам дужа, дужа, дужа трэба пагаварыць!..

Яна назірае за жыццём быццам бы з-за шкляной сценкі.

— Зусім працаваць не хочуць, — каментуе сухі пляшывы дзядок. Лысіна ў яго мякка свеціцца пад лямпамі, быццам паліраваная. Дзядок прагне смятаны, прычым як мага хутчэй, і задуменнасць Сонечкі яго нервуе настолькі, што ён нецярпліва тупае сухенькай ножкай.

Сонечка, адцягнуўшы долу вуглы вуснаў, прабівае смятану. І батоны, і каўбасы, і мінеральную ваду. Шчодрай рукой раздае хлеб надзённы, а сама безнадзейна патанае ў лічбах. Там, за снежнай заслонай ходзіць шчасце — і гэта не дае Сонечцы спакою, і яна зноў бяжыць у цёмны куток, і зноў тэлефануе. Часам доўга слухае кароткія гудкі, і ад звыклых бяскрыўдных гудкоў

уся ападае, з пакутаю моршчыць востры носік. Яна, канечне ж, ведае, з кім яно зараз, гэтае падступнае шчасце. О, яна ведае!

Веданне надае Сонечцы сілы, і яна ператвараецца ў ракавую жанчыну. Звузіўшы вочы, узяўшыся ў бокі, стаіць ва ўнутраным дворыку, там, куды пад'язджаюць машыны з прадуктамі. Без курткі, так што пухатыя камякі снегу падаюць упрост на яе паўпразрыстую кашульку, на падвітыя валасы. Тая Сонечка, каторая ракавая жанчына, паліць модныя тонкія цыгарэткі, афарбоўваючы іх канчыкі цёмна-чырвоным. Пачувае сябе зваблівай русалкай, адзінае прызначэнне якой — губіць.

Патэнцыяльныя згубленыя душы патроху падцягваюцца. Зацікаўленыя кіроўцы, асабліва маладзейшыя, хутаючыся ў курткі, падыходзяць да трохі заснежанай Сонечкі.

— Сумуеце? — пытаюць гулліва. Просяць запальнічку, таксама паляць, выдыхаючы белы дым. Паляць, праўда, не арыстакратычныя цыгарэткі, як Сонечка, а куды мацнейшыя. Ад моцнай табакі востры Сонечкін носік чырванее яшчэ больш і пачынае патроху пухнуць.

Цыгарэтка паступова дагарае. Сонечка самым элегантным жэстам абтрасае попел. Шызыя ад холаду рукі здубянелі і не слухаюцца. Снег набіваецца ёй у валасы, снег ліпне да падмазаных броваў, слепіць вочы. Кіроўцы, разгрузіўшыся, адзін па адным ад'язджаюць, і ракавая губіцелька застаецца ў адзіноце, сам-насам са снегам і горыччу. Застаецца, праўда, не надоўга: хутка ў дворык выбягае, накінуўшы паліто, загадчыца аддзела. Твар у загадчыцы дрыжыць ад злосці, дрыжаць унізаныя золатам пальцы, дрыжаць светлыя кудзеркі.

— У мяне перапынак, — выстрэльвае падрыхтаваным апраўданнем Сонечка. Хібіць: не на тую натрапіла. Загадчыца ад гневу чырванее ледзь не ў колер Сонечкіных вуснаў.

— Пяты перапынак за раніцу! — крычыць загадчыца. — Цябе тут за перапынкі трымаюць, можа?

Сонечка, па-ранейшаму ракавая і недасяжная, паціскае плячыкамі. Адкідае цыгарэтку і павольна вяртаецца. Крочыць меленька, імкнецца расцягнуць дарогу. Адно каб не ісці ў залу, туды, дзе сярдзітыя перакошаныя твары, дзе званочкі і бясконцыя лічбы, дзе з-пад столі ліецца бязлітаснае святло. Адно каб яшчэ трошачкі застацца сам-насам са сваім незгаворлівым шчасцем, якое б яно ні было.

У зале тлумна і цесна. Сонечка працiскваецца да свайго працоўнага месца і зноў з сілаю, з палымянай жарсцю б'е пальцамі па гузіках. Гнюсавіць:

— Батон «Сталічны», адна штука. Пакет?..

Пакупнікі пакетаў не жадаюць, ходзяць са сваімі. Скнары.

За вокнамі нават за снегам відаць, як па праспекце едуць, свецячы фарамі, машыны ды аўтобусы. Прыпыняцца, пагудуць — і рушаць зноў, пад святлафор, і знікнуць з вачэй. Сонечкіна сэрца сціскаецца. Думаецца: вось прыедзе на чатырох колах шчасце, і зойдзе ў краму, і наблізіцца, і скажа...

— ...дай пакет.

Сонечка скаланаецца ўсім целам, непаразумела глядзіць на пажылога мужчыну, цесна абцягнутага карычневай скурай.

— Пакет! — голасна паўтарае скураны дзядзька па складах. — Ты што, як там цябе, спіш, ці што? Муха сонная.

Са звадлівымі, спакуслівымі русалкамі-губіцелькамі так, вядома, не размаўляюць. З ракавымі жанчынамі — тым болей. А вось з касірамі чамусьці — часта.

Плечы ў Сонечкі апускаюцца. Часта міргаючы, яна пад пільным позіркам скуранога аддзірае пракляты пакет і кладзе на прылавак.

— Здурнелі ўшчэнт, — каментуе скураны, сыходзячы. Сонечка стаіць, апусціўшы галаву: шкляная сценка яе абранасці, пазначанасці шчасцем дала расколіну, не ўтрымалася пад ціскам знешняга свету. Касавы апарат дзынкае, паўзуць з шоргатам чэкі, з пафарбаванага рота Сонечкі выслізгваюць лічбы. Завучана. Механічна.

А ў галчыных вачах разлілася сусветная скруха, і ў сэрцы горкая пустка, ажно цяжка дыхаць. І б’ецца ў скронях разам з крывёю: *ніколі, ніколі, ніколі*. Не будзе шчасця, не выжыць тут галівудскай гераіні. Не на гэтым свеце, дзе бясконцы снег, і скураныя дзядзькі, і загадчыца, якая пазбавіла прэміі. Не будзе — і ўсё. Фініта. Скончана.

Калі хваля пакупнікоў ападае, Сонечка зноў ідзе ў свой запаветны куток пад лесвіцай. Павольна дастае тэлефон, з надзеяй глядзіць на цёмны экран. Сустракаецца вачыма з уласным адбіткам і горка пасміхаецца. Яна — ведае. Яна ўсё ведае, з кім зараз нягоднае шчасце.

Яна — ракавая жанчына, губіцелька.

Сонечка набірае знаёмы нумар і кажа ў слухаўку звыклым драматычным шэптам:

— Нам трэба, трэба сустрэцца! Чуеш? Трэба!

І пакуль яна кажа — яна шчаслівая.

## Быць Каралевай

Шырока вядома, што, каб зрабіцца каралеваю, трэба нарадзіцца ў каралеўскай сям’і. Тады — аніякіх пытанняў. У крайнім выпадку можна з матрыманіяльным разлікам згубіць пантофлік. Калі апошні трапіць у рукі да асобы каралеўскай крыві — і калі гэтая самая асоба трохі з’ехала з глузду ў плане жаночага абутку, — лічыце, усё атрымалася належным чынам.

Шасцікласніцу Лілю каралевай прызначылі.

Суровая Алыванна, ад аднаго позірку якой ніякавелі нават нахабныя навучэнцы выпускных класаў, правяла пальцам па класным спісе і назвала Ліліна прозвішча. Ліля пахаладзела і паднялася з месца.

— Вось што, — сказала Алыванна безапеляцыйным тонам. — Будзеш Каралевай.

Тоўсты ружовенькі Міхалёнак, які сядзеў на галёрцы, гыгыкнуў. Даўгалыгую худую Лільку яму было цяжка ўявіць у падобным амплуа.

Самой Лілі, зрэшты, таксама.

— Я?! — здзівілася яна.

У гэтае здзіўленне прымешвалася яшчэ і шчырае абурэнне. Усім вядома: з каралевамі зазвычай анічога цікавага не адбываецца. Сядзяць сабе ў вежах, можа быць, вышываюць. Карацей, нецікава.

Ліля, як чалавек з жывым розумам і здаровымі амбіцыямі, усёй душой прагнула дзеяння.

Выявілася: пяцікласнікі зараз праходзяць п’есу пра дванаццаць месяцаў. Каб ім было цікавей, Алыванна хоча тую п’есу паставіць. Не цалкам, вядома, урывак. На ўроку рускай літаратуры. Заўтра.

На адной наваяўленай Каралеве справа не скончылася. Алыванна яшчэ раз задуменна вывучыла спіс класа, пасля ўважліва паглядзела на Андрэйку Разенштайна.

— А ты, — сказала збялеламу Андрэйку. — Будзеш Прафесарам.

Тут, канечне, ніякіх пытанняў узнікнуць не магло: Разенштайн быў, вядома, хлопчыкам па-прафесарску разумным. Хаця б таму, што насіў цудоўныя круглыя акуляры. Самы патрэбны выгляд.

— Значыць, вырашылі, — з відавочным задавальненнем канстатавала Алыванна. Ліля надзьмулася. Выразна разумела, што не *вырашылі*, а — *вырашыла*, але падабраць патрэбныя словы, каб запярэчыць, ды і проста набрацца на гэта смеласці не атрымлівалася.

Алыванну ў шостым «В» баяліся ўсе, нават хуліган Міхалёнак, баяліся да дрыжыкаў. Страх быў не свой, а прыдбаны ад пакаленняў папярэднікаў, культываваны школьнымі байкамі. Пяшчотная Анечка Вышынская, калі яе выклікалі, гублялася, страчвала здольнасць звязна размаўляць і не магла чытаць завучаны верш. Лёша Паварчук, які і так заікаўся, пад уважлівым позіркам Алыванны быў здольны хіба на асобныя гукі. Выкліканы да дошкі ружовенькі Міхалёнак, які прынцыпова ніколі не рыхтаваўся да ўрокаў, набываў ад сораму і інтэлектуальнага напружання насычаны малінавы колер. Так, воля ў Алыванны была сталёваю — як тут запярэчыш?

Дома Ліля прагледзела лісткі з рэплікамі. Іх было няшмат, гэтых акуратна разрэзаных палосаў паперы з тэкстам, старанна перапісаным рукою самой Алыванны. І тая маршакаўская Каралева складалася ўся з абрывачкаў і палосаў, няпоўная, незакончаная, незразумелая. Вось як, скажыце, быць ёй, калі не ведаеш, не ўяўляеш нават, як яна ходзіць, і размаўляе, і як сядзіць, і як піша?

На заўтра трэба было рашыць тры практыкаванні па матэматыцы, але Каралева аніяк не выходзіла з галавы, і матэматыкай давялося ахвяраваць. Натуральна, дзеля мастацтва. Напэўна, падобныя ахвяры яшчэ ніколі не прыносіліся з такім імпэтам і такой радасцю.

У кніжнай шафе знайшоўся зацёрты том з поўным тэкстам п’есы. Ліля перачытала патрэбны эпізод некалькі разоў, але Каралева ўсё роўна выслізгвала, не давалася. Так маленькія рыбкі, калі паспрабуеш злавіць рукамі, слізгаюць між пальцаў. Да таго ж, у эпізодзе быў нейкі Канцлер, усе словы якога (па волі Алыванны, не Маршака) адышлі Разенштайну. Няпрошаны Канцлер збіваў, і Лілі нават пачало падавацца, што чалавек ён дужа непрыемны, магчыма, нават з доўгімі віслымі вусамі і малінавым распухлым носам. Можа быць, зусім як вусаты сусед з трэцяга паверха, мае злога маленькага сабаку, які шчэрыць на ўсіх дробныя вострыя зубкі.

Рэплікі завучыліся хутка. Праз хвілін сорак Ліля сядзела на канапе і, звяртаючыся да здзіўленага ката, казала фанабэрыста:

— *Яшчэ чаго! Не магу ж я пісаць і думаць адначасова!*

Кот, як акцёр спрактыкаваны, па-майстэрску вытрымліваў паўзу.

Пад вечар Ліля прыйшла на кухню, дзе гатавалі вячэру і, калупаючы пальцам сцяну, аб’явіла без асаблівай урачыстасці, з сапраўднай арыстакратычнай сціпласцю:

— А я таго. Буду каралевай.

Сям’я, трэба аддаць ім належнае, да новага Лілінага статусу паставілася адпаведным чынам.

— То падрыхтую бігудзі, — адразу ж заявіла бабуля. Выявілася, што каралевы мусяць быць кучаравымі. Справядліва мяркуючы, што бабуля да эпохі каралеў хоць трохі, а ўсё-ткі бліжэй, Ліля пагадзілася.

— А словы ўсе ведаеш? — скептычна папытаў бацька. Ліля, узяўшыся ў бокі, вымавіла не без выкліку:

— Анягож!

Разам з мамай клеілі карону з кардону. Атрымалася нішто сабе: вялікая, аранжавая, спераду ўпрыгожаная, быццам карункамі, цэлафанам з-пад святочных кветак. Адным словам, адметная карона, хоць бы і сапраўднай якой-небудзь імператрыцы ў такой выйсці не сорамна.

Спаць з накручанымі на бігудзі валасамі, як выявілася, няпроста. Ліля круцілася, сапла, змагалася з жаданнем вызваліцца ад клятых пластыкавых цыліндрыкаў, і заснула, здаецца, ледзь не на досвітку. Зрэшты, бяда была не толькі і не столькі ў валасах, колькі ў заўтрашніх пяцікласніках. Маршак, канечне, гэта ўсё напісаў, але напісаныя ім словы давядзецца несці, і прамаўляць, і ажыўляць. Андрэйку лёгка: мала таго, што прафесарскія акуляры носіць, дык яшчэ і бацька ягоны абяцаў яму сапраўдную ўніверсітэцкую мантыю і шапачку. А з Каралевай на адных кучаравых валасах і кароне не выедзеш. Вядома.

Ліля прачнулася сонная і разбітая. Спустошаная. Пазяхала, пакуль бабуля прыводзіла ёй валасы ў парадак, і непрыязна паглядала на ўласны адбітак у люстры. Пазяхала, пакуль па плямах жоўтага святла ліхтароў крочыла ў школу. Пазяхала на трох першых уроках. Пазяхала, калі пасля званка на чацёрты ўрок Алыванна вяла іх з маленькім Разенштайнам па школьным калідоры на першым паверсе.

За дзвярыма кабінета нумар адзін радасна шумелі, гулі, быццам растрывожаны пчаліны вулей. Алыванна загадала застацца тут і паводзіць сябе прыстойна, пакуль не паклічуць. Сама ўвайшла ў клас — і за дзвярыма магічным чынам усталявалася цішыня.

Андрэйка, захутаны ў чорную мантыю, падпіраў спінай сцяну і досыць гучна стукаў зубамі. Ці то ад холаду, бо са школьнага вестыбюля сюды дабіраўся непрыемны скразнячок, ці то ад хвалявання. Ці, магчыма, ад таго і другога разам. Сонная Ліля без асаблівай патрэбы папраўляла пышную святочную сукенку.

— Я словы не помню, — прызнаўся Андрэйка. Ліля пацiснула плячыма.

— І я.

Словы за ноч зніклі, быццам растварыліся ўнутры. Белыя палосы паперы ліплі да далоняў, такія спакушальныя — і такія ненадзейныя. Пакладацца на іх падчас выступлення, гаварыць, прыклеіўшыся позіркам да почырку Алыванны было б амаль злачынствам. Не перад суровай настаўніцай, а перад сабою.

Дзверы адчыніліся. Трошачкі, так, што вузкая лінія святла пабегла па сырой, толькі што вымытай падлозе да тонкіх, абцягнутых белымі калготамі ног Лілі. І ногі гэтыя пайшлі самі, быццам бы без удзелу гаспадыні. І зайшлі ногі ў клас, і сталі.

Бо злева былі вочы. З кожнай парты — па дзве пары, а партаў тут не адна і не дзве. Вочы глядзелі і апякалі, і позіркі, амаль рэчыўныя, можна было адчуваць скураю, нават не паварочваючы галавы. Так, не падымаючы павек, можна зразумець, з якога боку падступае сонца.

Перад зялёнай дошкай стаяла, выцягнутая з агульнага шэрагу, яшчэ адна парта, з белым пяром, якое, праз адсутнасць сапраўднай чарніліцы, паставілі ў савецкую гранёную шклянку. Побач на парце бялелі лісткі паперы — белыя-белыя, быццам мара, быццам чайкі.

Ліля яшчэ раз папрaвіла сукенку, пачасала, адчуваючы на сабе гарачыню позіркаў, адной белай нагой другую. І ўздыхнула. І рушыла наперад.

І Ліля знікла — была толькі фанабэрыстая чатырнаццацігадовая Каралева. Гэта яна, наморшчыўшы носік і закінуўшы падбароддзе, прайшла чатыры крокі да стала, адставіўшы руку да таго манерна, што па класе пайшлі смяшкі. Гэта яна ўпала на крэсла, і адразу ж пачала майстраваць з паперы самалёцік, і ў клас, туды, да пяцікласнікаў яго запусціла. Словы не трэба было згадваць і падглядаць са зробленых Алываннай шпаргалак.

Ліля *была* Каралеваю. Усе сорак з лішкам хвілін.



Нурлан АРАЗАЛІН

# БЯСКОНЦЫ ЖЫЦЦЯ ПАХОД

* * *

Знаходзіў лекі гойных слоў
Я для душы сваёй не раз.
І пошук сіл жыццёвых зноў
Я ускладняў — шукаў адказ.

Маімі песнямі тугі
Не раз вітаў вясну сваю.
Дзе зводзіў лёс мой берагі,
Дакладна ведаў: устаю!

І каб забыць пакуту дум,
Я вёў радком упарты бой.
Адмёўшы прэч жыццёвы тлум,
Зноў бачыў сонца над сабой.

---

***Аразалін Нурлан Мыркасымавіч*** *нарадзіўся 13 чэрвеня 1947 г. у сяле Вялікі Дзіхан Уйгурскага раёна Алма-Ацінскай вобласці Казахстана. Скончыў Казахскі дзяржаўны ўніверсітэт імя С. М. Кірава (1970). Працаваў літаратурным супрацоўнікам газеты «Казахстан пионери» (1970—1972), інспектарам, метадыстам рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры КазССР (1972 — 1984), дырэктарам Рэспубліканскага тэатра лялек КазССР (1984—1986), першым сакратаром Саюза тэатральных дзеячаў Казахстана (1986—1990), намеснікам старшыні Камітэта Вярхоўнага Савета Рэспублікі Казахстан па нацыянальнай палітыцы, развіцці культуры і мовы (1990—1993), галоўным рэдактарам газеты «Егемен Казахстан» (1993—1996). Першы сакратар Саюза пісьменнікаў Казахстана (1996—2002), старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Казахстана (2002—2013). Член Савета Грамадскай палаты пры Мажылісе Парламента Рэспублікі Казахстан, пазаштатны саветнік прэм'ер-міністра Рэспублікі Казахстан, дэпутат Сената Парламента Рэспублікі Казахстан.*

*Аўтар кніг «Неспакойнае сэрца» (1977), «Вясна спявае» (1982), «Сёмы кантынент» (1988), «Вясновыя замаразкі» (1997), «Жалейкавы час» (2000), п'ес «Ноч пры свечках» (1977), «Каменныя алені» (1979), «Легенда пра белую птушку» (1981), «Апошні дзень вясны» (1983), «Рэванш» (1984) і інш.*

*Заслужаны дзеяч Рэспублікі Казахстан (1998), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Казахстана (2002). Узнагароджаны ордэнамі «Курмет» (2005) і «Парасат» (2010).*

І месяца барвовы твар
Глядзеўся з хмарыва начы.
І слова ў сковах небных чар
З грудзей памкнулася: гучы!

Як голле ўзнеслася да неба,
Так верш з грудзей памкнуўся зноў.
О лёс, ты чуеш, мне не трэба
Варожых спачувальных слоў!

* * *

***Жыццё ступае ў лістапад…***
Абай

Ў грудзях маіх і горыч, і адчай,
Што здатныя і мора й сушу зрушыць.
Не кратаючы зорны небакрай,
Душу адкрыю — сум гарчысты скрушыць!

А ты, шаноўны, смутна лічыш дні,
Ляжыш на дыване ў паўдрымоце.
Ці верыш мары зорнай чысціні,
Чый голас чуеш у небнай пазалоце?

Ці бачыш водсвет шчасця трапяткі,
Агонь вачэй і яснату вышынь?
Як прагну я, каб і мае радкі
Нявер'я разбівалі сум і стынь.

Крану я струны — і пальецца песня…
Мелодыі сардэчна загучаць.
Узрост дзяцінства — раніцаю веснай
Квяцісты сад, — на ўсім яго пячаць.

Ты чуеш тупат? Ясны далягляд.
Імкнецца думка ў лёт адчайна-смелы.
Ды знудзіць сумам новы лістапад,
Ва ўладзе вечнай свет там чорна-белы.

Зайздроснікаў з днём кожным больш і больш.
І меней тых, хто ўсцешыцца старанню.
Я ведаю: паэзія — мой боль.
Пагаснуць сэрцам? Ці гарэць да рання?

Мой творчы ўзлёт — ён нізкі ці высокі?
Скажы, акын, чаго ўсе варты вершы?
Радкі — мой лёс… Яны навідавоку…
Абраным быць — няйначай, як быць першым.

* * *

Вестак больш няма ад сяброў былых.
Не абудзіць дні памяці ўскалых.
Лік імён пагас, спраў калішніх, стрэч,
І юнацтва спеў не чаруе слых.

Сумна ўспамінаць даўнія гады,
Сэрца, як агонь, слова — не заўжды.
Час не верне больш чараду бяроз,
Памяць аб былым — толькі накрап слёз.

Дзе яны цяпер, даўнія сябры?
Стрэчы не чакай. Зніклі без пары.
Толькі па начах зорна ўспыхне высь
Словам, што сказаў сябар твой калісь.

З далячыні дзён, з прамінулых год
Бачу гор хрыбты і сінечу вод,
Чую песні звон, чую голас свой,
Сон мінулых дзён, і шуганне мрой.

І сягоння зноў заспяваць бы мне
Пра святло бяроз і аб той Вясне!
Пра сяброў былых і пра час круты
Толькі й кажа мне месяц залаты.

* * *

***Не стаўце юрту бліз абрыву,***
***Бура дом знясе…***

Бухар Жырау. XVIII ст.

І зноў вайна… Ў грудзях пачуццяў бура…
Хвароба веку… Як жа ўсё стрываць?
Кабыз тугі мелодыю хаўтураў
Спрабуе нам сыграць і праспяваць.

Высокі верш — клякоча ў жылах кроў,
Апальвае душу, грукоча ў сэрца.
Крык лебядзіны быццам чую зноў,
І жураўліны вокліч абзавецца.

Накочваюцца думкі, быццам хвалі,
Як знічка мкнецца з неба да зямлі,
Ўсе вобразы настолькі бачны сталі,
Бо іх апеў яшчэ Мукагалі[1].

---

[1] Мукагалі Макатаеў (1931—1976) — паэт, празаік, перакладчык, класік казахскай літаратуры.

Свет без асновы, без канца і краю,
Ў агні яго згару, памру ад ран.
Я адчуваю: вецер прадзьмувае
Прасторны стэп, чым жыў спявак Магжан[1].

Змагаўся з ханам, не пісаў ніколі
Яму ва ўгоду, бачыў люд і свет,
І вершам кожным гучна славіў волю
Акын трагічна-светлы Махамбет[2].

Нясе эпоха песні гул на строму.
Вайна ў галовах, сэрца — у агні.
Даўно набіла горыч нам аскому.
Такі наш век — такія нашы дні.

* * *

Не дазволь жа мне, Божа, пакрыўджаным быць.
Вінаваціць кагось, гнеўна помстаю жыць.
Не кляну ні старых, ні няўцямных дзяцей.
Толькі зняць бы заслону з аслеплых вачэй!

На сябе я злую, вінавачу сябе,
Быў падчас маладушным у п'янай гульбе,
І нядобрыя словы сябрам я казаў,
І таму я не іх, а сябе зневажаў,
І таму я сумленне і гонар губляў.

Як сябе дакараю, адмёўшы хлусню!
Я навошта ўцягнуўся ў пустую гульню?
Памяць ганьбы ўзрываецца гучна аб тым,
Што збылося, сплывае, як ранішні дым.

Не крануцца ніколі праклёны мае
Ні краіны сваёй, ні прыроды яе.
Мне пуцінай жыцця несці ношу віны —
Ад маленскіх гадоў да гадоў сівізны.

## СЦЮЖА-КУРАЛАЙ

Хіба гэта песня? — рык звяроў.
Ледзянее сэрца. Стыне кроў.

---

[1] Магжан Жумабаеў (1893—1938) — паэт, празаік, публіцыст, педагог, адзін з заснавальнікаў новай казахскай літаратуры.

[2] Махамбет Уцямісаў (1803—1846) — паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання ў Заходнім Казахстане ў 1836—1837-х гг.

У ваколлі цешыцца Позні Май —
Сумятня-злавесніца — Куралай.

Ух, якая сцюжа! Халады…
Сэрца ные. Горнецца здань бяды.
Збіла квецень вабную стынь-зіма,
Бачыць пацярпелую — сіл няма!

Зноўку дрэвы чорныя між віхур,
А палі зялёныя — бы з хаўтур.
Пашарэлі горы — скрозь імгла!
Куралай хрыбціны іх спавіла.

Па-чужацку глянулі пікі гор —
Холадам закутыя у браню.
Куралай пакажа ім свой віхор,
Агалосіць скутую цішыню.

Куралай лютуе скрозь на зямлі.
Куралай палюе скрозь у гарах.
Зноўку думкі-злосніцы загулі.
Куралай у сэрцах.
У вачах.

Я не веру! Гэта — цяжкія сны.
Не згібела-згінула юнь Вясны!
Летам сыдзе некуды стынь-імгла,
І жыццё пацягнецца да Святла!

О, мая Надзея! Весні сад!
Я цябе, прывабную, клікаць рад.
Я прыходзін Лета хачу да слёз,
Бачачы, як квецень збіў мароз.
Сцюжа-Куралай — свет аслеп.
Гарады прадзьмула ўсе,
Ахінула стэп.

І няўжо няволіцца вечна мне?
І якую песню пець
Аб Вясне?
Сцюжа-Куралай — на вятрах заграй!
Сцюжа-Куралай… Сцюжа-Куралай…

## РОЗДУМ ЛЯ ПАДНОЖЖА КУРГАНА

Старавечча…
Старавечча…

Курган — цень далёкіх часін.
Захаваў, быццам кніга, з мінулых лет

Безліч песень, паданняў, легенд і былін,
Даўніх гунаў і сакаў таемны след.

Праз гады і стагоддзі, дзясяткі вякоў
Ты прынёс свае песні на ўлонне далін,
Бы сышоўшы з паднеб'я Алтайскіх хрыбтоў,
Сініх цюркаў палкі далі коням спачын.

Гэта песня аб тым, як бушуе пажар,
Азараючы стэп, быццам выклік начы.
Гэта памяць, што продкі далёкіх хазар
Пад аблокамі свету змаглі зберагчы.

Можа, гэта уйсуні з цюркешамі спяць?
Або гэта кібчакі, магчыма, куманы?
Можа, гэта нашчадкам героі глядзяць
У адкрытыя вочы, хаваючы раны?

Толькі вейкі прымружу — і вобразаў рой,
Шум ваярскі, і клікі, і шаблевы звон.
Гэта войска мангольскага блізіцца строй,
Прамінаючы збеглага часу заслон.

Хто паверыць? Уява расцвельвае дух.
Да нашчадкаў пралёг з дзён мінулых гасцінец.
Можа, тут быў угневаны наш Аспарух,
І пакінуў Айчыну ізгой нагайлінец?

Каб Жыццё не пагасла у наступе дзён,
Закапанае ў камні, пяскі, саксаулы,
Продкі нашы, не тоячы слаўных імён,
Пад зямлёю схавалі тут юрты, аулы…

Не разбудзіш часін тых — не вернуцца зноў.
Не абудзіць, пакінуўшы схоў скурганелы,
Даўні Шоўкавы Шлях спешным гулам падкоў
Продак, слаўны батыр, нескароны і смелы.

Ў бітве грознай нанёс свой апошні удар,
Зведаў мноства ён сечаў, смяротных прыгод.
І ляжыць, стэпаў гэтых адзіны ўладар,
Век яднаючы Захад і слаўны Усход.

Сядлалі скакуноў, калі была нагода,
Шын і Мажын скароны смеласцю бацькоў.
Мінуўшчына ляжыць качэўнага народа,
Прыцісшы да грудзей скарб вечны дум і слоў.

Хто ведае?
Хто скажа, як было ўсё тое?

Ля памяці вякоў і сёння нам сагрэцца.
Ссамочана ўздыхну… Папраўлю хвацка зброю…
Агонь гадоў былых апаліць маё сэрца.

З кім тугу раздзялю? Ні дубоў, ні бяроз.
Адзінотны прышэлец пад небам світальным.
Ля кургана стаю, бы ў дзірван яго ўрос,
Тлее мозг, як вуголле ў кастры памінальным.

Адкрывае вачам іншы час далягляд,
Дзе паўсюд ваяўнічыя продкаў фігуры.
На нашчадкаў глядзяць — прахалодны пагляд,
Не гарыць і не тлее, суровы, пануры.

Уладар і змагар, ён з эпохі якой?
Зноў няхітры свой скарб узваліў на вярблюда.
Даў жывёле спачыць, даў ён мір і спакой
Пад скляпенне вякоў саступіўшаму люду.

Дык які гэта век? Для мяне ён святы.
Каб удзячную памяць заўжды шанаваць,
Каб святыні яго век слязой амываць,
Ад якога агню знаць усё ж гарыш ты?

Гэты век мне жывой дадае зіхаты!

І якую эпоху павінен апець?
Тую ўсё ж, дзе Жыццём пакараная Смерць.
Або тую, дзе прадзеду выпала жыць,
Слова песні кране, што крыніцай бруіць?

Час той светлы ці стане аднойчы былым?
Супакойся душа! Сцішся, сэрца біццё!
Трэба час мне абраць той усё ж, у якім
Прыпадзеш да крыніцы з найменнем Жыццё!

Руш наперад! Бясконцы Жыцця паход.
Розум, смела і заўтра у шлях вядзі!
О, Курган! Мы сышліся праз безліч год!
Адгукніся на думак маіх узлёт
І таемную моц у грудзях абудзі.

***Пераклад з казахскай***
***Міколы МЯТЛІЦКАГА.***



**Валерый МАКСІМОВІЧ**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ТРАДЫЦЫЯ ВА ЎМАЦАВАННІ ІДЭНТЫФІКАЦЫЙНАГА СТАТУСУ СУЧАСНАГА ГРАМАДСТВА

У эпоху глабалізацыйных трансфармацый не толькі ўзрастае неабходнасць у захаванні нацыянальнай самабытнасці, але і ўзнікаюць новыя інструменты і магчымасці для гэтага. Яны звязаны, у першую чаргу, з увасабленнем у жыццё духоўнага патэнцыялу і творчых інтэнцый асобы. Зразумела, што іх фарміраванне не адбываецца спантанна, хаатычна. Паўнавартасная рэалізацыя духоўна-маральнага кампанента асобаснага развіцця прадугледжвае наяўнасць пэўных псіхалагічна зададзеных параметраў, якія крышталізуюцца, удасканальваюцца, атрымліваюць сваё развіццё ў працэсе індывідуальнага станаўлення, духоўнага росту шляхам уключэння ў сетку сацыяльных камунікацый. Па вялікім рахунку, тыя ж прынцыпы варта ўжыць і да соцыуму — калектыўнага суб'екта духоўна-маральнага развіцця. Стратэгію і магістральныя вектары гэтага развіцця варта разглядаць у цеснай сувязі з перадумовамі і фактарамі сацыяльнай эвалюцыі ва ўсёй яе складанасці і варыятыўнасці, гістарычнай і сацыяльна-эканамічнай абумоўленасці. Прымаючы пад увагу ўсю існуючую шматвектарнасць падыходаў і трактовак глабалізацыі (часам неадназначных, а то і палярных), нельга забываць, што чалавек у XXI ст. не павінен стаць закладнікам, а тым больш ахвярай глабальных працэсаў, наўпрост звязаных з негатыўнымі праявамі нівеліравання, стандартызацыі асобы як носьбіта адметнага індывідуальнага пачатку. Глабалізацыя, як вядома, стварае пагрозу чалавечай ідэнтычнасці ці, інакш, спалучана з ідэнтыфікацыйнымі рызыкамі, якія не могуць спрыяць акумуляванню пэўна зададзеных ментальных, духоўных і культурна-каштоўнасных дамінант. Вось чаму праблему нацыянальнай ідэнтычнасці варта аднесці ў разрад праблем асаблівага стратэгічнага значэння.

Выказаная перасцярога набывае першараднае значэнне і важнасць ва ўмовах духоўна-культурнага крызісу, глыбокай сацыяльнай дыферэнцыяцыі і палярызацыі, што істотна змяняе фармат узаемаадносін традыцыйнага і глабальнага. Узнікае рэальная небяспека паслаблення, а то і відавочнай мутацыі сацыяльна-камунікатыўных сувязей, разбалансаванасці механізмаў, якія забяспечваюць устойлівасць грамадскай сістэмы, цывілізацыйных формаў жыццеўладкавання наогул. Многія эксперты небеспадстаўна прызнаюць рэзкую дэвальвацыю выпрацаваных у працэсе культурагенезу ўстойлівых сацыяльных уяўленняў, каштоўнасцей і нормаў, узораў паводзін, якія ўваходзяць у гістарычнае ядро культуры. Іх вольнае ці міжвольнае ігнараванне, адмова ад іх непапраўна ўплывае на ўнутраны псіхалагічны стан чалавека, які, пазбаўлены надзейнай духоўнай апоры, паступова мімікруе, звыкаецца з адсутнасцю цвёрдага жыццёвага стрыжня, непрыкметна для сябе прыстасоўваецца да інертнага ладу жыцця, успрымаючы свой стан як аб'ектыўную дадзенасць, і, у рэшце рэшт, дэградуе, губляючы саматоеснасць.

Гэта акалічнасць шмат у чым ускладняе працэс свядомай самаідэнтыфікацыі суб'екта ў сённяшняй сацыякультурнай прасторы, якая часцей за ўсё апісваецца з выкарыстаннем характарыстычных паняццяў «мультыкультурнасць» (г.зн. прысутнасць мноства альтэрнатыўных, нярэдка супярэчлівых, матрыц паво-

дзін і каштоўнаснага выбару) і «глабалізм» (г.зн. усвядомленае або неўсвядомленае падштурхоўванне суб'екта да «тыповага» выбару, без уліку канкрэтных умоў яго існавання).

Менавіта глабальныя пагрозы, што не ведаюць дзяржаўных і этнакультурных межаў, з якімі сутыкнулася чалавецтва, абвастраюць адчуванне гістарычнай агульнасці, імкненне да самазахавання не толькі ў біялагічных суб'ектаў, але і ў сацыяльных груп, этнічных, культурных супольнасцей, якія бачаць у гэтым залог рэалізацыі свайго права на гістарычную суб'ектнасць. У сучасным свеце ўзмацнілася цікавасць да каранёў, да традыцый і звычаяў папярэдніх пакаленняў. Прычына ў нестабільнасці самаго існавання чалавека, які ўсё часцей змушаны жыць у сітуацыі перманентнага развязвання міжнародных канфліктаў, войнаў, экалагічных пагроз і небяспекі ўзнікнення ядзернай вайны. Таму нават на ўзроўні падсвядомасці ўзнікае жаданне шукаць падтрымку і абарону ў стабільных каштоўнасцях продкаў, у гістарычнай памяці, у нязменных, правераных часам традыцыях, што дае хоць якую-кольвечы ўпэўненасць у заўтрашнім дні, дазваляе пачуваць сябе адносна абароненым, падтрымліваць псіхалагічна і духоўна камфортны асяродак пражывання.

Месца і роля традыцыі ў жыцці грамадства набывае асаблівы нацыязначны статус. Традыцыя выступае першаступенным і надзвычай важным вымярэннем культуры, наўпрост звязаным з самой сутнасцю чалавечай дзейнасці. Гэта своеасаблівы рэгенератыўны, аднаўленчы ген культуры, закліканы засцерагаць арганізм ад паразы або амнезіі асобныя яе часткі і дабудоўваць, аднаўляць адсутныя ці пашкоджаныя сегменты. «Місія культурнай традыцыі, — заўважае расійскі даследчык В. Авяр'янаў, — неадрыўная ад бесперапыннай якаснай і асэнсаванай арганізацыі гістарычна дынамічнай сістэмы аднаўлення і развіцця чалавека, сістэмы, якая непазбежна ўключае ў сябе мноства фактараў дыскрэтнасці, страты ранейшых значэнняў, зрухі і мутацыі культурных пластоў і, адпаведна, якая імкнецца мінімізаваць і кампенсаваць дзеянне гэтых фактараў» [1, с. 18].

Колькі б мы ні казалі аб фарміраванні нейкай якасна новай сістэмы сусветнага сацыякультурнага ўладкавання, што вядзе да ўніфікацыі (= стандартызацыі) укладу жыцця, аксіялагічнага рэлятывізму, усё ж даводзіцца прызнаць наяўнасць бясспрэчна важкіх аргументаў, якія не дазваляюць цалкам прыняць сцвярджэнне пра незваротны, татальны характар глабальных змен. Думаецца, падобныя сцвярджэнні неапраўдана катэгарычныя, празмерна прадузятыя. Пры гэтым ігнаруецца і не прымаецца пад увагу шэраг даволі значных перадумоў, фактараў, акалічнасцей, якія сведчаць аб далёка неаднастайным, неадназначным характары гэтых працэсаў. Разам з глабалізацыяй маюць месца і альтэрнатыўныя падыходы і тэндэнцыі, звязаныя ў першую чаргу з ўнутрана матываванымі патрэбамі грамадства ў асэнсаванні і «рэінкарнацыі» традыцыі як значнага фактару сацыяльнай стабілізацыі, захавання светапогляднага і ўнутрана-псіхалагічнага балансу. Менавіта глыбока ўнутраная, экзістэнцыяльна-асобасная, інстынктыўная неабходнасць чалавека ў сацыяльна-групавой самаідэнтыфікацыі — вызначальны фактар, тая адчувальная процівага, якая, па сутнасці, забяспечвае неабходную ўстойлівасць, абароненасць традыцыі, яе анталагічную і быццёва-сутнасную запатрабаванасць. Гаворка не ідзе, да прыкладу, пра ігнараванне або татальнае адмаўленне працэсу інфарматызацыі ці нейкі абскурантысцкі супраціў пашырэнню камунікатыўнай прасторы інфармацыйнага грамадства, што, аб'ектыўна, выступае заканамерным вынікам навукова-тэхнічнага працэсу. Слушна казаць пра захаванне экзістэнцыйнай прасторы асабістай ідэнтычнасці, пра неабходную лакалізацыю грамадскага і ўласнага, прызнанне індывідуальнай самасвядомасці і самапазнання этнасуб'екта, уключанага ў сетку аб'ектыўных грамадскіх адносін. На гэтым даводзіцца акцэнтаваць увагу, улічваючы пастаянна ўзнікаючыя рызыкі, звязаныя з крызісам асобаснай ідэнтычнасці і ідэнтыфікацыі. Захаваць сваю асобасную экзістэнцыйную цэласнасць, эга-самасць магчыма толькі ў выпадку самапазіцыявання сябе ў

межах карціны свету, якая склалася ў працэсе аўтахтоннага гістарычнага генезісу пэўнай нацыянальна-этнічнай групы, што як нельга лепш адпавядае ўнутраным запытам асобы і суаднесена з прынцыпам духоўнай аўтахтоннасці. У гэтым неацэнную ролю аказвае нам традыцыя, тэзаўрусная мадэль якой грунтуецца выключна на сваіх унутраных крыніцах і рэзервах, на ўласных архетыпічных структурах. Менавіта генетычнае, прарадзіннае асяроддзе заклікана спрыяць актуалізацыі сістэмы каштоўнасных установак прадстаўніка канкрэтнай этна-нацыянальнай супольнасці, паўнавартаснаму выяўленню ўнутранага самаадчування і самапазнання. Яна ж дазваляе кожнаму суб'екту, асобе поўнафарматна рэалізаваць сябе ў самых разнастайных сацыяльных сувязях і адносінах, выступае стабілізуючым фактарам развіцця, галоўным дзейсным звяном у складанай сістэме адносін узаемадзеяння і сацыяльна-асобаснага праектавання.

У апошні час некаторыя даследчыкі гавораць пра традыцыю-сістэму, маючы на ўвазе інтэгральны яе характар, дынамічную накіраванасць, сацыяантрапацэнтрычную сутнасць. Дзякуючы стваральнай дзейнасці чалавека як галоўнай іпастасі сацыяльнай рэчаіснасці, яго асабліваму грамадскаму статусу, унутранай інтэнцыі захоўваецца і ўдасканальваецца анталагічная парадыгма яго светабыцця. З улікам гэтага важна ўлічваць не толькі месца чалавека ва ўзаемаадносінах з традыцыяй-сістэмай, але і значэнне апошняй для самога чалавека, маючы на ўвазе яго першаснасць, незаменнасць у працэсе асобаснага самавызначэння, сацыялізацыі і індывідуалізацыі. У гэтым заключаецца антрапалагічны (= гуманістычны) змест традыцыі. В. Авяр'янаў у гэтай сувязі заўважае: «Толькі чалавек, спецыяльна выхаваны ў традыцыі, можа быць захавальнікам і паўнавартасным рэтранслятарам паўнаты традыцыі-сістэмы і паўнаты падзеі спадчыннасці, паколькі ён сувымярае культурныя з'явы не з абстрактнымі крытэрамі, а з асабістым вопытам такой паўнаты» [1, с. 25].

Менавіта ў суб'екце, носьбіце традыцыйнай культурнай аўры назапашваецца і крышталізуецца (= матэрыялізуецца) духоўны вопыт у розных сваіх стэрэатыпных і мадэльна-праграмных формах і праявах. Гаворка не проста пра факт фармальнай «радавой» спадчыннасці, пераемнасці, але пра атрыманне ў спадчыну самой мадэлі сэнсаспасціжэння, сэнсадзеяння, сэнсаадрознення праз прызму нацыяангажаванага канструкта. «Касцяная (= генная) матэрыя» традыцыі заклікана фарміраваць уласна алгарытм унутранага дзеяння, дзейнасці і разгортвання сістэмна значных сувязей, адносін, якія спрыяюць раскрыццю патэнцыйных магчымасцей асобы.

Традыцыя ў яе ўніверсальным значэнні служыць інструментам зніжэння інтэнсіўнасці крызісных праяў у сферы духоўна-маральных адносін і ў цэлым грамадскага будаўніцтва. З'яўляючыся своеасаблівым класіфікацыйнага-ацэнкавым эталонам, які дазваляе ідэнтыфікаваць аб'екты па іх падабенстве/адрозненні, яна задае ўласна алгарытм паводзін, мэтапакладання, адчування і мыслення. Для прадстаўнікоў пэўнай этна-нацыянальнай супольнасці традыцыя ўяўляе сабой норму, правіла, ідэал, якія прысутнічаюць або павінны прысутнічаць ва ўнутраным свеце чалавека дзякуючы сваёй інстытуцыйнай прыродзе, каштоўнасна-сэнсавай інварыятыўнасці. Традыцыя-ідэал, аб'ектыўна, заклікана ўсталёўваць іерархію духоўных каштоўнасцей, выступаючы пры гэтым у ролі імператыву маральнага парадку, духоўнага рэгулятара або індыкатара стратэгій паводзін і светапоглядных маніфестацый.

Сталыя, традыцыйныя формы, прынцыпы, уяўленні латэнтна або адкрыта выяўляюць сябе ў розных аспектах жыцця грамадства, у тым ліку палітычных, эканамічных, сацыяльных, культурных і іншых адносінах і працэсах. Асноўныя складнікі традыцыі-ідэалу ўваходзяць (павінны ўваходзіць) у ядро, базіс дзяржаўнай ідэалогіі, наўпрост звязанай з выпрацоўкай ідэальнай мадэлі прагназуемага ўладкавання грамадства, інтэграванага нацыянальнага ідэалу ў зменлівых сацыяльных умовах. Таму вельмі важна, каб ідэнтыфікацыйныя маркеры, якія выступ-

паюць у якасці канцэптуальна значных ідэалагічных сімвалаў-рэпрэзентантаў, карэлявалі з сэнсавым значэннем традыцыі-ідэалу, што выступае важнай перадумовай эмацыйнай кансалідацыі грамадства. У сваім інтэграцыйным выражэнні і першыя, і другія, на наш погляд, наўпрост звязаныя з архетыпнымі падсвядомымі стэрэатыпамі светаўспрымання (па М. Барасу) і спрыяюць стварэнню нацыяангажаванага міфа, які аказвае стабілізуючы і інтэгральны ўплыў на грамадскую свядомасць. Міфалагемы, што атрымалі найбольшую прэзентатыўную прадстаўленасць у выніку калектыўнага адбору, набываюць уласцівасць дзейсных актывізатараў светапоглядных установак і духоўна-маральных якасцей, становяцца ўнутранымі рэгулятарамі паводзін людзей, ладу іх жыцця, аказваюць уплыў на характар асобасных псіхалагічна і сацыяльна абумоўленых якасцей.

На ўзроўні масавай свядомасці важнае значэнне набывае ірацыянальны складнік, які грунтуецца на веры, унутранай эмпатыі, пачуццёвым успрыманні. Нельга не пагадзіцца са сцвярджэннем В. Палосіна, што «асноўным метадам нацыянальнай ідэнтыфікацыі з'яўляецца зварот грамадскай свядомасці на нацыянальны міф» [4, с. 83]. Акурат з архетыпамі звязана аднаўленчая здольнасць культуры, яе генератыўны патэнцыял. Маецца на ўвазе не ўласна працэс механічнага замяшчэння адсутных элементаў, якія страцілі або аслабілі сваё значэнне ў ходзе культурна-гістарычнай рэдукцыі. Падобная рэгенерацыя мае на ўвазе ў вядомай ступені мадэрнізацыю элементаў, знакаў і мадэлей традыцыі з улікам яе сацыяльна-дынамічнай прыроды, магчымасці адаптавацца да зменлівых акалічнасцей.

Роля і значэнне традыцыі ў шырокім значэнні слова павінны разглядацца ў культурна-гістарычнай перспектыве з улікам здольнасці апошняй да трансляцыі духоўна-практычнага вопыту, які звязаны з развіццём псіхікі, свядомасці, светаўспрымання чалавека як прадстаўніка пэўнага этнасу. Дзякуючы сваёй трансляцыйнай прыродзе (здатнасці перадаваць духоўны аспект жыццёвага вопыту), традыцыя набывае якасць аднаго з найважнейшых інструментаў спасціжэння свету, становіцца перадумовай паспяховай сацыялізацыі суб'екта ў межах канкрэтнай нацыянальнай культуры. У складаным працэсе ўзаемаабумоўленых унутраных пераўтварэнняў традыцыю трэба прызнаць ахоўнай уласцівасцю культуры і адным з найважнейшых складнікаў жыццядзейнасці грамадства. Даследчыкі звяртаюць увагу на тое, што «ў аснове любога сацыяльнага працэсу ляжыць каштоўнасная структура культурнай свядомасці» і што з улікам выклікаў тэхнагеннай цывілізацыі існаванне прасторы сацыяльнага ўзаемадзеяння магчыма толькі «дзякуючы духоўным і інтэлектуальным намаганням людзей» [5, с. 85].

Анталагічныя падставы традыцыі, як адзначалася, спалучаны з асаблівасцю псіхічнага складу прадстаўнікоў пэўнай сацыякультурнай супольнасці, іх менталітэту, які імпліцытна заключае ў сабе гісторыка-культурныя складнікі індывідуальнага і калектыўнага светаўспрымання, светапогляду, паводзін. Менавіта ў традыцыйных калектыўных уяўленнях, маючых сталую гістарычную аснову, закладзена адносна цэласная сукупнасць ідэй, вобразаў, вераванняў, паданняў і адносін, што складваліся, фарміраваліся пад уплывам духоўна-маральных асноў, ідэалаў дабра і зла, паняццяў справядлівасці / несправядлівасці, належнага / імавернаснага. Традыцыя ляжыць у аснове і калектыўнага светаўспрымання, светапогляду, паводзін, і з'яўляецца базісам індывідуальнай свядомасці. Па сваёй анталагічнай сутнасці і прыродзе традыцыйныя формы, выразы, артэфакты ўяўляюць сабой гістарычна трансфармаваныя архетыпічныя погляды, якія дазваляюць пэўна ідэнтыфікавана ўспрымаць прасторава-часавыя і грамадска-цывілізацыйныя формы жыццядзейнасці (мастацтва, эканоміка, культура, палітыка, рэлігія і г. д.).

Незаменнасць традыцыі ў станаўленні чалавека як асобы і суб'екта сацыякультурнага працэсу заключаецца ў забеспячэнні яго рэальнага ўдзелу ў шматлікіх культурных кантэкстах сучаснасці. Валодаючы ў вядомай меры і прагматычнасцю, і нарматыўнасцю, традыцыя задае пэўную праграму сацыяльных паводзін. Актуалізаваны гістарычны вопыт наўпрост уплывае на ўзаемаадносіны людзей,

на іх сацыяльную дзейнасць і ўзаемадзеянне з навакольным светам. Працэс сацыялізацыі непарыўна звязаны з засваеннем духоўных атрыбутаў як гістарычнага мінулага, так і сучаснасці. У гэтым працэсе чалавек авалодвае светам культуры, пры гэтым сацыяльнае асяроддзе выступае неабходнай умовай і перадумовай структуравання яго культурнага вопыту.

Добра наладжаная сістэма нормаў і каштоўнасцей, неабходная для рэгулявання грамадскіх адносін і сацыяльна-псіхалагічных аспектаў паводзін індывіда, — абавязковая перадумова выжывання грамадства ва ўмовах сучасных супярэчнасцей. Для таго, каб чалавек не толькі ідэнтыфікаваў сябе з папярэдняй культурнай традыцыяй, але і спрыяў захаванню ўсёй культурнай матрыцы нацыянальнай ідэнтычнасці, яму неабходна быць дзейсна, а не фармальна спрычыненым да каштоўнасных патэрнаў духоўнага жыцця грамадства. Фенаменалогія гэтай датычнасці заключае ў сабе «жывую», натуральную інтуіцыю таго, што кожная рэч і ў свеце прыроды, і ў свеце культуры знаходзіцца на сваім месцы, адпавядае свайму першапачатковаму прызначэнню. Адпаведна, перспектывы выжывання і асобнага чалавека, і цэлага народа толькі тады не выклікаюць асцярогі, калі ўсё ў іх жыцці арганічна адладжана, спалучана і максімальна выключана актывізацыя разбуральных сіл, уключаючы і тыя, што парушаюць псіхалагічны баланс, пагібельна дзейнічаюць на глыбінныя структуры свядомасці. Толькі пры ўмове паўнавартаснага задзейнічання ўсіх наяўных механізмаў этнакультурнага кантэксту магчыма дасягненне паўнаты жыцця, спалучанага з гармоніяй штодзённа-паўсядзённага і ўзнёсла-сакральнага, прыватнага і грамадска значнага, нацыянальнага і ўніверсальнага. Спрычыненасць да агульнапрынятых прынцыпаў і нормаў, перакананняў і ідэй, якія складаюць аснову, базіс грамадскай структуры, дазваляе сцэментаваць, злучыць у адзінае цэлае розныя часткі сацыяльнага арганізму, кансалідаваць грамадства, актывізаваць працэс нацыянальнай ідэнтыфікацыі, а тым самым і дасягнуць духоўнага адзінства.

Нельга пагадзіцца з досыць надакучлівай ідэяй «новага сусветнага беспарадку», узрастання хаосу як праявы «свабоднага», альтэрнатыўнага развіцця грамадства і асобы. Падобныя заявы не могуць быць слушнымі ўжо таму, што ўтрымліваюць у сабе безапеляцыйнае сцвярджэнне аб брутальна-сутнаснай прыродзе чалавека, якое падзяляецца далёка не ўсімі. У чалавеку жыве адвечнае, невыкараняльнае імкненне да грунтоўнасці, устойлівасці светабудовы і ўласнай самасці. Успрыманне свету як космасу, упарадкаванай і структурна арганізаванай цэласнасці, якая развіваецца па сваіх аб'ектыўных законах і заканамернасцях, дабратворна ўплывае на біяпсіхалагічны статус індывіда, дапамагае яму ўсвядоміць сваё месца ў сістэме грамадскіх і сацыякультурных адносін, паўнавартасна і паўнапраўна пазіцыянаваць сябе ў пэўнай форме культуры. Менавіта прытрымліванне рода-генетычных «культурных праграм» як базавых механізмаў самазахавання і ўзнаўлення гістарычнага вопыту дазваляе ў нечым структураваць свядомасць, актывізаваць яе стваральную дамінанту.

Пры ўсёй разнастайнасці існуючых падыходаў, звязаных з праблемамі засваення/незасваення нацыянальных культурных традыцый, даводзіцца прызнаць, што паспяховая адаптацыя асобы ў соцыуме адбываецца толькі пры глыбокім усведамленні ёю сваёй сацыяльна-гістарычнай адказнасці. Гаворка ідзе пра суб'ект, які актыўна арыентаваны на ўзоры культуры, выступае за захаванне і адначасова абнаўленне традыцый. Не трэба забывацца і пра тое, што паняцце «традыцыя» можа разумецца не толькі ў плане засваення і трансляцыі гістарычнага вопыту, набыткаў у сферы высокага і народнага мастацтва, культуры, але і як псіхалагічная пераемнасць. Маецца на ўвазе сам працэс бесперапыннага ўзаемадзеяння чалавека і часу, своеасаблівая пераклічка эпох, што наўпрост аказвае ўплыў на фарміраванне сацыяльных стэрэатыпаў мыслення і сэнсадзеяння, жыццёвых прынцыпаў, паводзін і ўчынкаў чалавека як носьбіта і патэнцыйнага творцы культуры, у тым ліку, што немалаважна, і культуры міжасобасных зносін.

Традыцыя па сваёй сутнасці заўсёды імкнецца да інтэгральнага выяўлення, да суладнай арганізацыі сваіх элементаў і структур, якія маюць устойлівы характар. Мы дапускаем таксама магчымасць для чалавека ў працэсе нацыярэцэпцыі далучыцца да агульнай сістэмы трансляцыі аксіялагічнага плана сацыялізацыі, якая задае кірунак і матываванасць засваення разнастайных формаў чалавечай культуры. Менавіта цеснае судакрананне з традыцыяй, з духоўна-творчым вопытам папярэднікаў спрыяе скарэктыяванню пэўнага светапогляднага балансу ў сістэме «чалавек — свет», выпрацоўцы аптымальнай формы светаўспрымання і светаадносін, уключаючы характар і спецыфіку фарміравання перакананняў, ідэалаў, жыццёвай пазіцыі, цэласнага светапогляду. Іншымі словамі, пераемнасць нацыянальнай традыцыі як комплексу каштоўнасна-светапоглядных, пазнавальных, псіхалагічных установак, як адкрытай сістэмы, якая развіваецца ў сілу сваіх унутраных аб’ектыўных законаў, забяспечваецца магутнай духоўна-кроўнай сувяззю, якая існуе паміж пакаленнямі.

Усвядоміўшы сваю арганічную спрычыненасць да непарушных, унутрана засвоеных артэфактаў нацыянальнай гісторыі і культуры, чалавеку значна лягчэй з’арыентавацца ў навакольным свеце, адчуць сваю духа-ментальную абароненасць, сваю непарыўную сувязь з часам мінулым і сучаснасцю, з культурнымі набыткамі ўсяго чалавецтва. У пэўным сэнсе, далучэнне да нацыянальнай традыцыі не ў меншай ступені, чым успрыманне агульначалавечых сацыяльна-культурных каштоўнасцей, спрыяе таму, што чалавек як біялагічны індывід становіцца ўніверсальнай асобай — суб’ектам гісторыі. І наадварот, «адарванасць ад сваёй глебы, ад традыцыйнага ладу жыцця пагражае стратай звыклай гармоніі, вострай незадаволенасцю, фрустрацыямі, неўрозамі, наркаманіяй, злачыннасцю, тэрарызмам, нарэшце, самагубствам. Па сутнасці, усё гэта можна вызначыць як «аксіялагічную» катастрофу, балючы злом каштоўнасных установак і традыцый, страту «вечных» каштоўнасцей» [6, с.16].

Разам з пазнавальнай, стваральнай і камунікатыўнай вялікае значэнне ў сучасных умовах набывае рэгулятыўная функцыя традыцыі, непасрэдна звязаная з выяўленнем яе этычнага кампанента. На думку сучасных даследчыкаў, «менавіта гэты бок успрымання жыцця складае асаблівую ў сваёй псіхалагічнай ёмістасці плоскасць разумення этыкі як умовы духоўнага засваення акумуляваных у чалавечым вопыце сэнсазначных утварэнняў, якія складаюць каштоўнасны рэгістр, што пранізвае вертыкаль развіцця канкрэтнага сацыяльнага ў формах чалавечай культуры» [3, с. 356].

Калі гаварыць пра неабходнасць знаходжання новых сродкаў удасканалення адносін «чалавек — свет», то яны, на нашу думку, павінны ляжаць у плоскасці гарманізацыі сацыяпрыродных адносін і рэалізацыі сапраўды цывілізаваных прынцыпаў узаемаадносін у самім грамадстве. А для гэтага неабходна пераадолець камунікацыйны хаос, кансалідаваць грамадства, канцэнтруючы яго духоўную энергію з глыбокім усведамленнем таго, што «грамадства як адмысловая, гранічна складаная, космапланетарная сістэма здольная выжыць і нармальна функцыянаваць як цэласны арганізм толькі ў форме культуры, сцвярджаючы духоўны тып светаадносін» [2, с.7].

Сімптаматычна, што грамадскія дзеячы, дзеячы навукі і культуры ўсё больш разумеюць неабходнасць складвання гарманічнага грамадства, у аснове якога павінен ляжаць духоўны пачатак як яго найважнейшы структураўтваральны складнік. Духоўнасць у самым шырокім значэнні слова заклікана ахопліваць усе сферы дзейнасці грамадства — ад міжасобасных, сямейна-бытавых адносін да палітычных і дзяржаўных структур, ад гаспадарча-эканамічных да нацыянальна-этнічных і канфесійных узаемаадносін.

Сам вопыт сацыякультурнага развіцця апошніх дзесяцігоддзяў пераконвае ў тым, што грамадства ва ўмовах пераходнага перыяду, альтэрнатывы паміж радыкальнай трансфармацыяй і ўзнаўленнем ранейшых формаў сацыяльнай камуні-

кацыі заклікана супрацьстаяць каштоўнаснаму рэлятывізму, распаўсюджванню бездухоўнасці, навязванню дэструктыўных стэрэатыпаў паводзін і абясцэньванню сапраўднай сутнасці быцця. У гэтым сэнсе прадстаўнікі творчых прафесій павінны заставацца партнёрамі і аднадумцамі ў светапоглядным дыялогу паміж рознымі галінамі духоўнай дзейнасці, супрацоўнічаць у выпрацоўцы ўзважаных падыходаў дзеля забеспячэння стабільнага і ўстойлівага развіцця сацыякультурнай сферы, актыўна спрыяць фарміраванню грамадскай свядомасці. Творчай інтэлігенцыі, як ніякаму іншаму сацыяльнаму суб'екту, трэба кансалідаваць намаганні па аказанні дзейснага ўплыву на айчынную сістэму адукацыі, маральнага і грамадзянска-патрыятычнага выхавання, а таксама на сучасныя сродкі масавай інфармацыі з мэтай распаўсюджвання высокіх узораў культуры сацыяльных паводзін, маральна-этычных нормаў, культывавання гістарычных традыцый і каштоўнасцей.

Падкрэслім яшчэ раз, што традыцыя ў яе ўніверсальным значэнні выступае гарантам устойлівасці, стабільнасці функцыянавання ўсяго сацыякультурнага арганізма як неабходнай перадумовы для яго далейшага паўнавартаснага развіцця. Яе стабілізуючае ўздзеянне па сваёй сутнасці двяякае: на макраўзроўні яна задае пэўныя каштоўнасныя арыенціры і крытэрыі ўдасканалення, на мікраўзроўні — спрыяе фарміраванню ўніверсальна значнага асобаснага разумення сутнасці быцця наогул і гістарычнага працэсу ў прыватнасці, прыроды чалавека, яго месца і прызначэння ў свеце. У той жа меры паўнавартасна засвоеная традыцыя служыць і запарукай паважлівага стаўлення да іншых людзей і да самога сябе. Гістарычна замацаваныя ў нацыянальнай культурнай прасторы «кодэксы» або семантычныя канстанты-ключы культурных феноменаў, што змяшчаюць у сабе «ген» культурнай з'явы, выступаюць фактарам захавання этычных і эстэтычных матрыц грамадскай свядомасці і спрыяюць выпрацоўцы духоўных запытаў. Без перабольшання можна сцвярджаць, што традыцыя ў самым шырокім значэнні слова ўплывае на ўсю жыццядзейнасць чалавека, яго псіхаэмацыйны стан, жыццёвыя прыярытэты і перакананні, алгарытм паводзін; яна дабратворна ўздзейнічае на эвалюцыйнае развіццё соцыума наогул.

Выпрацаваныя на працягу стагоддзяў гуманістычныя прынцыпы і ідэалы пераканаўча засведчылі свой непераходзячы характар, жыццяўстойлівасць і запатрабаванасць у адвечным пошуку шляхоў да пазнання сутнасці быцця. Бо і ў сённяшні пераходны перыяд традыцыя застаецца незаменным сродкам выпрацоўкі стратэгій умацавання светапоглядных і духоўна-маральных асноў грамадства і асобы, гарманізацыі ўсіх сфер грамадскай жыццядзейнасці.

## Спіс літаратуры:

1. Аверьянов, В. В. Традиция как методологическая проблема в отечественной культурологии XX века: автореф. дисс… д. философ. н. / В. В. Аверьянов. — М., 2012. — С. 18.

2. Большой энциклопедический словарь: философия, социология, религия, эзотеризм, политэкономия. — Минск: МФЦП, 2002. — 1008 с.

3. Иванов, С. П. Субъект художественного действия в построении и развитии культурных сфер // Человек как субъект культуры. — М: Наука, 2002. — 445 с.

4. Полосин, В. С. Миф. Религия. Государство. — М.: Ладомир, 1999. — 440 с.

5. Порус В. Н. Интеллект как культурная ценность // Вестник Российского философского общества. — 2009. — № 1 (49).

6. Современные глобальные трансформации и проблема исторического самоопределения восточнославянских народов. 2-е изд., перераб. и доп. — Гродно: Гродненский гос. ун-т, 2009. — 547 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 17 верасня 2015 года.

## Рэзюмэ

**Валерый МАКСІМОВІЧ**

### Нацыянальная традыцыя ва ўмацаванні ідэнтыфікацыйнага статусу сучаснага грамадства

У артыкуле разглядаецца роля нацыянальнай традыцыі ва ўмацаванні светапоглядных і духоўна-маральных асноў сучаснага грамадства. Традыцыя прызнаецца не толькі першарадным і надзвычай важным вымярэннем культуры, але і выяўляе саму сутнасць чалавечай культуры. Менавіта суб'ектыўна-ацэначная, экзістэнцыяльна-асобасная і інстынктыўная неабходнасць чалавека ў сацыяльна-групавой самаідэнтыфікацыі з'яўляецца вызначальным фактарам, які забяспечвае патрэбную ўстойлівасць, абароненасць традыцыі, яе анталагічную і быццёва-сутнасную запатрабаванасць у сучасным свеце. Глыбінна анталагічнае, этнапсіхалагічнае асяроддзе заклікана спрыяць актуалізацыі сістэмы каштоўнасных установак прадстаўніка канкрэтнай этна-нацыянальнай супольнасці, паўнавартаснаму выяўленню яго ўнутранага самаадчування і самапазнання.

**Ключавыя словы:** нацыянальная традыцыя, глабалізацыя, духоўна-культурны крызіс, ідэнтыфікацыйныя рызыкі, этна-нацыянальная супольнасць, сацыякультурны працэс, аксіялагічны план сацыялізацыі, свядомасць, псіхалагічная пераемнасць.

## Summary

**Valery MAXIMOVICH**

### National tradition in strengthening of identification status of modern society

The article is devoted to the role of national tradition in strengthening the worldview and moral foundations of the modern society. Tradition is considered to be not only the paramount and very important dimension of culture, but also it expresses the essence of human culture. Subjective-evaluative, existential-personal and instinctive need of a person for social and group identity is a determining factor, which provides the necessary stability, protection of tradition, its ontological and essential relevance in the modern world. Deep ontological and ethnic-psychological environment should promote actualization of the system of values of a representative of certain national community, a complete expression of their internal self-awareness and self-knowledge.

**Keywords:** national tradition, globalization, moral-spiritual crisis, identification risk, ethnic-national community, social-cultural process, axiological plan of socialization, consciousness, psychological continuity.



# НЕВЯДОМЫ ЯНКА ЛУЧЫНА

Янка Лучына (1851—1897) — пісьменнік трохмоўны. Найбольшая колькасць твораў ім напісана па-польску. Радзей карыстаўся беларускай мовай. І зусім мала рускай. У яго біяграфіі і творчасці яшчэ шмат белых плям. Аднак пошук новых фактаў аб жыцці і спадчыне Лучыны плённа працягваецца.

У Кракаве ў 1889 годзе была выдадзена ананімная брашура пад назвай «Z krwawych dni: epizod z powstania 1863 r. w Mińskiem / opowiedziany przez *S» («З крывавых дзён: эпізод з паўстання 1863 г. у Мінскім <ваяводстве> / расказаны *S»). Адам Мальдзіс у манаграфіі «Падарожжа ў XIX стагоддзе» даказвае, што аўтар яе Лучына. Але ў Беларусі арыгінала няма.

Ананімнасць выдання тлумачыцца яго ідэйнай накіраванасцю, якую Лучына выказаў у лісце да Зянона Пшасмыцкага: «Напісаў я абразок аб падзеях 1863 г. і так задаў перцу і імбіру, што, напэўна, адбыў бы падарожжа на ўрадавы кошт, калі б мая пісаніна трапіла ў належныя рукі... Аднак я не меў бы нічога супраць, каб гэтых некалькі слоў прыязні да нашых дабрадзеяў пусціць пад вялікім сакрэтам у ход за кардонам. Шчырая праўда з'яўляецца фонам апавядання».

Усе жорсткасці царскай арміі ў справе падаўлення паўстання паказваюцца настолькі праўдзіва, што калі б аўтар падпісаўся сваім іменем, яго сапраўды адправілі б у ссылку.

У выданні змешчаны асобныя творы, аб'яднаныя агульнай тэмай — паўстанне 1863 года на Міншчыне. Назву кніга атрымала па галоўным, самым буйным творы — нарысе «Z krwawych dni: epizod z powstania 1863 r. w Mińskiem» («З крывавых дзён: эпізод з паўстання 1863 г. у Мінскім <ваяводстве>»). Ён складаецца з уступу і шасці пранумараваных частак, якія не маюць назвы, а ў пачатку кожнай з іх пададзены ключавыя эпізоды.

Ёсць у выданні і раздзел «Noty» («Нататкі»), у якім змешчана чатыры асобныя нататкі: «Nawracanie włościan katolików na prawosławie w gub. Mińskiej» («Зварот сялян католікаў у праваслаўе ў губ. Мінскай»), «Księża trebnikowicze» («Ксяндзы трэбніковічы»), «Zabiegi Żydów po 1863 roku» («Дзейнасць жыдоў пасля 1863 года»), «Kuszelew i jego libieralne poglądy na sprawę Polską» («Кушалёў і яго ліберальныя погляды»).

Нарыс «Z krwawych dni» («З крывавых дзён») часткова перакладзены на беларускую мову Уладзімірам Мархелем і змешчаны ў выданні твораў Лучыны, што выйшлі ў 1988 і 2001 гадах. Аднак укладальнік і перакладчык дапусціў некалькі тэксталагічных недакладнасцей.

Апублікаваны толькі ўступ і першыя чатыры часткі нарыса «Z krwawych dni», а таксама нататка «Kuszelew i jego libieralne poglądy na sprawę Polską». Найбольш верагодна, што Мархель пераклаў пятую і шостую часткі нарыса, дый іншыя творы, але ў выдавецтве палічылі немэтазгодным уключаць іх па наступных прычынах:

1) У пятай і шостай частках рэзка асуджаюцца дзеянні царскай арміі ў падаўленні паўстання, а таксама называе рускую армію экспрэсіўным словам «маскалі».

*2) Чацвёртая частка заканчваецца ўпадкам паўстання, таму ўкладальнік палічыў на гэтым закончыць твор, не ўнікаючы ў развагі аўтара наконт ходу вызваленчага руху і яго наступстваў.*

*3) Змест пятай і шостай частак амаль не датычыцца жыцця Міншчыны, а краязнаўчы ўхіл апублікаваных тэкстаў відавочны. І для беларускага чытача гэты факт мае асаблівае значэнне.*

*4) У нататках прысутнічаюць некаторыя антыклерыкальныя і антысеміцкія матывы. Лучына асуджае каталіцкае духавенства, якое дапамагала гвалтоўна насаджаць праваслаўе, адраклося ад сваёй нацыянальнасці, каб дагадзіць уладам, і праводзіла багаслужбу на рускай мове. Таксама пісьменнік выкрывае прыстасавальніцтва асобных яўрэяў, якія да паўстання карысталіся апекай польскай шляхты, а пасля яго, калі шляхта страціла ўсе прывілеі, сталі падтрымліваць рускіх чыноўнікаў і захацелі пазбавіцца польскай шляхты.*

*У другім выданні твораў Янкі Лучыны нарыс «Kuszelew i jego libieralne poglądy na sprawę Polską» («Кушалёў і яго ліберальныя погляды») размешчаны такім чынам, што незразумела: ці гэта асобны тэкст, ці ён дадатак да нарыса «Z krwawych dni». Таксама не пазначаны перакладчык, таму можа падацца, што гэта арыгінал твора, напісаны па-беларуску самім Лучынам.*

*У аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве захоўваюцца некаторыя лісты і рукапісы Лучыны, дзякуючы якім удалося знайсці некалькі невядомых вершаў пісьменніка.*

*У лістах да Зянона Пшасмыцкага захоўваюцца рукапісы вершаў «Towarzyszu i Bracie!» («Браце мой і таварыш!»), «Winiary» («Віняры»), «Wisła» («Вісла»). Упершыню ў арыгінале вершы надрукаваны ў манаграфіі «Садружнасць літаратур» разам з лістамі да Пшасмыцкага ў перакладзе на беларускую мову. З трох вершаў на беларускую мову перакладзены толькі «Towarzyszu i Bracie!» Іванам Чыгрынам.*

*У рукапісах паэмы «Akwarelki myśliwskie» («Паляўнічыя акварэлькі») разам з часткай «Przed Wilią» («Перад Куццёй») пададзены верш «Nie dla wszystkich uroczysta…» («Не усім жа ўрачыста…»), які не трапіў у друк і не быў перакладзены на беларускую мову.*

*З мэтай дапоўніць зробленае папярэднікамі, лічым мэтазгодным апублікаваць пераклады тэкстаў, якія не ўвайшлі ў зборы твораў Янкі Лучыны.*

**Янка ЛУЧЫНА**

## З КРЫВАВЫХ ДЗЁН

### V.

*Арганізацыя паўстанцаў. — Гарчакоў і яго дзейнасць. —*
*Камандзіры атрадаў. — Дыпламатыя. — Ноты заходніх дзяржаў. —*
*Адмова пецярбургскай канцылярыі. — Наступствы і заўвагі.*

Партызанскі рух у мінскім ваяводстве — гэта толькі маленькі эпізод гераічнай барацьбы, якая праходзіла на ўсёй тэрыторыі польскіх зямель пад расійскай акупацыяй, да якой палякі парываліся з усіх ваколіц краіны і замежжа, як з Аўстрыі, Прусіі, Францыі, нават Турцыі. Паўстанне 1863 года належыць да выключных падзей, якія прадстаўляе сусветная гісторыя. Падагрэтыя гарачай любоўю да Айчыны, з сэрцамі, поўнымі болю ад сузірання абраз і пакут, якія прычыняў Ёй тыран поўначы, патрыёты выйшлі насуперак ворагу з голымі рукамі, пачалі ўзбройвацца кіямі, косамі і невялікай па колькасці агнястрэльнай зброяй і ўступілі ў барацьбу з такім запалам, з такой адданасцю, што перад такой маральнай сілай маскалі задрыжалі і, нягледзячы на перавагу сіл, не здолелі адразу падавіць

паўстанне. Першы Лянгевіч выставіў супраць непрыяцеля ваенную сілу і давёў бы народную справу да далёка шчаслівых вынікаў, калі б не захацеў паяднаць у сваёй асобе ваенную ўладу з палітычнай. І хаця атрад Лянгевіча раз'яднаўся, аднак перамогі, якія атрымаў, далі пазнаць свету, што паўстанне мае моцныя народныя асновы, і што так лёгка не паддасца разбурэнню, як аб гэтым імкнуўся пераканаць Еўропу дзеючы расійскі канцлер Гарчакоў. Жыццяздольная сіла польскага народа, якая праяўлялася ў яго адчайнай барацьбе, выклікала першую ідэю інтэрвенцыі дзяржаў заходняй Еўропы.

Пасля падзення дыктатуры Лянгевіча Нацыянальны ўрад узяў у свае рукі кіраўніцтва паўстаннем, распарадзіўшыся аб узброеных выступленнях на ўсіх польскіх землях. Паўстала Жамойць, Літва, а далей паўднёвыя правінцыі: Валынь, Падолле і Украіна. Тады маскалі завагаліся, іх падман у дачыненні да Еўропы раскрыўся, дагэтуль яны сцвярджалі, што паўднёвыя правінцыі, а нават і Літва не маюць польскай стыхіі, таму паўстанне, якое выбухнула ў Каралеўстве, лёгка атрымаецца ўціхамірыць.

У гэты ж час на дапамогу братам пачалі збірацца эмігранты з замежных краін: з Галіцыі, Германіі, Францыі цягнуліся і палякі, і чужаземцы, як храбры Рошбрун. У Турцыі ўтварыўся атрад палякаў пад кіраўніцтвам палкоўніка Зыгмунта Мілкоўскага (Т. Т. Ежа), які перабіраўся праз Румынію, каб дасягнуць Польшчы і мусіў уступаць у бітвы з прыхільнікамі маскалёў. У краіне дзейнічалі шматлікія атрады, якімі кіравалі:

Анцыпа
Астоя
Астрог
Багдановіч
Барэлёўскі (Лялевель)
Бжазоўскі
Ваўр
Віслаух
Вяжбіцкі
Газдава
Гарнер
Грабоўскі
Грэбэ
Даліноўскі
Даліньскі
Далэнга (Серакоўскі Зыгмунт)
Духіньскі
Езёраньскі
Езерскі
Жыхліньскі
Закшэўскі
Зяліньскі
Іскра
Казела
Каперніцкі
Крук
Крукавецкі
Крысіньскі
Кузьма
Лукашэвіч
Любіч
Лютыньскі
Лявіцкі
Лянкевіч
Ляскоўскі
Марэцкі
Матушэвіч
Мацкевіч ксёндз
Надміляр
Нарбут Людвік
Падлеўскі
Парчэўскі
Рудаўскі
Рыхлеўскі
Руцкі
Свентажэцкі Баляслаў
Скаўронскі
Слупскі
Солтан
Станевіч
Стравіньскі
Тачаноўскі Эдмунд
Трамбчыньскі
Траугут
Тышкевіч
Хмяліньскі
Цвек
Чаховіч
Чахоўскі
Шумляньскі
Шымкевіч
Эміновіч
Юркоўскі
Янкоўскі
Ясіньскі
Яхімовіч

і шмат іншых, якіх у якасці камандзіраў меншых атрадаў, імёны менш вядомыя.

Усе яны змагаліся з меншым або большым шчасцем, беспярастанку непакоячы маскалёў партызанскімі вылазкамі, часамі ўступаючы з імі ў маштабныя бітвы, у якіх неаднаразова нерэгулярныя і невялікія паўстанцкія шэрагі бралі перамогу

над вымуштраваным і нашмат перавышаючым па колькасці непрыяцелем, якому для перамогі не хапала дзвюх важных рэчаў: шчырага, гарачага патрыятызму і пачуцця вернасці сваёй справе.

Такая ўпартая, незняможаная бітва выклікала тое, што ўжо ў маі заходнія дзяржавы накіравалі першую ноту ў Пецярбург. Гарчакоў пачаў выяўляць жаданне да пагаднення з імі, толькі дзеля таго, каб працягнуць дамовы прынамсі да зімы, калі паўстанне, якое маскалі глушылі самымі суровымі сродкамі, магло б упасці і дыпламатыя рэшты Еўропы на нішто б не зважала. Францыя і Англія жыва прынялі польскія справы, нягледзячы на падман і крывадушнасць Гарчакова, які ў карэспандэнцыі імкнуўся зняважыць польскае паўстанне, надаючы яму як мага меншыя маштабы і значэнні. Аўстрыя аднак яшчэ вагалася, хаця паволі прыняла пазіцыю заходніх дзяржаў.

Праз свайго упаўнаважанага графа Рэхбера Аўстрыя накіравала Расіі ноту, якая складалася з шасці пунктаў, што не маглі ніяк задаволіць дакладных жаданняў польскага народа. Вось іх змест:

1. Усеагульная амністыя.
2. Нацыянальная рэпрэзентацыя.
3. Назначэнне палякаў на кіруючыя пасады.
4. Поўная свабода сумлення.
5. Выключнае выкарыстанне польскай мовы.
6. Увядзенне рэгулярнай рэкруцкай сістэмы.

Аб складанні зброі граф Рэхбер дадае: «Спрычыненыя разуменнем чалавечнасці, прагнем, каб расійскаму ўраду ўдалося пазбегнуць кровапраліцця». На гэта Расія адказала, што падаўленне паўстання павінна ісці сваімі шляхамі, пакуль цар сваёй улады ў Польшчы не ўсталюе. Адказ гэты так абурыў графа Рэхбера, што, нягледзячы на дзейнасць пасла расійскага і прускага, Аўстрыя абвясціла падтрымку палітыкі Францыі і Аўстрыі, якія са свайго боку таксама накіравалі ў Пецярбург ноты, дамагаючыся надання Польшчы аўтаноміі.

На першыя ноты еўрапейскіх дзяржаў князь Гарчакоў марудзіў са станоўчым адказам, стараючыся пусціць пыл у вочы Еўропы як абяцаннямі ўступак для палякаў, так і паведамленнем аб тым, што паўстанне схіляецца да ўпадку. З нецярплівасцю дзяржавы, якія прымалі ўдзел у інтэрвенцыі, накіравалі затым у Пецярбург Ультыматум, у якім выразілі жаданне станоўчага вырашэння польскай справы. Пецярбургская канцылярыя, увесь час застаючыся пры сваім, адказала на атрыманы Ультыматум, што расійскі ўрад сам зробіць усё для палякаў, і што інтэрвенцыя замежных канцылярый зусім не дарэчы тады, калі нават самі палякі ўступаюць у пагадненне з Расіяй.

Калі пецярбургская канцылярыя адхіліла ноту заходніх дзяржаў, што было для іх вялікай знявагай і прыніжэннем, Напалеон III вырашыў актыўна выступіць, чакаў толькі рашэння Англіі, якая ўвесь час марудзіла, і Аўстрыі, якая баялася страты Галіцыі. Да апошняй імператар французаў накіраваў аднаго са сваіх ад’ютантаў, які для запэўнення цэласці Галіцыі, мусіў прысягнуць ад імя Францыі, што яе войскі займуць тагачасную Карону і схіляць Аўстрыю да актыўнага выступлення. Працягвался гэта аднак вельмі павольна, бо Аўстрыя, будучы паміж молатам і кавадлам, мусіла мадыфікаваць і марудзіць, нягледзячы на тое, што народ і войскі горача жадалі вайны.

У выпадку, калі б Англія адмовіла актыўную падтрымку, а Аўстрыя таксама ж не згадзілася б на прадстаўленую ёй прапанову, імператар французаў планаваў правесці войскі праз Турцыю, султан якой ахвотна б далучыўся да справы вызвалення Польшчы. Так час праходзіў на кабінетных нарадах, паўстанне ж тым часам яшчэ больш упала і з набліжэннем зімы амаль зусім заціхла. Тады ўжо мінула неабходная пара выступлення з інтэрвенцыяй, што смела гаварыць можна, вынікала з адтэрміноўкі Напалеона III. На гэтым таксама скончылася дыпламатычная дзейнасць у справе Польшчы з незваротнай стратай для нас і сорамам для імператара францу-

заў і наогул для цэлай дыпламатыі, якая ведучы Польшчу да незалежнасці, магла б забяспечыць свае манархіі на будучыню. Калі б Польшча зноў з’явілася ў шэрагу еўрапейскіх дзяржаў, хто ведае, ці не выйшла б Францыя пераможцам у 1870 годзе, а Аўстрыя не панесла б, можа быць, паражэння пад Садовам.

Паўстанне ўпала. Мноства адданасці, ахвяраў жыцця і маёмасці, складзеных на алтары Айчыны, прынеслі ёй новыя слёзы і жалобы, аблілі Яе свежым крыві патокам і ў палітычным значэнні не здаліся ні на што, дзеля чаго? Прычыны гэтаму розныя, падзелім іх на знешнія і ўнутраныя. Што да знешніх, то галоўнай з іх з’яўляецца занадта перабольшаныя надзеі, якія палякі, а асабліва эміграцыя, ускладалі на дапамогу заходніх дзяржаў, якія апрача млява і без ніякага для нас выніку праведзеных пагадненняў, канчаткова нічога для Польшчы не зрабілі. Наступным повадам упадку паўстання было тое, што еўрапейскія дзяржавы, як верна выразіўся французскі міністр Друі дэ Луіс: «неслі для Польшчы спачуванне, а для Расіі дапамогу», не жадаючы прызнаваць Польшчу за ваюючы бок і ў выніку гэтага перашкаджаючы ўтварэнню паўстанцкіх атрадаў за мяжой, перамяшчэнню іх да Айчыны і перавозу зброі за расійскі кардон.

Што да ўнутраных прычын, г. зн. у краіне, амаль на арэне баявых дзеянняў, то галоўнай з іх было абыякавае, а нават варожае стаўленне, якое сяляне выражалі да паўстання, асабліва ў Літве. Калі б мы маглі вызваліць іх яшчэ перад царскім указам 1861 года, калі б прынамсі ўчынкі нашага грамадства (з нешматлікімі выключэннямі) у адносінах да сялян былі больш чалавечныя, маглі б мы быць упэўнены і ў іх спачуванні і дапамозе, што дало б абсалютна іншы паварот партызанскай барацьбе шэсцьдзясят трэцяга года.

Паўстанне ўпала. Гэты калос, збудаваны з цаглінак гераізму незлічоных адзінак, абрушыўся пад моцным націскам перавагі. На яго месцы паўстаў маскоўскі бізун і пятля. Па ўсёй краіне распасцерліся жалобныя песні, плачы і стогны няшчасных ахвяраў, гінучых павольна пакутніцкай смерцю, і тых, хто іх любіў, хто, страчваючы іх, страчваў усё, што іх з гэтым светам злучала. А смутным гэтым галасам спадарожнічалі зларадная асць ворагаў і самыя балючыя яшчэ за іх абвінавачванні ўласных закардонных братоў, што паўстанне гэта шалёны крок, што паўстанцы гэта натоўп дурняў, які Польшчы толькі шкоду прынеслі. А хіба так было? О не! Можа быць, што паўстанне было спозненым, не ва ўласцівы пачатае момант (напрыклад, падчас крымскай вайны, калі паўстала Маларасія і чакала толькі дапамогі палякаў), фактам з’яўляецца тое, што не прынесла нам ніякіх матэрыяльных карысцей, несумненна, вялізныя страты людзей і дзяржаўнай маёмасці. А аднак нельга яму абсалютна адмаўляць заслугі перад Айчынай. Карысным для нас яго вынікам з’яўляецца тое, што мы цэлай Еўропе паказалі, што жывём, што жыццяздольнасць даказалі так пераканаўча, што стала гэта найкрасамоўнейшым пратэстам супраць пазбаўлення правоў, сілай у нас забраных. Нельга каменем асуджэння кідаць на тых, хто крывёй, пралітай у абароне за Айчыну, пакутам, за яе перанесеным, прычыніўся да прывівання наступным пакаленням той ідэі, што варта любіць краіну, якая такіх нарадзіла герояў, што варта для яе працаваць і працай гэтай даказваць свету, што «яшчэ Польшча не загінула!» Бо на дадзены момант найлепшым доказам Яе існавання будзе, калі ў кожнай галіне, якую вядзе цывілізаванае грамадства, г. зн. мастацтва, промыслу, гандлю і г. д., з’явяцца палякі як здольныя і карысныя працаўнікі, над якімі, размеркаванымі ў розных кірунках дзейнасці, вяршэнстваваць будзе агульная ідэя: прычыненне да скарбніцы нацыянальных ведаў, нацыянальнага мастацтва, нацыянальнага дабрабыту. Польшча яшчэ не загінула і не загіне, калі ўсіх Яе дзяцей злучыць вузел братняй любові і агульнай адданасці народным традыцыям, калі знікнуць племянныя і несправядлівыя антаганізмы, якія падзяляць на супрацьўныя лагеры прадстаўнікоў адной маці Айчыны, і калі ўсе падставяць сабе далоні ў працы для свайго грамадства, якое тады толькі на нязломнай абапрэцца падставе, і паводле слоў паэта: «Само ўваскрасіць сябе!»

## VI.

*Царскі ўказ і мураўёўскія цыркуляры. —*
*Выгнанне польскай шляхты з Валадуты. — Канфіскацыя маёмасці. —*
*Д е я т е л и. — Бунт сялян з-за царскіх чыноўнікаў. —*
*Палякі паводле ўказаў 10 і 27 снежня. — Банкі сялян.*

Падчас, калі праходзілі нібы кабінетныя нарады, Мураўёў атрымаў неабмежаваную ўладу ў сілу майскага ўказа, які абвяшчаў, апрача іншага, наступныя правілы:

«Ведаючы непрыязнае пачуццё літоўскай шляхты, Мураўёў упаўнаважваецца не толькі расстрэльваць паўстанцаў, якія яму трапяцца, але выкарыстоўваць самыя суровыя сродкі супраць сямей, члены якіх прымаюць удзел у паўстанні».

На падставе гэтага ўказа Мураўёў Вешальнік, упаўнаважаны царом на неабмежаваныя дзеянні, выдаў 20 чэрвеня да ўсіх ваенных камендатур цыркуляры, каб ачысціць правінцыі ад усіх уладальнікаў, ксяндзоў і тым падобных асоб, непрыхільных ураду, і падавіць паўстанне якімі заўгодна сродкамі. Секвестрацыяй і канфіскацыяй павінны быць абкладзены ўсе набыткі грамадзян, якія б не сталі падазронымі ў аказанні паўстанцамі якой заўгодна падтрымкі, хаця б хлеба, бялізны, лекаў, або ў запусканні іх дадому, а тым больш, калі ў выніку гэтага будуць створаны новыя атрады, бо ў такім выпадку становяцца злачынцамі ваеннага становішча. Ні стасункі сяброўства, ні нават сваяцтва іх не тлумачаць.

Другі ж цыркуляр ад 6 ліпеня гаворыць: «Кожны ўладальнік абавязаны паведаміць праходзячых афіцэраў аб рухах паўстанцаў і пільнаваць, каб войска не мела ні ў чым патрэбу; адсутнасць гаспадара дома па якіх заўгодна прычынах выклікае абвінавачванне яго ў саўдзеле ў паўстанні і секвестрацыю яго маёмасці».

17 верасня выйшаў зноў цыркуляр: «Ваенныя начальнікі і агенты паліцыі маюць права ператрасаць усе двары і дамы і арыштоўваўць усіх тых, хто падасца ім падазронымі ў тым, што прымалі ўдзел у паўстанні, падтрымлівалі бунт, або забяспечвалі паўстанцаў харчаваннем, або калі іх дзеці выклікалі на сябе з гэтага пункту гледжання падазрэнне. Затым належыць іх выслаць у аддаленыя губерні, уладанні іх будуць аддадзены для карыстання сялян, грошы ж за прададзеную рухомасць вернуты будуць на кошт іх выгнання».

Цыркуляры такія выходзілі адзін за адным, тыранія не спынялася, вядома, павялічвалася кожны дзень. Мураўёў, карыстаючыся сваёй нічым не абмежаванай уладай, у самы дзікі спосаб праследаваў і прыгнятаў палякаў. Тое, што цар гэтага вымагаў і падзяляў з гэтага пункту гледжання погляды свайго генерала, даказвае гэта найлепей узнагарода яго ордэнам святога Андрэя, з даданнем падзячнага ліста за яго катаўскія дзеянні.

У Польшчы, а асабліва ў Літве распачаўся цэлы шэраг праследаванняў, роўныя якім сустракаем хіба толькі ў дзеяннях іспанскай інквізіцыі і ў здзекаваннях князя Альбы над Нідэрландамі. Расіяне, помсцячы за бунт супраць цара, дзе толькі акалічнасці на гэта дазвалялі, найагіднейшыя выраблялі жорсткасці. Цэлая наша краіна пад расійскай акупацыяй стала адным вялікім домам жалобы, адными вялікімі могілкамі. Па каталіцкіх дварах і вёсках валакліся банды жандараў, пастаянна праводзіліся рэвізіі, а калі з'яўлялася хаця б невялікае падазрэнне, арыштоўвалі і дэпарціравалі. Для выклікання ж падазрэння хапала фатаграфіі асобы ў польскім строі, або не маючая ніякай сувязі з паўстаннем, але атрыманая ад асоб, хаця б крыху скампраметаваных, зброя, самая малая крошка пораху, а нават доўгія боты, якія л е с о в ы м и называлі маскалі. Найбольшы прыгнёт і тэрарызм панаваў там, дзе распаўсюджвалася ўлада Мураўёва Вешальніка.

Немагчымым тут з'яўляецца пералічваць усе сродкі, якія выкарыстоўвалі маскалі ў мэтах вынішчэння польскай нацыі, прывяду тут аднак пару прыкладаў, дастаткова яскрава прадстаўляючых тагачасныя стасункі. Жыхароў шляхецкага засценку Валадута, які складаўся з сарака дамоў, вывезлі з жанчынамі і дзецьмі ў Енісейскую губерню толькі за тое, што былі каталікамі і спрыялі паўстанню. У Багушэвічах расстралялі Акуліча і павешалі двух лёкаяў Свентажэцкага ў якасці помсты за павешанага там жа папа.

Усіх чыноўнікаў палякаў звольнілі з пасадаў, якія яны займалі, а на іх месцы прызначылі замену маскоўскай чэрні для выкаранення ўсяго, што з'яўляецца польскім, і найбольш хуткай русіфікацыі. Тыя маскоўскія чыноўнікі атрымоўвалі падвойную плату, а апрача гэтага, выдавалі ім канфіскаваныя маёмасці ў якасці ўзнагароды за актыўны ўдзел у прыгнятанні палякаў.

Смутныя гэта былі часы, хто застаўся ў краіне, шмат сустрэў прыкрасці, шмат абразаў як паляк, эканамічны стан знізіўся зусім, эксплуатацыя вялізнай кантрыбуцыяй пацягнула астатніх грамадзян да хуткага ўпадку. За нявыплату кантрыбуцый, а цяжка іх было выплачваць, прадавалі рухомасць, а нават і цэлыя маёмасці.

Праследаванні надыходзілі адно за другім, у наступным годзе наехала шмат маскоўскіх д е я т е л е й, бо ўрад выдаў цыркуляр да жыхароў глыбокай Расіі, што калі хто жадае заняць якую заўгодна кіруючую пасаду ў заходніх губернях, атрымае, апрача грашовай падтрымкі на пераезд, падвойную плату і забеспячэнне на месцы. Знайшлося вельмі шмат ахвотных, асабліва такіх, якія ў сваёй Айчыне карысталіся найгоршым меркаваннем. Адзначыла гэта нават адна з пецярбургскіх газет, гаворачы, што немцы для дэнацыяналізацыі палякаў карыстаюцца сваёй інтэлігенцыяй. Расіяне ж у гэтых мэтах выкарыстоўваць нізы ўласнага грамадства (падонки русского общества).

Краіна наша, перапоўненая такімі панамі, дазнала вялікіх бедстваў як з матэрыяльнага, так і з маральнага пункту гледжання. Зладзейства, ашуканства, п'янства, дагэтуль невядомыя, сталі звычайнымі справамі, народ дэмаралізоўваўся ў найбольшай ступені, наследуючы сваіх начальнікаў, якія ўбівалі сялянам, што польскія паны ўзнялі бунт толькі з-за таго, што цар вясковы народ вызваліў ад паншчыны. Каб гэта даказаць, перайначылі вядомыя радкі нацыянальнага гімна «Божа што Польшчу» ў наступны спосаб:

Перад тваімі Алтарамі ўзносім малітву,
П а н ш ч ы н у  д л я  н а с
(замест А й ч ы н у  н а ш у)
жадай вярнуць нам, Божа!

Галоўнымі выканаўцамі пашырэння сярод народа такіх крывадушных перакананняў былі гмінныя пісьменнікі, папы, начальнікі паліцэйскіх участкаў (становые приставы). Цёмны абаламучаны народ паверыў новым прыхадням і стаў варожым для шляхты і польскага грамадзянства.

Пад канец 1864 года царскім указам польская шляхта, якая не была далучана да пэўных родаў, або зацверджаная геральдычным дэпартаментам, была вымушана запісвацца да сялян, або да мяшчан; права атрымання шляхецтва было адкладзена на тры гады. Дзясятага ж снежня (па стар. стылі) гэтага ж года выйшаў указ, які забараняў палякам каталікам купляць земскія ўладанні, урэшце 27 снежня пазбавілі палякаў правоў складаць у іпатэку свае інвестыцыі на земскіх уладаннях. Урэшце, адным з самых дзейных сродкаў вынішчэння збяднелых польскіх грамадзян з'яўляюцца сялянскія банкі, нядаўна створаныя, якія мелі намер палепшыць сялянам набыццё маёмасці in gremio. Так у адносінах да расійскага ўрада палякі страцілі ўсе правы і мусяць змагацца з бядой уласнымі сіламі, не маючы ні адкуль самай малой падтрымкі. Русіфікацыя ж велізарным крокам наперад рухаецца.

# НАТАТКІ

## I.

*Зварот сялян каталікаў у праваслаўе ў губ. Мінскай*

Пасля ўпадку паўстання ў 1864 годзе, урад энергічна ўзяўся за зварот каталіцкага насельніцтва ў праваслаўе. Расіяне, імкнучыся да русіфікацыі Літвы, стараліся ў ёй зацерці кожны след польскасці. Даказваючы апошнім часам, што ў Літве і Белай Русі каталіцызм быў уведзены тады, калі ўжо народ быў хрысціянскім грэчаскага веравызнання, што нават сам Ягайла быў выхаваны ў праваслаўнай рэлігіі, і толькі потым з яе перайшоў у каталіцтва. На падставе гэтага пастанавілі сялян католікаў звярнуць у праваслаўе, а касцёлы скасаваць, замяняючы іх на цэрквы, казармы для войска, або знішчаючы іх зусім. У такіх выпадках дзейнічалі самым дзікім спасабам. Місію звароту народа ўзнялі перад усім цэлыя духоўныя іерархіі, а актыўны і заўзяты ўдзел у ёй прынялі акруговыя начальнікі гмін (посредники), начальнікі паветаў (исправники), паліцэйскія камісары (становые приставы) у таварыстве розных маскоўскіх чыноўнікаў, грамадзянскіх і вайсковых. Зварот практыкаваўся такім спосабам, што зганялі народ у гміну (волость), напойвалі, а потым казакі гналі сялян у царкву, натуральна, перарobленую з касцёла, дзе давалі камунію, пры чым запісвалі на лісце праваслаўных. Тых, хто не згаджаўся прымаць камунію, бо былі і такія, што да гэтага нічым не давалі сябе схіліць, білі жорстка, кідалі ў турму і там трымалі ў голадзе і холадзе. Малая аднак лічба вытрывала ў веры Бацькоў, цэлыя парафіі са шматлікім насельніцтвам перайшлі на схізматыцкую веру: Смілавічы, Івянец, Дукора, Гарадок, Халяўшчына, у віленскай Валожын і шмат іншых.

## II.

*Ксяндзы трэбніковічы*

Калі пасля 1863 года вывелі польскую мову з навуковых устаноў і забаранілі яе ўжываць на вуліцах і ў публічных месцах, можна было яе чуваць ужо толькі з амбона. І гэта аднак расіянам стала соллю ў воку, і таксама выдалі таемны цыркуляр да губернатараў, а тыя да сваіх падуладных, каб імкнуцца як мага да ўвядзення ў касцёлы маскоўскай мовы. Залежала тут ад духавенства, у якім, на жаль, маскалі знайшлі сродак для выканання сваіх намераў. Галоўным такім сродкам стаў пралат Жылiньскі, які пасля дэпартацыі біскупа Красіньскага з Вільні, заняў віленскую дыяцэзію і з аднадумцамі сваімі, ксяндзамі Капцюховічам, Сэнчыкоўскім і Нямекшам, аб'язджаў касцёлы «з найвышэйшым загадам» г. зн. ніжэйшыя цывільныя ўлады павінны з ім саўдзельнічаць, і першы спяваў у іх па-руску дадатковыя часткі набажэнства і на той жа мове прамаўляў казанні, заканчваючы рэлігійныя абрады малітвай за цара.

У Мінску першым агітатарам у гэтым кірунку быў ксёндз Заусціньскі, гімназічны капелан. Затым па яго слядах пайшоў знакаміты Фердынанд Сэнчыкоўскі. Быў гэта сын убогага шляхціца мінскай губерні, пасля пасвячэння стаў капеланам пры палацавай капліцы Булгака ў Дабосні за Бабруйскам. Падчас паўстання быў пробашчам у тым жа павеце, і нават, як кажуць, гарачым патрыётам. Потым жа змяніў свае погляды, адрокся ад нацыянальнасці і айчыннай мовы і прыняў пасаду капелана пры мінскай гімназіі, а адначасова стаў дэканам і пробашчам Залатагорскім. Урад яго абараняў і падтрымліваў у русіфікатарскіх мэтах. Лекцыі свае ў гімназіі ўпрыгожыў абразамі, якія кідаў пра будучыню Польшчы, імкнуўся ўбіць у вучняў перакананне, што польская мова павінна загінуць, бо не мае рацыі

на існаванне, і самым суровым чынам загадаў, каб кожны з вучняў маліўся па кніжцы ў рускай рэдакцыі, Хрыста ж называў Иисусом Иосифовичем. Стварыў у Мінску дагэтуль існуючую школу арганістаў, навучанне якіх адбывалася на рускай мове, каб з іх утварыць дасканалых слуг русіфікацыі. Надпісы на надмагільных плітах загадаў выбіваць па-руску, а пасаг святога Роха, які знаходзіўся ў Залатагорскім касцёле, апрануў у боты і чырвоную маскоўскую кашулю. З кафедральнай скарбніцы і магілы святога Феліцыяна пазабіраў усе каштоўнасці і дары і натуральна на сваю карысць ужыў. Калі бацька яго, даведаўшыся пра гэта, пачаў яго ганьбіць, прагнаў з дома няшчаснага старца, які перажыў гэта так глыбока, што ў хуткім часе памёр.

З Мінска Сэнчыкоўскага перавялі ў Бабруйск. Тут, жадаючы народ зацягнуць у касцёл для ўласнага даходу, здабыў косці з могілак (а як некаторыя даказваюць звярыныя) і сфальсіфікаваўшы да гэтага адпаведны дакумент, падбіты пячаткамі, абвясціў, што шчаслівым выпадкам знайшліся рэшткі св. Тэафіла. Затым пры пантыфікальнай працэсіі занёс косці ў касцёл, засведчыў на казанні, што парафіяне павінны лічыць сябе шчаслівымі з той нагоды, што ў асобе св. Тэафіла маюць свайго патрона. Аднак гэты нумар яму не ўдаўся. Сам нават урад выслаў яго за гэта ў Ташкент, дзе праз некалькі гадоў побыту, збіты туркменамі, жыццё закончыў.

Апрача Сэнчыкоўскага шмат яшчэ ксяндзоў, заахвочаных дадатковай узнагародай у суме трохсот рублёў, якія ўрад прызначыў для так званых ксяндзоў трэбніковічаў, або застрашаныя пагрозай выслання ў кляштар, або ў Сібір, прынялі маскоўскі рытуал. З тых апошніх некаторыя звярнуліся, цяпер жа знаходзіцца ў мінскай губерні дзевяць ксяндзоў трэбніковічаў як: Гаўроньскі, эксбернардын Макарэвіч мінскі дэкан, Лукашэвіч, Вайчыньскі, Юзэфовіч, Бэртовіч і іншыя.

Засталося ўсяго некалькі парафій у мінскай губерні, у якіх руская мова не была ўведзена, а менавіта: касцёлы, кафедральны і кальварыйскі ў Мінску, касцёл у Ракаве, Пяршаях, Койданаве, касцёл у Каралешчавіцах, у Дзядзіловічах, Акалове, Карэнню, Докшыцах, Воўчкавічах, Навагрудку і некалькіх іншых у гэтым павеце. Парафіі гэтыя аднак, што налічваюць па некалькі тысяч людзей, маюць часцей аднаго толькі ксяндза, які сваім шматлікім абавязкам зусім аддацца не можа.

У касцёлах, дзе руская мова была ўведзена, прысутнасць набожных вельмі малая. Большасць насельніцтва аддае перавагу правядзенню набажэнства дома, у многіх жа ваколіцах, не жадаючы выклікаць ксяндзоў трэбніковічаў, старэйшыя ў вёсцы выконваюць абрад хрышчэння, шлюбу і пахавання.

Урадавыя ўлады ў некаторых парафіях пісалі ад сялян фальшывыя петыцыі, пацверджаныя мноствам подпісаў, у якіх выражалася жаданне чуць у касцёле маскоўскую мову. Так з-за падгаворвання ксяндзоў здраднікаў, абаламучвалі народ і мяшчан, не заўсёды аднак гэта ўдавалася, бо здаралася ў многіх мясцовасцях, што такіх ксяндзоў народ калаціў і выганяў з касцёла.

## III.

### *Дзейнасць жыдоў пасля 1863 года*

Насельніцтва гарадоў і мястэчак складалася пераважна з жыдоў. Да паўстання займаліся яны або дробным гандлем, або рамяством, па вёсках трымалі арэнды, млыны, карчмы, і былі часцей за ўсё дарадчыкамі вясковых грамадзян, а хаця ж не мелі ўсіх правоў грамадзянства, аднак пры такіх акалічнасцях пад апекай польскай шляхты добра ім жылося. Пасля ж паўстання, калі палякаў пазбавілі правоў, жыды, не маючы надзеі карыстання далей шляхтай, змянілі кірунак

грамадскага жыцця. Забралі ў свае рукі ўвесь гандаль краіны, асабліва лясамі, і знішчаюць іх дашчэнту, пабраталіся з расіянамі, моладзь і дзеці пачалі вывучаць рускую мову, польскую ж мову перасталі разумець. Так паступаючы, дайшлі да багаццяў, усе капіталы сканцэнтравалі ў сваіх руках, а апрача гэтага пачалі дабівацца грамадзянскіх правоў. На агульным рашэнні рабінаў склалі таемны спіс, каб на палякаў, якія як скампраметаваныя паўстаннем, страцілі прыхільнасць ураду, кідаць сляды злачынстваў і такім спосабам пазбавіцца польскай шляхты з Літвы. Пастанавілі ў гэтых мэтах паліць вёскі і гарады, кідаючы падазрэнні на палякаў і падбухторваючы супраць іх вясковы народ. У маі 1865 года Мінск згарэў дашчэнту, у ваколіцах вёскі таксама гарэлі, трывога і роспач апанавалі жыхароў. Жыды распусцілі чутку, што палякі падпальваюць, помсцячы за праваленае паўстанне, урад таксама паверыў фальшывым слядам, надышлі арыштаванні падазроных нібы асоб. Жыды пільнавалі тых, хто прыязджаў у горад, хапалі на вуліцы, асабліва ўвечары і адводзілі ў паліцыю, укладаючы ўпотай да кішэні запалкі, або запальны кнот. Такі ўклад рэчаў трываў некалькі тыдняў. У канцы жыдоўская хітрасць высветлілася. Паліцмайстар Мінска Шміт, праязджаючы вуліцай Зыбіцкай, пачуў пах гарэлага, які паходзіў з дома, што належаў жыду. Затрымліваецца і з некалькімі паліцэйскімі ідзе ў кватэру. У двары пад ліхімі сходамі бачыць жыда, які завіхаецца, падкладваючы запалкі пад сходы, дзе было шмат старызны, аблітай нафтай. Быў гэта ўладальнік дома. Арыштаваны прызнаўся пры следстве, што належыць да змовы, мэтай якой было падпальванне, каб усю віну зваліць на палякаў і гэтым шляхам дабіцца правоў для сябе. Жыд гэты выдаў шмат саўдзельнікаў злачынства. Справу гэту аднак замялі, што ўсіх выпусцілі з турмы, бо жыды зрабілі вялізны збор і задобрылі чыноўнікаў грашыма. Закончылася тым, што пажары спыніліся і падазрэнні, кінутыя на палякаў, скасавалі.

## ВЕРШЫ

### Віняры

Між раскідзістых грабаў шырокіх галінаў
Шлях цяністы праводзіць праз сад па-над Віслай.
Паміж зелені бліснуў вады промень сіні.
Узыдзем на скалу, над вадой што павісла.

Як прыгожа!.. Пад намі шэры Віслы пояс,
А вакол ізумрудам убраны багата
Лёг Галіцыі бераг, як велічны вобраз.
Нібы ўранку туман, засінелі Карпаты.

Краю родны, мой любы! На гэтым абшары
Хоць цябе я не бачу, не будзеш забыты
Пранясу цябе ў сэрцы да скону, як мару.

Мяне думка узносіць высока ў блакіты
Аж там, дзе алтары ўвысь імкнуцца да хмараў —
Небасяжныя Татраў сівыя граніты.

### Вісла

Мые бераг ізумрудны
Наша Вісла, хутка мкне,
Плынь яе шарэе мутна,
Па пясчаным льецца дне.

Малады рыбак ў чоўне
Сетку цягне і пяе.
Нотку родную чароўна
Голас ўдаль перадае.

Чаек стая ўвысь рухава
Аж да скалаў узнялась.
Ластаўка ў лазуры жвава
Пралятае, як страла.

Ад Галіцыі у спёку
Вее вецер па палях.
Гэй за Віслу!.. Толькі збоку
Пагранічнікі стаяць.

* * *

Не усім жа урачыста,
На куццю нам зорка ззяе.
Воін, стражнік, машыністы,
Качагар ля топкі дбае.
Ў цяжкай працы і пад потам
Бачаць зорку скрозь турботы.

Узрастае хутка шэраг
Тых, якія не у стане,
Зладзіць нават і вячэру,
Каб спажыць, як частаванне.
Ў свеце штораз болей хлеба,
А ўзрастае і галодных —
Пагражае хмурна неба,
Не чуваць ім дзён пагодных.

Не усім нам жонка, матка,
Ломіць шчыра хлеб аплатку,
Ва ўрачыстай скажа хвілі:
«Дай жа Божа, быць здаровым,
Каб спраўляць праз год дажылі
Нараджэнне ўсе Хрыстова!»

Шляхам верным для карысці
Рух у свеце мчыць зацята,
Састарэла: «У калысцы…»
Хоць не кожны мае свята.

***Уступнае слова і пераклад з польскай***
***Вольгі КРУГЛОВАЙ.***



Юрась БАРТОШЫК

# БЛІСКАВІЦА НЕ НЕБЕ БЕЛАРУСКАСЦІ

*Каго не радуе шчырая, задушэўная песня «Кася»?! Асабліва тады, калі гучыць яна ў выкананні знакамітых «Песняроў». Чароўны, крыху прыцішаны і разам з тым на дзіва пяшчотны голас, здаецца, прасякнуты самім замілаваннем. Да дзяўчынкі, якая чароўнай кветкай расцвіла, заквітнела сярод вясковай глушы. Да яе спагадлівай душы, што адкрыта і людзям, і самому свету:*

*...Ну і Кася, ну дзяцінка!*
*Як царэўна, як багіня!*
*Як нарцыса, як вяргіня!*
*Як лілея на Дунаю,*
*Як пралеска сярод гаю...*

*На жаль, далёка не ўсе ведаюць, хто аўтар гэтых паэтычных радкоў. Што ж, выпадак далёка — не адзінкавы. Даволі часта бывае так, што тэкст песні жыве як бы сам па сабе. Любячы пэўную песню, мы не задумваемся, хто напісаў верш, пакладзены на музыку. У дадзеным выпадку несправядлівасць такой абыякавасці асабліва прыкрая, бо нарадзіліся гэтыя цудоўныя радкі з-пад пяра класіка беларускай літаратуры Цёткі. У сапраўднасці Алаізы Пашкевіч. Праўда, твора «Кася» ў яе няма. Але Уладзіміру Мулявіну вельмі спадабаўся верш Цёткі «Лета». Расказваецца ў ім і пра дзяўчынку Касю, якая выглядала, бы «царэўна, як багіня!» Урывак з гэтага твора, прысвечаны Касі, Мулявін і паклаў на музыку. Каму ж належаць словы, многія не ведаюць яшчэ і па той прычыне, што Цётку найчасцей характарызуюць толькі як паэтэсу-рэвалюцыянерку. Аднак яна, да ўсяго, і тонкі, пяшчотны лірык.*

*Слушна наконт шматграннасці таленту Цёткі сказаў Алег Лойка: «[ ] гаварыць, што Цётка — паэтэса рэвалюцыі 1905 г., — гэта не толькі ўзвышаць яе, але і звужаць абсягі яе паэзіі, тэматычны дыяпазон, гістарычнае значэнне Цёткі.*

*Паэзія Цёткі — лірыка шматтэмная, разнастайная па матывах і настроях, па жанравых своеасаблівасцях, па вобразна-выяўленчых сродках».*

## Чаму ўсё-такі псеўданім?

Між іншым, Цётка — не адзіны псеўданім Алаізы Пашкевіч. Усяго ёй належыць 28 псеўданімаў і крыптанімаў. Асноўныя — Гаўрыла з Полацка, Мацей Крапіўка, Банадысь Асака, Тымчасовы. Тое, што ўсе яны мужчынскія, — не прыхамаць А. Пашкевіч. Гэта даніна літаратурнай традыцыі, якая склалася на той час. Паводле яе шмат якія пісьменнікі ў якасці сваіх псеўданімаў і бралі сабе мужчынскія імёны і прозвішчы. Але ў А. Пашкевіч у гэтым адчуваецца і ўплыў Кастуся Каліноўскага і Францішка Багушэвіча, якія з'яўляліся для яе ідэаламі служэння Беларусі.

Кастусь Каліноўскі, як вядома, меў псеўданім Яська-гаспадар з-пад Вільні, Ф. Багушэвіч — Мацей Бурачок і Сымон Рэўка з-пад Барысава. Невыпадкова з'явіўся ў А. Пашкевіч і псеўданім Гаўрыла з Полацка. Несумненна, гэты самы даўні беларускі горад ёй быў добра вядомы. Ведала яна і пра ягоных слынных ураджэнцаў — Еўфрасінню Полацкую, Францыска Скарыну, Сімяона Полацкага. Беручы псеўданім Гаўрыла з Полацка, ужо гэтым па сутнасці працягвала слаўную асветніцкую полацкую традыцыю.

Упершыню ж Цёткай стала ў 1906 годзе, калі выйшла яе «Першае чытанне для дзетак беларусаў». На тытульным лісце кнігі значылася: «Напісала Цётка». Чаму стала менавіта Цёткай, пра гэта дакладна сказаў Анатоль Клышка: «Гэта (слова «цётка». — *Ю. Б.*) не толькі слова даўняга беларускага звароту да чалавека (побач са словам «дзядзька»). Цётка ж — яшчэ і каларытная постаць у народнай міфалогіі ўсходняга славянства — увасабленне ўрадлівасці і дабрабыту.

У каляндарным цыкле беларусаў яе ўладаранне прыпадае на час жніва і збору ўраджаю. Так і малявалася яна ў народным уяўленні: прыгожая жанчына з жытнім вянком на галаве, у руках з боханам хлеба, з агароднінай, садавінай. Якімі шчодра абдорвала стрэчных».

## Незабыўная часіна маленства

Нарадзілася Алаіза Сцяпанаўна 3 (15) ліпеня 1876 года ў фальварку Пешчын. Тады гэта быў Лідскі павет Віленскай губерні, цяпер — Шчучынскі раён Гродзенскай вобласці. Часам месцам нараджэння А. Пашкевіч называецца хутар Пешчына. Калі-нікалі згадваецца вёска Пяшч*ы*на. Ды гэта адзін і той жа населены пункт. Ліза стала пятым дзіцем у сям'і Стафана і Ганны (у дзявоцтве Вінча) Пашкевічаў. Усяго ж у сям'і Пашкевічаў гадавалася васьмёра дзяцей.

Пашкевічы былі заможнымі, яны мелі дзвесце гектараў зямлі. А. Пашкевіч, кажучы словамі А. Лойкі, «не паходзіла, як Я. Купала, Я. Колас, з народных нізоў. Яна была, як гаварылі ў XIX ст., «з таго берага»: прывілеі шляхецкага роду маглі стаць яе прывілеямі, сытае, спакойнае жыццё — яе жыццём. І тады б на беларускай зямлі было больш на адну паню і не было б Цёткі, якую сёння ў Беларусі ведаюць усе». Ды, на шчасце, выгадавалася не яшчэ адна пані, а вядомая пісьменніца. Яна прымала актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху і стала адным з самых выдатных нацыянальных адраджэнцаў. У гэтым, безумоўна, сказалася яе выхаванне, а таксама той асяродак, дзе яно адбывалася. І, зразумела, паўплывала тое, што было закладзена ў душу дзяўчынкі ад нараджэння самім Усявышнім.

Неўзабаве пасля нараджэння Алаізы бацькі набылі маёнтак Стары Двор, дзе і жылі. Некаторыя называлі гэтую мясціну і Старыя Двары. Праўда, у гэтым маёнтку Лізанька, як усе яе называлі пяшчотна, знаходзілася нядоўга. Калі крыху падрасла, разам з малодшым братам Юзікам была аддадзена на выхаванне дзеду і бабулі Пашкевічам у фальварак Тарэсін. Гэта непадалёку ад Старога Двара, у нейкіх пяці вярстах.

Тарэсін размяшчаўся сярод густых лясоў. Тым самым прырода ўваходзіла ў яе душу з маленства. Спеў птушак радаваў ва ўсе поры года. Нават зімой сінічкі, не кажучы пра вераб'ёў, прыляталі, каб чым-небудзь пажывіцца. Алаіза выбягала з хаты, клала на падаконнік кавалачкі сала, крышыла хлеб. Вярнуўшыся назад, праз шыбу назірала, як сінічкі завіхаюцца ля сала, а вераб'і паядаюць крошкі. Адсюль, з Тарэсіна, вытокі яе пейзажнай лірыкі. Дый тлумачэнне таго, чаму з пашанай ставілася да ўсяго жывога. У Тарэсіне дзякуючы бабулі яна рана навучылася пісаць. Праўда, па-польску. На жаль, сітуацыя знаёмая. У мясцінах, якія знаходзіліся пад Польшчай, тады і пазней моўны асяродак быў польскі.

Калі бабуля памерла, Алаіза вярнулася да бацькоў. У Старым Двары яе выхаваннем, як і яе сясцёр і братоў, займалася простая сялянка — бабка Югася. Як і бабуля Алаізы, яна ведала шмат казак, песень. З імі і знаёміла дзяцей. Лізанька схоплівала ўсё на ляту і адразу запаміналa, бо мела добрую памяць. Любоў жа да кнігі ёй прывіла Вера Тацішчава. Як тады казалі, курсістка. Тацішчава была родам са Смаленска, а ў сям'і Пашкевічаў на працягу года працавала хатняй настаўніцай.

У Старым Двары Лізаньку ўсё радавала. І бацькоўскі дом, які сярод пахілых сялянскіх хат з саламянымі стрэхамі вылучаўся дахам з гонты, фарбаванымі аканіцамі. Дый вокны былі не малюпасенькія, як у іншых сялян, праз якія ледзьледзь зазірала сонца, а куды большыя. Яна падыходзіла да якога-небудзь з іх, узіралася ў яго, і перад ёю, быццам на далоні, паўставалі блізкія і дарагія краявіды. А яшчэ бачыла стадолы, гумны, свіран, стайню. За імі набіраўся сілы малады сад, пасаджаны бацькам. Канешне, у цёплую пару года лепей было прайсціся, прагуляцца, але з-за той жа хваробы не заўсёды мела такую мажлівасць. Таму акно і станавілася для яе свайго роду ўваходзінамі ў свет прыроды. Дый у свет жыцця таксама.

Пазней гэтыя ўражанні падказалі творы, прысвечаныя хараству родных краявідаў. Прынамсі, без іх не было б і верша «Лета» — таго самага, у якім згадваецца дзяўчынка Кася:

Азгляні на нашу вёску:
Ўвесь палетак аж гарыць!
Так, як пчолы ў жоўтым воску,
Як алтар, так зіхаціць!

Адтуль, з ранніх уражанняў і вытокі верша «Мой сад»:

Стаіць мой сад пад белым цветам:
Нарцыс, стыдлівых поўны крас,
Звісае бэз ў акно букетам,
Тульпанаў куст рацвёў зараз.

Лес з аднайменнага верша таксама ўспрымаецца часцінкай роднага краю. Звяртаючыся да лесу, Цётка па сутнасці звяртаецца і да самой Радзімы. Напоўненая захапленнем ад яе хараства, яна, у той жа час, і дбайна ставіцца да дня заўтрашняга — таго дня, які, у чым яна ніколькі не сумнявалася, будзе лепшы, чым сённяшні:

Высокі лес, шумі-скрыпі,
Расу хавай,
Ў раку ўлівай.
Грыбы расці,
Не дай цвісці
Жалобным кветкам.

Нясі палеткам
Свой доўгі дзень,
Кладзі на пень
Ў гірлянды мох,
Сцялі пасцель,
Каб кожны мог
Прылеч спачыць.

Аднак, каб гэтыя вершы (дый іншыя творы) напісаліся, несумненна, патрабаваўся час. Ён неабходны быў і для таго, каб ўражлівая, дапытлівая Лізанька Пашкевіч ператварылася ў паэтэсу Цётку.

## Шляхам сталення

Па-сапраўднаму свет жыцця для яе адкрыўся ў шаснаццацігадовым узросце: у 1892 года яна з братам Юзікам пераехала да сястры Марыі ў Вільню. Марыя была замужам, мела сваю сям'ю, але ахвотна ўзяла на сабе клопаты па выхаванні блізкіх ёй людзей. Дапамагала ім і авалодваць ведамі. Асабліва шмат увагі надавала Лізаньцы, якая праяўляла вялікую стараннасць. Праз два гады яна паступіла ў чацвёрты клас прыватнай гімназіі Веры Прозаравай. Каб не быць больш нахлебніцай у сястры, старалася сама аплачваць жыллё і харчаванне. Давала хатнія ўрокі. Праўда, плацілі няшмат, грошай пастаянна не ставала. Хоць на ўсім і ашчаджала, часам і галадала.

Гімназія, у якой вучылася Алаіза, была сямікласнай. Аднак яна скончыла толькі шэсць класаў. Вучобу спыніла хвароба. Але пасведчанне аб завяршэнні вучобы ўсё адно атрымала. Адбылося гэта 27 чэрвеня 1901 года. Каб не застацца без працы, ёй пайшлі насустрач: здала спецыяльны экзамен на званне хатняй настаўніцы арыфметыкі. Праўда, на вёсцы настаўнічала нядоўга. Усяго каля года. Прычына ў тым, што марыла працягваць вучобу. Таму, зарабіўшы крыху грошай, падалася ў Пецярбург.

Марыла аб Пецярбургскім універсітэце. На той час гэта была вельмі аўтарытэтная вышэйшая навучальная ўстанова ў Расійскай імперыі. Але па прыездзе ў сталіцу даведалася, што шлях у гэты ўніверсітэт для яе закрыты. Не ставала неабходнай адукацыі. Дый для паступлення ў іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы таксама. Таму пайшла на курсы вядомага вучонага, прафесара Пятра Лесгафта, на якіх рыхтавалі выхавацелек і кіраўніц фізічнай адукацыі. Не сказаць, каб гэта было тое, да чаго ляжала душа. Ды ёй гэта з'яўлялася не такім і істотным. Істотным было іншае: не толькі ва ўніверсітэце, але і на курсах панавала вольналюбівая атмасфера. Дый імпанавала Алаізе тое, што, як даведалася, кіраўнік гэтых курсаў з'яўляўся чалавекам перадавых поглядаў. Але, па праўдзе кажучы, і гэтага было ёй мала. Курсы Лесгафта прываблівалі тым, што падчас вучобы на іх лёгка магла знайсці аднадумцаў.

Хутка такіх аднадумцаў А. Пашкевіч знайшла. Найбліжэйшым сябрам яе стаў будучы вядомы беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст, літаратурны крытык Антон Луцкевіч. Але не толькі з ім Алаіза знайшла агульную мову. А. Луцкевіч успамінаў: «У першыя ж дні пасля прыезду ў сталіцу мы бліжэй сышліся з Вацлавам Іваноўскім, тады студэнтам Тэхналагічнага інстытута, родам з Лідчыны, і стварылі цесную, добра «спетую» тройку, узяўшую на сябе ініцыятыву, а пасля і кіраўніцтва ўсёй працай сярод беларускага студэнцтва».

На гэтым трое аднадумцаў не спыніліся. Разам з родным братам Антона — Іванам Луцкевічам, у будучым беларускім палітычным дзеячам, археолагам, этнографам, публіцыстам, яны ў 1902 годзе стварылі арганізацыю, якую назвалі «Круг беларускай народнай асветы і культуры». Пашкевіч стала і ініцыятарам стварэння, а потым і адным з кіраўнікоў Беларускай сацыялістычнай Грамады. Больш за тое, яна спрычынілася да ўзнікнення беларускага друку — спачатку нелегальнага, а потым легальнага.

Відны дзеяч літоўскага вызваленчага руху Сцяпонас Кайрыс, які пазней стаў яе мужам, прыгадваў, што ў Пецярбургу Алаіза Сцяпанаўна «адразу трапіла ў самы вір усё мацнеючага рэвалюцыйнага руху акадэмічнай моладзі. Студэнцкія страйкі, дэманстрацыі, крывавыя экзекуцыі, арышты, ссыльныя канвоі — усё часцейшымі нарастаючымі сутаргамі сатрасалі жыццё вышэйшых школ Расеі. Студэнцтва было тады пульсам царскай імперыі, пульсам, што пачынаў біцца ўсё мацней і бескантрольней [...] У асяроддзі вось гэтай усё больш распальванай моладзі Алейза Пашкевічанка пачулася адразу як у сябе дома. Вельмі чуйная на падзеі выбуховага характару, не церпячы аніякіх кампрамісаў ані ў сабе, ані ў іншых, адкідаючы ды высмейваючы ўсякія канвенсавыя формы ў дачыненнях, —

яна ўважала за свой абавязак і гонар быць усюды там, дзе так ці гэтак выяўляўся нарастаючы супраць існуючага стану настрой. Яна наведвала сходкі, брала ўдзел у дэманстрацыях, рупілася пра арыштаваных сяброў. Адразу самавызначылася беларускай і гэткаю засталася назаўсёды».

Дзеля беларускасці і ў імя беларускасці і працаваў «Круг беларускай народнай асветы і культуры». Па словах А. Луцкевіча, «арганізацыя на першым месцы ў сваёй праграме паставіла друкаванне беларускіх кніжак і тварэнне беларускае школы для народа».

У 1904 годзе «Круг…» выдаў «Калядную пісанку на 1904 год» і «Велікодную пісанку». У «пісанках» змешчаны і вершы Цёткі «Мужыцкая доля», «Мужык не змяніўся», «Нямаш, але будзе» і «Музыкант беларускі», а таксама «Роднай старонцы» Янкі Лучыны, «Малітва» Каруся Каганца, «Вечар» Дзядзькі Пранука. «Круг...» выдаў кнігу паэзіі Янкі Лучыны «Вязанка» і зборнік «Казкі». Ім стаў перадрук пяці твораў са зборніка Паўла Шэйна «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края», што выйшаў у Пецярбургу ў 1893 годзе. З’явіліся таксама і брашуры «Царская гаспадарка» і «Песні». Яны былі надрукаваны ў Кракаве і адтуль адпраўлены ў Беларусь.

## Трылогія з… трох вершаў

Верш Цёткі «Мужыцкая доля» — гэта шчырая споведзь гаротніка, які жаліцца на сваё нялёгкае жыццё: «Цяжка жыць, трудзіцца, // Калі няма долі, // Жыта не радзіцца // На мужыцкім полі. // З капы умалоту // Не болей асміны, // І еш за работу // Чорны хлеб з мякіны». Гэты селянін пакуль не бачыць выйсця са свайго незайздроснага становішча. Калі на што ён і здатны, дык толькі на тое, каб скардзіцца. А яшчэ задаваць пытанне — і самому сабе, дый іншым, на якое так і не знаходзіць адказу: «Дзе ж ты, мая доля, // Дзе ж ты захавалась, // Без цябе няволя // І бяда засталась». Такой няпэўнасцю твор і заканчваецца: «Дзе ж ты, мая доля, // Дзе ты, адгукніся!»

Гэта пратэст збалелай душы, якая спакутавалася з-за сацыяльнай несправядлівасці. Здавалася б, час пераходзіць да актыўных дзеянняў. Але лірычны герой верша «Мужыцкая доля» на сацыяльны працэс яшчэ няздатны. Калі на што і здольны ён, дык усяго на тое, каб скардзіцца. Дый то часцей перад гэткімі гаротнікамі, як і сам.

Падобнае становішча беларускага селяніна Цётка мусіла паказваць і ў вершы «Мужык не змяніўся». У свеце нязменна адбываецца прагрэс: «Знайшлі нову зямлю. // Порах раздабылі. // Сталі папер ткаці, // Літар насадзілі. // Нарабілі кніжак, // Людзям паказалі, // [...] «Напісаў Капернік, // Што свет закруціўся». Дый іншыя змены таксама адбыліся, а селянін, які быў, такім і застаўся: «І за гэту пору // Мужык не змяніўся». Ягоныя запатрабаванні не ідуць далей звычайнага жыццёвага прагматызму: «О, дай ты мне, Божа, // Хаця нову хату. // Дай кабылу сіву // і жонку багату. // Дый кароўку з целем, // Свінку, курэй колькі, // Дай жыта, мы змелем, // І годзе, і толькі. // А за гэта дзякуй!»

Цётка канстатавала тое, што было. Аб гэтым сведчыць і верш «Нямаш, але будзе»:

Нямаш хлеба, нямаш солі,
Нямаш шчасця, нямаш долі.
Як ля ранку сляза блісне,
Жаль да ночы сэрца цісне.

Аднак яна не магла не гаварыць і пра тое, што мусіць быць, у надыход чаго верыла і за што сама змагалася: «О, прыйдзе — пара настане, // Што за крыўду мужык устане, //Зробіць суд над панам-катам [...]». Праўда, сам селянін да гэтага

яшчэ не дарос. Ягоныя запатрабаванні не ідуць далей звычайнага жыццёвага прагматызму.

Вершы «Мужыцкая доля», «Мужык не змяніўся», «Нямаш, але будзе» ўмоўна можна назваць паэтычнай трылогіяй, сюжэтны стрыжань у якой — бяспраўнае становішча беларускага сялянства. Тым не менш, паўстаюць ужо тыя праблiскі ягонага сацыяльнага абуджэння, што ў перспектыве могуць прывесці да абуджэння нацыянальнага. Аднак прайшоў толькі год і мужык усё ж змяніўся. «Трылогія» стала «тэтралогіяй», бо да яе дадаўся верш «Добрыя весці»:

Усіх злучыла чароўна слова,
Жалезны вобруч скуў нам далонь.
І матка сына даць нам гатова,
І жонка мужа вышле ў агонь.

І дзед старэнькі бяжыць у дружыну,
І ўнучак следам дзеда спяшыць,
Хлопец, абняўшы любу дзяўчыну,
На барыкадах смела стаіць.
Ах, браце, крэпка сіла ў народзе!..

## Ад вершаў — да дзвюх кніг

Сваёй грамадзянска-палітычнай напоўненасцю, рэвалюцыйным пафасам з першых апублікаваных вершаў Цёткі вылучаецца верш «Музыкант беларускі». Ён — па-свойму праграмны для паэтэсы. Гэтым разам паэтэса Цётка ўскладае вялікія спадзяванні на мастацтва, якое здатнае данесці праўду аб жыцці народа да ўладу маючых: «Зайграю на дудцы, // Вытну на гармоні, // Заплачу на скрыпцы // Аб мужыцкай долі».

Аповед у вершы ідзе ад «музыканта беларускага». Але адначасова гэта прамаўляе і сама Цётка. Вуснамі гэтага музыкі і болем сваёй душы: «Ну дык плач жа, скрыпка, // Мо паны пачуюць, // Як хамы без хлеба, // Без страхі начуюць». У заключных жа дзвюх строфах верша паэтэса ўжо як бы збоку глядзіць на гэтае гранне і слухае яго. Але менавіта яны нясуць важкую сэнсавую, сацыяльную нагрузку:

І зацяў музыка
Смыкам ды па струнах, —
Пташкі задрыжэлі,
Пчолы сціхлі ў вуллях.

Музыкант галосіць,
Скрыпка не махлюе,
Хутка «хамску» песню
Ўсенек свет пачуе.

Паняцце «хамска» песня» тут больш шырокае, чым здаецца на першы погляд. Гэтаксама і скрыпку неабходна ўспрымаць не толькі, як канкрэтны музычны інструмент. Таму невыпадкова і сваю першую кнігу Цётка назвала «Скрыпка беларуская». Яна выйшла ў 1906 годзе ў Жоўкне (цяпер горад Несцераў) каля Львова ў друкарні базыльянскага манастыра, дзякуючы вядомаму ўкраінскаму вучонаму Іларыёну Свянціцкаму, які пры ўсім даследаваў беларускую літаратуру. Падтрымку ў выданні гэтай кнігі аказаў мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі. Як і наступнай — «Хрэст на свабоду», выдадзенай у тым жа годзе той жа друкарняй.

У зборніку «Скрыпка беларуская» ёсць і верш «Скрыпка» з сімптаматычным завяршэннем:

Смык гатовы, струны тугі,
Кроў у жылах закіпае.
Ну, слухайце, мілы другі,
Скрыпка мая ўжо грае!

З гэтым творам перагукаецца і наступны верш — «Вам, суседзі»: «Вам, суседзі, вам, кумочкі, // Беларусы-галубочкі, // Пяю з сэрца, падцінайце, // Вы грамадай голас дайце. // Зложым песню цэлым людам». Злажыць трэба было, зразумела, не абы-якую песню, а сваю, беларускую. Дый каб сябе ўсюды і ва ўсім пачуваць беларусам. Характэрна ў гэтым сэнсе «Прадмова» да «Скрыпкі беларускай»:

«Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то палякам, ці то літоўцам, бо слова «тутэйшы» мне нексьць не смакавала. І так колькі гадоў я хістаўся то на ту, то на другую сторану, аж покі не папала ў мае рукі «Дудка» Мацея Бурачка: яна-то мне сказала, што хто гаворыць па-тутэйшаму, па-мужыцку, значыцца, ён гаворыць па-беларуску, а хто гаворыць па-беларуску, той беларус. Прачытаўшы тую «Дудку» я сказаў: «Дзякуй табе, Мацей Бурачок! Чэсць і слава тваему слову! А ты, «Дудка», грай і мне голас дай». З таго дня пачаў і я майстраваць інструмант. Выйшла з-пад рук «Скрыпка». Цяпер кручу «Струны» (менавіта так хацела спачатку назваць сваю кнігу «Хрэст на свабоду». — *Ю. Б.*). А ты, Мацей Бурачок, ідзі, ідзі ўздоўж і папярок нашага беднага краю, братоў родных вітай, да курных хат заглядай, мо знайдзеш там артыста, каторы збярэ ўсе нашы беларускія інструманты і наладзіць гранне як мае быць».

У «Скрыпцы беларускай» быў змешчаны і верш «Мае думкі», які ўспрымаецца праграмным для тагачаснай Цёткі. Дый, увогуле, ён яскрава выяўляе яе галоўныя памкненні на працягу ўсяго жыцця:

Думаць ўсюды аб народзе,
Родны край усюды сніць,
То рассыпацца расою
Па галінках, па лісткох.
То абняцца так з зямлёю,
Каб ніхто разняць не мог!

Выхад першай кнігі Цёткі прыхільна вітаў у 1907 годзе вершам «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай» Янка Купала, які, як вядома, на той час і сам быў малады і гэтаксама клопатна, як і яна, ставіўся да ўсведамлення сваёй паэтычнай і грамадзянскай місіі:

Чутка йграеш, гулка йграеш
Ты на скрыпачцы сваей,
К небу думкай падлятаеш
Шчасця зычыш для людзей.
Ўперагонку з салаўямі
Пайсці голас можа твой.
Грай жа, грай жа паміж намі!
Ваюй песняй з цемнатой.

## Цесна мору ў берагах

Калі выйшлі яе кнігі, Цётка зноў жыла ў Вільні. Пераехала з Пецярбурга ў 1904 годзе. На пераезд, бадай, паўплывала тое, што на яе слабае здароўе кепска ўплываў сыры клімат расійскай сталіцы. Аднак асноўная прычына гэтага, бадай, у іншым. Віленскі беларускамоўны асяродак ёй быў усё ж бліжэйшы, чым сталічны.

Працуючы фельчаркай у псіхіятрычнай бальніцы, яна разгарнула актыўную рэвалюцыйную дзейнасць. Дый партыйную — таксама. Між іншым, яе партыйная мянушка таксама была Цётка. На кватэры ў Алаізы Сцяпанаўны праходзілі канферэнцыі Беларускай сацыялістычнай Грамады, на іх завітвалі Антон і Іван Луцкевічы, Карусь Каганец, Алесь Бурбіс і іншыя. Хутка стала Цётка сваёй сярод рабочых Вільні. Але добра ведалі яе і сяляне ў навакольных вёсках, куды яна наведвалася даволі часта. І адна завітвала. Дый з таварышамі. Несла народу праўду аб тым, што адбываецца ў краіне.

Праўду неслі і яе вершы «Хрэст на свабоду», «Пад штандарам», «Мора», што неўзабаве ўвайшлі ў яе другую паэтычную кнігу «Хрэст на свабоду». Цяпер жа, аддрукаваныя ў тысячах асобнікаў, яны распаўсюджваліся як пракламацыі. Праўда, імя аўтара не ўказвалася. А тое, што яны напісаны менавіта Цёткай, ведалі тыя, перад кім яна выступала, дэкламуючы згаданыя творы.

Яна вітала надыход рэвалюцыі, якую параўноўвала з морам:

Не такое цяпер мора,
Не такі у хвалях шум:
Цяпер бурна, страшна мора!
Хваля поўна дзікіх дум.

Мора вуглем цяпер стала,
Мора з дна цяпер гарыць.
Мора скалы пазрывала,
Мора хоча горы змыць.

Удзельнікам мітынгаў, маніфестацый імпанавала, што Цётка, дзе б яна ні выступала, размаўляла толькі па-беларуску. А тут яшчэ і вершы, напісаныя гэтай мовай.

Ды яна не толькі заклікала да звяржэння царызму. Клапоцячыся пра тое, каб беларускае слова ішло ў народныя масы, яна і сама старалася лепш вывучаць родную мову. Дзеля гэтага, калі гутарыла са сваімі паплечнікамі, нярэдка пыталася ў іх, ці могуць яны падказаць якое-небудзь цікавае слоўца. Такім чынам падступалася і да рабочых, сярод якіх было нямала выхадцаў з Беларусі. Калі ж у снежні 1905 года ў Вільні пачаліся маніфестацыі, таксама не засталася ў баку. Узначаліла адну з калон, якая кіравалася да заводаў Посела і Мозера. Гэтая дэманстрацыя, як і астатнія была разагнана. Многіх удзельнікаў яе ўлады арыштавалі. Цётка, праўда, у пастарунак не трапіла, але далей заставацца ў Вільні было небяспечна. Некаторы час хавалася ад паліцыі ў ваколіцах горада. А потым вырашыла падацца ў эміграцыю. Выбрала Галіцыю, якая тады ўваходзіла ў склад Аўстра-Венгерскай імперыі.

Прыехала ў Львоў не адна, а з Іларыёнам Свянціцкім, з якім пасябравала. Знаходжанне ў Львове для яе не прайшло бясследна. Слова паэтэсе, празаіку, літаратуразнаўцу, аўтару рамана «Крыж міласэрнасці» і аднайменнага мастацкага фільма, прысвечаных Цётцы, Валянціне Коўтун: «1906 год для Пашкевічанкі быў касмічна плённы: апрача названых паэтычных зборнікаў (маюцца на ўвазе кнігі «Скрыпка беларуская» і «Хрэст на свабоду». — *Ю. Б.*) яна выдала «Беларускі лемантар», «Першае чытанне для дзетак беларусаў», «Гасцінец для малых дзяцей» [...]

Працягвалася і яе вучоба ў якасці вольнай слухачкі філасофскага факультэта Львоўскага ўніверсітэта. Да таго ж, захопленая пявучасцю мовы сваіх новых львоўскіх каляжанак, Цётка міжволі пачынае задумвацца і над этнаграфічнай дзейнасцю І. Свянціцкага. Урэшце, пошук уласнай навуковай арыентацыі завяршаецца цікавейшай тэмай, звязанай з беларускімі батлейкамі (артыкул «Збірайце матэрыялы аб батлейцы!», апублікаваны ў № 44—45 газеты «Наша ніва» за 1910 год і выдадзены ў тым жа годзе ў Вільні асобнай брашурай «Праграма для збірання матэрыялаў аб батлейках». — *Ю. Б.*)».

Згаданы артыкул — сапраўды праграма дзеянняў. Прапануюцца самыя розныя пытанні, як, для прыкладу, такія: калі з батлейкай ходзяць?; як батлейку носяць?; хто з батлейкай ходзіць? і г. д. У самым жа пачатку Цётка абгрунтоўвала неабходнасць гэтай важнай працы:

«Вялікую заслугу зрабілі б людзі для народнай беларускай літаратуры, каб запісалі ўсё, што ведаюць аб батлейках, яслях, казе, мядзведзю, цыганах і т. д., у каторых адбілася і этнаграфія нашага краю, і гумар, і псіхіка нашага народа. Як на цяпер, і пара да гэтага, бо падыходзяць Каляды. Адкладываць гэтай работы нельга, бо батлейкі, яслі, мядзведзі, цыганы і т. д. выходзяць ужо з моды, а з імі сходзіць з народнай сцэны наш дагэтуль адзіны беларускі народны тэатр».

Няцяжка заўважыць, што Цётка добра разбіралася ў тым, што ўяўляе сабой народны тэатр. Разумела, наколькі ў ім адлюстравана ўсё тое, што сведчыць аб непаўторнасці, арыгінальнасці беларускага этнасу. Разам з тым яна разумела іншае: усё гэтае культурнае, духоўнае багацце неабходна зберагчы для нашчадкаў.

## Дзеткі, быццам кветкі

Для дзяцей Цётка проста не магла не пісаць. Жывучы клопатамі аб адраджэнні нацыянальных традыцый, аб вяртанні беларусам беларускасці, яна ведала, што падобнае выхаванне неабходна пачынаць з маленства. Не ў апошнюю чаргу праз мастацкія творы. Не кажучы пра тое, што трэба было ствараць неабходныя падручнікі, дапаможнікі. Зразумела, па-беларуску. Калі настаўнічала на вёсцы, пераканалася, што дзеткі слаба ведаюць родную мову. Яны, як і дарослыя, размаўлялі на «мешанцы». Вучыць іх было цяжка з-за адсутнасці падручнікаў, напісаных па-беларуску. Значыць, самой неабходна рабіць нейкія пэўныя, канкрэтныя захады.

Задуму ажыццявіла ў 1906 годзе. Першыя вынікі рускай рэвалюцыі 1905 года для беларусаў сталі абнадзейваючымі. Пачалі адкрывацца нацыянальныя школкі. Тады Пецярбургская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» і выпусціла кнігу «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання». Аўтарства яго, праўда, не ўказана. Але гісторыкі і даследчыкі літаратуры сходзяцца на тым, што напісала лемантар менавіта Цётка.

Лемантар быў надрукаваны адначасова лацінкай і кірыліцай. Тым самым, улічваліся запатрабаванні «католікаў і праваслаўных». Першыя «больш да лацінскіх літар […]; праваслаўныя — да славянскіх, ці, як кажуць, да рускіх прывыклі». Каб у навучэнцаў было правільнае вымаўленне, словы падаваліся з націскам.

Распрацавала Цётка і сваю методыку авалодвання граматай. Вывучаліся галосныя, потым — склады (галосныя літары ў спалучэнні з зычнымі), нарэшце — ётавыя галосныя, падбіраліся адпаведныя тэксты і малюнкі. Падаваліся неабходныя звесткі па граматыцы і пунктуацыі. Важна і тое, што прыводзіўся алфавіт лацінскіх і беларускіх літар.

Пачатак быў зроблены. Але пачатак патрабаваў працягу. Нездарма ў канцы «Беларускага лемантара» паведамлялася: «Не гуляючы, выдаем «Першае чытанне для дзетак беларусаў». У тым жа 1906 годзе гэтая кніга пабачыла свет. Атрымалася свайго роду хрэстаматыя, якая складаецца з дзвюх частак. Першая — вершы, апавяданні, казкі — напісана самой Цёткай, у другую ўвайшлі лепшыя ўзоры беларускага фальклору.

У першай частцы падрабязна і даходліва расказваецца аб побыце беларусаў, жыцці сялян. Характэрная ў гэтым сэнсе навела «Нядзеля»: «У нядзелю найперш устаюць матка і старэйшая сястра Ганулля. Матка паліць у печы, варыць страву, пячэ бліны. А сястра гоніць карову ў поле. А пасля прыязджае бацька з начлегу і будзіць Вінцуля. Вінцуль доўга пацягваецца, зявае, але матка ставіць снедаць на

стол і крычыць: «Вінцуль, Вінцуль, скваркі астынуць, уставай, і так ужо даўно, як Гануля за цябе кароўкі пасе!»

У кожным слове пастаўлены націск, каб дзеткі не памыліліся ў вымаўленні яго. Пераважае інфармацыйны характар. Як і ў замалёўцы «Наша гаспадарка». Гаворыцца пра тое, што было знаёма кожнаму з маленства.

У другой частцы працягваецца гаворка пра вёску, яе людзей. Увогуле, падзел на раздзелы чыста ўмоўны. Поруч стаяць навела «Мая вёска» і верш «Родная вёска». Маўляў, выбірайце, дзеткі, каму што больш даспадобы, і чытайце, запамінайце, пашырайце свае веды. Зноў жа нічога лішняга, ускладнёнага. Проста, выразна, але адначасова і пазнаваўча. Часам немагчыма правесці мяжу — проза гэта ці паэзія. Настолькі вобразна піша Цётка. Як у апавяданні «Лес». Хутчэй за ўсё гэта — паэзія ў прозе.

Поруч з творамі, што неслі пазнавальны змест, змешчаны і такія, у якіх паўставала цяжкае жыццё тагачасных дзяцей, абяздоленых, пакрыўджаных. У апавяданні «Сірата» гаруе, пакутуе маленькая Настулька. Яе боль кранае і тваё сэрца, калі знаёмішся з гэтым няхітрым вершам, што ўплецены ў сюжэтную канву твора.

Да месца былі ў «Першым чытанні...» прыказкі: «Сказаў — як звязаў», «Скупы два разы траціць», «Хто дбае, той мае», «Пільнуй гаспадаркі, будуць у гаршку скваркі», «Ранняя птушка зубкі цярэбіць, а позняя вочкі трэ» і г. д. Загадкі: «У агні не гарыць, на вадзе не тоне і на саломе не шасціць» (*Цень*), «Два зайцы рэжуцца, белая кроў ідзе» (*Жорны і мука),* «Поўная бочка віна, нідзе дзірачкі няма» (*Яйка*), «Чатыры браты пад адной шапкай стаяць» (*Стол*) і інш. Гэтаксама хораша прагучалі і казкі «Журавель і Чапля», «Курыца і Певень», «Гутарка асота з крапіваю».

З’яўленне «Першага чытання…» было вельмі своечасовым. Дый прыклад для іншых пісьменнікаў, як трэба ўважліва ставіцца да выхавання падрастаючага пакалення. Для гэтага мала пісаць асобныя творы, а, да ўсяго, неабходна ствараць і хрэстаматыі, дапаможнікі, якімі з аднолькавай карысцю маглі б карыстацца і настаўнікі, і бацькі, але, зразумела, ці не ў першую чаргу самі дзеці. Прымаючы пад увагу вопыт Цёткі, адштурхоўваючыся ад яго, Якуб Колас падрыхтаваў «Другое чытанне для дзяцей беларусаў», якое выйшла ў 1909 годзе ў Пецярбургу.

На творчым рахунку Цёткі і кніга для дзіцячага чытання «Гасцінец для малых дзяцей». У 1906 годзе яна з’явілася пад псеўданімам Тымчасовы і была надрукавана лацінкай. Адметнасць зборніка складальніца вызначыла так: «пераказ з украінскай мовы на беларускую з малымі пераменамі». «Перамены» гэтыя звяліся да таго, што асобныя творы Цётка ўвязала з беларускім нацыянальным каларытам.

## Ёсць чаму павучыцца ў фінаў

Знаходзячыся ў эміграцыі, у Львове Цётка жыла не пастаянна. Яна неаднаразова прыязджала на радзіму. А ў 1907 годзе ў сувязі з абвастрэннем сухотаў некалькі месяцаў лячылася ў Закапанэ. Адтуль накіравалася ў Кракаў, дзе пачала вучыцца на філасофскім факультэце Ягелонскага ўніверсітэта.

У 1908 годзе ажыццявіла двухтыднёвае падарожжа па Італіі. Наведала Рым, Венецыю, Фларэнцыю. Мела магчымасць слухаць сусвета вядомага Каруза і іншых знакамітых оперных выканаўцаў, наведвала італьянскія музеі жывапісу. Аднак знаходжанне ў эміграцыі, хоць і было шмат новых уражанняў, цяжарам лягло на яе сэрца. У гэтым сказалася і адарванасць аб роднага краю, і немагчымасць сустракацца з сябрамі. Дый матэрыяльнае становішча часам было нялепшае. Усё гэта, разам узятае, не магло не сказвацца на настроі. Ён у Цёткі, як відаць з верша «З чужыны», часта быў гнятлівы:

І душна, і цесна, і сэрца самлела
Мне тут на чужыне, здалёк ад сваіх...
Як птушка на скрыдлах, ляцець бы хацела,
Як хваля па моры, плыла бы да іх!

Ўзнялася б, здаецца, расінкай на хмары,
А хмары бы ветрам сказала я гнаць
Далёка, далёка, дзе сняцца мне чары,
Дзе боры густыя над Нёмнам шумяць [...]

Вярнуцца на радзіму змагла толькі ў 1911 годзе, калі выйшла замуж за С. Кайрыса і змяніла сваё прозвішча. Тым самым, стала недасягальнай для царскіх шпікоў, якія па-ранейшаму шукалі Алаізу Пашкевіч. З новай энергіяй узялася за беларускую справу. У 1912 годзе ў Нова-Вілейцы пад Вільняй арганізавала тайныя беларускія школы. У рабоце ёй нямала дапамагаў муж.

У 1913 годзе Цётка зноў наведала Італію, а ў красавіку 1914 года паехала ў Фінляндыю — падарожнічаць яна любіла. Але ехала і для таго, каб паправіць здароўе. Па дарозе ў Фінляндыю некалькі дзён правяла ў Пецярбургу. На кватэры ў Браніслава Эпімах-Шыпілы яе з радасцю вітала беларускае зямляцтва. Прыйшлі сюды і супрацоўнікі часопіса беларускай студэнцкай моладзі «Раніца». Тады якраз рыхтаваўся яго першы нумар. Студэнты расказвалі паэтэсе, што іхняе выданне ставіць на мэце згуртаванне інтэлігенцыі дзеля служэння беларускаму народу. Яны збіраюцца паведамляць пра адраджэнцкае жыццё не толькі ў сталіцы, а і ў іншых гарадах. У планах іх была і прапаганда беларускіх кніг. Цётка пажадала ім поспеху. Але ні сама яна, ні супрацоўнікі часопіса не ведалі, што ўдасца выпусціць усяго адзін нумар, які выйдзе ў чэрвенні таго ж 1914 года.

У ліпені 1914-га Цётка лячылася ў Швецыі. Пешкі прайшла ад Стакгольма да Гетэборга, а гэта каля дзвесце кіламетраў. Вынікам гэтых паездак сталі падарожныя нарысы «З дарогі» і «Успаміны з паездкі ў Фінляндыю». Гэта, як і трэба было чакаць, уражанні аб пабачаным. Але Цётка не магла быць толькі простым фіксатарам таго, што ёй нечым запомнілася. Яна аналізуе пэўныя з'явы, задумваецца над жыццём краіны, у якую прыехала, заглыбляецца ў гісторыю яе народа. У гэтым сэнсе вылучаюцца «Успаміны з паездкі ў Фінляндыю».

У іх расказваецца пра быт фінаў і іх норавы, пра тое, як яны паспяхова вядуць сваю сельскую гаспадарку ў не надта спрыяльных прыродных умовах. Цётка захаплялася высокім агранамічным узроўнем фінскіх земляробаў. Значыць, яна ўважліва прыглядалася да таго, што потым можна ўкараніць і ў сябе на радзіме. Не магла не зацікавіць Цётку гісторыя фінскага адраджэння, бо, як ужо ведала, у фінаў і беларусаў шмат у чым агульныя лёсы. У час паездкі яна яшчэ больш упэўнілася ў гэтым:

«Фінляндыя гэтаксама ляжала паміж двума дужымі суседнімі гасударствамі.

Адзін сусед супольны быў і нам і фінам — Гэтая Расея. Другім суседам у нас была Польшча, а ў Фінляндыі — Швецыя. Фінаў, як і нас, то адзін сільны сусед браў у свае жалезныя рукі, то другі. І абодва суседы паводле свае сілы і змогі стараліся быць дабрадзеямі-апекунамі. Швецыя раней стала панам у Фінляндыі, фінская шляхта паволі паперамяняла свае прозвішчы на манер шведскіх і ашведзілася. Мовы свае зраклася, пачала гаварыць па-шведску».

Гэта тое, што і сярод беларускай шляхты адбывалася. З той розніцай, што шляхта пераходзіла на польскую мову. Аднак просты люд не цураўся сваіх каранёў, гаварыў па-свойму. Як і фіны:

«Адзін народ толькі, учапіўшыся сваімі ніўкамі да цвёрдых скал, астаўся верным прадзедавай мове і прадзедавым звычаям. […] Фін, гледзячы ў дны сваіх чыстых азёраў, на светлае блакітнае неба, наяве сніў аб долі лепшай: у казкі, песні ўплытаў сваю мінуўшчыну, слаўных дзядоў сваіх рыцараў, песціў несмяротэльнымі ўспамінамі ў сваіх сэрцах».

Лёс фінскай мовы — гэта па сутнасці лёс і беларускай мовы:

«Гадоў сорак таму назад уся інтэлігенцыя смяялася, як над нечым дзяцінным, нязграбным і вельмі неразумным, над старадаўняй фінскай мовай. Але сыны фінскага народа, дабіўшыся да святынь высшай школы, дастаўшы высшую навуку сказалі: не! Мы не дзеля таго дабіваліся аб сухім хлебе і вадзе, каб потым вам, паны, яе прадаваць за срэбнікі Юды! Мы — сыны мужыцкага народа, мы — унукі дзедаў — рыцараў-хлебаробаў, каторыя адкладалі саху набок, пакідалі дзетак галодных, хапаліся за меч і баранілі перад шведамі незалежнасць свае роднае старонкі: аб іх сведчаць нашы цвёрдыя скалы, аб іх пяюць нашыя народныя песні. Мы праўнукі іх, мы з народу і застанёмся з народам!»

Фіны не толькі добрымі памкненнямі жылі, яны перайшлі і да дзеянняў. Пачалі запісваць народныя песні, паданні, казкі, а «як толькі гэты матэрыял быў сабраны і аддрукаваны, шляхта ажно здзівілася вялікаму багаццю душы народнай».

У планах Цёткі было і пешае падарожжа па Нарвегіі, але пачалася Першая сусветная вайна.

## Святло «Лучынкі»

Доўгі час Цётка жыла марай аб уласнай выдавецкай дзейнасці. Гэтую мару ажыццявіла ў 1914 годзе, калі стала рэдактарам першага на Беларусі часопіса для дзяцей і моладзі «Лучынка». Бралася за ягонае выданне з усведамленнем, што «трэба больш агню ад маладых сіл. Дровы, з каторых цяпер шчапаецца «Лучынка», залішне слязьмі-доляй нацягнула, дык слаба гарэць». Яна і імкнулася, вобразна кажучы, распаліць гэтыя дровы, каб святло полымя, якое ўзнікне, было і яркім, цёплым.

Адкрываўся першы нумар вершам, які так і называўся — «Лучынка»:

З «Лучынкай» паволі ў зімовую ночку
З хаты да хаты пойдзем шукаць,
Мабыць, забыты людзьмі у куточку,
Хлопец-сіротка дзе хоча чытаць.

Можа, дзяўчына, спраўшы кудзельку,
Будзе ў запечку маркотна сядзець
Або ў зімовую нудну нядзельку
Праз выбітую шыбу на поле глядзець.

Падойдзем да іх мы з «Лучынкай», пасвецім,
Аб роднай старонцы сцікавіма іх, —
Можа, з «Лучынкай» іскры разнецім
У думках і ў сэрцах сіл маладых.

Як відаць з гэтага верша, Цётка, узяўшыся за выдавецкую справу, ставіла перад сабой адказную задачу. Часопіс павінен быўператварыцца ў шчырага сябра і добрага дарадцу для тых, хто ўваходзіў у неабсяжны свет жыцця, адкрыць ім вочы на гэтае жыццё ў самых яго розных праявах.

Праграмнымі сталі артыкулы Цёткі, прысвечаныя надзённым пытанням беларускага жыцця. Як публіцыст яна прадаўжала традыцыі Кастуся Каліноўскага і Францішка Багушэвіча. У рэшце рэшт шмат якія з гэтых публікацый актуальныя па сённяшні дзень: «Да вясковай моладзі беларускай», «Шануйце роднае слова!», «Аб душы маладзёжы», «Да дзяўчатак», «Да школьнай моладзі» і іншыя. Узяць хоць бы артыкул «Шануйце роднае слова!»:

«На вас — моладзі — ляжыць вялікая павіннасць: развіваць далей родну мову, узбагачываць свой народ знаннем і культурай. Вы здабываеце навуку для сябе, дык дзяліцеся ёю з тымі, хто для вас цяжкай працай здабывае кусок хлеба. Толькі не кідайце роднай мовы: бо запраўды для свайго народа тады вы ўмёрлі!

Мейце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова. Мейце смеласць усюды голасна казаць па-свойму. І, гледзячы на вас, асмеляцца і іншыя, зразумеюць, што шчырае сэрца беларускае заб'ецца не толькі пад мужыцкай сярмягай, паверацць у ўласныя сілы свае і пойдуць цвёрдай ступой да лепшай будучыны, да ясных зор шчасця народнага».

Будучых жанчын («Да дзяўчатак») заклікала змалку быць акуратнымі, гаспадарлівымі, дбаць пра тое, каб наўкола хаты, у якой яны жылі, усё было прыгожа:

«[...] покі вясна, зварочваемся да ўсіх дзяўчатак нашых з просьбай: засявайце, сястронкі, свае гародчыкі кветачкамі, а братоў папрасіце, каб пекна абгарадзілі. Што важнае, за якія два адвячоркі тынок можа быць гатовы. Самі ўбачыце, як пасля добра пасядзець у такім гародчыку святочным днём. А ўвосень мы ўжо ад сябе звернемся да вашых братоў, каб дрэвачкаў пасадзілі.

Калі з ахвотай адны і другія адклікнецеся на нашу просьбу, то за рок самі здзівіцеся, што так вёска перамянілася: уся будзе ў кветках, дрэўцы пасаджаны; чужынец, едучы, падзівіцца, свой чалавек, праходзячы, пацешыцца».

Адначасова Цётка аб'яўляла і свайго роду завочны конкурс, аб чым сведчыла завяршэнне гэтага артыкула:

«Рэдакцыя ж «Лучынкі», даведаўшыся праз сваіх чытачоў, у якіх дзяўчатак пякнейшыя гародчыкі, прышле ім гасцінца — насенне розных кветачак».

Артыкул жа «Наша народная беларуская песня» — гэта як бы міні-даследаванне гэтага жанру вусна-паэтычнай творчасці, хоць у канцы яго была змешчана прыпіска ад рэдакцыі: «Песень усіх, купальскіх, жніўных, валачобных, у каторых шмат адбілася гумару беларускага народа, дзеля недахвату мейсца гэтым разам не ўжываем, ад чаго наша праца выйшла крыху аднастаронна». Але, хутчэй за ўсё, гэтая прыпіска зроблена самой Цёткай, якая паставілася да напісанага ў чымсьці завельмі самакрытычна. У сапраўднасці зрабіла многае. Гэтым артыкулам Цётка засведчыла, які вялікі духоўны і асветны патэнцыял у згаданага фальклорнага жанру: «Сэрцу нашаму песня дае пацеху, а дзеткам, слухаючы яе, — жывую навуку». Навука гэтая мае пад сабой яшчэ і хрысціянскую аснову. Дзякуючы песні можна даведацца, што за чалавек быў той, хто адышоў у вечнасць:

«[...] такому сэрцу, каторае не вытрымала болю і пэнкла, як крышталёвая чара, перапоўненая святым бальзамам, наш народ ахвяраваў несмяртэльны памятнік-песню, з каторага мы, унукі, а мо, і праўнукі ці нават далей — праправнукі, даведаемся аб дарагім чалавеку, каторы ўтапіўся — як? чаго? — аб гэтым песня маўчыць, мо ратаваў свайго бліжняга? Адно пэўна, што сам рук на сябе не налажыў, бо ў такім выпадку не пахавалі б чалавека на свянцоным мейсцы…»

Друкаваліся ў «Лучынцы», зразумела, не толькі сама Цётка, а і Янка Купала, Якуб Колас, Канстанцыя Буйло, Цішка Гартны, Ядвігін Ш., Янка Журба і іншыя аўтары. Змяшчаліся артыкулы пра народную песню (і самі творы таксама), пра святы, расказвалася пра беларускія нацыянальныя гульні.

Не была абыдзена і гісторыка-культурная тэматыка. Пра даўнія замкі на беларускай зямлі Уладзіслаў Галубок расказваў у нарысе «Сляды старыны». Пра станаўленне беларускай народнасці і дзяржавы разважаў Вацлаў Ластоўскі («Якога мы роду-племені»).

У планах жа Цёткі выспявала жаданне пашырэння аўтарскага актыву. Прынамсі, падахвочвала да супрацоўніцтва пецярбургскіх студэнтаў-беларусаў, якім паслала так ліст:

«Дарагія-браткі!

Беларусы-студэнты!

Вам пашчаслівілася: вы ўжо аж у універсітэце вучыцеся. Але вашы браты, дзе каторыя мо родныя вам, асталіся ў вёсцы, там яны працуюць ад світання да змяркання, а ім жа ж таксама хочацца, як і вам, шмат чаго ведаць, пазнаць. Ось для гэткіх-то працаўнікоў на нашай роднай зямельцы цяпер выходзіць «Лучынка»

(месячнік). Браткі-студэнты! Не маеце права атрасці рукі ад працы ў «Лучынцы», на вашым сумленні будзе ляжаць найбольшая часць сораму, калі «Лучынка» будзе дрэнна свяціць вашым братам і сёстрам у вёсцы беларускай, што для вас хлеб сеюць і жнуць.

Вы, можа, будзеце рагатаць, чытаючы маё казанне. Смейцеся, затое кажу шчырую праўду і веру, што знойдуцца такія між вамі, што будуць працаваць для «Лучынкі».

З пашанай да вас усіх, цісну рукі. Цётка — старожка запаленай «Лучынкі».

Звяртаючыся ў адным з лістоў да Браніслава Тарашкевіча, яна прапаноўвала яму напісаць артыкул пра асаблівасці беларускай мовы. Падказвала:

«Студэнтам-жэўжыкам дай тэмы:

Пінскія балоты і іх асушка.

Гісторыя балот.

Пяскі Гродзенскай губерні і занос пяскамі штораз большых абшараў».

Тэмы, якія называла яна, сыпаліся быццам з рога: «Зацьменне сонца. Сонца, месяц...»

Сама ж Цётка стала, па сутнасці, першапраходцам беларускай навукова-папулярнай літаратуры, выступіўшы з «Гутаркамі аб птушках», артыкуламі «Пералётныя птушкі», «Газа». Цікавілі яе і сусветныя навуковыя адкрыцці, аб чым, у прыватнасці, сведчыць артыкул «Радый».

«Лучынка» стала першым літаратурным і навукова-папулярным беларускім выданнем. Адначасова гэта быў першы на Беларусі маладзёжны часопіс, які для свайго часу няблага ілюстраваўся. Шкада толькі, што выйшла ўсяго шэсць нумароў.

### Талентам шмат дадзена

Цётка — і адзін з пачынальнікаў беларускай прозы. У гэтай творчай галіне яна дэбютавала апавяданнем «Прысяга над крывавымі разорамі». Галоўны герой гэтага алегарычнага твора — стары Мацей. Ён — бацька трох сыноў: «аднаго ўзялі ў маскалі, другі паехаў да Пецярбурга шукаць хлеба, трэці пайшоў за парабка да двара, а бедны Мацей з жонкаю і дзвюма малодшымі дзяўчатамі астаўся ў хаце на сваёй гаспадарцы».

Нялёгкае ягонае жыццё:

«Бедната, адзіноцтва, сілы ўжо не тыя, — а рабі і рабі, працуй без канца... Мардасовічу — за лён, Бізуноўскаму — за пашу, а там і за бульбу плужы і плужы штодзень на адработках, так што сваё, хоць і вузка, але і то лында, і то няхват часу ў пару засеяць. Вось і цяпер — суседзі ўжо даўно пасеялі і пабаразнілі, а Мацей толькі першы дзень выйшаў на сваё і то быў хворы».

Не мог не пакарыстацца падобнай мажлівасцю, хоць і адчуваў сябе вельмі блага:«[...] перамагаючы сябе, насыпаў жыта ў фартух, напляваў у жменю, чарпануў зярнят і са словамі «радзі, Божа» сыпануў зерне на чорную глебу.

Зярняты замільгацелі на раллі. А Мацей стаяў з пасалавеўшымі вачыма і шаптаў: «Не магу... Надта ж галава баліць і сон морыць...» І, не ўкладваючыся і не пасцілаючыся, ён, як стаяў, так і лёг і заснуў…»

Шмат такіх Мацеяў было на зямлі беларускай! Ён — адзін з тысяч тых, хто даведзены да адчаю, знаходзіцца па сутнасці на мяжы жыцця і смерці. Таму, несумненна, герой апавядання «Прысяга над крывавымі разорамі» ўспрымаецца вобразам-сімвалам народа, а калі канкрэтней, то беларускага сялянства:

«Спаў, як пласт, упоперак загона з раскінутымі рукамі. Ліцо было бледна, губы чорны ад смагі, дыхаў ён часта і з якімсь хрыпам. Здалёк выглядаў на чалавека, каторага вот-вот раскрыжавалі і прыбілі да зямлі, і так ён паволі канае...»

Але Цётка была не з тых, хто ставіўся да ўсяго песімістычна. Яна здатна была ўбачыць у гэтай беспрасветнасці і прамень святла. Святло гэтае ўвасабляла будучыню. Аднак такую, якая не сама наступіць. Яна прыйдзе толькі тады, калі ўсім разам змагацца за яе:

«Сніў ён (Мацей. — *Ю. Б.*), што сабалася моц народу на яго ніве: былі там і маладыя, і старыя, і мужчыны, і кабеты, і дзеці — у розных апратках, і ўсе крычалі:

— Вузка! Цесна! Мала!»

Мацей не застаецца староннім назіральнікам. Яму «здавалася, што і ён сам стаіць пасярод гэтага народу, і што ўсе чакаюць, што і ён сам, Мацей, скажаць, і што вот-вот к яго сэрцу падыходзіць нейкі жаль, і што ён таксама пачынае крычаць: «Вузка! Цесна! Мала!»

Як быццам, усе разумеюць адзін аднаго. Ды, аказваецца, гэта не так. З натоўпу, Мацею «здаецца, выбягае сусед Астап, заціснуўшы кулакі, і крычыць яшчэ мацней ад Мацея: «А скуль узяць? Скуль дастаць? Кажы, скуль?» Здавалася б, на гэтае пытанне і мусіць адказваць Мацей. Толькі не ён адказвае:

«Тады захістаўся народ і зароў:

— Глядзіце, во прасторы! Во нівы, лясы, палі! Усё гэта наша!..

А Астап:

— Лжэце! Няпраўда! Не дадуць: то казённае, дворнае, — ні я, ні вы не маем права. Не дадуць, паб'юць!»

Відавочна, што Астап належаў да той кагорты народа, якая змірылася са сваім незайздросным становішчам, няздатная была да супраціўлення. Яе неабходна было абудзіць. Такую задачу і ставіла перад сабой Цётка. Яна верыла ў сілу народа. Аднак была ўпэўнена, што перамагчы можна толькі тады, калі выступіць супраць царызму агульнымі сіламі:

«Вось далей здаецца Мацею, што з цьмы народу выходзяць яго тры сыны: парабак дворны, салдат і работнік пецярбургскі і становяцца на калені і прысягаюць громка, ясна, паволі:

— Мы дамо! Мы — сіла! Мы — Права!»

Апавяданне «Прысяга над крывавымі разорамі» — драматычнае па сваім змесце. Як драматычныя і іншыя творы гэтага жанру. Прынамсі, у апавяданні «Зялёнка» раскрыты лёс хворай на сухоты курсісткі. Сябры, як могуць, падтрымліваюць яе. Адзін з іх на апошнія свае грошы купляе Зялёнцы білет на канцэрт славутага скрыпача-віртуоза. Слухае яго Зялёнка, і міжволі ў яе свядомасці з'яўляецца вобраз мора: «Божа, якая ты страшная творчасць! Роўна вогненна мора падыходзіць з усіх старон да апутанага табою чалавека. Бяссмертная слава такому плачу, што не згіне ў тваіх тонах!» Думаецца, пераклічка з вершам «Мора» тут невыпадковая. «Вогненна мора» рэвалюцыі — тая стыхія, якую ніішто не можа спыніць. І яшчэ адзін вобраз, што мае дачыненне да тых, хто змагаўся не на жыццё, а на смерць за светлыя ідэалы — галоўкі чырвоных руж. Яны як увасабленне загінулых. Зялёнка, праўда, не была ў шэрагах барацьбітоў. Смерць напаткоўвае яе ў час канцэрта. Ды ў творы ўсё адно з'яўляецца асацыяцыя з чырвонымі ружамі: «[...] здаецца Зялёнцы, што адплывае з залай кудысь углыб, а чырвоныя кветкі сыплюцца ёй пад ногі (кроў з рота бухае). Зялёнка нагінаецца адну з іх падняць. [...] Зялёнка ўзмахвае рукамі і падае».

Гісторыя кароткага жыцця і смерці сіраты пададзена ў апавяданні «Міхаська». Гэта яшчэ адна старонaчка сіроцтва, бяздольнага маленства. З цяжкасцю Міхаська прыйшоў на гэты свет: «Тры дні радзіўся». Непрыгожы быў: «[...] насок з добрую бульбачку, барада — брылем закручана, праз усенек левы тварычак чырвоная пляма радзімая. Адно вочка глядзіць у правы бок, другое — у левы». «Міхася-сірату запхнулі ў запечак, так ён там і рос, не маракуючы, як тое дзікае зеллечка пад абваліўшымся тынам».

На дзіва жыва перадае Цётка той свет, які такі непрыхільны, нячулы ў дачыненні да хлапчука, пазбаўленага мацярынскай ласкі. Паказвае, як Міхаська, нягледзячы на згрызоты лёсу, хацеў дабра, ласкі, спагады! Ды не атрымліваў іх:

«Міхась пачаў лавіць сонейка за косы, а тое з прыпечка — гоп, ды за дзверы. Міхалюк у адной сарочцы ўдагонку на падворак: пазаполткамі ляціць, цешыцца, смяецца. Ажно скуль ні вырвецца воспа: ідзе брыдзе, пад нос бармоча; спаткаўшы Міхася, аж заіржала з радасці паганка.

— А мой ты сякі, а мой ты такі, — кінулася да Міхася цалаваць, абдымаць...

— Адхініся, лупатая! — чуць не ўдарыў яе Міхась, ды лататы ў хату».

Так і жыве ён у адзіноце, нікому не патрэбны і па сутнасці ўсімі забыты. Адзіная блізкая ў Міхаські істота — жораў, якога ён, падстрэленага, выратаваў, не даў пастухам забіць.

Нядоўгім было Міхаськава жыццё. Паміраючы ад воспы, ён просіць мачыху, каб прынесла яго любімую птушку. Завяршэнне апавяданне элегічнае, з элементамі балады ці легенды:

«Цяпер могілкі параслі ўжо дзёрнам, і там зялёна кругом. Як вокам сцяць — густы лес шуміць. На магілцы Міхася крынічка стаіць, і завецца яна Жураўліныя слёзы.

Асенні вецер гудзе, казку сумна нясе.

Жоўты ліст сцелецца зямлёю і ціха-ціха на задушкі ў цёмную ночку шэпчацца з крынічкі вадою. Я падслухала гоман той пажоўклага лісця з крынічкі з чыстай вадой і цяпер вяду сказ, як калісьці жыў Міхась у запечку нашых хат — беларус малы, брат».

Што галоўны герой быў акурат беларусам, падкрэслена нездарма. Што б ні пісала Цётка, яна рабіла гэта менавіта з думкай пра БЕЛАРУСА. Гэта тычылася яе літаратурных герояў рознага ўзросту, таму дзеці не з’яўляліся выключэнне.

Моцнае сваім псіхалагізмам апавяданне «Асеннія лісты». Такая назва ў твора з’явілася невыпадкова: галоўныя героі яго два вясковыя старыя Сцяпан і Сымон чымсьці падобныя на пажаўцелую і высахшую лістоту дрэў. Шмат пражыта імі, але куды болей перажыта. Таму, спаткаўшыся, і прыгадваюць яны тое, што бачылі на сваім вяку. На жаль, шчасця ў іхнім жыцці было мала. Асабліва пакутны лёс у Сцяпана. Дый, бадай, менавіта такі лёс яму быў загадзя прадвызначаны. Хлопчык нарадзіўся з радзімым знакам у форме крыжа на правай лапатцы. Таму і давялося яму несці своеасаблівы крыж нягод і пакутаў. Зведаў астрог, пакалечыўся. Перажыў усіх сваіх дзяцей і, як вынік, — адзінота. Сымона страта блізкіх, праўда, мінула. Але ён наўрад ці можа лічыць сябе шчаслівым:

«А вазьмі хоць мяне: і жонка жыве, і дзяцей маю, і не калека. А дабра, што плюнуць. Палын кіпіць у грудзі, гаркаценне цераз берагі ... — паказвае на сэрца. — Выгналі бацьку на старасць — і жабруе. Ох, рэчкі павысыхалі. А што зробіш? Мусіць, там было так напісана... — Глядзіць, як гусак, адным вокам у неба».

Гэта з разваг Сымона і нарадзілася гэтая, а не іншая назва апавядання: «А мы з табою, Сцяпане, праўду сказаць, асеннія лісты, патрасе шчэ крыху намі, патрасе і адпадзём!» На завяршэнні твора голас самой пісьменніцы як бы дапаўняе, сказанае Сымонам, але разам з тым — гэта іх зварот да «Асенніх лістоў»:

«Асенняе неба і хмарна, і зімна ... не адкажа вам, пажоўклыя лісточкі.

Вецер толькі закалыша і знікне. Адзін звон мо па вас заплача шчыра, а зямлямаці прытуліць спрацаваныя косці. Елка або бяроза пусціць карэнне ў вашы збалелыя сэрцы, выцягне з іх усю горыч і вынясе ў вясёлай зелені суровага свету... канец мукі».

Празаічная спадчына Цёткі сведчыць і пра тое, што яна мела і добрае пачуццё гумару. Само па сабе гэта ўхвальна, бо такой якасцю валодаюць далёка не ўсе і празаікі-мужчыны. А тут прадстаўніца «слабага» полу. Ды каму талентам шмат дадзена, той на многае і здатны. Як у апавяданні «Зваротлівы».

Твор напісаны ад першай асобы. Галоўны герой яго, стары халасцяк, сам расказвае пра сваё жыццё-быццё, робячы гэта з непрыхаванай іроніяй. Але, калі

разабрацца, то іначай і нельга, бо такі ўжо характар мае. Дый ягоныя прынцыпы гэткія, што надта ж несур’ёзна ён да ўсяго ставіцца. А ўсялякага ў яго бывала:

«Быў на возе, пад возам, упапярок, уздоўж, насіў лапці, боты, гамашы, апоркі, а цяпер — дык у шнураваных, на фасон бабскіх, чаравіках скрыпаю. Нічога не парадзіш, людцы добрыя, — такая мода выйшла.

Калісьці-то круціўся фельчарам — нікога не вылечыў, наняўся вучыцелем — нікога не навучыў, папаў у стражнікі — нікога не арыштаваў, начальства знецярплівілася, дало воўчы білет і адправіла».

У гэткай іранічнай-жартаўлівай манеры паведамляе ён і пра тое, адкуль родам:

«Ось і цяпер можаце спытаць, адкуль я родам, а мне ўсё роўна, што суседзяў папарыць устыдам. Ну, але хай ужо будзе так: з-пад Менска я, з-пад Менска! але!.. калі птушачкай ляцець да роднай вёскі, то тры мінуты, калі канём ехаць, то паўдня, цвярозы чалавек за адзін дзень зойдзе, а п’яны за тры не дакоціцца. Больш нічога! Хоць адцугамі за язык рвіце».

Ды толькі зусім не Менск прывабіў яго, а Бярдзічаў:

«[...] дзесяты год ужо ў ім паную — значыць бутэлькі мыю. Мілая работа! Адно толькі: смруд ад гэтай праклятай гары! Дзіўна мне, як яе людзі галгочуць? Мне ад аднаго толькі яе паху нос распух, пачырванеў і ківаецца, як спелая грушка».

Дайшло да таго, што, калі мяняў пашпарт, дык «у прыметы ўпісалі: «Вялікі нос». Як ні стараўся даказаць, «мой нос малюсенькі, дзюбаценькі, гэта толькі часовая штука: распух, бо пры такой рабоце стаю, а кіну работу, нос адыдзе, бульбінкай асядзе, дык яшчэ арыштуюць, што пад чужы пашпарт падшываюся», нічога не дало.

Апавяданне «Зваротлівы» чытаць адно задавальненне. У творы ўсё дасканала: валоданне словам, уменне пaступова выразней і выразней вымалёўваць характар гэтага персанажа, які называе сябе то Грышкам, то Хвядосам. Нарэшце, вытрыманы адзін і той жа стыль аповеду, а гэта таксама ўзмацняе эфект уздзеяння на чытача. Дый завяршэнне апавядання зроблена на належным мастакоўскім узроўні. Галоўны герой, узяўшыся наведаць у Менску кума-лесніка, якога не бачыў дзесяць гадоў, вырашыў сэканоміць: яму «знаёмы унтэр білет салдацкі купіў». Толькі не пашанцавала: на адной са станцый кандуктары высадзілі яго: «[…] якраз на паўдарозе: направа — Менск, налева — Бярдзічаў, ні туды, ні сюды».

Жаданне так падрабязна спыніцца на апавяданні «Зваротлівы» з’явілася невыпадкова. Яно не толькі высокай мастацкай якасці, але адначасова прыкметнае і тым, што, па сутнасці, стаіць ля вытокаў у беларускай літаратуры гумарыстычна-сатырычнага жанру. Відавочна, што ў гэтым жанры Цётка таксама стала адным з першапраходцаў.

Дасціпна паказана і становішча ў вёсцы пасля рэвалюцыі 1905 года («Навагодні ліст»). У гэтым творы ўдала імітуецца стыль звароту непісьменных карэспандэнтаў-сялян.

## Свая сярод сваіх

Цётка належала да тых людзей, якіх стае на шмат якія добрыя справы. Прывабіў яе да сябе і тэатр. Як адбылося далучэнне Алаізы Сцяпанаўны да гэтага віду мастацтва, відаць са згадак Лідзіі Арабей — аўтара навуковай працы «Цётка (Алаіза Пашкевіч)» і аповесцей пра яе жыццё і творчасць «На струнах буры» і «Стану песняй». Л. Арабей, адштурхоўваючыся ад успамінаў пра Цётку колішняй вучаніцы віленскага Марыінскага вышэйшага жаночага вучылішча Аляксандры Зотавай-Рамановіч, сведчыць:

«У 1908 годзе яна (Цётка. — *Ю. Б.*) убачыла на сцэне Кракаўскага тэатра ігру выдатнай польскай актрысы Сольскай. Ігра так захапіла паэтэсу, што яна пачала бясконца марыць пра тэатр і, вядома, пра тэатр для беларусаў, якога яны зусім тады не мелі».

Каб ажыццявіць задуманае, «Цётка паступіла ў драматычную студыю Сольскай, каб там спасцігнуць таямніцы тэатральнага мастацтва, навучыцца акцёрскаму майстэрству і ўсё гэта завесці на радзіму». Сваімі планамі падзялілася з рэдакцыяй «Нашай нівы». Адтуль атрымала ўхвальны адказ: «Аўстрыя, Кракаў. Цётцы. Набірайцеся здароўя і сілы, каб хутчэй арганізаваць беларускі тэатр».

Але, пакуль знаходзілася за мяжой, у гэтым жа накірунку пачаў працаваць Ігнат Буйніцкі, якога многія справядліва лічаць бацькам беларускага тэатра. Менавіта І. Буйніцкі — акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч — вывеў наш нацыянальны тэатр на прафесійную аснову. Меў дачыненне да гэтага і вядомы дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху Алесь Бурбіс. У яго з Цёткай былі настолькі цесныя стасункі, што А. Бурбіса часта называлі нават яе ад'ютантам.

Паплечнікамі яны былі не толькі па рэвалюцыйнай барацьбе. Разам удзельнічалі і ў пастаноўках трупы І. Буйніцкага. У час выступленняў перад сялянамі А. Бурбіс быў дэкламатарам твораў Цёткі. Сама яна з групай артыстаў трупы І. Буйніцкага выязджала ў ягоны маёнтак Палівачы, цяпер вёска ў Глыбоцкім раёне, для падрыхтоўкі праграмы выступленняў.

Прыняла Цётка ўдзел і ў вечарынцы, якую ладзілі пецярбургскія беларусы 19 лютага (па ст. ст.) 1910 года. Пра яе сама і расказала (за подпісам Мацей Крапіўка) у дзясятым нумары «Нашай нівы» за той жа год у карэспандэнцыі «Беларуская вечарынка ў Пецярбургу». Гэта паведамленне цікавае і тым, што дае ўяўленне пра тое, як сталічныя беларусы, адарваныя ад Бацькаўшчыны, імкнуліся захаваць усё тое, што сведчыць аб нацыянальным каларыце: «[...]» кожны нёс, што меў, на першае беларускае ігрышча: хто паясок з Магілёўшчыны, хто світку з Віцебшчыны, хто сарочкі з Гродзеншчыны, — і гэтак прыадзеліся. І дзіўна было, і радасна, што блізка з кожнага куточка Беларусь прыслала свайго сына з дарам. Праўда, у дарах гэтых многа было латаў, дзір, дзёгцю, але столькі сэрца, столькі ахвотнасці, а нават і смеху! Напрыклад, прыходзіць перад ігрышчам старэнькі шавец і прыносіць шапку з паломленым брыльком ды капшук да тытуню. Усе смяюцца і кажуць: «Дзядзьку, мог бы нам боты прынесці?» — «Не маю, — кажа, — што Бог даў, тое аддаю. Васемнаццаць гадоў, як стуль... А што будзе, пэўне, надта смехатлівае прадстаўленне папросту?» — І круціць галавой старэнькі, не верачы, што пекна выйдзе».

Як гэта «пекна выйшла» і расказвалася далей у карэспандэнцыі: «Насамперад пайшла камедыя Крапіўніцкага «Па рэвізіі»». Потым хор з 65 чалавек выканаў некалькі народных песняў. Пасля гэтага Цётка прачытала свае вершы «Мае думкі» і «Грайка», а таксама верш Альберта Паўловіча «Родны край». Вечарына працягвалася:

«Далей пекна ігралі на віяланчэлі, на скрыпцы, — ізноў была дэкламацыя, і песні, а закончыўся канцэрт беларускімі народнымі танцамі. Добра скакалі «Юрку», «Лявоніху», «Качара»».

Сваёй была Цётка і на іншых беларускіх мерапрыемствах, якія ладзіліся ў сталіцы Расійскай імперыі. Увогуле, заўсёды знаходзілася ў цэнтры культурна-адраджэнцкага жыцця, сябравала з многімі яго ўдзельнікамі, пісьменнікамі.

Па ўспамінах жонкі Янкі Купалы Уладзіславы Луцэвіч, «асабліва яна дружыла з Янкам Купалам. Дружба Цёткі з Янкам Купалам пачалася яшчэ задоўга да іх афіцыйнага знаёмства: […] Ён пасылаў ёй з Пецярбурга ў Львоў амаль усе свае новыя вершы. І Цётка, як яна сама расказвала, знаёмячы львоўскіх украінцаў і палякаў з беларускай літаратурай, заўсёды адводзіла віднае месца Купалу.

Цётка з нейкай сардэчнай цеплынёй і чуласцю адносілася да Янкі Купалы, кожны новы яго верш успрымала як вялікую падзею. Яна не раз казала сваім сябрам: «Не ведаю, чаму я так люблю гэтага Купалу». Калі ў канцы 1912 года Янка Купала вярнуўся з Пецярбурга ў Вільню, яны здружыліся яшчэ мацней».

Сам народны пясняр таксама вельмі высока цаніў Цётку. Параўноўваў яе з бліскавіцай. Пра гэта ад Купалы некалі пачуў Максім Лужанін, калі наведаўся да Івана Дамінікавіча са сваім сябрам:

«Раптам Купала смутнее і выпростваецца. Перад вачыма картка, з яе ўсміхаецца малады жаночы твар пад саламяным капялюшыкам, абапал яго, як на ветры, разлятаюцца стужкі. [...] Мы паспяваем заўважыць, што выраз вачэй у жанчыны не пасуе да ўсмешкі, а яшчэ больш да тых, крыху легкаважных, стужак на капялюшыку. Задуменне і смутак дыхаюць з яе вачэй, адчуваецца ў іх настойлівая, трывожная рупнасць.

— Акравак маланкі! — кажа Купала і, убачыўшы на нашых тварах, што не пазнаем, бо проста не ведаем, хто гэта, дадае: — Цётка!»

Максім Лужанін удакладняў:

«Як бы там ні было, параўнанне з бліскавіцай у вялікага паэта трапнае і дакладнае, калі не сказаць вычарпальнае. Сапраўды, Цётка — з'ява паэтычная і грамадская — маланка. Кароткае, вельмі кароткае жыццё. Але якое поўнае. І менавіта поўнае агню, прагі гарэць і асвятляць народу шляхі да вызвалення».

## Сорак гадоў і вечнасць

З 1915 года Цётка працавала ў Вільні ў ваенным шпіталі сястрой міласэрнасці. Не забылася і пра рэвалюцыйную дзейнасць. Дапамагла сваім віленскім сябрам арганізаваць рабочы клуб, а калі ён быў створаны, часта выступала ў ім з прамовамі-заклікамі, чытала свае вершы. У пачатку студзеня наступнага года яна даведалася, што захварэў бацька. На Лідчыне, як і ў іншых месцах, лютавала эпідэмія тыфу. Бацька Цёткі тады знаходзіўся ў Лідзе. На жаль, у жывых яна яго ўжо не заспела.

Пахаваўшы блізкага чалавека, паехала ў Стары Двор. Ратавала землякоў, як магла, пра ўласную бяспеку не думаючы. Не ўсцераглася, захварэла. Незадоўга да смерці паўтарыла сваю просьбу, пра якую гаварыла не аднойчы: пахаваць менавіта на радзіме, каля саду, там дзе пралягае шлях. Прамовіўшы гэта, страціла прытомнасць. Па словах Л. Арабей, «запрасілі з Васілішак доктара — немца, але ён не ўмеў лячыць тыфу і нічым не дапамог. Шукаць іншага лекара было немагчыма — завеі, маразы, да Вільні не дабярэшся, ды было ўжо гэта, мусіць, і запознена». Жыццё Цёткі абарвалася ў ноч з 4 на 5 (з 16 на 17) лютага 1916 года. Пахавалі яе там, дзе яна і прасіла.

У сваім апошнім лісце са Швецыі, адрасаваным Браніславу Эпімах-Шыпілу, быццам прадчувала сваю блізкую смерць:

«Усяго найлепшага пасылаю з Goteborga. У дарозе вельмі дрэнна вядзецца, маю бабу-таварку муж адзывае дахаты, змаркоціўся, каб яго маланка. Мусіць, адна пайду па Нарвегіі. Як згіну — не шкадуйце».

Ды яе нельга было не шкадаваць. Па Цётцы плакалі не толькі землякі ў Старым Двары, якіх яе добра ведалі. Плакалі па ёй і сябры ў Вільні, Пецярбургу, куды вестка аб смерці выдатнай пісьменніцы і актыўнай рэвалюцыянеркі, грамадскага дзеяча дайшла са спазненнем. Плакалі і ўспаміналі добрым словам.

Аб тым, як шмат зрабіла Цётка дзеля нацыянальнага адраджэння засведчыў некралог, што быў змешчаны ў газеце «Гоман» за 15 лютага 1916 года. Аўтарам яго быў адзін Антон Луцкевіч. У пачатку некралога гаварылася:

«Яе жыццё — то была безупынная праца для свайго народа. Праца, каторая ёй не магла даць ніякой карысці, апрача пачуцця споўненай павіннасці: бо яе родны народ, што ўсю душу яе забраў у палон, бедны і цёмны, скрыўджаны Богам і людзьмі, не меў чым ёй аддзякаваць.

І не для падзякі, не дзеля славы працавала яна: усе свае сілы аддала на служэнне святой ідэі адраджэння беларускага народа, бо гэтая ідэя запанавала ў яе душы, захапіла яе думкі, яе сэрца».

Завяршалася гэтае слова-развітанне такімі радкамі:

«Спі спакойна, шчырая работніца, пад белым пластом снегавым, што спавіў нашу зямліцу: прыгрэе сонейка яснае, скіне зямля путы з лёду, зарунеюць зноў

змярцвеўшыя палі, — і ўзыдуць, і закрасуюць у душах людзей зярняты, што кідала ты сваёю рукой. А ў светлы момант, калі настане для твайго ўмілаванага народа новае, лепшае жыццё, — ты ўваскрэснеш у памяці людской, як успамін аб вялікай ахвяры — самай поўнай, якую чалавек можа злажыць на алтар ідэі».

* * *

Нядоўгім быў жыццёвы шлях Цёткі. Толькі сорак гадоў яна пражыла. У літаратуры працавала і таго меней: усяго дванаццаць гадоў. Таму і мастакоўская спадчына яе не такая і вялікая, умяшчаецца ў невялікі том. Аднак гэта не толькі каля чатырох дзясяткаў вершаў, а і проза, творы для дзяцей, публіцыстыка, навукова-пазнавальныя артыкулы. Лепшае з напісанага ёю, безумоўна, застанецца назаўсёды ў залатым фондзе гісторыі беларускай літаратуры. Але Цётка-творца неаддзельная і ад Цёткі-рэвалюцыянеркі, грамадскага дзяяча. Нарэшце, што асабліва важна, яна была адной з першых нацыянальных пісьменнікаў (сярод жа літаратараў жанчын увогуле першай), хто на поўны голас заявіў аб праве беларусаў, кажучы словамі Янкі Купалы, «людзьмі звацца», а таксама — зноў жа не абысціся без сведчання незабыўнага Купалы — заняць годны пасад між народамі. Жывучы сціпла дый працуючы ў літаратуры сціпла, яна, тым не менш, ведала сабе цану, таму і мела маральнае права сказаць у вершы «На магіле»:

На магіле ўзыду дубам,
Пачну шаптаць братнім губам
Аб іх долі, аб свабодзе,
Стану песняй у народзе!

Важкі сэнс набывае і такая думка, якую А. Лойка звёў да наступнага:

«З часоў К. Каліноўскага «дзецюкі» стала словам-зваротам да сяброў, аднадумцаў, таварышаў-пабрацімаў па барацьбе. Пасля ж Цёткі слова «цётка» стала ў Беларусі не толькі абазначэннем сваяцкіх сувязей ці міфалагічнай багіні ўраджаю, але і грамадзянска-ўзнёслым словам. Гэтым сваім псеўданімам паэтэса паставіла сябе сярод народных мас Беларусі, з ім ішла ў народ, становячыся народнай».

Сёння Цётка з’яўляецца і роднай цёткай кожнаму беларусу. Гэта сама рэальнасць. Як ні згадаць яшчэ раз Максіма Лужаніна: «І прозвішча ж выбрала сабе ўдалае! Каб лёгка вымавілася, запомнілася адразу, усім прыпала да сэрца, як, скажам, Купала і Колас. Вось хто табе яна, дружа-сучаснік, — цётка! Родная сястра твайго бацькі або маці».

Не ведаючы жыцця Цёткі, не ведаючы яе творчасці, не магчыма ўспрымаць сябе свядомым грамадзянінам сваёй краіны, назва якой — Рэспубліка Беларусь. Як і нельга блізка да сэрца, усёй душой не ўспрымаць радкі, якія яна лічыла крэдам сапраўднай літаратуры, плоць ад плоці свайго народа, самым цесным чынам звязанай з ягоным жыццём:

Прыгарнуць усё ў дарозе,
Каплю шчасця, долі ўліць,
Думаць ўсюды аб народзе,
Родны край усюды сніць.

Канешне, яна, як і кожны творца, перш-наперш належыць часу, у якім жыла. Аднак, як і любы творца маштабнага характару, знаходзіцца па-за гэтым часам. Смела можна сказаць, што Цётка і наша сучасніца. Але адначасова творчасцю сваёй яна скіравана і ў дзень заўтрашні, у будучыню, у якой, няма сумнення, будуць запатрабаваны яе творы. Сёння ж яны чытаюцца не толькі ў арыгінале. Лепшыя з іх перакладзены на рускую, украінскую, нямецкую, польскую і іншыя мовы.

**Уладзімір САЛАМАХА**

# ЗАЎСЁДЫ З ЛЮДЗЬМІ, АБО ШТО НАС ЯДНАЕ

Дзіўная, здавалася б, з'ява: першая кніга Зіновія Прыгодзіча «Постаці: з цэлым народам гутарку весці…» (пра яе я пісаў у часопісе «Полымя» № 4, 2015), знайшоўшы свайго чытача па ўсёй краіне, запатрабаваная ім, чамусьці не атрымала належнай крытыкі ні ў так званай свабоднай (ад чыіх грошай і чыйго кіраўніцтва?) прэсы, ні ў дзяржаўнай… Крытыкі не чыталі? І ў той жа час аўтар на яе, і нават я, на сваю рэцэнзію, атрымалі водгукі ад чытачоў і ад пісьменнікаў. Між іншым, не так ужо часта творцы захапляюцца створаным калегамі. Зрэшты, зразумела: вялікую, вельмі патрэбную ўсім нам справу задумаў Зіновій Кірылавіч шмат гадоў таму — выданне серыі кніг-дыялогаў са знакамітымі творчымі людзьмі краіны. Задумаў — і здзяйсняе яе з гонарам, як і належыць сапраўднаму пісьменніку і грамадзяніну…

Так, «Постаці…» — унікальнае выданне, якое мае вялікую выхаваўчую, адукацыйную, і нават вучэбную ролю для самай рознай катэгорыі чытачоў. Калі засяродзіцца на апошнім, дык яно сапраўды па праву з'яўляцца, як адзначалася, напрыклад, у невялікай прадмове Алеся Карлюкевіча да першай кнігі, маўляў, «варты ўвагі студэнтаў Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта самы сур'ёзны падручнік». Замоўчваецца? Хай будзе і так… Але гэта ніякім чынам не ўздзейнічае на вартасць ужо не адной, а дзвюх кніг З. Прыгодзіча: другая — «Постаці: сэрца мільёнаў падслухаць біцця…»*, і вось ужо выйшла трэцяя. Безумоўна, яна таксама будзе па-сапраўднаму ацэнена. Спадзяёмся, што будзе чацвёртая і пятая, і… — бо тых, з кім можна і трэба весці дыялогі пра наша жыццё, мінулае, сённяшняе і будучае, сапраўдных патрыётаў Айчыны ў нас безліч.

Больш таго, калі ўжо «зважаюць-незважаюць», дык у З. Прыгодзіча, у ягонай пачэснай і нялёгкай справе ёсць і маладзейшыя паслядоўнікі. Хто? Напрыклад, Мікола Чэмер, цудоўны паэт, даследчык літаратуры, публіцыст. У гэтым годзе ў «Бібліятэцы "Настаўніцкай газеты"» выйшла яго ўнікальная кніга інтэрв'ю, эсэ, нарысаў, партрэтаў можа быць і не з такімі ўжо знакамітымі ў сваёй большасці субяседнікамі, як субяседнікі З. Прыгодзіча, але таксама з цікавымі людзьмі, якія нямала чаго робяць на карысць нашага грамадства… Першыя водгукі на ягоную кнігу, якая называецца «Рэй», у друку ўжо ёсць, і даволі станоўчыя. Упэўнены, што кніга Міколы Чэмера таксама можа быць карыснай і для студэнтаў журфака.

Зноў згадаем Зіновія Прыгодзіча. У першай ягонай кнізе «Постаці...» былі гутаркі з 10-ю асобамі, знакамітымі дзеячамі нашай культуры: рэжысёр, кампазітары, мастакі, скульптар, пісьменнікі… У другой — таксама 10 постацей… Таксама творцаў розных галін культуры. У Міколы Чэмера — такіх ужо некалькі дзясяткаў. Праўда, у Чэмера — матэрыялы газетнага аб'ёму, але таксама па-свойму

---

* Зіновій Прыгодзіч. Постаці: Сэрцаў мільёнаў падслухаць біцця... (Мінск, Выдавецкі дом «Звязда», 2015).

грунтоўныя. У яго, можа, больш фактуры, чым разгорнутага роздуму, але тым не менш апавядальная плынь вельмі шырокая, аналітычная. Што пра Міколава майстэрства як публіцыста падаецца таксама важным, што М. Чэмер — пісьменнік, цікавы паэт, літаратурны даследчык — творца сярэдняга пакалення, звяртаецца да публіцыстыкі. Вядома, у юныя гады ён быў сведкам так званых перабудоўчых працэсаў у жыцці грамадства, помніць іх і ў такой сферы, як літаратура і мастацтва. А таксама важна, што ўжо ў новым нашым часе, калі вызначаліся нібыта новыя арыенціры ва ўсіх сферах быцця, ён вельмі дакладна акрэсліў не толькі асабіста для сябе, а і для свайго чытача, якім павінен быць творца, і на што павінна быць скіравана дзейнасць кожнага члена грамадства.

Што датычыць літаратуры, напрыклад, дык варта звярнуцца да яго інтэрв'ю з пісьменнікам Мікалаем Чаргінцом «Былых пісьменнікаў не бывае…». Дык вось, М. Чэмер, сын пісьменніка Міколы Гіля, пляменнік народнага паэта Ніла Гілевіча, выхаваны на высокай літаратуры, ведаючы яе сённяшні клопат, можа, як мала хто з творцаў яго пакалення, у адным са сваіх пытанняў цікавіцца: «…наогул, беларускі пісьменнік яшчэ пазмагаецца за сваё месца пад сонцам?»

Як бачым, пытанне няпростае. Нават канстатуючы сітуацыю, якая складваецца з літаратурай у некаторай часткі грамадства, і таго-сяго з чыноўнікаў, сярод якіх і тыя, хто лічыць, нібыта з пасадай чалавеку надаецца ўсё, чаго ён не набыў раней, у тым ліку ведаў, у даным выпадку, літаратуры, яе месца ў жыцці грамадства, у рэшце рэшт, у ідэалогіі дзяржавы. (Прадбачу, як некаторыя «прасунутыя» абурацца, прачытаўшы «ідэалогіі».) Так, ідэалогіі, бо дзяржавы без яе няма (звярніце ўвагу, напрыклад, якая ва ўсім ідэалогія некаторых нібыта ўжо вельмі дэмакратычных краін — ад абавязковых сваіх сімвалаў нават у пошленькім кінафільме, да нічым непрыкрытых выказванняў, скажам, аб іншых, як недачалавеках…)

Калі ўжо пра ідэалогію, дык у першай кнізе «Постацей...» Зіновія Прыгодзіча ідэалогія, скажам так, чалавечай дабрыні прачытваецца ў кожным ягоным дыялогу са знакамітымі людзьмі Айчыны. І ідэалогія гэтая своеасаблівая. Я назваў бы яе ідэалогіяй жыцця народа, яркімі прадстаўнікамі якога з'яўляюцца ўсе дзесяць ягоных субяседнікаў. Назаву ўсіх іх: Валерый Анісенка, Міхась Дрынеўскі, Марыя Захарэвіч, Леанід Захлеўны, Адам Мальдзіс, Іван Міско, Міхась Міцкевіч, Георгій Паплаўскі, Янка Сіпакоў, Анатоль Сульянаў. Гэта людзі, якія сваім талентам, сваёй мэтанакіраванай працай, дзейнасцю на карысць грамадству, краіне паказалі не толькі ўзоры прафесійных дасягненняў кожны ў сваёй галіне, але і тое, што дабрыня, чуласць да іншых, нават у многім самаахвярнасць, калі ў нейкіх абставінах забываецца сваё ўласнае, дзеля агульнага і з'яўляецца праявай ідэалогіі, той, народнай, ні на якіх паперах не ўзаконенай, якая ў многім і вызначае нас ад іншых народаў, і якая яднае з усімі тымі народамі, што жывуць з намі ў згодзе, і з якімі мы жывём разам.

Ніхто з суразмоўцаў З. Прыгодзіча ні на пачатку свайго творчага шляху, ні дасягнуўшы вышынь у прафесіі, атрымаўшы ўсенароднае прызнанне не выпінаў і не выпінае сябе сярод людзей, а годна, як і павінен кожны працаўнік, нёс і нясе сваё званне — быць чалавекам. Тут важна адзначыць, што быць чалавекам — менавіта з кожным…

Але як гэта цяжка ў паўсядзённым жыцці і як пачэсна!.. І на гэтым, скажу так, полі жыцця, калі трэба быць такім — перашкод процьма. Як нямала тых, незалежна ад роду дзейнасці, займаемых пасад, званняў, хто адкрыта, а хто па невуцтве, а хто і па зайздрасці перашкаджаюць такім людзям у іх паўсядзённай працы. Часам невукі спрабуюць адмятаць створанае іншымі, часам нават бяруць на сябе смеласць даваць свае адмоўныя ацэнкі цэлым галінам чалавечай дзейнасці, што ўжо само па сабе недапушчальна. І тут зноў не магу не звярнуцца да Міколы Чэмера, які задаў ужо згаданае пытанне пісьменніку Мікалаю Чаргінцу наконт «месца пад сонцам» беларускага пісьменніка, і поўнасцю працытую адказ. «Добра, што вы задалі гэтае пытанне… — кажа М. Чаргінец. — Бо вось не так

даўно ў адной паважанай газеце (газета мае права друкаваць розныя меркаванні, грамадства павінна ведаць, што ёсць і такое, і яна правільна зрабіла. — *У. С.*) адна вядомая асоба з нашага тэлебачання заявіла (пераказваю амаль даслоўна), маўляў, былі часы, калі лічылася, што паэт у нас больш чым паэт, але часы змяніліся, і ні ў адной краіне пісьменнікі ўжо не фарміруюць грамадскую свядомасць, на жаль, гэтая роля адышла да журналістаў, спартсменаў і артыстаў эстрады; пісьменнікі ж аддалі гэтую пазіцыю, азіраючыся на мінулае, настальгіруюць. Вось вам, калі ласка, меркаванне аднаго з галоўных ідэолагаў краіны, вось вам узровень… Не буду каменціраваць падобныя заявы (чуў бы Колас, Танк ці Быкаў гэтыя словы!), а проста скажу, што мы ў адрозненне ад такіх чыноўнікаў ад культуры маем іншую думку. І нават не таму, што мы самі пісьменнікі. А таму што па-чалавечы добра разумеем, што ні адзін эстрадны артыст і тым больш ні адзін чыноўнік з тэлекампаніі не заменіць пісьменніка для народа. Хочуць — няхай крыўдзяцца, а не хочуць — хай не крыўдзяцца, але яны людзі прышлыя: прыйшлі і сышлі. А сапраўдная высокая культура і дзяржаўная ідэалогія трымаюцца на пісьменніках. Пісьменніка ніколі не назавуць былым. Былых пісьменнікаў не бывае».

З майго боку было б нетактоўна нешта дадаваць да сказанага Мікалаем Іванавічам, старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі, сустаршынёй Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, старшынёй Рэспубліканскага грамадскага савета па маральнасці, членам Кансультацыйнага савета пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, урэшце, увогуле грамадскага і палітычнага дзеяча нашай дзяржавы. Але выказаць проста некаторае сваё меркаванне трэба… Так, пісьменнікі людзі, як і ўсе. І здольнасці ў іх розныя. Сярод тых, хто займаецца літаратурай, як і сярод тых, хто займаецца нейкай іншай справай, патрэбнай грамадству, ёсць надзвычай таленавітыя і проста ніякія. Такое жыццё, так было, ёсць і будзе. І даволі часта ў нейкі перыяд зусім не найбольш таленавітыя, як кажуць, на слыху. Тут задзейнічана, каб «на слыху», шмат фактараў: ад пасады, знаёмстваў, акружэння, групаўшчыны і г. д. да такога паняцця, як сумленне… А яно, як і талент, ёсць або няма… Хоць, як вядома, калі браць літаратуру, дык як кажуць, гэта між іншым, яскрава паказваюць кнігі «Постаці...» Зіновія Прыгодзіча: час усё расстаўляе на свае месцы, штучна створаныя ў нейкім прамежку куміры і кумірчыкі знікаюць, іх творыкі забываюцца, а на паверхню выходзяць творы, вартыя чытача. Гэтыя творы і вызначаюць літаратуру, як такую. І імёны іх аўтараў вядомыя. І што дзіўна, хоць гэта заканамерна: з часам знікаюць са старонак газет, ужо «не на слыху» імёны са штучна створаных абоймаў (зараз такія абоймы надта актывізаваны, прычыны вядомыя) застаюцца ж імёны тых, хто сапраўды нешта стварыў. А «временщики» яны і ёсць такія. І тут тысячу разоў справядлівы Мікалай Чаргінец, калі кажа пра часовых людзей на нейкіх пасадах і сапраўдных. І чыноўнікі, і палітыкі застаюцца ў памяці людзей, калі яны сапраўдныя працаўнікі і робяць і для сябе, і для іншых… Так што тут размова не толькі пра пісьменнікаў, як такіх, а пра нацыянальную літаратуру наогул… І не пра чыноўнікаў, якія проста займаюць нейкія пасады. Калі пра літаратуру, дык як — пра дух народа. Прыкладаў жа самаадданага служэння справе ў нас хапае. І я не супрацьпастаўляў бы наогул нідзе і ніколі людзей розных прафесій — і хлебароб, і ўрач, і бізнесмен, і спартсмен, і г. д. ажно да пісьменніка і палітыка толькі тады нечага варты, калі яго праца не толькі на сваю карысць, а на нашу агульную. (Пра гэта я ўжо гаварыў, рэцэнзуючы першую кнігу З. Прыгодзіча «Постаці...», але варта нагадаць і зараз.) А тое, што па розных прычынах іншы раз стараюцца прынізіць нашу літаратуру, дык што ж — здараецца… Кожны мае права на сваю думку. Хоць у гэтым на першы план выходзіць маральны аспект. Які?.. Ды, думаю, кожны чытач разумее які. Гэта яшчэ нічога… У нас здараецца і іншае: зневажаюць класікаў, і пры гэтым атрымліваюць нейкія прэміі. Канешне, свае, карпаратыўныя. Тым не менш, атрымліваецца, што гэта некім вітаецца і кіруецца, што не так ужо і бяскрыўдна.

Увогуле ж, тое, што ёсць сілы, якія спрабуюць мэтанакіравана «рэгуляваць» літпрацэсы, скіроўваючы на ўзбочыну творы, значныя для грамадства, бачна даўно. Напрыклад, некаторая так званая бягучая крытыка, і не толькі маладая, узяла за правіла замоўчваць многія імёны таленавітых пісьменнікаў старэйшых пакаленняў, якія адлюстроўваюць найбольш значныя падзеі жыцця народа, краіны, што раскрываюць сутнасць чалавечага жыцця. І наадварот, усяляк захвальвае «пісанні», што пазначаны адсутнасцю духоўнасці, непісьменнасцю, ідуць не тое што па-за жыццём, маюць разбуральную накіраванасць. Ствараецца наступная сітуацыя: мы не пішам пра сапраўдных мастакоў слова, пра іх творы, значыць, іх і няма. Затое ёсць наша так званая літаратура, ёсць нашы імёны, хоць па вялікім рахунку гэта ніякая не літаратура, а нейкія невыразныя патугі на яе, затое ёсць мы, тыя, што ва ўсіх на слыху, і няважна, чытаюць нас або не...

Калі ўжо так, калі ўжо спыніўся на інтэрв’ю Мікалая Чаргінца, якое ён даў М. Чэмеру, і ў якім зрабіў акцэнт пра ролю літаратуры ў жыцці грамадства, дык закрану і яго, Мікалая Іванавіча, асабістую літаратурную дзейнасць. Гэта пісьменнік, які стварыў шмат сапраўды значных твораў, што адлюстроўваюць жыццё грамадства ў розныя часы, які паказаў мужнасць нашага чалавека ў самых складаных абставінах, творы якога атрымліваюць тысячы, падкрэсліваю, тысячы пісьмаў з усіх куткоў некалі вялікай краіны СССР, перакладзеныя на дзясяткі моў свету, нашай крытыкай калі не замоўчваюцца, дык па-сапраўднаму не ацэнены. Сітуацыя больш чым дзіўная: чытачоў — тысячы, дзясяткі, а то і сотні тысяч, а крытыкі…

Канкрэтныя прыклады? Ды возьмем той жа раман «Сыны». Дзе і хто ў літаратуры наогул так шырокамаштабна паказаў падзеі Афганскай вайны, у якой прымалі ўдзел многія нашы суайчыннікі, сярод якіх больш як сем соцень загінулых?.. Дзе і ў якой літаратуры так яскрава паказана трагедыя той вайны, мужнасць нашага воіна, гора маці, наогул трагедыя часу? І дзе ў нашай крытыцы глыбокая аналітыка гэтага твора?..

Але мы толькі праз шмат гадоў пасля таго, як раман упершыню быў апублікаваны, пабачылі яго пераклад на беларускую мову, калі ён ужо чытаўся ў дзясятках краін, і то дзякуючы ўласнай ініцыятыве і намаганням крытыка, літаратуразнаўца і празаіка Алеся Марціновіча: твор надрукаваны ў «Полымі».

Або раман «Аперацыя «Кроў»… Праўда, пераклад на беларускую мову гэтага твора (дзякуючы таму ж А. Марціновічу) з’явіўся зноў жа ў «Полымі» неўзабаве пасля таго, як пабачыў свет на рускай мове, на якой піша аўтар, амаль паралельна з выхадам на шэрагу моў свету, а крытыка…

Мне пашчасціла быць рэдактарам беларускамоўнага варыянта рамана «Аперацыя «Кроў». Кажу пра сваё ўспрыняцце як чытача: твора такога маштабу па ўзнаўленні падзей, што адбываліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў акупаваным Мінску, знайсці цяжка. Але такія творы ёсць, толькі гэты бок вайны, які апісаны М. Чаргінцом — гета, што тварылася ў ім, яго, так бы мовіць, анатомія, яго пачварная прырода ў вядомай нам літаратуры паказана ўпершыню. І не толькі гета, а рэальныя падзеі выратавання нашымі змагарамі дзяцей лагера пад Мінскам, дзе фашысты знішчалі іх, беручы кроў для сваіх салдат…

І калі ўжо так, замоўчваем, дык адзін з апошніх штрышкоў: у артыкулах некаторых аўтараў, калі яны пішуць пра Вялікую Айчынную вайну, знікае гэтая пазнака: «Вялікая Айчынная», а ёсць проста: «нямецкая акупацыя». Выпадкова? Ды не, шаноўныя, у тым ліку і тыя, хто сёння не разглядае літаратуру, як неад’емную частку жыцця грамадства, і ўсяго, да чаго яна прызвана…

Мяне, калі кажу гэта, таксама вельмі здзіўляе, што «Постацей...», першая кніга якіх выйшла з друку ажно ў 2011 годзе, таксама для крытыкі быццам і не існуе.

Напісаў пра сваё ўражанне аб ёй нейкі Саламаха, атрымаў колькі водгукаў ад чытачоў ды пісьменнікаў, а што далей?.. Дзе наша «прасунутая» крытыка?.. У кнізе ж — людзі, якія без перабольшання з’яўляюцца прыкладам сама-

адданага служэння Айчыне, народу, краіне. Там жа прыклад для маладых, як можна і трэба (настойліва, мэтанакіравана, разам з людзьмі) ісці да сваёй мэты. Там жа — сапраўдная грамадзянская пазіцыя не толькі знакамітых субяседнікаў З. Прыгодзіча, не толькі і яго асабістая чалавечая і пісьменніцкая пазіцыя ў адносінах да ўсяго нашага, а пазіцыя нашых сучаснікаў розных пакаленняў. Зрэшты, пазіцыя нашых дзядоў, бацькоў, суседзяў, знаёмых і незнаёмых нам людзей…

Будзем спадзявацца, што названая крытыка ўсё яшчэ знаходзіцца пад ўражаннем ад 1-й кнігі «Постацей...», асэнсоўвае яе, збіраецца з думкамі. Мы ж пяройдзем да 2-й кнігі З. Прыгодзіча.

## Не разбураць, а ствараць

За гады так званай перабудовы, што, па меркаванні многіх даследчыкаў рэчаіснасці, стала чарговай прыступкай развіцця грамадства, з якой павінна была пачацца новая стваральная веха, адбылося шмат змен у нашым жыцці, нямала якіх былі накіраваны на разбурэнне тых норм і правіл паводзін чалавека ў грамадстве, што складваліся дзесяцігоддзямі, передаваліся з пакалення ў пакаленне і былі прывычнымі для пераважнай часткі нашых людзей. Напрыклад, ва ўсе часы непарушным было перакананне, што толькі праз сумленную мэтанакіраваную працу чалавек любой прафесіі можа дасягнуць поспехаў. Не выключэннем тут была і творчая праца, а можа, найперш яна, бо, скажам, яшчэ ў не такія і далёкія часы пісьменніку, каб заявіць пра сябе, трэба было не толькі тое-сёе ведаць пра жыццё, а і, валодаючы творчымі здольнасцямі, мець трывалыя спецыяльныя веды. Да ўсяго, у літасяроддзі адсутнічалі такія паняцці, як пратэкцыяналізм, або — «ты — мне, я — табе», і калі яны недзе з’яўляліся  — знаходзіліся майстры, якія ўсё гэта «перакрывалі». І разам з тым, як я ўжо не аднойчы пісаў, таленты падтрымліваліся вопытнымі калегамі, нават да такога ўзроўню, што нехта з вядомых, напрыклад, Міхась Лынькоў, Пімен Панчанка, а на маёй памяці і Уладзімір Дамашэвіч мог заявіць у выдавецтве, маўляў, надрукуйце замест мяне маладых, а я ўжо…

За пару дзесяцігоддзяў гэтыя ды іншыя прынцыпы ў многім змяніліся, нямала каму з маладых, і не толькі з іх, пастаянная праца над творам здаецца непатрэбнай, а «ты — мне, я — табе» бачна даволі выразна. Дзіўнага тут нічога няма, так нярэдка бывае ў жыцці, гэта бачна кожнаму і паступова ўспрымаецца як зразумелае…

Чаму я нагадаў пра гэта, чытаючы другую кнігу «Постацей...»? Ды таму, што ўсе без выключэння дзесяць яе герояў, субяседнікаў Зіновія Прыгодзіча, гаворачы пра тое, што дапамагло ім дасягнуць поспеху ў сваёй справе, называюць найперш мэтанакіраваную працу і тое, што ім заўсёды дапамагалі больш вопытныя калегі, але найперш дапамагалі як настаўнікі, дарадцы.

Вельмі добра бачна, да якіх вынікаў чалавека прыводзіць асабістая настойлівасць і працалюбства, напрыклад, у гутарцы пісьменніка з народнай артысткай Беларусі Наталляй Гайда. Наталля Віктараўна ўжо больш як чатыры дзясяткі гадоў працуе ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры: у Мінску яна з 1970 года. Сваю прафесійную творчую дзейнасць пачала, адзначае З. Прыгодзіч, даволі рана, ды і сапраўднае прызнанне прыйшло да яе таксама рана. Студэнткай 4-га курса Уральскай кансерваторыі яна стала салісткай Свярдлоўскага тэатра оперы і балета. Неўзабаве, праз год, калі ў Маскве гастраляваў тэатр і Наталля выканала партыю Мюзеты ў спектаклі «Багема», сам Іван Сямёнавіч Казлоўскі, прыйшоўшы ў грымёрку, даў актрысе высокую ацэнку.

Не буду расказваць, як і чаму яна апынулася ў Беларусі, дзе жыве і працуе ўжо столькі гадоў, радуе нас сваёй творчасцю, прывяду некалькі выказванняў пра яе як чалавека і творцу.

«Вось ужо многія гады Наталля Гайда заваёўвае сэрцы літаральна ўсіх — гледачоў, музыказнаўцаў, журналістаў, паэтаў. Мае калегі, — піша далей З. Прыгодзіч, — напрыклад, якіх толькі не прыдумаюць для яе (і абсалютна заслужана!) эпітэтаў, вызначэнняў: прымадонна, таленавітая, візітоўка беларускай музычнай камедыі, сімвал аперэты на постсавецкай прасторы, зорка еўрапейскай велічыні…»

«Яна ўзвышае мастацкі вобраз аперэты да сапраўднага жыцця чалавечага духу. Шчаслівы дар вялікай актрысы, які належыць выдатнаму, духоўна багатаму, шчодраму чалавеку», — кажа пра Наталлю Віктараўну музыказнаўца Эмілія Шумілава.

А паэт Генадзь Бураўкін зазначыў наступнае:

«Бог зрабіў яе прыгожай, потым дабавіў таленту, а потым яшчэ і розуму, што ён робіць не так ўжо і часта…»

Ад сябе дадам зноў жа тое, што казаў раней: праца, праца і яшчэ раз праца дапамагла Наталлі Віктараўне поўнасцю раскрыць свой талент. А ён, пастаўлены на службу людзям, узняў яе на сапраўдныя творчыя вышыні.

Дык што датычыць працы, калі прыклад перанесці ў літаратурнае асяроддзе. Сёння даволі прыкметна заўважаецца, што гэтага не хапае не толькі нямала каму з маладых творцаў, але і нам, літаратарам са стажам!.. Але найперш гэта бачна супрацоўнікам дзяржаўных літаратурна-мастацкіх часопісаў і выдавецтваў, куды паступаюць сотні, а то і тысячы рукапісаў. Гэта бачна па асобных публікацыях і кнігах, бо як ні «прыгладжваюць» рэдактары такія творы, а хібы ўсё адно выпіраюць…

Недапрацоўваць творы стала ўжо нейкай ці не моднай тэндэнцыяй для цэлага шэрагу аўтараў, а іхнія нелады з арфаграфіяй і стылем, сінтаксісам нярэдка выдаюцца за творчую арыгінальнасць і самабытнасць творцы. І тады замест літаратурна-мастацкай якасці твора «на гара» выносіцца колькасць выдадзенага: 20… 30… 40 кніг… І з'яўляюцца прыватктрытыкі, якія ўсю гэтую «няякасную» прадукцыю выдаюць за геніяльныя творы. Людзі спрабуюць чытаць, і неўзабаве адкладваюць: што гэта?..

Мне могуць запярэчыць, што ў нас хапае і твораў выдатных. Канешне, хапае, але ж…

Так што, праца, праца, і яшчэ раз праца… І, вядома ж, веды. Жыцця і спецыяльныя…

Дыялог З. Прыгодзіча з Наталляй Віктараўнай, які задае адпаведны тон усёй кнізе (талент і праца), даволі змястоўны і ў жыццёвым, і ў творчым плане. Калі пра творчасць, то адзін з аспектаў, без якога сапраўдная творчасць у развіцці наогул немагчыма — традыцыі і наватарства. І хоць гаворка пісьменніка і актрысы вядзецца пра музычнае тэатральнае мастацтва, звярнуць на яе ўвагу варта творцам любога накірунку.

З. Прыгодзіч звяртаецца да Наталлі Віктараўны з наступным выказваннем, якое яго хвалюе. Маўляў, «у мастацтве існуе заўсёдная праблема: традыцыі і наватарства. У розны час і ў розных тэатрах на першы план выходзіць то адно, то другое. А мне здаецца, што поспех забяспечвае менавіта дыялектычнае адзінства гэтых двух паняццяў…»

Чытаем некаторыя меркаванні на гэты конт знакамітай артысткі, выдатнага творцы, творцы з бездакорным густам: «…Мая думка такая. І традыцыі, і наватарства — гэта два крылы, якія забяспечваюць твору палёт. Без наватарства мастацтва памірае. Яму абавязкова патрэбен пошук, развіццё, эксперымент…»

Сапраўды, жыццё імкліва змяняецца, змяняюцца запатрабаванні і густы, як вядома, не заўсёды да лепшага, дадам ад сябе. Напрыклад, хіба добра, што за апошнія пару дзясяткаў гадоў, як сведчаць аналітыкі, людзі сталі больш раз'яднаныя, адасобленыя?.. І крыху пазней: «Новы час патрабуе новай мастацкай мовы, новых рэжысёрскіх рашэнняў. Але на аснове традыцый рускага тэатра, тэатра

Станіслаўскага. Вельмі важна, каб пошукі і эксперыменты былі стваральныя, а не разбуральныя». І нарэшце: «Калі гаварыць коратка, то наватарства — гэта працяг традыцый, іх развіццё. На кожным новым этапе часу — новае рашэнне мастацкіх задач».

Безумоўна, гэта адпавядае і літаратуры. Хоць, як заўважана і не мною, у літаратуру за гэтыя два дзясяткі гадоў, калі кожны, нават не маючы ніякіх здольнасцей, можа выдаць кнігу, найчасцей за свой кошт, менавіта ў літаратуру, як ні ў адну галіну мастацкай дзейнасці імкнецца шмат непрафесійных людзей. Прытым, што ў сапраўднай нашай літаратуры нямала выдатных майстроў слова, творы якіх з'яўляюцца нацыянальным гонарам, узвышаюць у свеце нашу краіну. Але разам з тым таго, што ніякім чынам нельга аднесці да прыгожага пісьменства, хапае. Да ўсяго заўважана, што зніжаецца «планка» патрабаванняў да аўтараў і іх «тварэнняў», часам на старонках выданняў з'яўляюцца творы, якія ні ў якім разе не маглі быць надрукаваны яшчэ гадоў дваццаць таму з прычыны нізкіх літаратурна-мастацкіх якасцей. Прасцей кажучы, аўтарам было б адмоўлена з-за адсутнасці хоць якога парафесійнага ўзроўню, ім было б рэкамендавана займацца той справай, у якой яны сапраўдныя прафесіяналы, якая і прыносіць карысць асабіста ім і грамадству.

Аб прафесіяналізме творцаў у кнізе гаворыць і Наталля Гайда. І дасягаецца ён толькі тады, паўтараю, калі ёсць праца, імкненні, вучоба, вядома, найперш калі маюцца творчыя здольнасці.

І яшчэ адна цытата з Наталлі Віктараўны, калі яна адказвае Зіновію Прыгодзічу на пытанне, ад чаго залежыць развіццё, сталенне таленту артыста: «Безумоўна, найперш ад працы. Ад сур'ёзнага стаўлення да таго, што табе даў Бог». І прыводзіць прыклад, сведкам якога была: «Калі я вучылася ў кансерваторыі, была ў нас адна студэнтка. Прырода шчодра адарыла яе — і хараством, і талентам. Я белай зайздрасцю зайздросціла яе голасу — прыгожаму, моцнаму. Упэўнена была, што яна стане зоркай першай велічыні. На жаль, не стала. Дзяўчыну згубіла лянота <…> Увесь час трэба працаваць над сабой, і тады больш гарантыі, што Бог не забярэ назад твае здольнасці».

Пра прафесіяналізм гавораць і астатнія дзевяць субяседнікаў Зіновія Прыгодзіча, гавораць пра працу, неабходнасць пастаянна вучыцца. Падкрэсліваюць, што трэба нястомна ўдасканальвацца ў абранай прафесіі. Але «творча, духоўна, прафесійна» — зноў жа цытата з Наталлі Гайда.

У нас жа, у літаратуры, тыя аўтары, якія не маюць ніякіх творчых здольнасцей, але ўпарта абіваюць парогі рэдакцый, увесь гэты нялёгкі працэс — вучоба і ўдасканаленне — перакладваюць на рэдактараў, нярэдка ваяўніча патрабуючы за іх даводзіць твор да ладу. І сведчу са свайго шматгадовага рэдактарскага вопыту, іншы раз, саромеючыся пакрыўдзіць чалавека з-за яго шаноўнага ўзросту, або па якой іншай прычыне, даводзячы да ладу яго «твор», ад якога любы школьны настаўнік прыйшоў бы ў жах, мы робім такому, з дазволу сказаць, «пісьменніку» мядзведжую паслугу…

І тут зноў наперад выходзіць «не разбураць». Перапісваючы, усё адно высокамастацкі твор не зробіш: аснова не тая, а значыць, удзельнічаем у разбурэнні літаратуры, разбэшчванні як творцы самога чалавека. Ствараць жа павінен сам пісьменнік, калі ён такім з'яўляецца. Калі ж — не... Іншая справа — дапамагаць таленту, найперш юнаму, а іх на нашай зямлі шмат. Гэта — традыцыя нашай літаратуры, яна была, ёсць, здавалася б, што яна павінна быць непарушнай. Але скажу жорстка: так павінна быць толькі ў адносінах да талентаў, да тых, хто хоча працаваць, удасканальвацца, хто адносіцца да літаратуры, як і трэба адносіцца да яе, а не як да сродку задавальнення сваіх бяздарных амбіцый. З апошнімі не трэбаваждацца, выніку ўсё адно не будзе.

І калі зноў сказаў пра традыцыі, не магу не закрануць і наступную. Традыцыя пастаяннай працы, удасканалення прафесійнага майстэрства ўласцівая ўсім без

выключэння выдатным нашым пісьменнікам (размова пра іх) і мінулых часоў, і сённяшняга. Як нястомна працавалі класікі (Багдановіч, Купала, Колас, Чорны, Лынькоў, Мележ, Брыль, Навуменка, Шамякін, Караткевіч, Барадулін, Гілевіч і інш.), напісана шмат. Мы ведаем, як працуюць выдатныя — нашы сучаснікі… І ведаем, як «не працуюць» над сваімі творамі многія з тых, хто навыдаваў безліч «кніг», але хто гэтым самым разбурае, менавіта разбурае літаратуру… І калі на адпаведным узроўні гучыць, маўляў, дайце твор, трэба не крыўдзіцца на такое патрабаванне, а зразумець, што ставіцца задача перад усімі пісьменнікамі: пісаць так, як пісалі папярэднікі — годна. І тут не можа быць паслаблення нікому, ні ў залежнасці ад узросту, пасад, званняў.

Словам, ствараць, а не разбураць. Пра гэта добра сказана ў кнізе.

## ...І кожны дзень пошук

Другая знакамітая асоба, з якой у гэтай кнізе вядзе гаворку Зіновій Прыгодзіч — Валянціна Гаявая, стваральнік і нязменны кіраўнік знакамітага ансамбля «Харошкі». Народная артыстка Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, як адзначае пісьменнік, «харэограф з вызначаным і непаўторным почыркам». І — «Выдатны педагог, якая выхавала не адно пакаленне артыстаў».

Тут варта адзначыць, што і Наталля Гаявая і Наталля Гайда — ураджэнкі Расіі, прыехалі жыць і працаваць у Беларусь ужо ў сталым узросце, што менавіта на нашай творчай глебе іх таленты дасягнулі росквіту, што гэтыя жанчыны ўнеслі свой уклад у духоўную скарбніцу жыцця нашага народа.

З гутарак пісьменніка з Наталляй Гайда і Валянціна Гаявой бачна, якое месца ў творчасці займае пастаянная праца і нястомная вучоба, спасціжэнне сакрэтаў прафесіі, між іншым, чым, яшчэ раз падкрэслю, грэбуюць некаторыя сённяшнія маладыя, у тым ліку не толькі няздары, але і асобныя творча здольныя літаратары. (Каб жа чытач бачыў, колькі бездапаможных так званых апавяданняў, аповесцей, раманаў, у якіх няведанне мовы, яе законаў, правілаў стылістыкі, прыходзяць у рэдакцыі з настойлівым патрабаваннем аўтараў неадкладна друкаваць! І, здараецца, друкуюць. Гэтым самым адштурхоўваюць чытача ад літаратуры.) А літаратура ж, урэшце як і ўсе віды мастацтва, як бы гэта не адмаўлялі сёння некаторыя ўжо дужа «прасунутыя», адну са сваіх функцый мае — выхаванне чалавека. «Мастацтва павінна займацца выхаваннем чалавека», — кажа Гаявая. І падкрэслівае: «Але тое, што мы бачам сёння на эстрадзе, на экранах, на кніжных паліцах, не радуе». Ёсць у яе і такое меркаванне: «Вось далі нам свабоду. Нібыта добра. Але адна справа, калі гэтай свабодай карыстаюцца чэсныя, прыстойныя людзі, і зусім іншая — калі яе выкарыстоўваюць нелюдзі».

Увогуле, пытанне, хто: сумленныя і творча здольныя, або несумленныя і няздары імкнуцца запаланіць і мастацтва, і літаратуру, і гэтым самым уздзейнічаць на чалавека, грамадства ў цэлым, сёння найбольш хвалюе прадстаўнікоў старэйшага і сярэдняга пакаленняў самых розных творцаў, якія таго-сяго дасягнулі ў сваёй справе: артыстаў, кампазітараў, мастакоў, пісьменнікаў і г. д. Паколькі ў нас сярод пэўнай часткі моладзі складваецца тэндэнцыя не вельмі зважаць на сваіх творцаў, а арыентавацца, напрыклад, на расійскіх, замежных, дык прывяду выказванне адносна гэтага, напрыклад, знакамітага расійскага кінарэжысёра Станіслава Гаварухіна ў інтэрв'ю да дадатку «ТВ» газеты «СБ. Беларусь Сегодня», нумар ад 1 лютага 2008 года. Гаворачы пра кіно, ён у прыватнасці адзначае: «Сейчас критики в некотором смысле являются тормозящей системой в развитии кинематографа. (А ў літаратуры? — *У. С.*) Они положительно оценивают ложное искусство. Это трагедия общества. Когда общественный вкус вывернут наизнанку, когда талант выдают за бездарность. А бездарность выдают за талант. Критик должен поддерживать все светлое, гуманное, что дает человеку жизненные

сілы…» (Калі ўжо пра нашу крытыку, дык і здаровай, аб’ектыўнай, прынцыповай крытыкі ў нас хапае. Хаця… — *У. С.*)

Але ёсць вывад знакамітага рэжысёра: «Сегодня полуграмотные люди ринулись во все сферы искусства, а настоящие таланты забываются, унижены, плохо зарабатывают».

Не буду каменціраваць гэта выказванне і поўнасцю пераносіць на нашу нацыянальную глебу мастацтва і літаратуры — зноў пяройдзем да талентаў, якімі мы ганарымся, і якімі, несумненна, будуць ганарыцца нашы дзеці і ўнукі. У гэтай кнізе пасля Наталлі Гайда і Валянціны Гаявой (тут значнасць нікога не выдзяляецца, такое размяшчэнне) — Міхась Казінец.

Дыялог пісьменніка З. Прыгодзіча з гэтай непаўторнай асобай у свеце нацыянальнага музычнага мастацтва — галоўны дэрыжор і мастацкі кіраўнік народнага аркестра імя Жыновіча Міхась Антонавіч Казінец — таксама надзвычай грунтоўны. Заўважаючы, што музыка — душа народа, расказваючы пра яе месца ў жыцці грамадства, калі гаворка скіроўваецца на літаратуру, зазначае, што кніга для яго — гэта святое. І далей: «Можна недаесці, недаспаць, але застацца без кнігі — немагчыма». А далей удакладняе: «Люблю літаратуру класічную, рэалістычную. Яна мацней бярэ за душу». І сведчыць, каго чытаў, чытае. Аказваецца, захапляецца не толькі Коласам, Караткевічам, Шамякіным, Бураўкіным, якіх чытаў і чытае, а таксама Васілём Быкавым, Барысам Сачанкам, з якім таварышаваў, быў блізка знаёмы... У яго цудоўныя адносіны з Анатолем Вярцінскім, а Васіля Зуёнка называе «цёплым чалавекам»…

Асабіста мне тут бачыцца адна, так бы мовіць, невытлумачальная з’ява нашага літаратурнага жыцця: некаторыя знакамітыя пісьменнікі, хто сваёй творчасцю (бяром усіх разам) зрабілі беларускую літаратуру, па сцвярджэнні М. Казінца «адной з магутнейшых у Еўропе», сёння быццам бы адхіліліся ад агульнага літаратурнага працэсу. Яны па розных прычынах, у тым ліку і асабістых, нібыта не ўдзельнічаюць у ім. Такую «раскошу» — не ўдзельнічаць — мы не маем права сабе дазваляць: паўсюль выпіраюць літпадробкі, якія ўзвышаюць на нечуваныя вышыні прыватскрытыкі ў рэцэнзіях узроўню сярэдняга школьнага сачынення. І навязваюць іх, як нейкія паходні, «цёмнаму» па іх меркаванні грамадству. (Што да сачыненняў, дык на іх дзеці вучацца выкладаць свае думкі і г. д., тут жа такія «пісаннні» выдаюцца, як неаспрэчна гатовае і адзіна правільнае.) І самае дзіўнае, што мы гэта бачым, адносімся да ўсяго паблажліва, забываючы, што густы чытачоў, асабліва юных, фарміруюцца пад уздзеяннем псеўдалітаратуры. Прыкра!.. Тым больш, што ў нас, як мы ведаем, і як нястомна пацвярджаюць і першая, і другая кнігі «Постацей…» Зіновія Прыгодзіча, сапраўды годная літаратура. Ды і наогул мастацтва часта не дае спакою розным псеўдатворцам і іх натхняльнікам. Менавіта праз псеўда даўно ўжо ідзе барацьба за розум, душы і сэрцы людзей, а сэрцы, тут да месца прыгадаць, напрыклад, верш рускага паэта Васілія Фёдарава, «Сердца», напісаны яшчэ ў 1955 годзе «Да это же высоты, // Которые сдавать нельзя».

Уяўляю, што зараз, як ужо не раз бывала, на мяне «ополчится» графаманская і іншая «братия», усе «культавыя» і іншыя псеўдадзеячы, але далей ужо проста нельга спакойна назіраць за іхнімі разгуламі на старонках так званых «самапальных» кніг і іншых выданняў, што ў вялізнай колькасці выкідваюцца да людзей. А ў нас жа, каторы раз паўтаруся, літаратура самага высокага мастацкага ўзроўню, якую параўноўваюць з еўрапейскай і інш. (Хаця, калі па мне, дык навошта яе параўноўваць з нейкай іншай, калі ў іншых даўно ўжо арыенціры не такія, калі там даўно ўжо не вітаецца чалавечае і гуманістычнае, калі там «іншыя арыенціры» і г. д.) Што, адчуванне нашай непаўнавартасці як народа?.. Гэта ідзе з мінуўшчыны?.. Глупства, даўно ўжо ўсе ведаюць, што наша літаратура, пачынаючы ад Багдановіча, Купалы і Коласа, умацаваная іх традыцыямі ў творчасці Крапівы, Лынькова, Мележа, Шамякіна, Быкава, Навуменкі і многіх іншых майстроў іх

пакаленняў, а таксама вялізнай плеядай тых, хто сёння сумленна працуе ў ёй — для свайго народа не менш годная за любую еўрапейскую, або ўсю еўрапейскую, разам узятую.

Цудоўна, трапна і хораша пра нашу літаратуру сказаў у гутарцы з Зіновіем Прыгодзічам і яшчэ адзін ягоны субяседнік, наш знакаміты архітэктар Леанід Левін.

Думаю, што гэтае імя ведае, бадай, кожны. Лаўрэат Ленінскай прэміі, (за мемарыяльны комплекс «Хатынь»), Дзяржаўнай і шмат іншых прэстыжных, архітэктар, так бы мовіць, далёка не мясцовага маштабу, прыстойнейшы чалавек і грамадзянін — прачытайце гутарку — і калі ўжо так — паэт (прачытайце яго вершы ў кнізе, пісьменнік, прачытайце яго кнігі «Хатынь» і «Война и любовь»), улюбёны ў жыццё, літаратуру, мастацтва, які сам з павагай адносіцца да чалавека, выдатна ведае беларускую літаратуру і разумее яе ролю ў жыцці народа…

У гутарцы З. Прыгодзіча і Л. Левіна шмат цікавага і карыснага для кожнага, а для маладых творцаў у любой галіне — асабліва. Напрыклад, гаворачы пра настаўнікаў, пра вучобу, у тым ліку і пра вучобу наогул, пра сваё прафесійнае і грамадзянскае, так-так, грамадзянскае станенне, зазначае: «…не здзіўляйцеся!.. — маімі настаўнікамі ў самым высокім сэнсе гэтага слова былі Янка Купала і Якуб Колас. Яны можа больш, чым хто, фарміравалі мой светапогляд, маю любоў да роднай зямлі. Іх творы — жыццядайная крыніца і для душы, і для роздуму...»

Я знарок гэты свой водгук на новую кнігу «Постаці…» слыннага літаратара Зіновія Прыгодзіча ўвесь час скіроўваю ў рэчышча літаратуры, раблю акцэнт на яе ўздзеянні на светапогляд суразмоўцаў аўтара, а таксама на тое, якое месца яна займае ў жыцці грамадства. Бо як бы хто ні супрацівіўся таму, што літаратура сёння, маецца на ўвазе, высокая, сапраўдная, часам адчувае сябе не вельмі ўтульна: нахабная графаманія ўсё больш і больш прэтэндуе на яе месца…

Зрэшты, усё гэта бачаць асабліва дасведчаныя чытачы, якія з не такіх ужо і далёкіх часоў прывыклі да літаратуры сапраўднай, якія не так даўно і ўявіць не маглі, што ім паўсюль самадзейныя аўтары будуць навязваць свае бяздарныя тварэнні, што ў грамадстве паступова з-за такой пісаніны будзе знікаць інтарэс да кнігі. А знікненне цікавасці да друкаванага слова, маецца на ўвазе высокамастацкага, рана або позна па-свойму паўздзейнічае на многія жыццёвыя працэсы, у рэшце рэшт, на нашу духоўнасць.

Сёння даследчыкі літаратуры, напрыклад, расійскія, сучасную літаратуру падзяляюць умоўна на тры, называйце як хочаце, палі, пласты, гарызонты, якія так або інакш перасякаюцца.

Спачатку масавая, камерцыйная, літаратура (дажыліся, перавялі ў камерцыю духоўнасць!). Далей яны ставяць так званую высокую літаратуру, якую мы называем сапраўднай. І нарэшце — сецевую…

Вядома, калі масавая, камерцыйная, дык яна і жыве па рыначных законах. І калі ў нас яе «продвигают» самі прыватвыдаўцы — у асноўным, ці амаль цалкам, яна імі выдаецца — і аўтары. Апошнія ходзяць і раздаюць свае кнігі знаёмым і родзічам, пакідаючы аўтографы з рознымі пажаданнямі, і адчуваюць сябе геніяльнымі празаікамі і паэтамі. А часам і спрабуюць прадаваць, і нават прадаюць…

Але хай… Вось толькі трывожна, што сярод такіх кніг нямала, адрасаваных дзецям. Канешне, сёння ўжо не забароніш нікому адрасаваць і самым юным чытачам розную, як некалі казалі ў нас у «Маладосці», калі мне шчасціла там працаваць, «малавысокамастацкую» прадукцыю, а то і шкодную. Маўляў, не рэальная ж атрута, не нейкія там спайсы, ці яшчэ што, але...

А так званая высокая — дык гэта літаратура сапраўдных пісьменнікаў. І хоць іх у нас шмат, на жаль, па розных прычынах некаторыя рэдка выдаюцца: і не іх у тым віна... Такая літаратура ў асноўным выходзіць у дзяржаўных выдавецтвах, дзе, як бы там ні было, існуе адбор рукапісаў, дзе захавалася прафесійная

рэдактура, школа і традыцыі папярэднікаў. (Заўважу адразу, каб, як кажуць, зняць пытанне: эксперымент разумны і пісьменны, асабліва маладых, падтрымліваецца і вітаецца! Творчы эксперымент і бязглуздзіца — рэчы зусім розныя.)

Трэцяе поле, сецевая, дзе сам сабе і аўтар, часта і адзіны свой чытач, і сам сабе надта ж «удумлівы» крытык…

Тут гавары не гавары вядомыя ісціны, маўляў «мастак павінен быць разам з народам…», «мастак павінен быць заўсёды мастаком…», «яго галоўная задача: ствараць вобразы, якія здольны саўдзельнічаць у самім жыцці, раскрываць сутнасць быцця…», або шмат што іншае пра такую надзвычай адказную галіну чалавечай дзейнасці, як літаратура, графаманы гэтага не пачуюць і не зразумеюць, нават калі ім такое і шмат што іншае пра літаратуру даводзіцца канспектаваць у ВНУ, ці яшчэ дзе… У іх свае паняцці: той напісаў, выдаў, а я што, горшы?..

Калі я пішу «гавары не гавары», дык вядома, сцвярджаю гэта не я, гэта гавораць субяседнікі кніг Зіновія Прыгодзіча, людзі, асобы, якія лепш за мяне і многіх з нас разумеюць вартасць і мастацтва, і літаратуры. Гавораць людзі, якія сваёй стваральнай працай на карысць Айчыне паказалі, што значыць у творчасці сапраўднае, высокамастацкае…

Канечне ж, разважаючы пра такія сферы чалавечай дзейнасці, як літаратура і мастацтва — а ў кнізе дыялогі пісьменнік вядзе менавіта з іх прадстаўнікамі, ніякім чынам нельга адасабляцца ад іншых жыццёва важных сфер. Урэшце, усіх, пачынаючы ад сельскагаспадарчай і заканчваючы новымі высокімі тэхналогіямі: усім тым, што з’яўляецца стваральным. І тут адразу ж успамінаецца простая адвечная ісціна: нічога не варты той чалавек, занятак якога не накіраваны на стваральнасць. А паколькі З. Прыгодзіч валодае абвостраным пачуццём публіцыста-аналітыка, паколькі для яго асабіста ў гэтай якасці надзвычай важная грамадская накіраванасць кожнага субяседніка, і ў першай, і ў другой кнізе (ужо выйшла і трэцяя) яскрава вымалёўваюцца ягоныя пісьменніцкія і асабістыя жыццёвыя, як грамадзяніна сваёй краіны, прыярытэты: ствараць!..

Ствараць, часам ціха, нібы непрыкметна, але заўважна, важка і для сябе, і для іншых, а ўрэшце, для грамадства, краіны. Ствараць, каб і створанае табой рабіла жыццё хоць крышачку лепшым.

## Мець мужнасць

Ва ўсе часы гэта было няпроста. Няпроста і сёння. І заўтра будзе няпроста. У грамадстве столькі непатрэбных «змаганняў», столькі ўсяго наноснага, заснаванага часта на звычайнай чалавечай зайздрасці і непрыязі сапраўдных стваральнікаў, што не заўсёды і не кожны таленавіты, у даным выпадку творца, можа вытрымаць усё тое злоснае, што накідваецца на яго. Звычайна ж на таленавітае накідваецца бездар, што моцна і прагна ўкараняецца ў тую або іншую творчую галіну. Бездар аб’ядноўваецца ў групы, стварае тое, што мы называем «межсабойчыкамі», становіцца агрэсіўным, і не рэдка пэўны час нават верхаводзіць. І тады з’яўляецца сітуацыя, калі таленту вельмі і вельмі цяжка — талент жа заўсёды адзін, ён стварае, далёкі ад усялякіх гульняў бездары, і трэба мець мужнасць, каб выстаяць…

Такія думкі з’яўляюцца, калі чытаеш кнігі, яны пацвярджаюцца, напрыклад, гутаркай пісьменніка Зіновія Прыгодзіча з народным мастаком СССР Міхаілам Андрэевічам Савіцкім.

Наўрад ці трэба падрабязна расказваць пра жыццёвы і творчы шлях Міхаіла Андрэеевіча, але адзін біяграфічны факт з кнігі прыгадаць варта… Воін, які «пасля 250 дзён гераічнай абароны Севастопаля разам з іншымі абаронцамі горада трапіў у палон да гітлераўцаў, прайшоў усе кругі пекла ў канцлагеры Бухенвальд…» Пашчасціла выжыць… І ўсё жыццё — мужнасць.

Жыццё і творчасць гэтага чалавека, непаўторнай асобы ў нашым мастацтве цікавіла і хвалявала Зіновія Прыгодзіча шмат гадоў. Як ён піша, яшчэ трыццаць гадоў таму рабіў запіс-канспект выступлення М. Савіцкага аб месцы і ролі мастацтва ў духоўным жыцці грамадства і г. д.

І тут я павінен, робячы невялікае адступленне, заўважыць наступнае ўжо пра аўтара кнігі. Даўно і без нас вядома, што журналісту, публіцысту, пісьменніку, каб выклікаць субяседніка на шчырую размову, каб яна атрымалася цікавай і змястоўнай, трэба добра ведаць «прадмет» (тое, чым ён займаецца). Трэба ведаць уласна дзейнасць чалавека, жыццё грамадства, а таксама — мець сваю акрэсленую пазіцыю ў адносінах да рэчаіснасці, свой погляд на жыццё наогул. І — каб тваё ўласнае магло зацікавіць таго, з кім ты будзеш весці гаворку, трэба, каб яно было важнае для суразмоўцы.

Паколькі «Постаці…» рэкамендуюцца і як своеасаблівы падручнік для студэнтаў Інстытута журналістыкі БДУ, дык некалі таму, што я прыгадаў вышэй, студэнтаў-журналістаў вучылі. Але выдатныя журналісты-практыкі, якія сталі дактарамі навук (Р. Булацкі, Б. Стральцоў, М. Дастанка і інш., — называў іх у першым сваім водгуку на першую кнігу З. Прыгодзіча «Чужыя лёсы як свае...», надрукаваным у «Полымі» № 4 за 2015 г. — *У. С.*) Думаю, што гэтаму будучых журналістаў вучаць і зараз. Так і павінна быць: усё мяняецца ў свеце, што акружае чалавека, толькі ён сам, са сваёй уласнай душой застаецца такім, як ёсць, дзе радасць і боль, спагада і дабрыня, нянавісць і непрымірымасць да пачварнага, імкненне ствараць і г. д. І — жаданне зразумець іншага, а каб ён — зразумеў цябе. Тады будзе памяркоўнасць у гутарцы, і адкрыецца сутнасць дваіх…

Зіновій Прыгодзіч гэта разумее. Заўважу, дыялогі, якія потым выходзяць за рамкі светаўспрымання двух суразмоўцаў, становяцца даступнымі грамадскасці, а грамадскасць складаецца з самых розных людзей, часам з супрацьлеглымі поглядамі на жыццё, і заклікае іх на роздум пра час, пра сябе, пра ўсіх нас.

Канешне ж, каб гутарка са знакамітым суразмоўцам атрымалася цікавай і шчырай, журналісту або пісьменніку трэба быць калі не ва ўсім, дык у многім на роўных, або амаль на роўных з ім, вядома ж не ў плане валодання такім жа майстэрствам — гэта ніякім чынам не можа быць,— а ў плане разумення таго, што адбываецца ў жыцці грамадства, ведаць прадмет гаворкі, а таксама — мець свой пункт гледжання на рэчаіснасць. Словам, журналіст ці пісьменнік павінен быць высокаадукаваным.

Зіновій Кірылавіч гэтым не абдзелены: перш чым узяцца за ажыццяўленне сваёй задумы (серыя кніг-дыялогаў) — шматгадовая праца ў друку, вучоная ступень кандыдата філасофскіх навук, выдатная прафесійная і жыццёвая школа, даследчыцкая і пісьменніцкая праца… І — асабістая чалавечая шчырасць, павага і ўвага да суразмоўцы, уменне не толькі ўважліва выслухаць яго, але і тактоўна данесці сваю думку. (Будучыя журналісты — вось яна, практычная школа, напрацаваная папярэднімі пакаленнямі выкладчыкаў журфака, і якая ўвасоблена ў творчую дзейнасць вялікай плеядай старэйшых вашых калег-журналістаў, публіцыстаў і пісьменнікаў, згаданых і не згаданых у папярэднім маім водгуку на першую кнігу «Постацей...».)

Размова З. Прыгодзіча з М. Савіцкім яскрава сведчыць, што дзякуючы свайму творчаму і грамадзянскаму вопыту, веданню жыцця, прадмета, які становіцца асновай гаворкі — мастацтва, гэтая непаўторная творчая асоба, грамадзянін, які і ў жыцці і творчасці заўсёды, у любых, нават самых жахлівых жыццёвых абставінах заставаўся чалавекам і грамадзянінам, патрыётам Айчыны, дазволіла дыялогу быць надзвычай шчырым... Чалавек і час… Чалавек і грамадства… Пераадоленне слабасцей у жыцці і творчасці… Узыходжанне да вяршынь прафесіі… Разуменне ролі мастацтва, размова ж пра яго, у фарміраванні духоўнага і маральнага свету чалавека… Заўважце, не столькі асабістага мастацтва, а мастацтва наогул. (Калі будзем падкрэсліваць асабістае, гэта ўжо — місіянерства, інакш не скажаш, ад

чаго ўстрымаемся… Сёння на «місіянерства» хварэюць усялякія і розныя невукі, што ўзводзяць сябе ў ранг «культавых», ад так званых ледзь прыкметных эстрадных «зорак», розных шарлатанаў-прарокаў і інш, і заканчваючы некаторымі самадзейнымі пісьменнікамі, якія абражаюць і зневажаюць класікаў…)

Наконт гэтага цікавыя думкі ці сцвярджэнні Міхаіла Андрэевіча. Напрыклад, пра сакрэт прафесіі: «Добры мастак не той, хто добра малюе, а той, хто добра думае». Гэта правіла давёў Міхаілу Андрэевічу адзін з ягоных настаўнікаў акадэмік, народны мастак Расіі Дзмітрый Канстанцінавіч Мачальскі.

На пытанне З. Прыгодзіча, ці адчувае Міхаіл Андрэевіч уплыў на сваю творчасць іншых відаў мастацтва і, у прыватнасці, твораў літаратуры, адказвае, што асабіста для яго вялікую ролю ў ягоным развіцці іграе літаратура. І далей: «Але не як крыніца сюжэтаў, тэматыкі, а як узор мыслення, самааналіз. Творы Талстога, Дастаеўскага — гэта здзіўляючай сілы самааналіз. Лічу, што гэтаму можна і трэба вучыцца кожнаму мастаку». А журналісту, пісьменніку? — дадам ад сябе…

І яшчэ адно цікавае пытанне і вычарпальны лаканічны адказ на яго. «Ці спалучальныя талент і амаральнасць?» Адказ: «Не, не спалучальныя. Бо мастацтва па сваёй сутнасці з’яўляецца агромністай сілай, якая аказвае на чалавека ўсеабдымны ўплыў. Яно выхоўвае маральны ідэал, пачуццё цудоўнага». І запрашэнне да роздуму: «Мяркуйце самі: ці можа мастак, нават самы таленавіты, выяўляць у сваіх творах гэтыя якасці, калі ён не адчувае іх у сваёй душы?»

Затым уласнае перакананне: «Хоць на практыцы ўсялякае бывае. Таленавіты чалавек часам робіць амаральны ўчынак. І ў жыцці, і ў сваёй творчасці». І свае адносіны да апошняга: «Бог яму суддзя, калі гэты ўчынак адзінкавы, выпадковы. Калі ж амаральнасць становіцца нормаю паводзін (а гэта ўжо так або інакш уздзейнічае на іншых людзей. — *У. С.*), талент непазбежна пакідае чалавека». Шмат якія аспекты жыцця наогул узнімаюць у сваім дыялогу пісьменнік і мастак. Сярод іх — адзін з тых, што датычыць пазіцыі мастака, любога творцы, пісьменніка ў тым ліку: «…мастак павінен служыць не асобам, а ісціне і дабру, быць патрыётам сваёй Айчыны».

Між іншым, адзін з раздзелаў гутаркі пісьменніка і мастака, што адбылася між імі ў сакавіку 1988 года, так і называецца: «Служэнне ісціне, дабру, хараству». З. Прыгодзіч адзначае, што ў майстэрні мастака, куды ён прыйшоў з Яўгенам Стрыжэвічам, тагачасным загадчыкам аддзела культуры Мінскага абкама партыі, «хацелася б з ім (Міхаілам Андрэевічам. — *У. С.*) пагаварыць-параіцца па некаторых пытаннях грамадска-палітычнага і культурнага жыцця».

Цікавейшая гутарка, якая цалкам праецыруецца на некаторыя сённяшнія настроі пэўнай часткі так званай інтэлігенцыі, гатовай крытыкаваць усё і ўся, узвышаць сябе над іншымі не толькі ў мастацтве, літаратуры, але і ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці.

Тут і пытанні дашкольнай і школьнай адукацыі, і клопат пра родную мову, і адраджэнне нацыянальнай свядомасці, і забудова сучасных мікрараёнаў, і нарэшце — месца інтэлігенцыі, а яна, цытую: «…носьбіт высокай культуры, а сапраўдная культура заўсёды праўдзівая» — у жыцці грамадства. Словам, нямала тэарэтычных разважанняў, пасля якіх пісьменнік прапануе звярнуцца да практыкі. І вось што сказаў у свой час знакаміты мастак пра нашу інтэлігенцыю: «Так, беларуская інтэлігенцыя неаднародная па сваёй якасці. Аднак бяда не ў тым, што на аднаго таленавітага творцу прыпадае дзесяць і болей бездарнасцей. Бяда ў іншым. У тым, што гэтыя пасрэднасці, скарыстоўваючы ўмовы галоснасці і дэмакратызацыі, усплылі сёння на паверхню і сваю творчую немач кампенсуюць бурнай грамадскай дзейнасцю, спрабуючы зарабіць сабе капітал на крытыцы ўсяго і ўся. Яны адштурхнулі сапраўдных творцаў, перахапілі іх ініцыятыву і…»

Знарок прыпыняю цытату і не даю ёй ніякіх каментарыяў, толькі адзначу, быў час пачатку так званай перабудовы. Што і як зараз — меркаваць чытачам: жыццё

ніколі не бывае простым. А сярод чытачоў, вядома ж, і студэнты Інстытута журналістыкі. Так і хочацца ад сябе параіць будучым нашым знакамітым і не зусім знакамітым, і проста сціплым, але годным журналістам і публіцыстам паразважаць на гэтую тэму. Праўда, раблю агаворку: таму, хто за яе возьмецца, трэба мець чалавечую і грамадзянскую мужнасць — бо няздары могуць і не даравацъ…

Зрэшты, мужным павінен быць кожны творца. Мужныя ў жыцці і творчасці Наталля Гайда, Валянціна Гаявая, Міхась Казінец… І — чалавечныя…

Такімі ж былі і Леанід Левін, Міхаіл Савіцкі: гэта ўжо бачна з гутарак аўтара кнігі з імі. Такімі ж былі і наступныя суразмоўцы Зіновія Прыгодзіча — пісьменнікі Максім Лужанін, Алесь Савіцкі, Барыс Сачанка… А маэстра Міхаіл Фінберг і акцёр Мікалай Яроменка?..

«Безумоўна, — скажа чытач, прачытаўшы гутаркі з імі, якія З. Прыгодзіч правёў у розныя часы, і дадасць: — Усе яны — тыя людзі, мужнасць якіх і асабістая чалавечая і грамадзянская годнасць скіравана на служэнне людзям, народу, Айчыне». І не памыліцца. І тут няма ўзнёсласці, тут — канстатацыя…

Што датычыць Максіма Лужаніна, дык трэба сказаць адразу, што толькі мужны чалавек, перажыўшы неймаверныя цяжкасці, мог застацца чалавекам... Незаконныя арышты і высылкі ў 30-я гады некаторых людзей ламалі. Жахліва… Ён не зламаўся. Жыццём і творчасцю даказаў гэта, хаця, калі ўжо так, чалавек, каб застацца чалавекам, не павінен нічога нікому даказваць. Гэта зразумела з гутаркі. Усё ў яго чалавечай і грамадзянскай пазіцыі, у пазіцыі Аляксандра Амвросьевіча. Яго роздум пра час, жыццё, калег — надзвычай цікавы. Не катэгарычны, а памяркоўны, дакладны… Каштоўныя выказвані пра «маладнякоўцаў», іх ролю ў развіцці і станаўленні беларускай літаратуры. Пра літаратуру пасляваенных часоў, шасцідзясятых—сямідзясятых. Пра ўжо амаль забытых «Тутэйшых». Пра наватарства і традыцыі. А таксама — пра літаратурную крытыку, якая яна ёсць і якой павінна быць. Хоць гутарка адбылася восенню 1979 года, усё, пра што ў ёй сказана, застаецца і сёння надзвычай актуальным. Напрыклад, ні для каго не сакрэт, што за апошнія дзесяцігоддзі, як пісаў у сваіх дзённіках Іван Шамякін, літаратура змізарнела. Паспрабуйце сёння сказаць гэта ў асяродку незлічонай арміі графаманаў, а змізарнела менавіта праз іх усюдыісных, і на вас паляцяць скаргі, куды толькі можна.

Сёння нашы пісьменнікі, чыёй творчасцю мы ўсе ганарымся, заклапочаны не менш чым іх папярэднікі ва ўсе часы, і ў часы Максіма Лужаніна, у прыватнасці, тым, што высокамастацкую кнігу ўпарта спрабуе выціснуць падробка пад літаратуру. Ёсць такая заклапочанасць і на дзяржаўным узроўні…

Аляксандр Амвросьевіч амаль чатыры дзясяткі гадоў таму казаў: «Заклікі змагацца за якасць твораў — гучаць. І часам даволі трывожна, пад выглядам паэзіі і прозы друкуецца многа чаго да друку не прыдатнага». Згадзіцеся, сказана нібы сёння. Толькі з той розніцай, што сёння такой з дазволу сказаць паэзіі і прозы без перабольшання друкуецца ў дзясяткі разоў больш, чым тады: вазьміце колькасць выдавецтваў (тады яшчэ прыватных не было), колькасць твораў, літаратурна-мастацкую якасць якіх, здаецца, ніхто як след не кантралюе, як кантралююць у дзяржаўных… Ды і іншыя магчымасці друкавацца бяздарам ёсць… (Тэма для крытыкі, асабліва юнай, якая даволі прыкметна з аўтараў двух-трох апавяданняў, тым больш са свайго акружэння, «стварае» геніяў… Так і хочацца ўскрыкнуць: а сорам дзе!?.. У нас жа чытач высокаадукаваны, што вы робіце, шаноўныя!.. Ён, гэты чытач, калі так будзе і далей, наогул адвернецца ад сучаснай літаратуры…)

Апусціўшы фразы пра крытыку, якой, па меркаванні Аляксандра Амвросьевіча, «здавалася б, самы раз выпрабоўваць усю моц сваёй зброі», цытую далей: «Мне здаецца, што не павінны стаяць убаку і нашы старэйшыя пісьменнікі. Менавіта яны, абапіраючыся на свой вопыт і аўтарытэт, і павінны расказаць маладым пра адказнасць і патрабавальнасць у літаратурнай працы. А галоўнае —

заўсёды паказваць яе ў дзеянні, каб узяў у рукі твор і залюбаваўся, калі хочаце, пазайздросціў крыху, але не той зайздрасцю, што некаму ўдалося схапіць за хвост пеўня ўдачы, а высакародным жаданнем знайсці дужыя крылы і гучны голас новай рабоце, сваёй рабоце».

## Творчы вопыт старэйшых

Калі ўжо акцэнт змяшчаецца да кніг З. Прыгодзіча, як да «падручнікаў», то далей таксама трэба зазначыць: творчы вопыт нашых пісьменнікаў старэйшых пакаленняў, у гэтым выпадку і Максіма Лужаніна, з'яўляецца карысным для пачынаючых аўтараў. Так, як старэйшыя калегі па літаратурным цэху працавалі і працуюць са словам, як яны ведаюць законы стылістыкі і сёння ж на практыцы (а асабіста я маю права казаць пра гэта, працуючы ў рэдакцыі часопіса і штодзённа сустракаючыся з рукапісамі розных аўтараў) карыстаюцца імі ў сваёй рабоце, з якой павагай адносяцца да чытача, не забываючы пра сваю адказнасць перад ім за створанае, не павінна быць забыта. І тут няма нічога крыўднага: вопыт старэйшых калег, тых, хто дасягнуў сапраўднага поспеху ў паэзіі, прозе, крытыцы, калі яго не адмятаць, як цяпер часам здараецца, а разумна і памяркоўна выкарыстоўваць, дае свой плён. А адмятаць, ахайваць, а то і адкрыта зневажаць годна напрацаванае папярэднікамі, пры гэтым не ствараючы нічога свайго прыкметнага, мы ўжо сяк-так навучыліся. Больш таго, такое стала ці не модным, калі іншыя, мякка кажучы, маладасведчаныя ў той або іншай творчай галіне «дзеячы і дзяячкі» на чужы манер узводзяць сябе, як ужо гаварылася, у ранг «культавых» настаўнікаў, паэтаў і інш. Але, маўляў, што нам Купала, Колас, Крапіва, Мележ, Шамякін, ды і ўсе іншыя, калі ёсць мы, у дадзены час, у дадзеным выданні, у дадзеным «міжсабойчыку»! (Нядаўна сам быў сведкам, як пачынаючыя адмяталі і іх, і іхнюю творчасць, так-так, «геніі» з тых, што самі пакуль яшчэ нічога не стварылі і каму вучыцца і вучыцца ў класікаў і проста добрых пісьменнікаў, каб потым, хто сапраўды здольны, не загубіцца на нялёгкай літаратурнай дарозе.)

І калі бачаш такое, зноў жа думаеш, што гэта не столькі іхняя асабістая бяда, як наша агульная, пачынаючы са школы, інстытута і заканчваючы тым творчым асяродкам, у якім яны працуюць. Мала таго, як некалі я ўжо зазначаў у газеце «СБ. Беларусь Сегодня» (нумар ад 16.09.2015), «іншы раз таленты наўмысна выводзяць з літаратуры». Паўтараю: сёння, як і заўсёды, а можа, нават і больш, сярод літаратурнай моладзі ў нас шмат сапраўдных талентаў). Хто і як выводзіць? Па-рознаму. Асобныя — сваім уласным прыкладам, маючы магчымасці без абмежаванняў друкаваць, як некалі казаў Уладзімір Максімавіч Дамашэвіч, «дрындушкі». А ўвогуле прааналізуйце, даследчыкі, сучасны, так бы мовіць, маладзёжны літаратурны працэс, прааналізуйце, каго і за што «раскручваюць» і вам асабіста стане зразумела. А пасля напішыце артыкул, выкажыце свае думкі наконт гэтага, вось будзе і такая наша агульная карысць ад «падручніка» — «Постацей...» А тэм для даследаванняў яны адкрываюць шмат.

Узяць хаця б такую: праблемы літаратурнага майстэрства, пра што мы столькі гаворым, у прыватнасці, і зараз. Вядома, напісаць варты літаратурны твор не кожнаму дадзена. Для гэтага трэба перш за ўсё мець прыродныя здольнасці і жаданні, як зазначае Максім Лужанін. Бо сапраўды «самыя прэстыжныя інстытуты нічому не навучаць». (Маецца на ўвазе ў літаратуры.) «Наадварот, — сцвярджае ён, — прыродны, боскі пачатак асабліва запатрабаваны». І гэта: «…магчыма, я скажу банальнасць, але для таго, каб напісаць мастацкі твор, мала ўбачыць з'яву і адчуць яе, трэба выказаць *сваё* адчуванне, перадаць убачанае па-свойму, *па-новаму*. У гэтым змяшчаецца своеасаблівасць і непаўторнасць пісьменніка, тое, чым ён адрозніваецца не толькі ад звычайных людзей, але і ад сваіх сяброў па пяры».

Увогуле выказванне на конт пісьменніцкага майстэрства дакладнае і глыбокае. І хоць майстар роднага слова, а Максім Лужанін сапраўды адметны, заўсёды карыстаўся ў калег павагай і аўтарытэтам, і як чалавек, і як творца, у сваіх выказваннях ён не хоча быць надта катэгарычным, таму часта, выказваючы сваю думку наконт літаратуры, папярэджвае субяседніка, што «магчыма» ўсё так і ёсць, як кажа. А таксама падкрэслівае, што ў тым або іншым меркаванні сыходзіць з пазіцыі «ўласнага бачання рэчаіснасці». І зазначае, што «найбольшы поспех пісьменніку спадарожнічае там, дзе асабістае ўбірае ў сабе агульначалавечае».

Сказана, падкрэсліваю, досыць даўно, але вынесенае сёння З. Прыгодзічам нам на прачытанне, яно гучыць надзвычай сучасна. І не толькі для той калялітаратурнай «брацii», якая (гэта толькі невідушчым не бачна, што ўжо сапраўды пагражае літаратуры, і не толькі нашай), але і тым, хто больш-менш прафесійна працуе ў ёй. Давайце памяркуем, актуальна ці не актуальна сёння і такое выказванне Аляксандра Авмросьевіча, як гэта: «Духоўная незапоўненасць аўтара клопатам сучасніка прыводзіць да вельмі негустой прозы і яшчэ радзейшых вершаў. Дробязнасць думкі і мізэрнасць пачуцця сіляцца прыхаваць пад манернасцю выражэння, уяўнай мнагазначнасцю, што часам збываецца ў друк пад выглядам філасафічнасці і нават наймяноўваецца філасофіяй. Пра што мы ўжо крыху гаварылі. Але, магчыма, варта паўтарыць яшчэ: даўно вядома, што чым вышэй майстэрства пісьменніка, тым прасцей форма яго твораў, тым выразней і даступней для разумення яны напісаны».

Шмат, вельмі шмат цікавых думак пра літаратуру і пісьменніцкае майстэрства выказаў Максім Лужанін у гутарцы з Зіновіем Прыгодзічам. І калі некаторыя з іх могуць паказацца некаму спрэчнымі, дык у гэтым няма нічога кепскага: выкажыце сваё меркаванне. І калі ўжо так, асабіста я спрэчнага нічога не бачу: прадыктавана глыбокім веданнем літаратуры, працэсаў, якія адбываліся ў ёй і адбываюцца, жыццём. Насцярожвае іншае, наша асабістае: ці прыслухваемся мы, тыя, хто піша, да парад старэйшых, больш вопытных?.. У жыцці як, калі ўжо аб ёй, рэчаіснасці: вучацца прафесіі. Справе, майстэрству вучацца слесары, тынкоўшчыкі, урачы, вадзіцелі, інжынеры, даследчыкі… і нават дрэсіроўшчыкі, ды ўсе, акрамя калялітаратурнай «брацii». І здольныя, таленавітыя пачынаючыя пісьменнікі таксама вучацца, а тыя — не!..

Несумненна, чытачы з цікавасцю прачытаюць разважанні Максіма Лужаніна пра ролю літаратуры ў жыцці народа, краіны, пра тое, як у свой час, напрыклад, Якуб Колас быў заклапочаны адстойваннем правоў народа на мову. Ды і як сам субяседнік Зіновія Прыгодзіча клапаціўся пра яе, пісаў артыкулы ў яе абарону, і якое на гэта было афіцыйнае «рэагаванне»…

Так супала, што падчас гутаркі пісьменнік рыхтаваў да выдання выбраныя творы. Цікава яго стаўленне да сваёй асабістай працы.

«Я заўсёды кажу сабе: дбай ды дбай, каб сказаць усё, што рупіць,— прызнаецца ён, — і так, як хочаш, каб не перабраць лішняга і не спыніцца, не дабраўшы патрэбнага. Хай выходзіць ад цябе слова такога гучання і давяральнасці, нібыта яно і ёсць адна-адзіная найбольшая і найчысцейшая ў цэлым свеце праўда, якое ні да гэтага не існавала, ні пасля не народзіцца…»

Такая шчырасць аднаго з патрыярхаў роднага слова не такога ўжо і далёкага мінулага нашай літаратуры ўражвае надзвычайна. Сёння не так ужо і часта сустрэнеш сярод пісьменнікаў гэткай упартасці ў працы. Калі пра гэта гаворыш з калегамі па пяры, спасылаюцца на фактары часу, маўляў, зараз такога стаўлення да працы цяжка сабе дазволіць: давай, давай, давай, а то не паспееш… «За чым і за кім?» — хочацца спытаць. Калі за чытачамі, дык яны і цяпер, як і раней, кажуць самі на сустрэчах з пісьменнікамі, што хочуць чытаць калі ўжо не набліжаную да класікі літаратуру, то хоць бы проста прыстойную, ці як ужо названа вышэй, «высокую». Хоць, канешне, пры тых няспынных патоках аматарскай, самадзейнай літаратуры, якая сёння захліснула кніжны рынак, здараецца, зарыентавацца

на «высокую» не так і проста. Тым больш, што так званая некаторая ўжо дужа «прасунутая» бягучая крытыка часта расхвальвае менавіта аматарства, сваіх сяброў і таварышаў.

Бясспрэчна, усё гэта мы ўсе добра разумеем, адносімся да гэтага паблажліва, маўляў, хай, толькі дарэмна: недаацэньваць разбуральнасць такіх працэсаў нельга. Паўтараю: тыя рэдактары, якія працуюць у дзяржчасопісах і дзяржвыдавецтвах, кожны дзень сутыкаючыся, з дазволу сказаць, з такой літаратурай на працягу многіх гадоў, разумеюць, да чаго гэта прыводзіць і ў рэшце рэшт прывядзе, калі ў аўтараў не будзе, хай не такога стаўлення да сваёй працы, як скажам, у таго ж Аляксандра Авмросьевіча, а хаця б крыху падобнага. Калі ж — не, патрабаванне накшталт «дайце твор», якое сёння на дзяржаўным узроўні гучыць заклапочана, яшчэ больш абвострыцца. І гэта на фоне, калі сапраўдную літаратуру ў нас чытаюць. Але, прыгадаю вядомае, напрыклад, агучанае ў мінулым годзе на Дні беларускага пісьменства ў Шчучыне старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом: па выніках апытання па бібліятэках рэспублікі па кнігах усяго толькі 50 літаратараў — два мільёны запатрабаванняў за год. А творы членаў нашага творчага Саюза толькі за апошні час выдадзены на 17 мовах свету. І калі на гэтым фоне ёсць заклапочанасць аб літаратурна-мастацкай якасці таго, што выдаецца наогул, а таксама аб ідэйнай накіраванасці (у жыцці любога грамадства няма нічога безыдэйнага), дык чаму не?.. Аматарам ёсць у каго браць прыклад, ёсць у каго вучыцца, але бяда іх у наступным: не жадаюць…

Вельмі хвалюючы раздзел гутаркі З. Прыгодзіча і М. Лужаніна і «У сузор'і талентаў». Сапраўды, як кажа Аляксандр Амвросьевіч, тут яму пашанцавала. Купала, Колас, Цішка Гартны, Міхась Зарэцкі, Кузьма Чорны — усіх не пералічыш, з кім ён быў знаёмы, з кім меў гутаркі, да чыіх парад прыслухоўваўся… І ўжо не такога далёкага нашага мінулага часу, у якім, напрыклад, жыў і тварыў Уладзімір Караткевіч, іншыя майстры роднага слова…

## У чым яно, шчасце творцы

Калі чытаеш кнігі «Постаці…» Зіновія Прыгодзіча, знаёмішся з тымі, з кім ён вядзе гутарку, многіх з каго асабіста ведаў ці ведаеш, чыёй творчасцю захапляўся і захапляешся, гэтаксама, як і аўтар выданняў, задаешся пытаннем: вось стварылі, ствараюць, далей будуць ствараць кожны на «ніве сваёй» і для сябе, і для народа, і для Айчыны… А ці шчаслівыя гэтыя творцы проста як людзі?..

Пытанне, можа, і не зусім тактоўнае: асабістае і ёсць асабістае, нават у таго чалавека, хто з'яўляецца, як кажуць, публічным.

Адказы, як заўважыць чытач, ёсць ва ўсіх, ці амаль ва ўсіх. Паўтараць іх не будзем. Хіба што ў дачыненні да пісьменніка Алеся Ануфрыевіча Савіцкага, які памёр не так ужо і даўно, і з якім асабіста мне пашчасціла не аднойчы сустракацца і мець гонар гаварыць пра жыццё і літаратуру.

Алесь Ануфрыевіч быў чалавекам мужным. Грамадзянінам сваёй краіны. Сапраўдным патрыётам. Падлеткам-партызанам змагаўся з ворагам. Пасталеўшы, салдатам дайшоў да Берліна і распісаўся на Рэйхстагу, як і тысячы іншых савецкіх воінаў розных пакаленняў.

Жыццёвы і творчы шлях Алеся Ануфрыевіча быў не просты, нават не гледзячы на тое, што пэўны час ён працаваў у ЦК КП Беларусі. (Праўда, адтуль пайшоў мужна, як і належыць, не ахайваючы ні партыю, ні тых, з кім працаваў, увогуле нічога з таго, што было зроблена, дасягнута. О, колькі сёння «перафарбаваных» былых партслужкаў «выкрываюць» тое, што іх карміла, вывела ў людзі!..) Дык вось, як зазначае З. Прыгодзіч, Алесь Ануфрыевіч «у сваіх творах не перастае сцвярджаць адну з самых галоўных, на яго думку, чалавечых якасцей — мужнасць». І прыводзіць словы пісьменніка і грамадзяніна: «Чалавек павінен быць

мужным. Мужным у горы. Гора тады робіцца меншым. Мужным у бядзе. Тады бяда ніколі не возьме верх над чалавекам. Мужным у радасці. Тады чалавек не забудзе падзяліцца радасцю са сваім сябрам.

Толькі мужны дасягае мэты. Толькі яму адкрыта вялікая асалода змагання і перамогі».

Сказана пісьменнікам, як высечана на камені. Алесь Ануфрыевіч заўсёды быў у сваіх меркаваннях прамы і «чаканны». Упэўнены, на гэтую прамату і «чаканнасць» ён меў права. Яго ён набыў сваім жыццём грамадзяніна сваёй краіны і пісьменніка свайго народа. Ён заўсёды служыў людзям. І што да сыходу з ЦК па ўласным жаданні, дык пра гэта Алесь Ануфрыевіч сам сказаў у кнізе (стар. 208—210), чытайце…Сышоў з чыстым сумленнем, захоўваючы свой чалавечы гонар: каб паклёпнікі не плямілі справу, якой служыў, не пераносілі сваю асабістую непрыязь да яго на тую арганізацыю, у якой працаваў, на паплечнікаў.

Мужнасць?.. Вядома…

Мужнасць і шчасце?.. Магчыма такое? Як для каго. Мабыць, у кожным чалавеку ў нейкай няпростай сітуацыі праяўляецца чалавечак. Важна, што чалавек застаецца чалавекам, пераадолеўшы чалавечка. А гэта няпроста: колькі чалавечкаў вакол нас!.. Часам, як не аднойчы казаў Алесь Ануфрыевіч, чалавечкам зручней і спакойней жыць. І — па-свойму такія людзі быццам шчаслівыя. Але быццам…Толькі сам Алесь Ануфрыевіч быў перакананы ўсім сваім жыццём, усёй сваёй сутнасцю, падкрэсліваю, як грамадзянін і пісьменнік, што, як адзначае З. Прыгодзіч у адносінах менавіта да Савіцкага: «Уласнае шчасце чалавек павінен бачыць не ў тым, каб шмат чым валодаць, а ў тым, каб шмат чым быць. Укараненне такой жыццёвай мудрасці праз мастацкую літаратуру заўсёды лічыў сваёй галоўнай місіяй пісьменнік-патрыёт Алесь Савіцкі».

Гутарка З. Прыгодзіча з А. Савіцкім скіравана ў значнай ступені на вехі жыцця і творчасці Алеся Ануфрыевіча. І гэтым яна таксама надзвычай цікавая: прыклад, як можна, а то і трэба паводзіць сябе ў неардынарных сітуацыях — а іх у пісьменніка хапала. Тут і партызанства, і фронт, і першыя дні пасля Перамогі, і вучоба, праца, спасціжэнне майстэрства, урэшце той момант у біяграфіі, калі Алесь Савіцкі зразумеў маладым пісьменнікам, што «літаратура — настолькі сур’ёзная справа, што яна патрабуе ад таго, хто ўзяўся за гэты занятак, усяго сябе, з найвышэйшым напружаннем думак. Пачуццяў, душы, сэрца».

А ў раздзеле «Храм, які завецца кнігай» — роздум пра літаратуру ў жыцці народа настолькі надзённы, што калі «Постаці…» «падручнік» для студэнтаў пэўнай установы, з якой нямала юнакоў і дзяўчат ідуць у яе, дык я сказаў бы: запомнім назаўжды, што гэта такое — нам у ёй, літаратуры, служыць, і служыць годна, засноўваючыся на таленце і… сумленні…

Літаральна ўсе, як адзін, суразмоўцы Зіновія Прыгодзіча так або інакш гавораць, што ў іх жыцці і творчасці галоўнае — служыць людзям, народу, Айчыне. І гэта не гучыць банальна ці фальшыва, а — шчыра. Шчырасць любога чалавека, не толькі творцы, а аратага і сейбіта, настаўніка і рабочага, палітыка і прадпрымальніка, усіх нас, якой бы справай мы ні займаліся, выклікае давер у іншых. На даверы многае трымаецца ў жыцці наогул — зближаюцца людзі…

Пісьменнік Барыс Сачанка, з якім Зіновій Прыгодзіч, аб чым з гонарам прызнаецца, сябраваў пару дзясяткаў гадоў і сустракаўся амаль кожны дзень, знаходзіў «поўнае паразуменне», так і кажа: «Жыць інтарэсамі людзей». Гэта як праграма, якую творца намячае сабе, разумеючы, што нічога, створанае табой, не будзе мець ніякага значэння, калі не будзе так.

Як пісьменніка і грамадзяніна Барыса Іванавіча хвалявала літаральна ўсё, што адбывалася ў грамадстве. У сваіх творах, паказваючы нашу рэчаіснасць, людзей, найчасцей простых, тых, як кажуць, на кім трымаецца жыццё, ён перш за ўсё ў кожным бачыў чалавека. Чалавека, са сваім унутраным светам, перажываннямі, думкамі, які часта шукаў згоду з усім іншым светам, шукаў спакойна,

памяркоўна, разумеючы, што ўсе мы ў жыцці так або інакш паяднаны — інакш нельга.

Варта звярнуць увагу на ягоныя разважанні наконт літаратуры, на ўздзеянне на яе часу, розных павеваў: яго заўсёды хвалявала, якая яна сёння, і якой будзе заўтра. Напрыклад, разважаючы пра тое, «памёр» ці «не памёр» раман, Барыс Сачанка, гаворачы, што ўжо даўно ідуць «атакі на раман», зазначае, што ён «як жыў, так і жыве». Адзначу, што гаворка вялася і пра літаратурнае майстэрства ўжо ў новым нашым часе, названым перабудовай, калі іншы раз бяздумна, а некім і прадумана, разбуралася ўсё і ўся, напрацаванае старэйшымі пакаленнямі ў літаратуры, калі даволі прадумана некаторымі «дырыжорамі» ад літаратуры рабіліся спробы супрацьпаставіць пакаленні творцаў, раз'яднаць іх, паказаць наогул, што папярэднікі ўсё рабілі не так.

І ўжо недзе напрыканцы гутаркі пісьменнік, адзначаючы, што чалавеку талент даецца Богам, зноў жа вяртаецца да таго, каму і чаму ён павінен у такім разе служыць… Б. Сачанка служыў людзям, Айчыне, і цяпер праз свае творы служыць усім нам.

Заканчваецца другая кніга «Постацей…» Зіновія Прыгодзіча дзвюма таксама надзвычай цікавымі гутаркамі: з Міхаілам Фінбергам, і Мікалаем Яроменкам. Першая называецца «Мая сям'я — гэта мой аркестр», другая — «Я не ўмею жыць для сябе».

Як бачна, назвы гавораць самі за сябе. Гутаркі таксама вельмі змястоўныя, аналітычныя: разважанняў пра жыццё, час, пра чалавека ў грамадстве шмат — яны падаюцца асабіста мне «пераходным мосцікам» да трэцяй кнігі «Постацей…», якая ўжо выйшла. Таму спецыяльна гаворку пра іх пакінем на наступны водгук пра новую кнігу «Постацей...» Зіновія Прыгодзіча, навукоўца, пісьменніка, публіцыста, які без перабольшання першы ў нашай літаратуры праз свае выданні зрабіў такое глыбокае і праўдзівае даследаванне чалавечай душы, у даным выпадку, душы творцы, паказаўшы, што ў адарванасці ад людзей, грамадства, у якім мы жывём, — марнасць… І калі сёння ў нас з'яўляюцца кнігі маладзейшых аўтараў, такіх, як Мікола Чэмер, хай і ў іншым фармаце, хай у больш сціслай форме (газетнай), хай і некаторыя асобы, з якімі ён вядзе гутарку пакуль яшчэ не такія значныя, як у З. Прыгодзіча (у іх усё яшчэ наперадзе, яны яшчэ раскрыюць сябе сваёй творчасцю з не меншай годнасцю, чым папярэднікі), можна смела казаць: ёсць пераемнасць! А гэта — выдатна! Абнадзейвае і радуе.






*Казімір Камейша*

**ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ**
***Вершы і паэма, лірычныя мініяцюры***
*«Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі»*
*Мінск: Чатыры чвэрці, 2016*

Віктар ДАЛЕЙКА

# НАПІСАНАЕ — ЯК ПЯЧАТКА ТАЛЕНТУ

Пра што чалавек часта думае? Несумненна, ён любіць згадваць свае родныя мясціны. Асабліва той, хто нарадзіўся ў вёсцы, а цяпер жыве ў горадзе. Як быццам і няблага ўладкаваўся, аднак яго так і цягне туды, дзе прайшло яго-нае маленства, засталася памяць босых ног. Гэтаксама, відавочна, што падобныя думкі часта напаткоўваюць і Казіміра Камейшу. Магчыма, нават у большай ступесні, чым іншых. І таму, што апошнім часам ён ва ўсе цёплыя часіны жыве ў бацькоўскай хаце, толькі зрэдку наведваючыся ў Мінск. Аднак на тое ёсць і куды больш значная прычына.

Родная вёска вядомага паэта і празаіка, дый таксама перакладчыка і публіцыста Малыя Навікі, што ў Стаўбцоўскім раёне, размешчана на ўскрайку Налібоцкай пушчы. Нарадзіцца ў такіх прыгожых, нерушавых краях шчасціць нямногім. Калі ж у цябе яшчэ і паэтычны дар, так і хочацца прысвячаць гэтаму непаўторнаму кутку самыя шчырыя, прачулыя радкі. Гэта К. Камеша і рабіў неаднойчы.

Ёсць нямала ў яго прызнанняў у любові да зямлі маленства і ў прозе. Толькі, пагадзіцеся, усё ж паэзія ёсць паэзія. У жыцці і творчасці — гэта асаблівы стан душы, а каб выказаць тое, чым жыве яна, душа твая, знаходзячыся ў запаведных мясцінах, так шмат магчымасцей. Само наваколле як бы падказвае: садзіся за стол і давярайся паперы. Пішы як на споведзі. Што і зрабіў К. Камейша ў вершы «Пушчанская малітва», які і сапраўды гучыць малітвай лесу з лясоў — такому, якім нельга не ганарыцца і за будучыню якога нельга не турбавацца:

Пушчаў нашых і дуброў прамаці!
Ты, зямная, на зямлі адна.
Тое, што ад Бога, — ёсць багацце.
Ты ад Бога дадзеная нам.

Толькі кінеш позіркам здзіўлёным —
І вачам дабавіцца святла.
Гэта ж ты зялёнаю каронай
Кроны так галініста спляла.

Якую канкрэтна пушчу паэт мае на ўвазе, ён не гаворыць, застаецца толькі здагадвацца. Найперш паралель узнікае са знакамітай Белавежскай пушчай. Дый, як быццам, ажываюць і рэаліі,

звязаныя менавіта з ёю: каралі, якія ехалі сюды паляваць, «крывавы хрып у горле вепра». Усё так. Але ж «Пушчанская малітва» К. Камейшы — гэта вяртанне ў даўняе, у тое, што схавалася за смугою стагоддзяў. Некалі і Налібоцкая пушча таксама магла пахваліцца сваёй велічнасцю. Сюды таксама спяшаліся на паляванне вяльможныя людзі. Паляванне ж — таксама асаблівы стан душы. Гэта настолькі дакладна перададзена ў творы, быццам адчуваеш сваю прысутнасць у тым часе, услухоўваючыся ў голас самой пушчы:

Звер твой не з пароды ваяўнічай,
Але помніш здзек далёкі ты.
Зграі каралеўскай паляўнічай
Порах яшчэ ў кронах не астыў.

Што ж, без каралеўскае уцехі
І кароль часамі варты смеху.
Што ж без паляўнічага трафею
І кароль бывае, што звярэ.

Правільней сказаць, што праз Налібоцкую пушчу паэт бачыць і пушчу Белавежскую: «Малады блакіт на крылах вясніх // Так святочна промні заляцяць. // Ты і ёсць пачатак нашай песні, // І сама — святы яе працяг».

Сімптаматычна, што менавіта вершам «Пушчанская малітва» кніга «Гордзіеў вузел» і адкрываецца. Пушча — гэта і сімвал Беларусі. Беларусь жа — гэта і ўсе мы, хто жыве на гэтай цудоўнай зямлі. Усялякае было: набыткі і спадзяванні, страты і нягоды. Таму К. Камейша і не абыходзіць увагай трагічныя старонкі нацыянальнай гісторыі, пра што, у прыватнасці, сведчыць яго верш «Курапаты». Дый у паэме «Няміга» — не толькі тое, што радуе. Нямала прысутнічае і такога, ад чаго баліць душа і ные сэрца. Але ад яго нікуды не дзенешся, бо ўсё гэта таксама нашая гісторыя. «Адбельванне» яе нічога добрага не дае. Да чаго падобныя спробы прыводзяць, ужо неаднойчы ўпэўніваліся, перапісваючы яе, ды, на жаль, падобныя ўрокі так і не пайшлі на карысць.

Цікавыя тыя творы, у якіх душэўны стан лірычнага героя цудоўна перадаецца праз ягоную паяднанасць з прыродай, праз адчуванне таго вечнага, якое дазваляе пераадолець усё, што хацелася б забыць. Як у гэтым безыменным вершы:

Пасецца туман па аселіцы
Белы, як малако.
А ў гэтым белым тумане
Пасецца мой белы конь.

— Які гэта век? —
Пытаюся.
Няўжо наш дваццаты век?

Не пра тое, канешне, гаворка, што ўжо дваццаць першы век. Істотнай розніцы ў дадзеным выпадку няма. Узноўленыя рэаліі засталіся тыя самыя: «Як светла паўсюль засвіталася. // Дзе сноўдалі вораг ды здзек, // Дзе кола адчаю каталася — // Ні бедных, ні бед, ні калек. […] Нямала і зямлі здратаванай, // Прыцішан чарнобыльскі боль. // Ды ўсё яно там, за туманам. // А мы…». І тут жа адказ, удакладненне: «Мы ў тумане з табой». Гэтае ўдакладненне адразу ўзмацняецца:

Туман, як і кроў,
загусцелы,
Як веку апошні спадман.
Не цеш сябе тым,
што ён белы.
Ён белы, а ўсё ж ён — туман.

Аднак прыхільнікі таленту К. Камейшы, не адмаўляючы значнасці твораў, у якіх гучыць, як адкрытая, так і ўнутраная публіцыстычнасць, думаю, усё ж пагодзяцца з тым, што па сваім таленце ён — найперш лірык. Больш за тое — адзін з лепшых лірыкаў у сучаснай беларускай паэзіі. Застаючыся прыхільнікам традыцыйнай манеры пісьма, па-ранейшаму піша такія творы, чытаючы якія, не толькі перагортваеш старонкі біяграфіі лірычнага героя, калі ён паўстае перад табой са сваімі ўнутранымі перажываннямі. Міжволі штосьці з перажытага ім супастаўляеш і з тым, што напаткоўвае і цябе самога, калі штосьці не ладзіцца, а так хочацца вярнуцца туды, дзе ўсё было інакш.

Акурат на такі роздум, прынамсі, настройвае верш, у назву якога вынесена прысвячэнне «Л. Ф. В.»

Хапала й кропелькі малой,
Каб чысціні на свеце большала.
Паўзла па восені маёй
З тваёй вясны
кароўка божая.

У лёгкіх снах,
Як добры знак,
Твая свяцілася вясна.
Яна з’яўляецца і сёння
Блакітнай шыбінкай акна
І каснічком агню ў вазоне.

У сонца проста цэліць мяч,
Ты жмурыш і хаваеш вочы.
І крэйдаю тваё імя
Я на сцяне чужой выводжу.

Кароўка божая вясны
Пялёсткаў вейкі разгайдае,
І сініх вечароў маны,
Наіўны
я не разгадаю.

Блакнот свой з вершамі парву,
Тваіх вакон не буду зданню…
Ну як жывеш?
А так … жыву…
Навошта тут яшчэ пытанні?!

Змястоўнымі атрымаліся і празаічныя старонкі «Гордзіева вузла». Яны прадстаўлены падборкай новых лірычных мініяцюр «Паміж кубкам і вуснамі». Сапраўды, шмат якія з гэтых твораў вельмі кароткія па аб’ёме, але багатыя зместам. Яны сведчаць пра тое, што К. Камейша ўмее быць лаканічна-афарыстычным. Асабліва тады, калі прыкмячае што-небудзь такое ў жыцці, якое нездарма змушае звярнуць на сябе ўвагу, а само па сабе ўжо гатова прывесці да нейкага абагульнення. Не важна, якога яно кшталту — станоўчага ці адмоўнага. Істотна іншае. Гэта тое, што, пры ўсёй сваёй кароткасці, вызначаецца глыбінёй думкі, у аднолькавай ступені сведчыць, наколькі пісьменнік назіральны, але разам з тым гаворыць не пра гэта.

Назіральнасць К. Камейшы ідзе ад жадання нічога не прапусціць, вартага ўвагі. Дый ад усведамлення, што ў жыцці, калі добра разабрацца, часам, здавалася б, малое, непрыкметнае можа шмат сказаць пра самога чалавека. Хоць чаму «малое»? «Малое» — гэта для некага іншага, толькі не для аўтара кнігі «Гордзіеў вузел». З малога і ўзнікае вялікае. Не толькі ў тым сэнсе (у дадзеным — не столькі), што кожны, здавалася б, непрыкметны выпадак «рыхтуе» больш значны, а з малой падзеі «вырастае» вялікае. Проста пры належным падыходзе аднаго выразнага штрыха дастаткова, каб убачыць усю існасць чалавека. Найперш тады, калі чалавек гэты, вобразна кажучы, хавае свой твар. Толькі хавай не хавай, а супраць праўды нікуды не дзенешся. Што гэта сапраўды так, дастаткова хоць бы гэтых двух прыкладаў.

Першы такі: «Фанабэрыя заўсёды патрабуе фанфарнасці, а тая, у сваю чаргу, патрабуе заткнуць вушы». Другі гэткі ж лаканічны, як і першы, але дзякуючы яму пэўная катэгорыя людзей паўстае, як кажуць, у профіль і анфас: «Хто ведае сапраўдную цану сяброўства? Няўжо той, хто часта прадае сяброў? Магчыма, у век рынкавых адносін — гэта звычайная рэч». Сказана проста цудоўна! Атрымаўся, па сутнасці, партрэт аднаго з тых, хто для дасягнення сваіх мэт, ідзе па касцях тых, хто яшчэ не так і даўно шмат у чым паспрыяў яму.

А гэта ўжо, бадай, — напамінак некаторым калегам-паэтам, якія праўдай і няпраўдай дабіваюцца выдаць як мага больш аб’ёмныя тамы сваіх, як мяркуюць яны, «неўміручых сачыненняў». Ды каб жа гэта быў том выбранага! У пэўнай ступені аўтара яшчэ зразумець можна: нічога сам выкрасліць не магу, усё мне аднолькава дарагое, а ты, чытач, ужо сам глядзі, на што звяртаць увагу, а на што не звяртаць... Ды, можа, усё ж лепей прыслухацца да меркавання К. Камейшы: «Нельга ў адзін прыхват чытаць шмат паэзіі. Гэта не проза, дзе, ухапіўшыся за хлясцік героя, можна бегчы ўслед за ім, часам нават пераганяючы яго. Атруціцца можна і мёдам, калі хапіць яго лішнюю лыжку.

Многа паэзіі чытаць дазваляецца толькі рэдактару».

Рацыянальнае зерне прысутнічае і ў гэтых развагах. Таксама з жыцця ўзятае: «Маладыя… Смешным, а то і

страшным бывае максімалізм. Да кожнага з вялікіх у іх свае прэтэнзіі аж да непрымання: і да Пушкіна, і да Купалы, і да Коласа, і да… А каб дазволіў Бог апынуцца, сесці сваім месцам на іх месца?.. Паглядзеў бы я, што б яны заспявалі!.. І ці заспявалі б?.. Хутчэй — заплакалі б…»

Не пазбаўлены ў сваёй творчасці пачуцця гумару, К. Камейша ў прозе ў большай ступені, чым у паэзіі, не абыходзіць яго. Як кажуць, хочаш смейся, хочаш рагачы, але ўсё гэта ад душы. Як у гэтай празаічнай мініяцюры: «Вечарам у вясковай хаце доўга гаманілі пра тых самых іншапланецян. Тэмы падкінуў сам тэлевізар. Загаманіліся і не заўважылі, як прыспела поўнач. Сын гаспадароў, студэнт, што прыехаў з далёкага горада, папрасіўся спаць на печ. А ноччу, калі добра прыпякло бакі, запаліў ліхтарык. І пачаў ссоўвацца з печы». І тут напярэймы яму паказалася «маці з віламі і чапялой адразу». Ёй падалося, «што іншапланецянін крадзецца… А хто ж можа быць з адным вокам уначы?»

Падобны прыклад у кнізе не адзінкавы, калі смешныя, гумарыстычныя выпадкі ўзяты з самога жыцця. Але ёсць у «Гордзіевым вузле» і дакументальна-мастацкія апавяданні. Так, апавяданні, а не звычайныя ўспаміны. У гэтым шэрагу і згадкі пра Анатоля Вялюгіна.

Творы, што ўвайшлі ў кнігу «Гордзіеў вузел», успрымаюцца свайго роду пячаткай яе аўтара. Бо што такое пячатка? Тое, што надае дакументу верагоднасць і юрыдычную сілу. У дадзеным выпадку гэтая пячатка ўспрымаецца адзнакай таленту.



Юлія АЛЕЙЧАНКА

# КАБ СТАЦЬ ШЧАСЛІВЫМ...




**ПАД ЗОРКАЙ КАХАННЯ**
**Аповесці, апавяданні**
**Уклад. В. ШНІП**

*Мінск, Мастацкая літаратура, 2015*

Назва зборніка апавяданняў сучасных беларускіх пісьменнікаў можа некаму падацца «архаічнай». Колькі стагоддзяў апявалі ўжо тыя рамантычныя зоры! Але ж вечнасць маральнага закону ўнутры нас ды зор над галавою ніхто не адмяняў. Сапраўднае, гераічнае, трагічнае каханне здараецца і ў сучасных дэкарацыях. Творы, прадстаўленыя ў кнізе, восьмай у выдавецкай серыі «Вера. Надзея. Любоў» — гісторыі менавіта такога кахання «як у кіно», якія аднак не падаюцца надуманымі і нерэальнымі. Апраўданы, выверaны варункі лёсу герояў, матывы іх паводзін, дэталёва прапісана акружэнне і прыкметы часу… Таму і верыць чытач у праўдзівасць напісанага, як вераць героі твораў у пераможную сілу самага прыгожага пачуцця.

Проза кожнага пісьменніка кнігі нечым адметная. Творы Міколы Адама адгукнуцца, несумненна, у сэрцы тых, хто зведаў прыгоды студэнцкага жыцця. Піша быццам бы проста і пра паўсядзённыя рэчы, аднак менавіта пра тое, што добра ведае. Але ж рамантыка складаецца з простага, з дробязей. І эмоцыі, рамантычны запал яго аповесцей, імпрэсій — надзвычай моцны. Аўтару ўдаецца парай хлёсткіх, трапных фраз абмаляваць сітуацыю, стварыць псіхалагічны партрэт героя. «Гэтыя цыгарэты, прынамсі, паліў толькі з-за чорнага фільтра», — чытаем мы пра героя і ўжо многае разумеем без доўгіх тлумачэнняў. Інтэлектуалы, прадстаўнікі так званай творчай інтэлігенцыі, юнакі і дзяўчаты з «уласнымі думкамі» жывуць у творах Міколы Адама па законах часу сваёй маладосці. Яны чытаюць Картасара, Борхеса, Зюскінда, Сартра, дэ Бавуар, Гавальду, захапляюцца гісторыяй «Маладняка». Збіраюцца ў кавярні «Бярозка» на «Плошчы Перамогі», на лаўках ля Свіслачы… Яны — сапраўдныя, са сваімі памылкамі і заганамі. Піжон і нарцыс Тарас, німфаманка Саша, жыгала Руслан… Вельмі праўдзівыя чалавечыя тыпы.

Ірына Шатыронак таксама пераканаўча распавядае чытачу гісторыю школьных таварышаў, лёс якіх павёў зусім непрадказальнымі шляхамі. У цэнтры аповесці «Выдатніца» — разумніца Светка Бабушкіна, якая валодае фенаменальнай памяццю і працалюбствам, з радасцю бярэцца за ўсе даручэнні настаўнікаў, паспявае напісаць кантрольныя за сябе і сяброў. Якая ж будучыня чакае бліскучую выпускніцу школы? Пэўна ж, стане вучоным, даследчыкам. Ды не. Ірына Шатыронак з самага пачатку твора намякае на тое, што нешта пойдзе не так. Трымае інтрыгу. Таму душэўнае трымценне чытач захавае амаль да самага канца прачытання (нават у заключнай сцэне, дзе школьныя сяброўкі праз шмат гадоў п'юць на кухні каньяк, навіну пра лёс Светкі «адцягваюць» характарыстыкі школьных сяброўак). Развіццё характару, нюансы, не заўважныя на першы погляд, хвалююць аўтара. Каб зразумець трагедыю Светкі, трэба знайсці яе вытокі. Карпатліва шукае іх Ірына Шатыронак і быццам падштурхоўвае чытача скласці карціну лёсу з невялікіх псіхалагічных каментарыяў.

Вельмі «каларытнае» і апавяданне Уладзіміра Мароза «Маскоўскае лета» — нібы аскепак сонечнай пары бесклапотнай маладосці. Прынамсі, дзеля захавання каштоўных успамінаў яно і стваралася: «Пішу, каб не згубілася маскоўскае лета, каб не адышлі на маўклівае захаванне ў памяці дэталі, дні, сустрэчы з Верай, Верай Паўлаўнай Свяцілавай, альбо проста цёцяй Верай, як зрэдчас я называў яе, што ёй вельмі не падабалася». Юначая, немудрагелістая гісторыя рамантычнага знаёмства зноў-такі вабіць дакладнасцю абмалёўкі быту, звычак моладзі 70—80-х гадоў мінулага стагоддзя. Агульнай атмасферай і шчырым раскрыццём чалавечых адносін апавяданне Уладзіміра Мароза нечым нагадвае «Блакітнае і зялёнае» Юрыя Казакова. Толькі героі Мароза крыху старэйшыя. Але тая ж мілая нерашучасць, недаказанасць… І ўсё гэта ў яскравых пейзажах гарадскога лета: «…мы ішлі па вечаровай Маскве і размаўлялі, ішлі па ўтульных вулачках недзе блізка каля будучага Кіраўскага праспекта. Калі ішоў ужо адзін ад яе дома на электрычку, падумаў, што можна было б яе пацалаваць, але думаў аб гэтым неяк абстрактна». Кальцавая кампазіцыя твора вяртае нас у дзень сённяшні, калі ад згадак мінулага робіцца сумна, але светла: «У мяне цяпер кароткая прычоска, якая так і не робіць мяне маладзейшым, нягледзячы на чысты і гладка паголены твар, нягледзячы на пяшчотную восень». І, што цешыць, у дні сённяшнім не губляецца жаданне жыць «не па-абывацельску, гэта значыць — кахаць».

Аўтары кнігі «Пад зоркай кахання» вырашаюць «вечную праблему» па-рознаму. Нехта праз трагедыю (Анатоль Андрэеў, Ларыса Кужэльная), нехта праз гумар (Анатоль Зэкаў, Міхась Сліва), нехта, заглыбляючыся ў міфалагічныя пласты нашай свядомасці (Аляксандр Залеўскі, Ганна Навасельцава). Аднак аб'ядноўвае ўсіх творцаў адно — жаданне хаця б на хвіліну зірнуць у вечнае зорнае неба…

*Душан Джурышыч*

**ВЯЛІКІ КАПІТАН**

*Пер. з чарнагорскай*
*Г. Аўласенкі*
*Мінск, Выдавецкі дом «Звязда», 2016*

У адным з нядаўніх інтэрв'ю Душан Джурышыч распавёў пра ўражанні ад сваёй першай сустрэчы з беларускай літаратурай наступнае: «Было гэта яшчэ ў 1974 годзе… Мамчыла Джэркавіч і Радаслаў Пайкавіч надрукавалі калекцыю песень «Беларускія бярозы» аднаго з самых геніяльных беларускіх паэтаў Аркадзя Куляшова. Чытанне тых радкоў стала маёй першай сустрэчай з Беларуссю. Сустрэча пераўтварылася ў радаснае адкрыццё: часта сабе пачаў паўтараць, што, маўляў, у невядомай мне і далёкай ад Чарнагорыі краіне ёсць вартыя захаплення паэты! І што самае галоўнае — блізкія мне па эстэтычных, мастацкіх зацікаўленнях». Потым




былі пазнейшыя сустрэчы-адкрыцці, якія натхнілі на ўласныя перастварэнні беларускіх творцаў на чарнагорскую мову (прынамсі, на пераклады вершаў Міколы Мятліцкага і Алеся Бадака). На мэце — стварыць анталогію беларускай дзіцячай літаратуры на чарнагорскай мове.

І, канешне, такая задума — невыпадковая. Для гарманічнага развіцця асобы патрабуецца яснае бачанне сябе, сваёй краіны ў вялікім свеце. Цікаўнасць, уласцівая юнаму ўзросту, дапамагае ўсталёўваць кантакты з аднагодкамі з іншых краін, цікавіцца іх культурай і звычаямі. У савецкія часы неверагодна папулярным было ліставанне з замежнымі дзецьмі. Зараз шмат сяброў з розных краін маюць у сацыяльных сетках беларускія школьнікі… А як добра, калі даводзіцца адшукаць нешта роднае, знаёмае і шчымлівае ў літаратуры для дзяцей далёкай (ці не вельмі) краіны.

У прадмове да кнігі Душан Джурышыч справядліва параўноўваецца з нашым Міколам Чарняўскім. З-за ўмення «ўжыцца» ў дзіцячы свет, іскрысты гумар, цеплыню. Нават тэматычна яны часам вельмі блізкія. Узгадаем «Прыгоды з коскаю» Міколы Чарняўскага:

Спяшаўся Мікітка
І быццам для кпінаў
Ён лішнюю Коску
У сшытку
Пакінуў.
Дзень Коска, як козка,
Па сшытку блукала:
Пакутніца Коска
Прыпынку шукала.

А вось Душан Джурышыч — працягвае злабадзённую для школьнікаў пунктуацыйную тэму:

Кропка
дзень блукала,
кропка
ноч блукала.
У складаным сказе
месцейка шукала.

Прачытаўшы невялічкую, але вельмі «напоўненую» кніжачку «Вясёлы капітан» можна ўпэўніцца, што навакольны свет чарнагорскі пісьменнік бачыць вельмі аб’ёмна і вобразна. Яго «ўпарты даўганогі дождж» шчодра сее грыбы ў лесе, ідзе напраскі праз плот і дамы. Як жа гэта блізка да такой любай многімі барадулінскай «босай зоркі»…

А яшчэ Душан Джурышыч прызнае правы дзяцей на фантазіі, свавольствы, гульні. Чаму б не ўявіць сябе вялікім капітанам, не намяляваць зялёную котку, не пабачыць марскога сабаку? Толькі вольны і душэўна прыгожы чалавек можа быць шчаслівым:

Вучуся ў матыля
сяброўства з кветкай ладзіць.
У вераб’я —
вясёлым быць павек.
У салаўя —
спяваць у майскім садзе.

Такі вось я
шчаслівы чалавек!

Радавацца жыццю — таксама выключны талент. І яго, безумоўна, варта пераймаць у Душана Джурышыча. Кніга вершаў і апавяданняў-караценек «Вясёлы капітан» — добрае кіраўніцтва да дзеяння.

# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Любіша МАНОЙЛАВІЧ (1913—1997)

❍ Атэіст, які краў абразы, прынародна пакаяўся: «Маю грэх: хадзіў у царкву».

❍ У гэтым, як вы ведаеце, я маю заслугі. А зараз давайце пабачым, хто ў гэтым вінаваты!

❍ За свае ўчынкі чалавек павінен адказваць. Пакуль не стане адказным работнікам.

❍ Гэтая газета — лепшая, у яе можна болей загарнуць.

❍ Учора мы абедалі. Між тым, ёсць філосафы, якія лічаць, што гэта трэба рабіць кожны дзень.

❍ Гузак на галаве — помнік асобнай думцы.

❍ Вось вам простае выслоўе: «Сітуацыя складаная».

## Мітар МІТРАВІЧ (1933 г.н.)

❍ У глухую пару вушы не дапамагаюць.

❍ Калі ў вас язык спраўнейшы за розум, нашто галава.

❍ Многага нам не хапае, але і таго, што ёсць, бракуе.

❍ Чаўны іхнія патанулі, а яны і далей вяслуюць — локцямі.

❍ Верыце вачам сваім, а ці напраўду бачылі?

❍ Няма вінаватага, а мы ўсе гарбатыя.

❍ Вострыя словы найхутчэй прытупляюцца.

❍ Серп стаў баяцца жыта, а молат кавадла.

❍ Пакуль дойдзем да светлай будучыні, паскручваем галовы ў прыцемках.

❍ Не ведаем, хто нас асядлаў, але ведаем, які цяжар.

❍ Мова — сродак узаемазадавальнення.

❍ Здрадзілі свайму народу, але не сваім настаўнікам.

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 284-84-61,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 12.07.2016 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 16,66. Тыраж 1487 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.